# ЗЬМЕСТ

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ



# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ

№ 5 МАЙ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

# ДА ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЯ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БССР АД БЕЛАПАЛЯКАЎ

**А. Якшэвіч**

## Гісторычная дата

11 ліпеня 1930 году—дзень дзесяцігодзьдзя вызваленьня БССР ад окупацыі белапалякаў.

Гэтая гісторычная дата для працоўных мас БССР мае вялікае значэньне. Дзевяць крывавых месяцаў польскай окупацыі адзначаны на старонках гісторыі клясавай барацьбы працоўных Беларусі супроць сваіх адвечных прыгнятацеляў морам крыві, сотняй павешаных і расстрэляных лепшых сыноў працоўнага народу, сотнямі замучаных азьвярэлымі бандамі пана Пілсудзкага нявінных дзяцей, жанчын і старыкоў у шматлікіх зруйнаваных мястэчках, аднэй суцэльнай руінай і пажарышчам гарадоў, мястэчак і сёл, якія пакінулі пасьля сябе азьвярэлыя «цывілізатары».

Пачатая яшчэ ў 1918 г. творчая праца па залечваньню ран пасьля імпэрыялістычнай вайны і нямецкай окупацыі працоўнымі, на чале з пролетарыятам і пад кіраўніцтвам яго партыі, праца па адбудове зруйнаванае гаспадаркі і па пабудове новага соцыялістычнага жыцьця была здратавана абцасамі пагромшчыкаў і бандытаў. На працягу дзевяці месяцаў была ўшчэнт зруйнавана наша гаспадарка. З прыходам белапалякаў у гісторыі барацьбы рабочых БССР адчыняецца новая старонка. Ад мірнае творчае працы трэба было перайсьці да ўпартага ўзброенага змаганьня за вызваленьне. У той час, як беларускія буржуазныя і дробнабуржуазныя партыі, прыкрываючыся імем беларускага народу, лізалі акрываўленыя боты Пілсудзкага, пяялі яму гімны, вялі прадажніцкі торг з лютымі ворагамі гэтага «народу», пролетарыят, пад кіраўніцтвам свае партыі, адразу-ж павёў працоўныя масы ў рашучую барацьбу як супроць польскага імпэрыялізму, гэтак і супроць свае буржуазіі, організуючы гэтыя масы да ўзброенага паўстаньня.

У хуткім часе на абшарах Беларусі ўзьняўся магутны партызанскі рух. Лепшыя сыны працоўных Беларусі, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, як у горадзе, гэтак і на вёсцы ўзяліся за зброю для свайго вызваленьня. Паном і іх лёкаям з лягеру беларускай буржуазіі і соцыял-здраднікаў зрабілася горача.

У гэтай жорсткай барацьбе працоўныя Беларусі былі не адны. Пераможца-пролетарыят братэрскіх савецкіх рэспублік ні на адну хвіліну не забываўся на сваіх братоў па змаганьню—працоўных Беларусі. Ажыцьцяўляючы сваю пролетарскую дыктатуру, ён зьдзейсьніў дзяржаўную дапамогу сваім братом у окупаванай Беларусі, якія змагаліся супроць окупантаў і свае ўласнае буржуазіі, за дыктатуру пролетарыяту. Непераможная рабоча-сялянская Чырвоная армія прышла на дапамогу рабочасялянскаму партызанскаму руху на Беларусі.

11 ліпеня 1920 году, пад націскам паўстаўшых рабочых і бедняцка-серадняцкага сялянства Беларусі і Чырвонай арміі, окупацыйнае войска Пілсудзкага прымушана было ачысьціць тэрыторыю Беларусі. Рабочыя і бедняцка-серадняцкае сялянства зноў прыступілі да мірнае творчае працы па будаўніцтву новага жыцьця.

Усяго 10 год прайшло з тае пары, але-ж працоўныя нашае рэспублікі, падводзячы вынікі свае працы, могуць адзначыць вялізарнейшыя посьпехі як у

гаспадарчым, так і ў культурным будаўніцтве. Гэтакіх тэмпаў ня ведае ніводная буржуазная дзяржава. Зараз працоўныя ўсяго Саюзу з нябачаным энтузыязмам ажыцьцяўляюць свой грандыёзны пяцігадовы плян, які яны, як гэта паказалі вынікі першага і пачатку другога году, выканаюць у 4 гады.

У гэтай вялізарнай будоўлі працоўныя БССР, як і ў часы ўзброенага змаганьня з окупацыяй, атрымоўваюць значную дапамогу ад братэрскіх савецкіх рэспублік. У моцным саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік працоўныя шматлікіх нацыянальнасьцяй дружнай сям'ёй твораць, нячуванымі дагэтуль тэмпамі, новае соцыялістычнае жыцьцё. Раней прыгнечаныя і выміраючыя народнасьці, пры дапамозе больш моцных культурна-перадавых братэрскіх рэспублік, уступілі на шлях свайго экономічного і культурного росквіту, на шлях пабудовы соцыялістычнай грамады.

Наша краіна шпаркім тэмпам мяняе свой твар. З краю балот, пяскоў, саламяных стрэх і хмызьняку яна крок за крокам ператвараецца ў край фабрык і заводаў. Вялізарная плошча балот ператвараецца ў квітнеючыя даліны. Усюды чутны бадзёрыя гукі творчае работы. Беларускі бядняк і серадняк, гэты спрадвечны гарапашнік і прыгоньнік, сёньня з гонарам адчувае сябе гаспадаром свайго жыцьця. Скінуўшы экономічныя і політычныя путы, ён выходзіць на шырокі шлях перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычных асновах.

Тыя вялічэзныя дасягненьні, якія маюць працоўныя нашага Саюзу ў справе пабудовы соцыялізму, выклікаюць трывогу ў лягеры нашых ворагаў, сусьветных імпэрыялістых. Шпаркі рост соцыялізму ў нас, з аднаго боку, крызіс капіталізму і магутная хваля вызваленчага руху ў колёніях, з другога, штурхаюць сусьветных падпальшчыкаў на новыя авантуры. Зараз, асабліва ліхаманкава, падрыхтоўваецца новы напад на адзіную ў сьвеце бацькаўшчыну працоўных—СССР. Бязумоўна, што цапным сабакам, які першы будзе спушчаны з ланцуга імпэрыялістымі і нацкаваны на нас, зьявіцца Польшча пана Пілсудзкага, а наша БССР, як прымежная з ёй краіна, павінна будзе прыняць на сябе першы націск ворага.

Бязумоўна, што абшарнікі-магнаты, якіх працоўныя ў 1920 г. прагналі са свае краіны, спрабуюць вярнуць сабе беларускія абшары і зноў сесьці на карак беларускіх рабочых і сялян.

Вось чаму мы, сьвяткуючы гэтую гадавіну свайго вызваленьня, павінны асабліва памятаць пра ўзмацненьне абароназдольнасьці нашага Саюзу. Кожны працоўны павінен быць падрыхтаваны да гэтага нападу імпэрыялістых, каб яшчэ раз даказаць свайму ворагу магутнасьць пролетарскае дзяржавы.

Крызіс капіталізму, які шпарка абвастраецца, нябывалы ўздым хвалі сусьветнай рэволюцыі ў краінах капіталізму, магутны ўздым вызваленчага руху ў колёніях, гарачая братэрская сымпатыя і солідарнасьць працоўных усяго сусьвету да СССР, як да свае адзінай пакуль што бацькаўшчыны, наша магутная Чырвоная армія і організаванасьць працоўных СССР зьявяцца тэй сілай, якая ўшчэнт зруйнуе капіталістычны лад і назаўсёды вызваліць працоўных і ўсё чалавецтва ад гэтага ганебнага эксплёататарскага ўкладу жыцьця.

Дзесятую гадавіну свайго вызваленьня з асаблівай урачыстасьцю адзначаць працоўныя БССР.

Згодна пляну Цэнтральнай комісіі па правядзеньню сьвята, на працягу апошняга тыдню да сьвяткаваньня, усе савецкія і грамадзкія ўстановы праводзяць масавыя вечары, пастаноўку адпаведных дакладаў і ўспамінаў удзельнікаў-барацьбітоў за вызваленьне Савецкай Беларусі.

Напярэдадні сьвяткаваньня, усе гарадзкія, мястэчковыя і сельскія саветы праводзяць урачыстыя пасяджэньні, прысьвечаныя сьвяткаваньню з удзелам партыйных, профсаюзных, комсамольскіх організацый і Чырвонай арміі, а ў дзень сьвяткаваньня праводзяцца масавыя дэмонстрацыі пад лёзунгам барацьбы супроць імпэрыялістычнай бойкі, за соцыялістычнае будаўніцтва.

Установы НКА павінны адпаведным чынам падрыхтавацца да гэтага сьвята. Нардамы, хаты-чытальні, клюбы і біб-

ліотэкі павінны наладзіць масавую работу з мэтай ня толькі ўрачыста адзначыць гэты дзень, але-ж растлумачыць шырокім працоўным масам політычны сэнс гэтай гісторычнай даты, згуртаваць волю працоўных да змаганьня за сваю социялістычную бацькаўшчыну, да хутчэйшага выкананьня пляну пабудовы социялізму, завастрыць увагу на тых важных задачах, якія зараз стаяць перад працоўнымі.

Школы павінны прапрацаваць на сваіх клясных занятках матар'ял на гэтую тэму, расказаць дзецям пра вялікае змаганьне іх бацькоў і старэйшых братоў за іх вызваленьне, расказаць пра крывавыя дні панскай окупацыі на Беларусі; ушанаваць памяць загінуўшых барацьбітоў. У кожным куточку Беларусі знойдзецца мясьціна, дзе пралілася кроў працоўных ад рукі драпежнікаў, знойдзецца магілка барацьбіта, сьлед пагромшчыцкай рукі бандытаў—усё гэта школа можа выкарыстаць як каштоўны матар'ял у сваёй рабоце ў часе падрыхтоўкі да сьвята і ў часе сьняткаваньня.

К. Ганчароў, В. Тышкевіч

# Разгорнем шырокую падрыхтоўку

Кожны працоўный Савецкай Беларусі памятае 11 ліпеня—дзень вызваленьня працоўных ад польскіх окупантаў—абшарнікаў і капіталістых.

У гэты дзень рабочыя і працоўныя сяляне Савецкай Беларусі, пры дапамозе працоўных усяго Савецкага Саюзу, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі вызвалілі тэрыторыю Беларусі ад наймітаў «дэмократычнай» Рэчы-Пасполітай, якія спраўлялі сваю помсту над працоўнымі за захват зямлі і фабрык.

«11 ліпеня 1920 г. магутная Чырвоная армія вызваліла Менск, а разам з ім і значную частку Беларусі». З гэтага дня рабочыя і працоўныя сяляне БССР, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, у братэрскім саюзе з усімі працоўнымі СССР, ажыцьцяўляюць сваё права на політычнае, экономічнае, нацыянальнае і социяльна-культурнае жыцьцё і будаўніцтва Савецкай Беларусі.

«З 1920 году Савецкая Беларусь вядзе свой каляндар мірнага социялістычнага будаўніцтва» (Чарвякоў).

11 ліпеня, у дзесятую гадавіну вызваленьня Савецкай Беларусі, працоўныя масы падагуляць пройдзены шлях барацьбы і перамогі, падагуляць нашы дасягненьні за час вольнага жыцьця, дасягненьні ў індустрыялізацыі краіны, перабудове сельскае гаспадаркі і ўрачыста адзначаць гісторычны час вызваленьня ад белапанскага ярма.

Савецкая Беларусь за 10 год, ад часу свайго вызваленьня, з краіны жабрацтва, політычна-нацыянальнага прыгнечаньня, культурнай цемры, разам з Савецкім Саюзам, ператвараецца з аграрнай краіны ў індустрыяльна-аграрную.

Адзначаючы гэтае гісторычнае сьвята, політасьветныя ўстановы павінны addаць вялікую ўвагу да праўдзеньня яго.

Праводзячы гэтае сьвята, політасьветныя ўстановы ў сваёй рабоце павінны адцяніць барацьбу працоўных Савецкай Беларусі, дапамогу пролетарыяту ўсяго Саюзу ў вызваленьні Беларусі ад белапанскіх окупантаў, творчы імпэт працоўных у будаўніцтве социялізму, практычныя посьпехі ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня, у гаспадарча-культурным будаўніцтве і ўва ўсім гэтым кіруючую ролю пролетарыяту і яго партыі.

Разам з гэтым асьвятліць сучасныя задачы ў галіне індустрыялізацыі краіны, рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі; падкрэсьліць неабходнасьць жорсткай барацьбы з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе социялістычнага будаўніцтва і з прымірэнцтвам да правага ўхілу, а таксама барацьбы з «левымі» загібамі, якія об'ектыўна льлюць ваду на млын правых і дапамагаюць варожым

пролетарыяту элемэнтам. Падкрэсьліць неабходнасьць жорсткай барацьбы з нацыянал-дэмократызмам і рознага колеру шовінізмам. Трэба таксама выпучыць пытаньне забесьпячэньня абароназдольнасьці краіны Саветаў, падкрэсьліць ролю БССР, як аванпосту вялікага Саюзу на рубяжы з імпэрыялістычным Захадам.

У гэтае сьвята політасьветныя ўстановы павінны мобілізаваць працоўныя масы на выкананьне промфінпляну, паляпшэньне якасьці продукцыі, умацаваньне і пашырэньне колгасна-саўгаснага будаўніцтва, на падвышэньне ўраджайнасьці як у соцыялістычным сэктары, так і ў індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.

Для таго, каб забясьпечыць правільнае правядзеньне гэтай вялікай работы, трэба падрыхтоўчую работу па правядзеньню сьвята распачаць загадзя. Ва ўсіх гурткох, якія знаходзяцца пры політасьветных установах, на сходах і ў гутарках неабходна, як мінімум, распрацаваць наступныя пытаньні:

а) кіруючая роля партыі ў барацьбе за вызваленьне Беларусі ад белапалякаў і ў соцыялістычным будаўніцтве;

б) нашы посьпехі ў соцыялістычным гаспадарча-культурным будаўніцтве ў нацыянальным разрэзе;

в) грамадзянская вайна і партызанскі рух ў вызваленьні ад белапалякаў;

г) гаспадарча-культурны ўзрост БССР і неабходнасьць узмацненьня абароназдольнасьці краіны;

д) жыцьцё і барацьба працоўных у Заходняй Беларусі і ў капіталістычных краінах;

е) шкоднасьць нацыянал-дэмократызму і рознага колеру шовінізмаў і неабходнасьць барацьбы з імі.

Політасьветныя ўстановы, асабліва бібліотэкі павінны разгарнуць масавую работу па рэкомэндацыі адпаведнай па зьместу да гэтага сьвята літаратуры.

Неабходна зьвярнуць вялікую ўвагу ў часе падрыхтоўчае работы на організацыю дэмонстрацыі, карнавалаў, мітынгаў, маёвак, урачыстых паседжаньняў, вечароў з пастаноўкамі ды інш.

Вялікае значэньне ў правядзеньні гэтага сьвята мае організацыя ўспамінаў з жыцьця і барацьбы партызанаў, успамінаў з грамадзянскай вайны, бяручы гэтыя факты з тае мясцовасьці, вёскі, дзе гэтыя ўспаміны робяцца. У тых жа мясцовасьцях, дзе ёсьць магілы таварышоў, што загінулі ў барацьбе з белапалякамі і бандытамі, трэба ў дзень сьвята організаваць мітынгі і ўспаміны ля магіл, упрыгожыць гэтыя месцы зелянінаю, плякатамі і г. д.

---

# Плян сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў па лініі народнай асьветы

*(Зацьверджаны Колегіяй НКА)*

Сьвяткаваньне дзесяцігодзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў па лініі народнай асьветы павінна прайсьці пад кутом погляду асьвятленьня наступных момантаў: кіруючая роля КП(б)Б у справе барацьбы за дыктатуру пролетарыяту і вызваленьне БССР ад белапольскіх окупантаў; выключная роля партыі ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня, у барацьбе з дробнабуржуазнымі нацыялістычнымі партыямі (Бунд, БСГ, эсэры, меншавікі ды інш); вялікія дасягненьні, якія ёсьць ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, і роля ў гэтым партыі; роля пролетарыяту ўсяго Саюзу, бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, Чырвонай арміі і партызанскага руху ў вызваленьні БССР ад белапалякаў; асьвятленьне сучасных задач у галіне соцыялістычнага будаўніцтва, індустрыялізацыі краіны, рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, шляхам суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, выкананьня прамфінпляну і г. д.

Асьвятленьне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва павінна быць зьвязана с пагрозай ваеннай небясьпекі з боку імпэрыялістычных краін і падрыхтоўкі

нападу на БССР і СССР і неабходнасьцю, у зьвязку з гэтым, быць гатовымі да абароны заваёў пролетарскай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва.

Падрыхтоўчую работу ва ўсіх установах народнай асьветы пачаць з 1/VI, вызначыўшы наступныя мерапрыемствы:

1) Уключыць у комплекс ва ўсіх школах прапрацоўку матар'ялаў аб грамадзянскай вайне і аслабаненьні БССР ад белапалякаў. Мэтодкому распрацаваць тэму заданьняў не пазьней 15/V.

2) Акруговым інспэктарыятам прыстасаваць да дня сьвяткаваньня ўрачыстае адчыненьне дзіцячых пляцовак, адчыненьне скончаных будынкаў-школ, хат-чытален ды інш.

3) Ва ўсіх існуючых установах праводзіць сходы бацькоў і вучняў з дакладамі, у якіх асьвятляць асноўныя моманты сьвяткаваньня.

4) Па лініі політасьветных устаноў правесьці наступнае:

а) сходы і вечары ў нардамох і хатах-чытальнях з дакладамі і пастаноўкамі;

б) пачынаючы з 11 чэрвеня гутаркі на тэму: кіруючая роля партыі ў барацьбе за дыктатуру пролетарыяту, за вызваленьне БССР.

5) Па ўсіх вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, перад ад'ездам у летні адпачынак, правесьці інструкцыйныя нарады аб дні вызваленьня БССР і аб мэтодах дапамогі з боку студэнтаў у правядзеньні сьвята на мясцох.

6) БДВ выдаць літаратуру і плякаты на вышэйпаказаныя тэмы з тым, каб выданьне яе было не пазьней 20/VI.

7) Даць шэраг дакладаў па радыё аб дасягненьнях у культурным будаўніцтве.

8) Даручыць польінспэктару прыстасаваць да дня сьвяткаваньня адчыненьне польскага аддзяленьня рабфаку, надаўшы яму імя 10-годзьдзя аслабаненьня БССР ад белапалякаў, таксама прыстасаваць закладку будынку польскай сямігодкі і чатырохгодкі ў Мазырскай акрузе.

9) Інспэктару яўкультуры прыстасаваць закладку пабудовы будынку яўрэйскай 7-мі гадовай школы.

Аднэй з задач політасьветных устаноў у правядзеньні сваёй работы, як падрыхтоўчай, так і ў самае сьвята, зьяўляецца організацыя і падрыхтоўка да адчыненьня або закладкі прадпрыемстваў і ўстаноў, якія маюць гаспадарча-культурна-бытавое значэньне: крамы, школы, дзіцячыя яслі, пляцоўкі, харчэўні, заводы, млыны, хаты-чытальні, клюбы, чырвоныя куткі і г. д., надаючы ім імя 10-ці годзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

Адным з найлепшых падарункаў ад політасьветных устаноў да 10-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў будзе тое, калі яны організуюць новыя колгасы, ударныя брыгады, ударныя цэхі, заводы і г. д., якія змогуць на сябе ўзяць гісторычнае імя.

Праводзячы ўсю гэтую работу, політасьветныя ўстановы павінны не ўтвараць паралелізму, а ўсю работу ўвязваць з плянамі і паказаньнем партыйных, савецкіх устаноў і організацый і спэцыяльных комісій па правядзеньню гэтага сьвята.

Усе культармейцы, політасьветпрацаўнікі ў гэтае сьвята, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, павінны згрупаваць сотні тысяч працоўных мас навокал пастаўленых задач соцыялістычнага будаўніцтва і ўцягнуць гэтыя масы ў практычнае вырашэньне іх.

# АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЕМ УСЕАГУЛЬНАЕ НАВУЧАНЬНЕ

Зьм. Сьцяпура

## Вынікі работы па ўсеагульнаму навучаньню ў 1929-30 г. і меркаваньні на наступны год

1929/30 год трэба лічыць выдатным годам у справе ўсеагульнага навучаньня. VIII усебеларуская нарада па ўсеагульнаму навучаньню, якая адбылася 4-6 мая г. г., падвяла вынікі праведзенай за год работы і констатавала наступнае.

У 8 акругах БССР у 1929/30 годзе *адчынена новых* 1.439 комплектаў 1-га концэнтру працоўнай школы. Згодна пляну, меркавалася адчыніць 1.335 комплектаў; такім чынам, плян перавышаны на 104 комплекты, ці на 8%. Гэтае перавышэньне пляну прыпадае амаль што выключна на Віцебскую акругу, якая адчыніла звыш свайго пляну (127 комплектаў) 95 комплектаў. З агульнай колькасьці новых школьных комплектаў у акруговых гарадох адчынена толькі 28 комплектаў (2%), у раёнах—1411 комплектаў (98%).

*Па нацыянальнаму прынцыпу* новыя комплекты падзяляюцца так: яўрэйскіх—37, польскіх—17, расейскіх—18, украінскіх—6, латыскіх—1, усяго 79 нацыянальных комплектаў, ці 5,5% агульнай колькасьці новых комплектаў; усе іншыя комплекты адчыніліся з выкладаньнем на беларускай мове.

У бягучым годзе новыя комплекты ў значнай большасьці пайшлі на рэорганізацыю 1-комплектавых школ у 2-комплектавыя, 2-комплектавых у 3-комплектавыя і г. д.; 1-комплектавых школ адчынілася 527, што складае да агульнай колькасьці новых комплектаў 36,6%. У мінулым годзе 1-комплектавыя новыя школы складалі 52% усіх новых школьных комплектаў.

Новыя школьныя комплекты ў гэтым годзе ў значнай частцы адчыняліся ў *аграмаджаным сэктары сельскай гаспадаркі* (саўгасах і колгасах); па даных акруговай інспэктуры, у 6 акругах (апроч Гомельскай і Менскай, якія вестак ня далі) адчыніліся ў саўгасах і колгасах 320 комплектаў, што складае 30 проц. усіх новых комплектаў у гэтых акругах. Найбольш новых комплектаў у аграмаджаным сэктары сельскай гаспадаркі адчынена ў Магілеўскай акрузе (118), што адпавядае напрамку гэтай акругі на суцэльную колектывізацыю.

Усяго ў БССР існуе ў гэтым годзе 5818 пачатковых школ; з іх 1-комплектавых—3269 (56,1%), 2-комплектавых—2063 (35,4%), 3-комплектавых — 300 (5,2%), 4-комплектавых і звыш—186 (3,2%); усяго комплектаў у пачатковых школах лічыцца 9155. Процант 1-комплектавых школ у гэтым годзе прыкметна зьменшыўся: з 63,5% у мінулым годзе да 56,1% у гэтым годзе; але ўсё-ж яшчэ колькасьць 1-комплектавых школ досыць значная, бо значным зьяўляецца яшчэ ў некаторых мясцовасьцях (асабліва ў Віцебскай і Полацкай акругах) школьны радыус. У наступныя гады новыя школьныя комплекты пойдуць ужо ў вельмі значнай частцы на рэорганізацыю школ ў 2-х і больш комплектавыя.

Груп 1-га концэнтру працоўнай школы ў 7-годках і 9-годках у 1929/1930 годзе існуе 1888; такім чынам, усяго комплектаў 1-га концэнтру, а значыць і настаўнікаў 1-га концэнтру, ёсьць 11043.

Значны яшчэ лік 1-комплектавых школ, у якіх заняткі вядуцца з адным настаўнікам, не дае магчымасьці ў большасьці акруг пераводзіць школы з 3-гадовым курсам навучаньня ў школы з

4-гадовым курсам навучаньня. У бягучым годзе *школ з 3-гадовым курсам навучаньня* існуе яшчэ 1257, што складае 21,5% да агульнай колькасьці гэтых школ. У параўнаньні з мінулым годам гэты процант зьменшыўся вельмі нязначна (у мінулым годзе ён быў 22,2). Акругі лічаць, што пераводзіць на 4-гадовы курс школы з адным настаўнікам не зьяўляецца мэтазгодным. Найбольш школ з 3-гадовым курсам навучаньня ў Полацкай і Магілеўскай акругах, вельмі мала іх у Менскай (18) і Мазырскай (32) акругах. Тое, што некаторыя акругі амаль што зьнішчылі ўжо ў сябе школы з 3-гадовым курсам навучаньня, сьведчыць, што гэтае мерапрыемства зьяўляецца магчымым і для школ з адным настаўнікам, без асаблівага пагоршаньня навучальнай справы. У сучасны момант гэта магчыма асабліва таму, што, у сувязі з абавязковасьцю навучаньня, павялічваецца фактычны працяг навучальнага году і навучальнага курсу. У бліжэйшыя два гады ўсе школы з 3-гадовым курсам навучаньня павінны быць пераведзены на 4-гадовы курс, бо ўсеагульнае навучаньне праводзіцца ў аб'ёме 4-годкі.

*Агульная колькасьць вучняў* у 1-м концэнтры працоўнай школы складае ў 1929/30 годзе 518.000 чалавек. У параўнаньні з мінулым годам колькасьць вучняў павялічылася на 75.000, ці на 17%. У параўнаньні з плянам, колькасьць вучняў перавышана вельмі значна: на 39.000 чал. (па пляну меркавалася ахапіць школай 479.000). Такое значнае перавышэньне пляну тлумачыцца ўвядзеньнем абавязковасьці навучаньня для дзяцей 8-гадовага ўзросту, пры чым у школы хлынулі ня толькі дзеці гэтага ўзросту, але і дзеці 9, 10 гадоў і старэйшых узростаў, якія да гэтага часу заставаліся па-за школай.

Зварочвае на сябе ўвагу і значнае павялічэньне ў пачатковых школах колькасьці дзяўчат, чаго і трэба было чакаць пры ўвядзеньні абавязковасьці навучаньня: у мінулым годзе колькасьць дзяўчат у 1-м концэнтры працоўнай школы складала 38% да агульнай колькасьці ўсіх вучняў, а ў гэтым годзе яна складае ўжо ва ўсім 1-м концэнтры 43%, а ў 1-й групе—49,1%. Калі прыняць пад увагу, што некаторая частка дзяцей (каля 2%) наогул не паступае ў школу з прычыны хваробы, дэфэктыўнасьці ды інш., дык трэба лічыць, што ў 1-ю групу паступілі амаль усе дзяўчаты 8-гадовага ўзросту.

У 1929/30 годзе вельмі прыкметна палепшыўся *ўзросны склад дзяцей,* што паступаюць у 1-ю групу. Гэта відаць з наступнага параўнаньня (у проц.):

| Гады | 7 год | 8 год | 9 год | 10 год | 11 год | Вышэй 11 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1927-28 г. . | 6,8 | 29,3 | 26,0 | 19,5 | 8,5 | 9,9 |
| 1928-30 г. . | 5,6 | 53,5 | 23,7 | 11,5 | 3,7 | 2,0 |

У сувязі са значным палепшаньнем узроснага складу вучняў, прынятых у 1-ю групу, значна *зьменшылася колькасьць пераросткаў* (дзяцей звыш 12 год): з 32% у мінулым годзе яна зьнізілася ў гэтым годзе да 23%. Гэтае зьмяншэньне колькасьці пераросткаў дае ўпэўненасьць у тым, што ў далейшыя гады колькасьць іх будзе адпавядаць плянавым меркаваньням. Выключэньнем будзе толькі 1932/33 год, апошні год пяцігодкі, у які процант пераросткаў будзе каля 15, замест плянавых 10. Тлумачыцца гэта вялікім наплывам у бягучым годзе ў школы дзяцей 9, 10 і звыш гадоў, якія праз 3-4 гады, канчаючы школу, ужо будуць пераросткамі.

Найменш пераросткаў у бягучым годзе ў Гомельскай і Мазырскай акругах (па 18%): вельмі значны лік пераросткаў у Полацкай акрузе (34%), што абцяжарвае далейшую плянавую работу па ўсеагульнаму навучаньню ў гэтай акрузе.

Як натуральны вынік вялікага наплыву ў гэтым годзе дзяцей у школы зьяўляецца *павялічэньне нагрузкі настаўніка:* гэта нагрузка ня толькі ня зьменшылася, як гэта проектавалася плянам, але павялічылася з 45,4 вучня да 47,1 вучня на комплект. Найбольшая нагрузка настаўніка прыкмячаецца, як і ў папярэднія гады, у Аршанскай акрузе—53,5 вучня на комплект; далей ідуць: Магілеўская—52,2, Бабруйская—48,3, Віцебская—48, Гомельская—44,8, Полацкая—44, Менская—42,4 і Мазырская—42,3.

Далейшым вынікам вялікага наплыву вучняў у школы зьяўляюцца *заняткі ў школах у дзьве зьмены;* у мінулым годзе такія заняткі вяліся ў 283 вясковых школах, у гэтым годзе такіх вясковых школ налічваецца 350; найбольшы лік вясковых школ, якія вядуць заняткі ў дзьве зьмены, мае Гомельшчына (141), найменшы лік—Полацкая акруга (6). Усяго, разам з горадам, вячэрнія заняткі вядуцца ў 470 школах, ці ў 7,9% усіх школ 1-га концэнтру.

У сувязі з нормалізацыяй узроснага складу вучняў у гэтым годзе, зьмяншэньнем ліку пераросткаў, *процант ахопу школай дзяцей* нормальнага школьнага ўзросту (8-11 год) павялічыўся вельмі значна: з 74 да 86%. У паасобных акругах гэты процант ахопу школай дзяцей 8-11 год вызначаецца наступным чынам: Аршанская—88,9, Бабруйская—86,4, Віцебская—87,5, Гомельск.—88,1, Магілеўская — 87,0, Мазырская — 81,0, Менская—88,0 і Полацкая—73,4.

Як відаць, амаль што ўсе акругі выраўнілі свой процант ахопу школай дзяцей 8-11 год, што сьведчыць аб пляновым вядзеньні работы па ўсеагульнаму навучаньню. Найменшы ахоп школай дзяцей 8-11 год цяпер у Полацкай акрузе, якая ў гэтым годзе прыняла ў школы значны лік пераросткаў, што зьяўляецца парушэньнем пляну. Мазырская акруга, якая ў мінулыя гады была найбольш адсталай па ахопу школай дзяцей, зараз выперадзіла Полацкую акругу і амаль выраўніла свой процант ахопу з іншымі акругамі.

Новыя школы адчыніліся ў бягучым навучальным годзе з 1 кастрычніка, а рэорганізацыя існуючых 1-комплектавых школ у 2-х і звыш комплектавыя праводзілася, у большасьці, у верасьні месяцы. Справа з адшуканьнем памяшканьняў для новых вясковых школ становіцца з кожным годам больш цяжкой, у зьвязку з адсутнасьцю прыгодных для школ будынкаў у вёсцы і нежаданьнем сялян здаваць свае хаты пад школы за нязначную арэндную плату. Плата за наёмныя школьныя памяшканьні вызначалася ў акругах у гэтым годзе ад 60 да 120 руб., без кватэры для настаўніка, разам з тэхнічным абслугоўваньнем школы гаспадаром будынку. Настаўнікам у такіх школах выдаваліся кватэрныя грошы ў разьмеры 10% іх заработку.

*Працяг навучальнага году* ў вясковых школах у бягучым годзе павялічыўся: заняткі пачаліся ў значнай большасьці 1-15 верасьня пры прыблізна 50% усяе колькасьці вучняў. Канец заняткаў вызначаны на 1-15 чэрвеня, але, у сувязі з раньняй вясной, адсеў вучняў са школ пачаўся ўжо ў красавіку. Школы, аднак, будуць працаваць да чэрвеня з тэй колькасьцю вучняў, якая будзе наведваць школу.

У бягучым годзе адзначаецца вельмі *несваячасовае забясьпечаньне школ падручнікамі*: у працягу 2-3 месяцаў, пасьля пачатку заняткаў, школы ня мелі некаторых падручнікаў амаль ва ўсіх акругах. Асабліва дрэнна стаяла справа з падручнікамі для нацыянальных школ. Трэба спадзявацца, што новы парадак дастаўкі падручнікаў у школы праз коопэрацыйныя організацыі і напружаная работа Мэтодкому і Белдзяржвыдавецтва зьнішчаць гэты вялікі недахоп у наступным годзе.

Таксама дрэнна стаяла справа са сшыткамі: у некаторых акругах вучням прыходзілася карыстацца ўсялякай старой чыстай паперай для навучальных заняткаў. У канцы году гэты недахват быў зьнішчаны.

Прыкмячаўся ў бягучым годзе досыць значны *недахоп настаўнікаў* для 1-га концэнтру працоўнай школы, ня гледзячы на тое, што Народным Комісарыятам Асьветы была падрыхтавана да пачатку году плянавая колькасьць патрэбных для школ настаўнікаў. Тлумачыцца гэта значным паступленьнем настаўнікаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы і, асабліва, самаачышчэньнем настаўніцкіх шэрагаў у працягу навучальнага году. Для замяшчэньня выбыўшых Народнаму Комісарыяту Асьветы прышлося зрабіць датэрміновыя выпускі з пэдтэхнікумаў і з пэдкурсаў; з першых выпушчана датэрмінова ў працягу году 290 асоб, з курсаў—160 асоб, а ўсяго 450 асоб. У канцы навучальнага году вакантныя месцы ў школах ёсьць толькі выпадковыя, у нязначнай колькасьці.

Процант амортызацыі настаўніцтва ў бягучым годзе, па даных акруговай інспэктуры, быў ад 6 да 12. На наступны год гэты процант, па думцы акруговых інспэктароў, будзе ня менш 8-10.

У 1929-30 годзе БССР уступіла на шлях увядзеньня *абавязковасьці навучаньня* ў 1-м концэнтры працоўнай школы ў вельмі шырокім маштабе. Згодна пастановы Савету народных комісараў ад 3 ліпеня 1929 году, абавязковасьць навучаньня ўводзілася ва ўсіх акругах рэспублікі для дзяцей 8-гадовага ўзросту ўсіх нацыянальнасьцяй. У паказанай пастанове СНК зроблена, аднак, агаворка, што ў тых школьных раёнах, у якіх пасьля падліку дзяцей выявіцца, што школьных месц для ахопу ўсіх дзяцей 8-гадовага ўзросту ня хопіць, абавязковасьць навучаньня павінна быць адкладзена да наступнага 1930/31 году.

Адпаведна з гэтым усе акруговыя выканаўчыя комітэты выдалі пастановы аб увядзеньні абавязковасьці навучаньня для дзяцей 8-гадовага ўзросту ў сваіх акругах. Аднак, некаторыя акругі, карыстаючыся паказанай вышэй агаворкай СНК, рабілі выключэньні для пасобных школьных раёнаў. Так, Гомельская акруга не правяла абавязковасьці навучаньня ў некаторых школьных раёнах Рэчыцкага раёну, Аршанская акруга не ўвяла абавязковасьці навучаньня ў 90 вясковых школьных раёнах. Найбольш асьцярожна падыйшла да гэтага пытаньня Мазырская акруга, якая ўвяла абавязковае навучаньне поўнасьцю толькі ў 2 прымежных раёнах (Жыткавіцкім і Тураўскім), а ў іншых раёнах абавязковасьць навучаньня ўведзена толькі ў 50% школ. Гэтая асьцярожнасьць Мазырскай акругі, як выявілася, ня мела падставы, бо дзеці 8-гадовага ўзросту фактычна ахоплены ў ёй ня менш, чым у іншых акругах—на 92%; удзельная вага 8-гадовых дзяцей у 1-й групе пачатковых школ Мазырскай акругі раўняецца 61%, у той час, як ва ўсёй рэспубліцы дзеці 8-гадовага ўзросту ў першых групах складаюць 53,5% агульнага ліку ўсіх вучняў гэтых груп.

Акруговыя выканаўчыя комітэты выдалі свае пастановы пра ўвядзеньне абавязковасьці навучаньня ў ліпені і жніўні, і толькі 3 акругі выдалі гэтыя пастановы са спазьненьнем: Бабруйская акруга—у верасьні, Мазырская і Магілеўская—у кастрычніку, г. з. пасьля пачатку навучальнага году. Праўда, падрыхтоўчая работа да правядзеньня абавязковасьці навучаньня (вучот дзяцей, даклады на сельсаветах і настаўніцкіх конфэрэнцыях) праводзілася і ў гэтых акругах раней, але такое спазьненьне офіцыйнай аб'явы абавязковасьці навучаньня, калі заняткі ў школах ужо пачаліся, траціла свой сэнс і не магло прыцягнуць да сябе належнай увагі з боку грамадзкасьці.

Падрыхтоўчая работа для правядзеньня абавязковасьці навучаньня вызначылася, галоўным чынам, *у правядзеньні вучоту дзяцей школьнага ўзросту*. Гэты вучот праведзен ва ўсіх акругах ў жніўні і верасьні месяцах сіламі настаўнікаў, старэйшых вучняў і комсамолу. Вучот праводзіўся шляхам абходу хат і рэгістрацыі ўсіх дзяцей адпаведных узростаў па картках ці сьпісах. Са ўсіх гарадоў ня быў праведзен вучот дзяцей толькі ў адным горадзе Гомлі; тут абмежаваліся толькі выдачай абавязковай пастановы, а ні вучоту, ні кантролю ніякага не рабілі. Трэба адзначыць, што такая самая нядбайнасьць была ў Гомлі і ў мінулым годзе.

*Адносіны насельніцтва* да абавязковасьці навучаньня дзяцей у школах, па водзывах працаўнікоў з месц, былі самыя прыхільныя: ніякіх скарг і непаразуменьняў ня было; прыцягненьні да адказнасьці бацькоў за непасылку дзяцей у школы былі ў вельмі рэдкіх выпадках.

З агульнага ліку *129.000 8-гадовых дзяцей*, якія лічацца ў БССР у 1929/30 годзе, *ахоплена школай* у гэтым годзе 117.000, ці *91%*. Калі прыняць пад увагу, што каля 2% дзяцей звычайна не паступаюць у школы з прычыны хваробы, дэфэктыўнасьці ды інш., дык трэба лічыць, што абавязковасьць навучаньня праведзена ў гэтым годзе зусім здавальняюча; засталося па-за школай каля 9.000 8-гадовых дзяцей, галоўным чынам, у тых школьных раёнах, дзе яшчэ досыць значны школьны радыус, што і прадугледжана пастановай Савету Народных Комісараў ад 3 ліпеня 1929 г.

З усіх акруг вылучаецца нездавальняючым правядзеньнем абавязковасьці навучаньня Полацкая акруга, у якой процант ахопу школай 8-гадовых дзяцей раўнаецца толькі 64. Прыём у школы Полацкай акругі адбываўся ў гэтым годзе такім жа самацёкам, як і ў мінулыя гады; з гэтай прычыны дзеці 8-гадовага ўзросту ў першых групах складаюць у гэтай акрузе толькі 36% (сярэдні процант па БССР 53,5), а дзеці 11 год і вышэй у Полацкай акрузе складаюць 14,2% (сярэдні процант па БССР 2). Насельніцтва ня было асьвядомлена, як сьлед, аб гэтым мерапрыемстве надзвычайнай культурнай і політычнай важнасьці, і з боку органаў нарасьветы ня было належнага контролю за выданай пастановай пра абавязковасьць навучаньня дзяцей 8-гадовага ўзросту. Гэта ў значнай ступені абцяжарвае далейшую работу Полацкай акругі па ўвядзеньню абавязковасьці навучаньня.

Згодна пастановы СНК ад 3 ліпеня 1929 году пры кожнай школе павінен быць організаваны *камітэт садзейнічаньня школе,* у абавязкі якога ўваходзіць правільнае скарыстаньне бюджэтных сродкаў на дапамогу дзецям беднаты, прыцягненьне да гэтай справы ініцыятывы і сродкаў насельніцтва і організацыя справы ўсеагульнага навучаньня ў даным школьным раёне. Дакладных вестак аб дзейнасьці гэтых комітэтаў яшчэ няма, але, па водзывах акруговай інспэктуры, дапамога іх дзецям беднаты і дабрабыту школы ў гэтым годзе была, у параўнаньні з мінулым годам, досыць значная. У мінулым годзе дапамога комітэтаў садзейнічаньня па БССР вызначылася ў 206.770 рублёў, што складала 56,4% агульнай сумы, якая была выдаткована на дапамогу дзецям беднаты (366.300 р.); гарачыя сьнеданьні ў мінулым годзе організаваны былі ў 162 школах, падвоз дзяцей—у 727 школах. Можна з упэўненасьцю сказаць, што работа комітэтаў садзейнічаньня ў гэтым годзе павялічылася значна. Так, па Бабруйскай акрузе, па даных інспэктуры, больш 50% вучняў пачатковай школы атрымлівалі гарачыя сьнеданьні; па Мазырскай акрузе аказана дапамога каля 10.000 дзецям беднаты. Павялічыліся ў гэтым годзе і бюджэтныя сродкі на дапамогу дзецям беднаты: з 132.000 рублёў у мінулым годзе да 470.000 у бягучым годзе.

Значнай перашкодай у справе дапамогі дзецям беднаты была, па водзывах усіх акруг, недастача мануфактуры, гатовай вопраткі, абутку, цукру і іншых прадметаў, патрэбных школам для забясьпечаньня бяднейшых вучняў і для організацыі ў школе гарачых сьнеданьняў. Ня гледзячы на настойлівыя клопаты інспэктароў і настаўнікаў, коопэрацыя часта не адпускала гэтых рэчаў з прычыны адсутнасьці іх у дадзены момант ці накіраваньня іх на іншыя патрэбы. З гэтай прычыны ў некаторых мясцовасьцях сабраныя на дапамогу дзецям беднаты сродкі да гэтага часу не маглі быць яшчэ поўнасьцю выкарыстаны. Трэба хадайнічаць перад урадам аб выдачы пастановы, каб коопэрацыйныя організацыі на мясцох задавальнялі гэтую патрэбу ў першую чаргу.

*Матар'яльная база* пачатковай школы ў гэтым годзе значна палепшылася: сярэдні кошт утрыманьня 1 школьнага комплекту з 972 рублёў у мінулым годзе павялічыўся да 1064 руб., г. зн. на 9,4%. Гэты сярэдні кошт утрыманьня 1 комплекту разьмяркоўваецца так: зарплата настаўніка 660 р. (62%), іншыя выдаткі па зарплаце (соцстрах, мясцком, кватэрныя, пяцігадовыя надбаўкі і плата тэхнічнаму працаўніку) 165 руб. (15,6%), на гаспадарчыя і навучальныя выдаткі—202 р. (19%) і на дапамогу дзецям беднаты—47 р. (3,4%). Аднак, гэты кошт утрыманьня школы яшчэ вельмі недастатковы, асабліва ў адносінах задавальненьня гаспадарчай і навучальнай часткі школы,—матар'яльная база жыцьця школы ў гэтых адносінах у бягучым годзе амаль не палепшылася.

*На школьнае будаўніцтва* ў бягучым годзе адпушчана значная сума па мясцоваму бюджэту—5.341.000 рублёў, на якую суму плянам вызначана пабудаваць 964 школьных комплекты. На пабудову аднае 2-комплектавай школы

вызначана 9.000 рублёў з бюджэтных сродкаў. Па водзывах усіх акруг, гэтая сума зьяўляецца зараз недастатковай, бо сярэдні кошт пабудовы плянавай школы вызначаецца па акругах ад 10 да 16 тысяч рублёў.

Дрэнна стаяла справа ў гэтым годзе, як і ў папярэднія гады, з тэхнічным наглядам за пабудовай школьных будынкаў; акруговыя і раённыя тэхнікі не маглі аддаваць належнай увагі і часу школьнаму будаўніцтву, з прычыны чаго школьныя будынкі будуюцца часта з вялікімі тэхнічнымі дэфэктамі. Акруговыя выканаўчыя комітэты абавязкова павінны ўжо ў гэтым будаўнічым сэзоне арганізаваць сталы тэхнічны нагляд за пабудовай школ, бо інакш вялікія сродкі, якія выдаткоўваюцца дзяржавай і насельніцтвам на пабудову школ, у значнай частцы будуць ісьці непродукцыйна.

У бягучым годзе значна павялічыліся *сродкі самаабкладаньня* насельніцтва на школьныя патрэбы: у мінулым годзе гэтыя сродкі складалі 650.000 рублёў, у гэтым годзе, па даных 6 акруг (апроч Бабруйскай і Гомельскай) гэтыя сродкі складаюць 1.450.000 рублёў; выкарыстоўваюцца гэтыя сродкі на гаспадарчыя патрэбы школ, рамонт школьных будынкаў, школьнае будаўніцтва і дапамогу дзецям бедната.

*Кіраўніцтва справаю ўсеагульнага навучаньня* ў гэтым годзе ў большасьці акруг і раёнаў ня было на належнай вышыні, не адпавядала вялікай важнасьці гэтай справы. Прычынай гэтага зьяўлялася адрываньне большасьці інспэктуры на работу па іншых галінах; інспэктары па 2-3 месяцы ня бывалі ў сваіх раёнах і ня ведалі добра, як ідзе ў раёне асьветная справа. Дрэнны ўплыў на работу мела і значная зьмена інспэктуры ў акругах і раёнах; напрыклад, у Магілеўскай акрузе на працягу году зьмяніліся 4 акруговыя інспэктары школ соцвыху. Зразумела, што работа па ўсеагульнаму навучаньню, якая патрабуе плянавасьці і контролю, не магла ісьці належным чынам.

Дрэнна прайшло ў гэтым годзе *статыстычнае дасьледваньне школ,* якое праводзіцца штогодна: у вызначаны тэрмін не даставілі ніякіх зьвестак 323 пачатковыя школы і 18 сямігадовых школ; апроч таго, шмат якія статыстычныя школьныя формуляры складзены загадчыкамі школ неахайна, з пропускамі і няправільнасьцямі. Гэтая нядбайнасьць загадчыкаў школ зьяўляецца зусім недапушчальнай, бо для таго, каб запоўняць статыстычны блянк адзін раз у год, трэба затраціць 2-3 гадзіны. А бяз правільных і поўных статыстычных зьвестак, без належнага вучоту работы немагчыма далейшае плянаваньне гэтай работы, немагчыма правядзеньне вельмі важных практычных мерапрыемстваў. Трэба паставіць на абгаварэньне настаўніцкіх конфэрэнцый пытаньне аб належнай статыстычнай справаздачнасьці школ, трэба, апроч таго, арганізаваць на гэтых конфэрэнцыях належны інструктаж настаўнікаў па запаўненьню статыстычных формуляраў.

Вось галоўныя вынікі работы па ўсеагульнаму навучаньню за бягучы год. Мы маем значныя дасягненьні: значна павялічаны процант ахопу школай дзяцей 8-11 год, зусім здавальняюча, у цэлым, праведзена абавязковасьць навучаньня для дзяцей 8 год, значна зьменшыўся лік перарасткаў у школах, значна павялічыўся лік дзяўчат, школа паступова нормалізуе фактычны працяг навучальнага году і навучальнага курсу. Найбольш істотнымі недахопамі ў справе ўсеагульнага навучаньня ў бягучым годзе былі спазьненьне выдачы некаторымі акругамі пастаноў пра абавязковасьць навучаньня, недастатковае прыцягненьне да справы ўсеагульнага навучаньня грамадзкасьці і недастатковае высьвятленьне гэтае справы ў друку, нязначны яшчэ ўдзел у рабоце па правядзеньню ўсеагульнага навучаньня розных профэсійных, коопэрацыйных, комсамольскіх ды іншых організацый, вельмі нездавальняючы тэхнічны нагляд за школьным будаўніцтвам.

На падставе зробленай у бягучым годзе работы па ўсеагульнаму навучаньню грунтуюцца і тыя *мерапрыемствы, якія трэба правесьці па ўсеагульнаму навучаньню ў наступным годзе.* Паколькі ў бягучым годзе ўведзена абавязковасьць навучаньня для дзяцей 8-гадовага ўзро-

сту, першым далейшым мерапрыемствам павінен быць працяг абавязковасьці навучаньня для дзяцей далейшых школьных узростаў. Нормальным, плянавым, ходам усеагульнага навучаньня было-б ахапленьне абавязковасьцю навучаньня ў наступным годзе дзяцей 9-гадовага ўзросту з тым, каб закончыць усеагульнае навучаньне ў 1932/33 годзе. Але, у сувязі з дырэктывай выканаць пяцігодку ў чатыры гады, паўстае патрабаваньне ўсеагульнае навучаньне закончыць не ў 1932/33 годзе, а ў 1931/32 годзе, і з гэтай прычыны абавязковасьць навучаньня трэба ўвесьці ў наступным годзе ня толькі для дзяцей 9-гадовага ўзросту, але і для дзяцей 10-гадовага ўзросту.

Ці зьяўляецца магчымым правядзеньне гэтага мерапрыемства? Работа, што праведзена па ўцягненьню дзяцей школьных узростаў у школы ў бягучым годзе, дае магчымасьць выканаць паказаную дырэктыву ў нас, у БССР, без асаблівых цяжкасьцяй. Статыстычныя вылічэньні паказваюць, што ў наступным годзе ў першых групах 1-га концэнтру працоўнай школы будзе 190.000 месц, з гэтага ліку 136.000 месц будуць заняты дзецьмі 8-гадовага ўзросту (100%), 9.000—дзецьмі 9-гадовага ўзросту, якія ў гэтым годзе, будучы 8-гадовымі, не паступілі ў школу, 14.000 месц будуць заняты дзецьмі 10 год, якія засталіся па-за школаю ў папярэднія гады; астатнія 31.000 месц (15%) проектуецца пакінуць для другагоднікаў 1-й групы. Такім чынам, ахоп школай усіх дзяцей 8-10 год у наступным навучальным годзе, пры плянавым адчыненьні 1517 новых школьных комплектаў, поўнасьцю забясьпечаны. Адчыненьне паказанага ліку новых школьных комплектаў ужо разгледжана Дзяржплянам і зацьверджана ў контрольных лічбах Саўнаркомам, і, такім чынам, ёсьць цьвёрдая ўпэўненасьць, што далейшае мерапрыемства па правядзеньню абавязковасьці навучаньня будзе ў наступным годзе ажыцьцёўлена.

Дзяцей малодшых 8 год і старэйшых 11 год прымаць у школы ў наступным годзе не проектуецца, за рэдкімі выключэньнямі (для дзяцей рабочых і вясковай бедноты): дзеці да 8 год пасьпеюць яшчэ ў свой час паступіць у школу, а дзеці звыш 11 год павінны будуць ліквідаваць сваю няпісьменнасьць у асобных вячэрніх школах для падросткаў.

Другім, вельмі важным, мерапрыемствам у справе ўсеагульнага навучаньня ў наступным навучальным годзе зьяўляецца пачатак увядзеньня ўсеагульнага навучаньня ў аб'ёме 7-гадовай школы. Мяркуецца ў наступным годзе ўвесьці абавязковасьць навучаньня ў V групе 2-га концэнтру тых дзяцей рабочых і членаў профсаюзаў, якія ў бягучым годзе скончаць 4-ю групу гарадзкіх школ. Блізкае сканчэньне ўсеагульнага навучаньня ў аб'ёме 4-годкі вымагае пераходу гэтай справы ў другую стадыю, і паказанае вышэй мерапрыемства зьяўляецца першым пачаткам вышэйшай стадыі работы па ўсеагульнаму навучаньню. Правядзеньне гэтага мерапрыемства, пры плянавым адчыненьні ў наступным годзе 288 груп 2-га концэнтру працоўнай школы, зьяўляецца таксама зусім магчымым. У 4-й групе ў бягучым годзе вучыцца каля 66.000 вучняў, з іх 17%, ці 11.200 чал., складаюць дзеці рабочых і членаў профсаюзаў. Месц у 5-й групе ў наступным годзе будзе больш 33.000, такім чынам, дзеці рабочых і членаў профсаюзаў, для якіх проектуецца ўвесьці абавязковасьць навучаньня, будуць складаць толькі ⅓ частку ўсіх вучняў 5-х груп.

Для таго, каб правядзеньне абавязковасьці навучаньня дзяцей рабочых і членаў профсаюзаў у 5-й групе магло быць ажыцьцёўлена поўнасьцю, трэба, каб да сканчэньня бягучага навучальнага году былі складзены дакладныя сьпісы на школах усіх вучняў 4-й групы—дзяцей рабочых і членаў профсаюзаў. Гэтыя дзеці і іх бацькі павінны быць зараз жа асьвядомлены, што ў наступным годзе ўводзіцца для гэтых дзяцей абавязковасьць навучаньня ў 5-й групе працоўнай школы.

Паказаныя вышэй мерапрыемствы зьяўляюцца найбольш важнымі і характэрнымі для наступнага году ў справе ўсеагульнага абавязковага навучаньня. Іншыя мерапрыемствы, якія трэба праводзіць у наступным годзе, выцякаюць

з таго стану работы, у якім усеагульнае абавязковае навучаньне знаходзіцца ў бягучым годзе, і павінны зьяўляцца разьвіцьцём і выкананьнем пастановы СНК ад 3 ліпеня 1929 году аб абавязковасьці навучаньня. Да такіх мерапрыемстваў трэба аднесьці:

1. У маі—чэрвені г. г. трэба правесьці дакладны вучот усіх дзяцей ад 7 да 11 год па ўсёй БССР; вучот гэты, як і ў папярэднія гады, трэба правесьці сіламі настаўнікаў і старэйшых вучняў, з прыцягненьнем да гэтай работы комсамольскіх ды іншых організацый, пад агульным кіраўніцтвам культурных сэктораў гарадзкіх і сельскіх саветаў. Вучотныя карткі і сьпісы павінны знаходзіцца ў школах ці ў сельсаветах, і па іх павінна рабіцца дакладная праверка паступленьня і наведваньня школы дзецьмі.

2. Перавесьці ў бліжэйшыя два гады ўсе школы з 3-гадовым курсам навучаньня на 4-гадовы курс навучаньня. Паколькі, у сувязі з абавязковасьцю навучаньня, павялічваецца фактычны праця̄г навучальнага году і навучальнага курсу, організуецца дапамога дзецям беднаты, як матар'яльная, так і пэдагогічная, мерапрыемства гэтае зьяўляецца зусім магчымым і не павінна адбіцца на якасьці работы, нават пры занятках аднаго настаўніка з 4 групамі.

3. Акруговыя і раённыя інспэктары павінны больш уважліва разьмяркоўваць у раёнах новыя школьныя комплекты, каб ня было такіх здарэньняў, што ў аднэй школе на настаўніка прыпадае 25 вучняў, а ў другой даходзіць да 80.

4. Трэба паставіць перад усімі школамі і на настаўніцкіх конфэрэнцыях пытаньне аб зьмяншэньні ліку другагоднікаў у школах, каб процант іх у канцы ўвядзеньня ўсеагульнага навучаньня не перавышаў 10. Больш значны процант другагоднікаў будзе вымагаць адчыненьня новых школьных комплектаў ці павялічэньня нагрузкі настаўніка.

5. Пры прыёме ў наступным навучальным годзе трэба поўнасьцю забясьпечыць ахоп школамі дзяцей рабочых саўгасаў і сяброў колгасаў, а таксама забясьпечыць саўгасы і колгасы школьнымі будынкамі ў першую чаргу, прыцягваючы на дапамогу будаўніцтву сродкі гэтых організацый.

6. Трэба значна ўзмацніць дзейнасьць існуючых ужо комітэтаў садзейнічаньня школе і організаваць такія комітэты пры ўсіх школах без выключэньня, дзе яшчэ такія комітэты да гэтага часу не організаваны. На комітэты садзейнічаньня школе трэба ўскласьці і работу па організацыі ўсеагульнага навучаньня ў даным школьным раёне (вучот дзяцей, контроль за іх наведваньнем, падвоз дзяцей у школы і г. д.), як гэта і прадугледжана палажэньнем аб іх дзейнасьці (палажэньне надрукавана ў Бюлетэні СНК за 1929 год, № 4). Паколькі організацыяй усеагульнага навучаньня павінны займацца і комітэты садзейнічаньня школе і культурны сэктор сельсавету, організацыю асобных комісій па ўсеагульнаму навучаньню пры сельсаветах лічыць непатрэбнай.

7. Трэба ўзбудзіць хадайніцтва перад урадам, каб прадметы, патрэбныя для аказаньня дапамогі дзецям беднаты, адпускаліся школам коопэрацыйнымі організацыямі на мясцох без перашкод і своечасова.

8. Належная організацыя тэхнічнага нагляду за пабудовай школ зьяўляецца неадкладнай справай, без якое вялікія сродкі на будаўніцтва скарыстоўваюцца часта непродукцыйна. Акруговым выканаўчым комітэтам неабходна ўжыць усе захады для організацыі такога тэхнічнага нагляду ужо ў бягучым будаўнічым сэзоне.

9. Органам нарасьветы на мясцох трэба шырока азнаёміць насельніцтва з утварэньнем мясцовых школьнабудаўнічых пазычных фондаў і прыцягнуць больш шырокія масы насельніцтва да школьнага будаўніцтва як грашыма, так і працай.

10. З прычыны таго, што ў апошні час выявіўся недахоп настаўнікаў для забясьпечаньня школ 1-га концэнтру ў наступным навучальным годзе, НКА і НК Працы трэба тэрмінова організаваць кароткатэрміновыя падрыхтоўчыя курсы для настаўнікаў у кожнай акрузе, каб падрыхтаваць да пачатку навучальнага году па БССР праз гэтыя курсы 650 настаўнікаў.

11. З прычыны зьмены тэрміну ўвядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня акруговым інспэктарам трэба пераапрацаваць акруговыя і раённыя сеткавыя пляны, а раённым інспэктарам унесьці неабходныя папраўкі ў складзеныя раней тэрытарыяльныя раённыя пляны.

12. Да гэтага часу справе ўсеагульнага навучаньня на мясцох ня быў наданы яшчэ характар шырокай грамадзкай работы: пытаньні ўсеагульнага навучаньня мала высьвятляліся ў друку, недастаткова абгаварваліся на бацькоўскіх сходах, у партыйных і профэсыйных організацыях, на пасяджэньнях гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветаў. У наступным навучальным годзе на гэтую справу трэба зьвярнуць асабліва вялікую ўвагу.

13. Для прыцягненьня грамадзкасьці ў справу ўсеагульнага навучаньня і якаснага палепшаньня гэтай справы асабліва значэньне набывае соцспаборніцтва па ўсеагульнаму навучаньню, якое павінна організавацца органамі профсаюзаў на мясцох і асобнымі членамі профсаюзу працасьветы.

Трэба, каб кожная школа ўступіла ў такое спаборніцтва, паставіўшы сабе мэтай уцягнуць у наступным годзе ў школу ўсе 100% дзяцей 8-10 год, павялічыць фактычны працяг навучальнага году і навучальнага курсу, зьменшыць лік другагоднікаў, організаваць выстарчальную дапамогу дзецям беднаты, больш шырока організаваць дзейнасьць комітэту садзейнічаньня школе і, наогул, зацікавіць шырокую грамадзкасьць справай ўсеагульнага навучаньня.

Плянавае адчыненьне новых школьных комплектаў у бягучым навучальным годзе можна лічыць забясьпечаным. Можна быць упэўненым, што ўсе дзеці 8-10 год будуць ахоплены абавязковым школьным навучаньнем. Але гэтага мала. Трэба палепшыць якасьць школьнай продукцыі, а гэта магчыма толькі пры напружанай рабоце ўсіх настаўнікаў, адміністрацыйных органаў нарасьветы на мясцох і, галоўнае, пры шырокім удзеле грамадзкасьці ў справе ўсеагульнага навучаньня.

# СТАВІМ НА АБГАВАРЭНЬНЕ

## Паясьняльная запіска да програмы па беларускай літаратуры

Выкладаньне беларускай літаратуры ў другім концэнтры сямігодкі (разам з выкладаньнем іншых галін) ставіць сваёй мэтай выхаваньне ў дзяцей пролетарскай ідэолёгіі, рашучасьці ў змаганьні з клясавым ворагам і адданасьці справе пабудовы соцыялізму.

Гэтая мэта можа быць дасягнута толькі тады, калі вучні ясна ўразумеюць, што літаратура, як своеасаблівая форма выражэньня псыхоідэолёгіі, зьяўлялася і зьяўляецца сродкам клясавай барацьбы. Вось гэтую функцыю літаратурна-мастацкіх твораў і трэба ставіць як асноўны момант пры выкладаньні літаратуры ў другім концэнтры сямігодкі. К канцу навучаньня ў сямігодцы вучні павінны ўсьвядоміць, што літаратурная творчасьць зьяўляецца выражэньнем псыхоідэолёгіі тае ці іншае клясы ў яе дынамічным разьвіцьці на розных гісторычных этапах, і што сама літаратура падпарадкавана законам грамадзкага разьвіцьця і клясавай барацьбы.

Выхаваўчая роля літаратурнай творчасьці, як сродку клясавай барацьбы, можа быць дасягнута толькі тады, калі твор будзе вызначацца яскравасьцю, эмоцыянальнасьцю зарысоўкі соцыяльна-бытавых малюнкаў, дзеячых асоб і іх змаганьня. Уплыў такіх мастацкіх твораў на вучняў будзе формаваць іх клясавую сьвядомасьць у патрэбным нам напрамку і ўздымаць іх актыўнасьць да змаганьня з сваімі клясавымі ворагамі. На яскравых літаратурна-мастацкіх творах вучні ўспрымуць пролетарскую псыхоідэолёгію і з нянавісьцю аднясуцца да варожых пролетарыяту клясаў і груповак.

Роля такіх яскравых літаратурна-мастацкіх твораў дасьць мажлівасьці выхаваць і падрыхтаваць моладзь да тых задач, якія стаяць перад комуністычнай партыяй і савецкай уладай у галіне інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня, абароны соцыялістычных рэспублік, індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскай гаспадаркі і зьнішчэньня старога ўкладу і быту.

Для дасягненьня пастаўленых задач неабходна марксыцкі мэтод вывучэньня літаратуры перанесьці і ў практыку выкладаньня літаратуры ў сямігодцы: у практычнай жа распрацоўцы літаратурна-мастацкіх твораў трэба карыстацца схэмай Пляханава, якая грунтуецца на поглядах Маркса-Энгельса. Гэта схэма паказвае, якія адносіны існуюць паміж так званым «базісам» і «надбудоўкамі». Вось гэта схэма:

1) стан вытворчых сіл;

2) абумоўленыя ім экономічныя адносіны;

3) соцыяльна-палітычны лад, які вырас на данай экономічнай аснове;

4) псыхіка грамадзкага чалавека, якая формуецца часткай непасрэдна экономікай, а часткай тым соцыяльна-палітычным ладам, які вырас на данай экономіцы;

5) розныя ідэолёгіі, якія адлюстроўваюць у сабе ўласьцівасьці псыхікі грамадзкага чалавека.

Аднэй з форм выяўленьня гэтых ідэолёгій і зьяўляецца літаратура.

Зразумела, што літаратура, згодна гэтай схэмы, як псыхоідэолёгія тае або

іншае клясы, зьяўляючыся надбудовай, ня толькі адлюстроўвае грамадзкую рэчаіснасьць, але і зьяўляецца актыўным фактарам узьдзейнічаньня на гэту рачаіснасьць.

На аснове таго, што літаратура параджаецца клясавай барацьбой і зьяўляецца зброяй у гэтай барацьбе на розных этапах гісторычнага разьвіцьця і грамадзкіх адносін, узьнікае патрэба ў цеснай увязцы мастацкіх твораў з эпохай, да якой яны адносяцца.

Пазнаць літаратурна-мастацкую творчасьць, зразумець яе ролю ў ходзе клясавай барацьбы, якая адбываецца ў тую ці іншую эпоху, нельга без асноўных ведаў стану вытворчых сіл і вырасшай на іх аснове псыхоідэолёгіі і клясавай барацьбы. Бяз гэтых ведаў нельга вызначыць клясава вытрыманы социяльны эквівалент твору. Але веды па экономіцы і грамадзкіх адносінах павінны зьяўляцца ня мэтай, а толькі сродкам для высьвятленьня ролі літаратурна-мастацкай творчасьці ў клясавай барацьбе.

Веды эпохі, патрэбныя для высьвятленьня мастацкай творчасьці, могуць быць набыты шляхам увязкі грамадазнаўства з літаратурай. Адгэтуль узьнікае патрэба корэляцыі гэтых прадметаў.

У сувязі з значэньнем эпохі для высьвятленьня клясавае сутнасьці літаратурна-мастацкіх твораў, трэба знаёміць вучняў з некаторымі момантамі біографіі пісьменьніка, якія (моманты) зьвязваюць яго з сваёй клясай на агульным фоне клясавае барацьбы, што знаходзіць адлюстраваньне ў яго творчасьці. Такія моманты клясавай барацьбы мы знаходзім у жыцьці амаль што кожнага пісьменьніка, як Цішкі Гартнага, Якуба Коласа, Міхася Чарота ды іншых.

Правільна і ўмела паданыя біографічныя факты, сьцісла ўвязаныя з характарыстыкай эпохі і высьвятляючыя палітычныя і філёзофскія погляды пісьменьніка, як прадстаўніка тае ці іншае клясы, дапамогуць зразумець клясавую прыроду яго мастацкай творчасьці. Бо ня можа быць прынцыповай розьніцы ў псыхоідэолёгіі пісьменьніка, выражанай, скажам, у публіцыстычнай форме і данай у літаратурна-мастацкім паказе. Але зьвесткі з жыцьця пісьменьніка, якія дапамагаюць уразуменьню клясавай прыроды мастацкай творчасьці, ніякім чынам нельга ператварыць у самамэту.

Пры вывучэньні літаратурна-мастацкай творчасьці, як сродка клясавай барацьбы, патрэбна зварочваць увагу на выяўленьне псыхоідэолёгіі пісьменьніка праз яго сродкі маляўнічасьці: вобразы, эпітэты, мэтафоры, параўнаньні, розныя фігуры і г. д. Трэба зварочваць асаблівую ўвагу вучняў на тое, што ўсе маляўнічасьці бяруцца пісьменьнікам з таго навакольнага асяродзьдзя і быту, у якім яму, як прадстаўніку тае або іншае клясы, прыходзіцца дзейнічаць і весьці змаганьне. Гэта яскрава можна паказаць у творчасьці шмат якіх беларускіх пісьменьнікаў. Так, напрыклад, у творчасьці Якуба Коласа, пры замалёўцы нават розных соцыяльных груп і іх барацьбы, маляўнічыя сродкі бяруцца з навакольнага сялянскага быту і навакольнай прыроды; у Зьмітрака Бядулі, акрамя гэтых сродкаў, часта сустракаюцца літаратурна-кніжныя і біблейскія.

Такая ўстаноўка на ўвязку маляўнічых сродкаў з тэматыкай творчасьці значна будзе дапамагаць высьвятленьню клясавай прыроды творчасьці; вывучэньне вобразаў, мэтафор, эпітэтаў і розных іншых маляўнічых сродкаў ня будзе зьяўляцца самамэтай. Па магчымасьці трэба з такой устаноўкай падыходзіць і да вывучэньня композыцыі твораў, жанраў, мэтрыкі, рытмікі. Усё гэта павінна штурхаць вучня на адпаведны падбор маляўнічых сродкаў пры спробах пісаць самастойныя творы. Пытаньні поэтыкі, зьмешчаныя асобна, неабходна распрацоўваць у сувязі з распрацоўкай твораў, а не адводзіць на гэта самастойных гадзін.

Пры разьмеркаваньні програмнага матар'ялу па групах і аб'яднаньні яго па тэмах мелася на ўвазе даступнасьць матар'ялу ў залежнасьці ад узросту і разьвіцьця вучняў.

У мэтах-жа выхаваньня, програмны матар'ял па літаратуры ўзяты пераважна той, які зьвязаны з нашай эпохай, эпохай клясавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва. У V і VI клясах матар'ял разьмеркаваны па тэмах, іду-

чы ад сучаснасьці да эпохі капіталізму і фэўдалізму. Тут скарыстаны творы ня толькі беларускіх, але і некаторых расійскіх і замежных пісьменьнікаў. Зроблена гэта таму, што ў беларускай літаратуры барацьба пролетарыяту ў капіталістычных умовах да Кастрычніка знайшла слабае адлюстраваньне, а таксама слаба адлюстравана барацьба ў сучасны момант у капіталістычных краінах.

У V клясе высьвятленьне мастацкіх твораў, як сродку клясавай барацьбы, можа весьціся ў наступным напрамку: увага галоўным чынам зьвяртаецца на непасрэднае эмоцыянальнае ўзьдзейнічаньне самога тэксту на вучня; вучні непасрэдна павінны ўспрымаць дзеячых асоб твору, клясавую барацьбу паміж імі і тыя социяльна-бытавыя малюнкі, на фоне якіх адбываецца гэтая барацьба. Таксама патрэбна зварочваць увагу вучняў на тое, як адносіцца пісьменьнік да рачаіснасьці, да дзеячых асоб свайго твору, на чый бок ён становіцца ў іх клясавай барацьбе і для чаго ён бярэ тыя ці іншыя вобразы і сродкі маляўнічасьці.

У VI клясе ўвага дзяцей зварочваецца на тое, псыхоідэолёгію якой клясы (або групоўкі ў гэтай клясе) выяўляе аўтар у тым ці іншым вобразе. Разам з гэтым, у VI клясе трэба прывучыць дзяцей хоць часткова раскрываць тую псыхоідэолёгію пісьменьніка, якая выяўлена ім у яго літаратурна-мастацкіх творах у цэлым. Тут будзе мажлівасьць, хоць часткова, устанавіць клясавую прыроду пісьменьніка і больш глыбока выявіць, як і дзеля чаго пісьменьнік ужывае сродкі маляўнічасьці.

Зьвесткі з эпохі ў гэтай клясе, у сувязі з літаратурнымі тэмамі, павінны давацца ў такой колькасьці, каб вучні маглі зразумець, якія існавалі тады клясы і якая барацьба адбывалася паміж імі. Гэта дасьць вучням мажлівасьць лепш зразумець тое, з пункту гледжаньня якой клясы адлюстроўвае гэту барацьбу пісьменьнік і інтарэсы якой клясы ён бароніць у сваіх творах.

Выкладаньне літаратуры ў VII клясе ставіць сваёй мэтай высьветліць, што творчасьць кожнага пісьменьніка зьяўляецца вынікам вядомай эпохі і клясавага змаганьня ў ёй.

Вучні гэтае клясы ўжо могуць зразумець, што літаратурна-мастацкая творчасьць зьяўляецца зброяй у клясавай барацьбе і магутным фактарам узьдзейнічаньня на грамадзкую рэчаіснасьць.

У залежнасьці ад дынамікі разьвіцьця грамады, перамяшчэньня ў ёй клясавых сіл, тэматыка і мэтаімкненьні ў творчасьці мяняюцца. Тут лёгка будзе паказаць, як некаторыя беларускія пісьменьнікі сялянскай беднаты і пісьменьнікі дробнай гарадзкой і местачковай буржуазіі набліжаюцца да пролетарскіх пісьменьнікаў, а некаторыя адыходзяць.

Беларуская літаратура, якая ўведзена ў праграму VII клясы, ахапляе толькі XX стагодзьдзе і Кастрычнікавую эпоху. Літаратурны матар'ял гэтае клясы не мэтазгодна разьбіваць па тэмах, як у V і VI клясах. Яго лепш разглядаць па пісьменьніках у гісторычна-клясавым разрэзе. Тэматычны разгляд літаратуры ў VII клясе ня дасьць магчымасьці прасачыць дынаміку творчасьці пісьменьніка, а таксама і ўявіць яе клясавую ролю.

У гэтай клясе распрацоўка літаратурнага матар'ялу пачынаецца ад эпохі 1905 года. Такі парадак распрацоўкі дасьць магчымасьць выявіць і аб'яднаць пісьменьнікаў па іх клясавай блізкасьці паміж сабою і прасачыць дынаміку іх творчасьці ў залежнасьці ад эпохі. Разам з гэтым мы пакажам вучням, што эпоха Кастрычніка спарадзіла і сваіх пролетарскіх пісьменьнікаў.

Адзначаныя разрадкай творы прызначаюцца для распрацоўкі ў сямігодках яўрэйскіх, польскіх і расійскіх.

# Програма па беларускай літаратуры для V, VI, VII клясаў

V КЛЯСА.

1. Тэма. *Малюнкі соцыялістычнага будаўніцтва (індустрыялізацыі, колектывізацыі) і клясавай барацьбы ў літаратурна-мастацкіх творах.*

Пяцігодка—Куляшоў.
*Заводаў грук*—М. Чарот.
Гудкі—Александровіч.
*Ічэ*—Явар Хвядос.
Фабрыка хлеба—Сьвянцянскі.
*На новай зямлі*—Чарот.
Зьмітра—Сямяшка.
Прэч з дарогі—Хурсік.
*Нязвычайная гісторыя*—З. Бядуля.
Рунь—З. Бядуля.
На вёсцы—Нікановіч.
*Лясны Інтэрнацыянал*—М. Гольдбэрг.
Як я стаў бязбожнікам—Крапіва.

2. Тэма. *Малюнкі барацьбы рабочых і працоўнага сялянства за Кастрычнік.*

Суседзі—Галавач.
*Янка з Палесься*—Хурсік.
*Сяргей Карага*—Т. Гушча.
Змагальнікам за кастрычнікавую рэволюцыю—Я. Колас.
*Дымам і пажарам*—Чарот.
Чырвоны сьцяг—Ц. Гартны.
Партызаны—Нёманскі.
Кліч атамана—Хведаровіч.

3. Тэма. *Малюнкі жыцьця, працы і змаганьня рабочых і працоўнага сялянства напярэдадні Кастрычніка.*

Урыўкі з «Сокі цаліны»—Ц. Гартны
*Павукі і мухі*—Лібкнэхта.
Малады дубок—Т. Гушча.
Нёмнаў дар—Т. Гушча.
Нашым ворагам—Я. Колас.
*Песьня гарбара*—Ц. Гартны.
Калыская песьня—Ц. Гартны.
Песьня батрака—Я. Колас.

4. Тэма. *Малюнкі барацьбы рабочых і працоўнага сялянства ў 1905 годзе.*

Сын (урыўкі)—Мурашка.
*Над Кроманьню*—Нёманскі.
Успаміны аб 1905 г.—Раіч.
Гірш Лекерт.

5. Тэма. *Малюнкі жыцьця і барацьбы працоўных пасьля скасаваньня прыгону.*

Гаротная—Ядвігін Ш.
У вастрозе—Багушэвіч.
На панскай службе—Я. Колас.
*Панская пацеха*—Я. Колас.

6. Тэма. *Малюнкі жыцьця і змаганьня працоўных у часы паншчыны.*

*Бандароўна*—Я. Купала.
Праца на полі за прыгонам, з «Салаўя»—Бядулі.
Курган—Я. Купала.
*На зачарованых гонях*—З. Бядуля.
Прысяга—М. Гарэцкі.
Прыказкі аб паншчыне.

VI КЛЯСА.

1. Тэма. *Кастрычнік і яго эпоха ў літаратурна-мастацкіх творах.*

а) Адлюстраваньне ў літаратурна-мастацкіх творах соцыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбы ў рэконструкцыйны пэрыод.

*Партыя кліча*—Александровіч.
Плывём к прыгожай сьветлай далі—М. Чарот.
*Менск*—Чарот.
Апошні зьверыядавец (выняткі)—Лынькоў.
Комсамолія—Чарот.
Песьня вёскі і фабрычных станкоў—Александровіч.
Сасна—Александровіч.
*Зайздрасьць*—Кандрат Уласюк.
Браты—Мікіценка.
*У мястэчку*—Лынькоў.
*Людзі Новай Зямлі*—М. Гольдбэрг.
На сонечным шляху (урыўкі)—В. Сташэўскі.
*Поэма пра колгас*—Астапенка
Торф—Хведаровіч.
Беларусь—Кляшторны.

б) Адлюстраваньне ў літаратурна-мастацкіх творах барацьбы пролетарыяту і працоўнага сялянства за сусьветны кастрычнік.

Чырвонакрылы вяшчун—Чарот.
*Два*—М. Чарот.
А я іду—М. Чарот.
Ад Лютага да Кастрычніка—Гурло.
Каля адчыненай брамы (урывак) — Даўгапольскі Ц.

Затока ў бурах (урыўкі)—Скрыган.
Дачакаўся—Т. Гушча.
Крывавы вір—Т. Гушча.
Яўленая—Галавач.
Каршун—Звонак.
Тодар Базылёнак—Нёманскі.
*Маці*—Нёманскі.
*Рыгор Галота* (урыўкі)—Барашка
Чорны мост (урыўкі)—Хурсік.
Чырвонаармеец Панкел Ліпа — Ц. Гартны.
*Польскім барацьбітом*—М. Чарот.

## ТЭОРЫЯ ПОЭТЫКІ.

### V КЛЯСА.

Мова прозаічная і вершавальная. Вершаваньне. Стапа. Галоўнейшыя вершавальныя разьмеры: хорэй, ямб, дактыль, амфібрах, анапэст.

Рыфма. Рыфма аднаскладовая, двохскладовая і трохскладовая. Разьмеркаваньне рыфм.

Сродкі вобразнасьці і эмоцыянальнасьці мовы: эпітэты, мэтафоры, параўнаньні, увасабленьні, гукаперайманьне.

Мова звычайная, дзелавая і мова поэтычная, вобразная.

Элемэнты апавядальных твораў: апісальны, апавядальны, дыялёг.

### VI КЛЯСА.

Апавяданьне. Композыцыя апавядальных твораў: тэма, фабула, завязка, разьвязка, сюжэт.

Прыёмы ўкладаньня апавяданьняў пры дапамозе апісаньня абставін, пэйзажу, портрэту, характарыстык і дыялёгу.

Мова дзеючых асоб апавяданьня ў залежнасьці ад іх соцыяльнага пахаджэньня, стану ды інш.

Роля апавядальніка ў высьвятленьні падзей і зьяў, апісаных у апавяданьні.

Віды апавядальных твораў: апавяданьні (новэлі), аповесьці, басьні, баляды, нарысы.

Апісаньне. Композыцыя апісаньняў: віды і парадак разьмеркаваньня частак у апісаньні (апісаньне прыметаў і падзей у часе).

Прыём апісаньняў: карціннасьць зрокавая, слухавая, смакавая, датыкальная і моторная; портрэт, характарыстыка.

Асоба аўтара ў апісаньні.

### VII КЛЯСА.

1. Лірыка. Композыцыя лірычных твораў: тэма, яе разьвіцьцё і заключэньне. Віды лірычных твораў.

2. Драма. Композыцыя драмы: а) завязка, б) разьвіцьцё барацьбы, в) моманты найвышэйшага стану барацьбы, г) разьвязка. Віды драматычных твораў.

3. Поэма, яе композыцыя. Віды поэм.

4. Сатыра.

5. Розьніца сучаснай лірыкі па тэматыцы і форме ад лірыкі дарэволюцыйнага пэрыоду.

6. Тэхніка сучаснага вершаваньня: асаблівасьці ў мэтрыцы, рытміцы, рыфмоўцы і ўжываньні вобразных зваротаў

### VII КЛЯСА.

Літаратура да Кастрычнікавай пары (ад 1905 году) і яе эволюцыя.

Я. Купала.
Аб мужыцкай долі.
Перад вісельняй.
Не клянеце мяне.
*Раскіданае гняздо.*
*Безназоўнае* (асобныя вершы).
*Ты сходзіш, вёска, з яснай явы.*

Я. Колас.
З Новай Зямлі.
Раніца у нядзельку.
Начаткі.
Летнім часам.
Дзядзька ў Вільні.
*Агляд зямлі.*
У Палескай Глушы.
На прасторах жыцьця (урыўкі).
На шляхох волі (Полымя, № 1, 1930 г., стар. 23, разьдзел 15).

З. Бядуля.
*У Ясных крушнях.*
*Дзесяць.*
Беларусь (поэма).
Нязвычайныя гісторыі.
Ц. Гартны.
Песьня гарбара.
*Змагайся.*
Далакопам рэволюцыі.
Комунар.
*Яна ідзе.*
Хто мы?
Праца.
*Праводзіны.*
*Гаспадар.*

Буржуазная плынь у дакастрычнікавай (ад 1905 году) беларускай літаратуры:

М. Багдановіч.
З песьняў беларускага мужыка (16).
Як Базыль у паходзе канаў (68).
Трэціны (177).
Ядвігін Ш.
З маленькім білецікам.
Вучоны бык.

Пасьлякастрычнікавая літаратура і яе разьвіцьцё.

а) На шляхох пролетарскай літаратуры:

М. Чарот.
Ведай сьвет.
Бунтар.
*Дымам і пажарам.*
Два.
Моладзь.
Да моладзі.
Змагайцеся самі.
*Босыя на вогнішчы.*
*Беларусь лапцюжная.*
Леніна—Майскае.
Саматканая сьвітка.
А. Александровіч.
Мая песьня.
*На заводзе.*
Сьвята жанчын.
*Фабрыка сьмерці.*
З намі вясна.
Партыя кліча.
*Устаноўка.*
П. Трус.
*Дзесяты падмурак.*
Лынькоў.
Над Бугам.
*Гома.*
Андрэй Лятун.
Гой.
Галавач.
Даляры.
Сьвежы вецер.
Уцякач.
Вінаваты (Для чытаньня дома).
Нястрымнае.
Мурашка.
Галіна.
Званкі.
Сын (Урыўкі).
Яйцо і сьлівы.

Дробна-буржуазная і кулацкая плынь у Беларускай літаратуры.

Зарэцкі.
Крывічы.
Падарожжа на Новую Зямлю (Урыўкі).
Я. Пушча.
Ліст да сабакі і ліст ад сабакі.
Дубоўка.
«Строма».
Кругі.
Крыху восені і жменя пажоўклых лісьцяў.
Лужанін.
Случчына (урыўкі).
Да дзесяцігодзьдзя БССР.

Бядняцка-серадняцкая і напутніцкая літаратура і літаратура, якая набліжаецца да пролетарскай.

Кляшторны.
Сон.
Крапіва.
Крапіва.
*Чырвоная мятла.*
Каляндарная размова.
Годзе слухаць байкі.
*Кулак.*
Ты ня лайся, дзядзька.
*Мы не паклонімся богу.*
Буду спэкулянтам.
Дабяромся і да бога.
Глебка.
Арка над акіянам.
К. Чорны.
Васпаваты чалавек.
С. Баранаў.
Межы (Урыўкі).
В. Каваль.
Крыніцы.

А. Меркін

# Пытаньні плянаваньня ў вясковых сямігадовых школах

У сучасны момант, мяркуючы па матар'ялах нашага друку, Народным Комісарыятам Асьветы БССР вядзецца работа па перагляду навучальных плянаў і програм. Але, на вялікі жаль, мы прымушаны сказаць, што пытаньнем плянаваньня навучальнага матар'ялу наўрад ці аддаецца належная ўвага. Магчыма, што дзе-небудзь у «нетрах» наркамасьветаўсікх габінэтаў што-кольвек і робіцца ў гэтых адносінах. Калі гэта так, дык без асьвятленьня гэтай работы на старонках нашага друку вынікі яе ня будуць зусім здавальняючымі.

Трэба думаць, што і 1930-31 навучальны год, як і 29-30 г., абхопіць пэрыод з 15 жніўня па 15 чэрвеня. Між тым, няма нічога, па нашай думцы, больш памылковага такой сыстэмы плянаваньня навучальнага матар'ялу, калі вучні вясковых школ на летні пэрыод адарваны ад школы. Нам хацелася-б на грунце некаторага вопыту прапанаваць на абгаварэньне чытачоў некалькі прапаноў, якія тычацца пытаньняў плянаваньня навучальнага матар'ялу.

## Работу вясковых школ прыстасаваць да ўмоў вясковай сэзоннасьці

Толькі тады наша вясковая сямігодка зможа стаць сапраўды працоўнай, толькі тады можна будзе гаварыць аб хутчэйшым набліжэньні і пераходзе нашых вясковых школ да політэхнізму, толькі тады можна будзе перайсьці да ўвязкі програмнага матар'ялу з жывой рэчаіснасьцю, калі вучні гэтых школ будуць сапраўды ўдзельнічаць у непасрэдным вытворчым процэсе ў колектыўных і савецкіх гаспадарках. А гэта работа, як вядома, праводзіцца ў вызначаныя часы году.

Як-жа распляваны наш навучальны год? Ці займае поле, гэтая найлепшая лябораторыя сельска-гаспадарчай вытворчасьці, у нашым навучальным пляне тое месца, якое яно ў сапраўднасьці павінна займаць? Трэба проста сказаць: полем мы да гэтага часу займаліся надта мала. Шмат у якіх школах належачая ім зямля альбо здаецца ў арэнду, альбо выкарыстоўваецца для сябе загадчыкамі гэтых школ.

Дзе-ж прычына такога становішча?

Корань зла, па нашай думцы, заключаецца ў тым плянаваньні навучальнай работы—гадавым і штотыднёвым, якое ўстаноўлена Народным Комісарыятам Асьветы.

Ні гадавы, ні штотыднёвы плян не адпавядаюць тым задачам, якія ставіць перад школамі наша сучасная сапраўднасьць.

Трэба распляваць работу ў вясковых школах так, каб перапынкі ў занятках гэтых школ былі ў найбольш «спакойны» у сельскай гаспадарцы час. У час сяўбы, касьбы і ўборкі школа павінна быць на месцы і прымаць у гэтай рабоце самы жывы ўдзел.

Мы зусім ня маем намеру зводзіць політэхнічнае навучаньне і выхаваньне да аднабокага знаёмства ў тэорыі і на практыцы з рознастайнымі галінамі аднае толькі сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Мы толькі лічым, што ў вёсцы выходным пунктам да політэхнічнай асьветы павінна быць пазнаньне гэтай галіны народнай гаспадаркі ў яе аграмаджаным сэктары.

Мы таму і выступаем тут з наступнымі двума прапановамі.

*Першая прапанова:* навучальны год у вясковых школах павінен быць бесьперапынным, з двухтыднёвым перапынкам у тыя месяцы, калі праца на палёх і наогул у сельскай гаспадарцы ў вядомай ступені заціхае.

Што-ж датычыцца пытаньняў арганізацыйнага характару ў жыцьці школ, як, напрыклад, комплектаваньне, выпускі, пераводы з групы ў групу, дык гэтыя

зьявы школьнага жыцьця ні ў якім разе не павінны служыць тормозам для рэгулярных заняткаў у школе.

*Другая наша прапанова* датычыцца пытаньняў увядзеньня моманту сэзоннасьці ў рабоце вясковых школ. Гэта залежыць ня толькі ад правільнага расплянаваньня навучальнага году, але і ад большай гнуткасьці штотыднёвых плянаў, чаго ў нас да гэтага часу няма.

**Наш штотыднёвы плян, як ён ёсьць**

Возьмем штотыднёвую сетку разьмеркаваньня гадзін для сёмых груп сямігодак. Вось у якім выглядзе яна перад намі стане:

1) Грамадазнаўства . . . 5 гадзін.
2) Родная мова . . . . . 4 »
3) Матэматыка . . . . . 5 »
4) Расійская мова . . . . 3 »
5) Прыродазнаўства . . . 3 »
6) Фізыка . . . . . . . 3 »
7) Хэмія . . . . . . . 2 »
8) Географія . . . . . . 2 »
9) Нямецкая мова . . . . 2 »
10) Маляваньне . . . . . 2 »
11) Сьпевы . . . . . . . 1 »
12) Працоўныя процэсы . . 2 »
13) Фізычнае выхаваньне. . 1 »
14) Ваенізацыя . . . . . 1 »

Такім-жа прыблізна чынам расплянаваны навучальны матар'ял і ў астатніх групах другога концэнтру.

Тое-ж самае мы ўбачым і ў першым концэнтры. Працоўныя процэсы займаюць покуль-што крыху больш 5% (2:36) у навучальным матар'яле працоўнага тыдня школьніка. У шмат якіх школах працоўныя процэсы служаць толькі крыніцаю сродкаў для аплаты кіраўнікоў сьпеўных, музычных і іншых гурткоў. Дзе-ні-дзе за лік працоўных процэсаў праводзяцца заняткі па другіх прадметах.

У нас пад рукамі няма яшчэ, на жаль, ні програм, ні навучальных плянаў на 1930-31 навучальны год. Але нам вядома згутаркі намесьніка наркомасьветы (гл. «Савецкую Беларусь» ад 9 мая), што на працоўныя процэсы ў надыходзячым навучальным годзе мяркуецца адвесьці ў два разы больш часу, гэта значыць, што замест дзьвёх тыднёвых гадзін мы будзем мець чатыры. Ці можа нас задаволіць такое становішча, калі суадносіны паміж працоўнымі процэсамі і іншымі прадметамі ўсё-ж застаюцца нявыстарчальнымі (4:36)?

Для другіх концэнтраў вясковых школ-сямігодак чатыры гадзіны ў тыдзень на працоўныя процэсы трэба лічыць тэрмінам недастатковым.

Зло, аднак, ня толькі ў гэтым. Калі гэтыя чатыры гадзіны выкарыстаць умела, дык толк з гэтага выйсьці можа. Але, калі Наркамасьветы прыпаднясе школам к будучаму навучальнаму году такую сетку гадзін, якую мы прывялі вышэй, дык трэба проста сказаць, што становішча з прахаджэньнем працоўных процэсаў ні на ёту не палепшыцца.

Ці-ж можна сур'ёзна гаварыць аб карэннай ломцы рэшткаў старой, слоўнай школы ў тым выпадку, калі 32 з 36 тыднёвых навучальных гадзін вучань праводзіць у клясе і толькі чатыры тыдні ён можа аддаваць па 45 хвілін на тое, каб паказацца ў полі. Ці не патраціць ён гэты час на хадзьбу ад школы ў поле і назад?

Нават і ў тым выпадку, калі мы гэтыя чатыры гадзіны, адведзеныя на працоўныя процэсы, разаб'ем не на чатыры дні па аднэй гадзіне ў дзень, а на два дні па дзьве гадзіны ў дзень, дык і тады карысьць ад такой пастаноўкі працоўных процэсаў будзе зусім нязначная. Мы можам апынуцца ў такім становішчы, што, замест працоўных процэсаў, у нас атрымаюцца «працоўныя гастролі» ці гульня ў працоўныя процэсы. Уся бяда ў тым, што наркомасьветаўская тыднёвая сетка разьмеркаваньня гадзін аднастайна для ўсяго навучальнага году зусім не прадугледжвае сэзоннасьці. У гэтым, па-нашаму, яе зло. Такая сетка, такое плянаваньне навучальнага часу для вясковых школ зусім няпрыгодна і яна павінна быць карэнным чынам перабудавана.

*Па-першае,* Наркомасьветы трэба было-б даць школам сетку ня штотыднёвую, а штомесячную, даўшы магчымасьць самім школам комбінаваць праходжаньне навучальнага матар'ялу на працягу месяцу. Такі плян уладаў бы большай гнуткасьцю і даваў-бы магчымасьць пэдрадам плянаваць матар'ял

адпаведна мясцовым умовам. Акрамя таго, штотыднёвыя сеткі зусім не падыходзяць да пяцідзённай сыстэмы. *Падругое,* трэба было-б зьмяніць характар плянаваньня матар'ялу. Мы ўжо вышэй паказалі, што штотыднёвая сетка разьмеркаваньня навучальнага часу, якою школы карысталіся і карыстаюцца яшчэ да гэтага часу, ніколькі ня зьвязана з сэзоннасьцю. Гэта—вялікі прабел. Для таго, каб гэты прабел запоўніць, трэба штомесячную сетку напоўніць рознастайным зьместам, у адпаведнасьці з тым ці іншым каляндарным месяцам.

Ня варта было-б, напрыклад, адны і тыя-ж прадметы праходзіць і ў студзені і ў красавіку. Ясна, што ў красавіку палявыя работы павінны будуць займаць у нашым месячным пляне больш часу, чым, скажам, у студзені.

У сувязі з гэтым некаторыя прадметы прыдзецца ў летнія месяцы альбо не праходзіць зусім, альбо адводзіць на іх праходжаньне некалькі менш часу, напоўніўшы гэты час у зімовыя месяцы.

Ня маючы дастатковага вопыту, цяжка даць конкрэтныя прапановы аб зьмесьце кожнага месячнага каляндарнага пляну асобна. Абмяжуемся толькі наступнымі меркаваньнямі. У той час, як студзеньская сетка можа ахапіць усе прадметы, якія пералічаны ў сетцы Наркомасьветы, у красавіку трэ' было-б праходзіць у поўным аб'ёме толькі такія прадметы, як грамадазнаўства, родную мову, матэматыку, прыродазнаўства і хэмію. Такія прадметы, як географія і чужаземная мова, можна ў красавіку зусім не праходзіць і аднесьці іх на зімовы пэрыод, на некаторыя прадметы на летні час можна адвесьці менш часу (напрыклад, па маляваньню, замест звычайных дзьвёх гадзін у тыдзень, адвесьці адну гадзіну) і г. д. Працоўныя процэсы, наадварот, займаючы ў студзеньскай сетцы 12-15% навучальнага матар'ялу, павінны былі-б павялічыцца ў красавіку да 30-35%.

Перайсьці на такі спосаб плянаваньня навучальнага матар'ялу ня так проста. Мажліва, што такі спосаб плянаваньня выкліча неабходнасьць некаторай перабудовы програмы. Але такі спосаб плянаваньня, па-нашаму, усё-ж больш адпавядае запатрабаваньням рэчаіснасьці, чым той спосаб плянаваньня, якім мы карыстаемся ў сучасны момант.

Думаецца, што калі праходжэньне географіі і нямецкай мовы перанесьці з летніх месяцаў на зімовыя, дык гадавы курс навучаньня ад гэтага пацерпіць куды меней, чым у тым выпадку, калі мы расьцягнем працоўныя процэсы на ўвесь год па чатыры гадзіны ў шасьцідзённы тыдзень.

Праўда, на гэтым шляху, асабліва на шляху ажыцьцяўленьня «працоўных процэсаў» у вясковай школе мы будзем сустракацца з шматлікімі цяжкасьцямі. Аб гэтых цяжкасьцях трэба гаварыць, аднак, яны не павінны застанаўліваць нас ад карэннай зьмены плянаваньня навучальнага матар'ялу.

**А. Ш—а**

# Пра падручнікі і іх выданьне

На старонках «Савецкай Беларусі» ужо пісалася аб тым пагражаючым становішчы, у якім знаходзіцца справа выданьня падручнікаў для школ. На чарговы 1930-31 навучальны год зазначаўся цэлы шэраг недахопаў у гэтай справе ва ўсіх інстанцыях, якія маюць дачыненьне да справы выданьня падручнікаў.

Поруч з гэтым трэба, па нашай думцы, закрануць і другі бок гэтага пытаньня,—гэта самае ўкладаньне падручніка, яго зьмест. Тут трэба сказаць, што з тых падручнікаў, якія мы маем на сёньняшні дзень у карыстаньні школы, вельмі малы процант такіх, якія сваім матар'ялам, сваім укладаньнем, разьмеркаваньнем з мэтодычна-пэдагогічнага боку, увязкай яго з навакольным жыцьцём, адпавядаў-бы тым запатрабаваньням, якія ставіць школа перад падручнікамі. Часамі ў школьнай практыцы прыходзіцца сустракацца з такімі недарэчнымі пад-

ручнікамі як з боку ідэолёгічнага, так і пэдагогічна-мэтодычнага, што ня можаш сабе ўявіць вытлумачыць самы факт іх выхаду ў сьвет. Узяць да прыкладу «Сынтакс беларускай мовы» Пратасевіча і Самковіча з яго дубовымі, падчас недарэчнымі, зацямняючымі галовы вучняў сваім нявыразным сэнсам сказамі («Рэчка, луг, гасьцінец, горад—разрываюць думкі на ўсе бакі»; «Суважна, папросту, па-свойму бяжыш ты, рэчка, і бяжыш»; «Між прысад, між палёў едзе то мужык, то пан». «Зрашатаваная агнёвымі шыламі сонечных праменьняў глеба выціскала паўзьверх сваіх захаваных хохлікаў зялёныя шпількі руні»; «Гэй ты, хлебаробе мазольны, пан сошкі і коскі, і поля»; «Прышла восень, мужычок, ой прышла!»).

Ды хіба справа толькі ў гэтых, як называе іх аўтар, «лепшых узорах нашае літаратурнае мовы». А гляньце, колькі наогул матар'ялу ёсьць ў сынтаксе, ці можна ім замацаваць тое ці іншае сынтаксычнае правіла, як гэты матар'ял разьмеркаваны ў падручніку, прыгледзьцеся добра да яго і ўбачыце ўсю бескаштоўнасьць падручніка. Застанецца толькі незразумелым, якім чынам гэты падручнік зьявіўся ў школе.

А ўзяць даўночаканыя «Выпісы з беларускай літаратуры» Дзяржынскага, ч. 1, як быццам перароблены, нават прыстасаваныя да лябораторнага мэтоду выкладаньня, і з цаною ніштаватаю—2 руб 70 кап. А гляньце добра ў нутро—ізноў гэтыя нудныя, плаксівыя, нашаніўскія мотывы, прасякнутыя нацыяналістычным настроем, ізноў тое самае шкоднае ў літаратуры, як «Яна прышла ад цяжкіх сох...» і інш. А ўспомніць цікавую дасьмешнага гісторыю выхаду ў сьвет граматыкі Я. Лёска—што ні год, то новае пераапрацаванае выданьне, але пераапрацаванае толькі ў прадмове .

І, нарэшце, такое складаецца ўражаньне: падыход да справы ўкладаньня падручнікаў самы нядбалы, матар'ял не апрацоўваецца як сьлед, падручнікі пішуцца насьпех: трэба больш напісаць, бо попыт на беларускія падручнікі вялікі, і ў выніку прыгожыя словы ў прадмове да падручніка, як: «шляхам нагляданьня над лепшымі ўзорамі нашае літаратурнае мовы...», альбо «пэдагогічнасьць кнігі аўтар імкнуўся выявіць падборам такога літаратурнага матар'ялу, які меў бы грамадзка-мастацкае выхаваўчае значэньне ў новай савецкай школе...», ці іншыя падобныя шыльды, якія зусім не адпавядаюць яго нутру, яго (падручніка) зьместу. У выніку такое ўражаньне: альбо ў Мэтодкоме НКА няма мэтодыстых, альбо, калі яны ёсьць, дык няма з боку іх да гэтай справы належных адносін. Мусіць, хутчэй за ўсё будзе больш праўдзівым другое, калі асабліва зьвярнуцца да наступнага факту.

У часопісі «Комуністычнае Выхаваньне», № 2, Ян. Чарнецкі бярэ, як кажуць, у работу настаўніцтва, абзывае выкладчыка літаратуры ў 7-цы «няпісьменным», бо ён (выкладчык) карыстаецца, бачыце, «заданьнямі па беларускай літаратуры з практыкі Менскай цэнтральнай дасьледчай школы» (Самковіча), што надрукаваны, паводле прапановы Навукова-мэтодолёгічнага комітэту НКА ў 1928 годзе, пабудаваў свой плян па бел. літаратуры так, што з 15 заданьняў на вывучэньне творчасьці дарэволюцыйнай прыходзіцца 12, а на пасьлякастрычнікаўскую—3, значыць разьмеркаваў матар'ял, орыентуючыся на плян работы па беларускай літаратуры дасьледчай школы, рэкомэндаваны ў 1928 г. НКА і пацьверджаны мэтодкомам НКА ў 1929 г. выданьнем пераапрацаванай програмы для II конц. 7-годак (гл. програму па беларускай літаратуры для 7 гр.). Гэты факт, па-мойму, трэба разумець ня як няпісьменнасьць настаўніка (можа ў Чарнецкага былі іншыя падставы для такой характарыстыкі настаўніка), можа тут ёсьць з боку настаўніка недастатковае выяўленьне ўласнай ініцыятывы, інакш кажучы, страх адступіць ад таго, што прыпадносіць такая аўтарытэтная адзінка, як Навукова-мэтодолёгічны комітэт НКА—гэта магчыма, але-ж тады тут ёсьць і нешта іншае. Цікава, што Чарнецкі мімаходам закрануў толькі НКА і ўвесь свой агонь накіраваў на настаўніка. Па-мойму, трэба было-б і пачаць з Мэтодкому НКА і галоўны зарад пусьціць па ім.

Ня прыходзіцца, бязумоўна, зачыняць вачэй і на тое, што і настаўніцтва на сёньняшні дзень ня выявіла дастатковай ініцыятывы, значнай увагі да абгаварэньня, вывучэньня, крытыкі на конфэрэнцыях, а таксама праз друк тых падручнікаў, праграм, з якімі прыходзіцца ім мець справу кожны дзень і бачыць часамі ў іх шмат хібаў. Гэтае пытаньне да гэтага часу ня выносілася на старонкі нашых газэт, нашых часопісяй. Каму на самай справе больш відны недахопы, як не таму, хто сустракаецца з імі кожны дзень, кожны час,—і тут роля настаўніка-практыка, ды яшчэ к таму мэтодыстага (а яны сярод вясковага настаўніцтва ёсьць), вельмі значная: тут настаўнік можа адыграць часамі большую ролю, чымся вучоны мэтодысты, але мэтодысты габінэтны.

Выходзячы з гэтага, трэба прыцягнуць само настаўніцтва да шырокага ўдзелу па ўкладаньню падручнікаў, магчыма, шляхам стварэньня так званых аўтарскіх брыгад, шляхам вызначэньня заданьняў па складаньню таго ці іншага падручніка. Трэба лепшых настаўнікаў-мэтодыстых разгрузіць ад іхняй грамадзкай работы, трэба большую ўвагу зьвярнуць на вылучэнства, трэба так арганізаваць справу выданьня падручнікаў, каб разьбіць тую думку настаўніцтва, што ўкладаньне падручнікаў монополізавана невялічкай групай нейкіх прывілеяваных людзей.

У мэтах падвышэньня якасьці падручніка, увязкі яго матар'ялу з жыцьцём добра было-б утвараць акруговыя конфэрэнцыі настаўнікаў па цыклявых дысцыплінах (грамадазнаўства і літаратура, фізыка і матэматыка ды інш.) у II концэнтры і конфэрэнцыі групаводаў асобна, прычым лепш за ўсё было-б склікаць гэтыя конфэрэнцыі пасьля сканчэньня заняткаў, прыблізна ў першай палавіне чэрвеня. Усе недахопы як падручнікаў, так і праграм тады кожнаму вельмі выразны і зразумелы, і к пачатку навучальнага году можна было-б унесьці некаторыя корэктывы, хаця-б у выглядзе дадаткаў. Такім шляхам можна было-б пазбавіцца тых шкодных недахопаў, якія мы маем і ў праграмах, і ў падручніках на сёньняшні дзень і за якія настаўніку часамі перападае больш як трэба. Думаю, што сродкаў на гэтыя конфэрэнцыі не патрабавалася-б ад акрінспэктората, бо кожны настаўнік з прыемнасьцю пабыў бы на конфэрэнцыі за свой кошт.

Некалькі слоў аб праграмах па беларускай літаратуры для 7-х груп сямігодак.

З кожным днём усё выразьней і выразьней адчуваецца той разлад, тая няўвязка, якая існуе паміж жыцьцём і праграмным матар'ялам па беларускай літаратуры для 7-х груп. Пры самай шырокай ініцыятыве настаўніка, пры ўсёй яго палітычнай і літаратурнай пісьменнасьці, пры ўсім яго імкненьні ўвязаць праграмны матар'ял па бел. літаратуры з навакольным жыцьцём, пры наяўнасьці ўсяго гэтага, усё-ж прыходзіцца нашу вучнёўскую моладзь большую частку часу трымаць на вывучэньні нашаніўскай літаратурнай творчасьці, творчасьці, якая ня можа быць сёньня выхаваўчым сродкам працоўнай моладзі.

Калі пытаньне аб грунтоўнай зьмене праграмы было цяжка вырашыць у папярэднія гады, у гады, калі наша беларуская літаратура яшчэ недастаткова мела ў сабе пролетарскай творчасьці, дык цяпер, прыняўшы пад увагу той шырокі размах у разьвіцьці нашай пролетарскай літаратуры, які мы маем на сёньняшні дзень, зусім своечасова будзе ставіць пытаньне аб карэннай зьмене праграмнага матар'ялу для 7-х груп сямігодак.

Сучасная праграма па беларускай літаратуры так пабудавана, што заводзіць вучняў у далёкае мінулае, прымушае іх капацца ў матар'ялах, пакрытых ужо архіўным, часамі і шкодным, пылам, слухаць плаксівыя, нэндзныя мотывы творчасьці нашаніўскай пары, пераварваць няўдобаварымую, наскрозь прасякнутую нацыяналістычным настроем і заміласаваньнем толькі сваім «родным краем» творчасьць. Нейкім далёкім, занадта ўстарэлым, нават чужым, аддае ад гэтай творчасьці. Машыннае жыцьцё сёньняшняга дню, з яго буйнымі збожжавымі фабрыкамі, з яго волатамі-заводамі, магутнымі электрастанцыямі, з яго нябачаным нідзе і нікім гіганцкім уздымам пролетарскай культуры,—усё гэта адсунула,

пакінула з заду сябе далёка, не на дзесяткі, а на тысячы год, гэтую нудную творчасьць.

Характэрным зьяўляецца той факт, што вучні неахвотна, з нейкаю вяласьцю, бяруцца за распрацоўку твораў нашаніўскай пары, і, наадварот, энэргічна, з захапленьнем распрацоўваюць творчасьць сучасных беларускіх пролетарскіх пісьменьнікаў (Мурашка, Лынькоў, Ліманоўскі ды інш.).

Мне думаецца, што програму па беларускай літаратуры трэба перабудаваць так, каб пакінуць з творчасьці нашаніўскай пары толькі лепшыя, з соцыяльнымі мотывамі, творы як гісторычную даведку ў літаратуры аб соцыяльнай барацьбе працоўных, як этапы ў разьвіцьці гэтай барацьбы.

Вывучэньне гэтай творчасьці павінна заняць параўнаўча нязначны час. Большасьць часу трэба адвесьці для вывучэньня сучаснай пролетарскай літаратуры, вызначыўшы тут некаторае месца для азнаямленьня з яўрэйскай пролетарскай літаратурай.

Адпаведна такому разьмеркаваньню програмнага матар'ялу трэба будаваць і падручнікі. Лепш за ўсё ня зьбіраць яго ў хрэстоматыю, як гэта робяць зараз, а выпускаць яго асобнымі маленькімі бібліотэчкамі так, каб можна было прапрацоўваць матар'ял лябораторным мэтодам; трэба адпаведна матар'ялу скласьці заданьні, г. зн., разьбіць яго на тэмы з вызначэньнем кантрольных пытаньняў і тэм для пісьмовых прац.

Крытыкам даць заданьне напісаць адпаведныя кароткія крытычныя нарысы.

Поруч з гэтым, трэба пераглядзець крытычную літаратуру, якую мы маем на сёньняшні дзень, старой дакастрычнікаўскай творчасьці, бо яна хоць маленькая, але мае шмат непатрэбнага і досыць шкоднага, і даць паказаньні школам, якой крытычнай літаратурай трэба карыстацца пры распрацоўцы таго або іншага твору. Да гэтага часу няма выразнасьці і няма тае мэтазгоднай дапамогі настаўніку, якая павінна была-б быць. Тут настаўнік адданы, як кажуць, самому сабе.

І апошняе, што трэба падкрэсьліць і на што трэба зьвярнуць значную ўвагу,—гэта на становішча нашых школьных бібліотэк, на тую страву, якой кормяцца нашы вучні па-за школаю. У школьных бібліотэках можна знайсьці і Купрына і Шэльлер-Міхайлава і Дастаеўскага, знойдзеце і нацыянал-дэмократычную творчасьць М. Зарэцкага, але ня знойдзеце творчасьці Мурашкі, Александровіча, Лынькова, Ліманоўскага і іншых пролетарскіх пісьменнікаў, рэдка знойдзеце часопісь «Маладняк», «Полымя». Адным словам, проста кажучы, чытаць вучням няма чаго, становішча школьных бібліотэк катастрофічнае, адсюль і нізкі ўзровень разьвіцьця вучня і недастатковая пасьпяховасьць. Трэба на гэты вучастак школьнага жыцьця зьвярнуць належную ўвагу. Па-мойму, трэба было-б комплектаваць школьныя бібліотэкі па паказаньнях Мэтодкому НКА шляхам рэкомэндацыйных сьпісаў, таксама, як і падручнікаў. Таксама, трэба ўжыць захады да зьмяншэньня кошту кніг, бо школа пры тых абмежаваных сродках, якія мае ў сваім каштарысе, ня зможа набыць патрэбную літаратуру пры ўмовах, калі невялічкая кніжачка «Збор твораў», т. 2, Я. Коласа каштуе 2 руб. 60 кап., калі «Язэп Крушынскі»—З. Бядулі каштуе 3 руб. і г. д.

Падводзячы вынікі ўсяму сказанаму, трэба адзначыць, што месцы, настаўніцтва—без належнай мэтодычнай дапамогі: без належнага кіраўніцтва (асабліва, калі дадаць сюды бязьдзейнасьць райінспэктуры), без выкарыстаньня тае ініцыятывы, тае мэтодычна-пэдагогічнай практыкі, якая выяўляецца на мясцох, без організацыі навокал важных пытаньняў школьнага жыцьця належнай грамадзкай думкі, без таго, пакуль такая важная справа як укладаньне, падрыхтоўка падручнікаў і програм, абгаварэньне іх на прадмет лепшага прыстасаваньня іх да жыцьця, ня стане масавай справай, справай шырокіх колаў настаўніцтва,—бяз гэтага выкладаньне ў школе будзе мець значныя прарывы. Над гэтымі пытаньнямі і НКА і саюз Працасьветы павінны падумаць і зрабіць адпаведныя практычныя захады.

# ПАГЛЫБІЦЬ АНТЫРЭЛІГІЙНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

П. Панкевіч

## Антырэлігійнае выхаваньне ў школах Менскай акругі

Для высьвятленьня рэлігійных і антырэлігійных настрояў вучняў у школах БССР было прадпрынята масавае абсьледваньне беларускага школьніка шляхам анкет два разы: першы раз была пушчана анкета Мэтодкомам НКА ў 1929 годзе і другі раз—Інстытутам Пэдагогіі і Пэдалёгіі Беларусі ў лютым 1930 г. Адказы па анкеце Мэтодкому паступілі ад 14 школ з розных акруг Беларусі, пры чым гэтыя 14 школ ахоплівалі 464 вучні. Анкета Інстытуту ахапіла толькі школы Менскай акругі ў колькасьці 28, з агульнай колькасьцю вучняў ў 6741. Сюды ўваходзяць 13 школ г. Менску, з колькасьцю вучняў у 3238. Анкета Інстытуту Пэдагогіі і Пэдалёгіі адлюстроўвае больш-менш аднолькавае становішча гарадзкіх і вясковых школ.

Скарыстоўваючы мэтод анкет для масавага абсьледваньня школ па лініі антырэлігійнага выхаваньня, мы ўлічвалі сур'ёзныя недахопы паказанага мэтоду. Анкета ня можа паказаць сапраўднае на 100% становішча вывучаемага об'екту. Ня гледзячы на тое, што анкета пускалася ананімнай, вучні ўсё-ж такі часамі скрывалі свае сапраўдныя настроі і давалі адказы, якія не адпавядаюць рэчаіснасьці. Але-ж няправільна было-б адсюль зрабіць вывад, што мэтод анкетаваньня, паколькі ён не дае мажлівасьці выявіць рэчаіснасьць з максымальнай дакладнасьцю і паўнатою, павінен быць адкінуты пры навуковых досьледах. Практыка паказвае, што пры розных умовах анкета ўсё-ж дазваляе на 60-70% адлюстраваць сапраўднае становішча вывучаемага об'екту і ўразумець у асноўных рысах законамернасьць разьвіцьця таго або іншага процэсу. Пры масавых досьледах яна зьяўляецца найбольш даступным сродкам зьбіраньня неабходнага матар'ялу. Па антырэлігійнай анкеце мы назіралі пэўныя адхіленьні ў бок памяншэньня колькасьці сапраўды рэлігійных вучняў. Аднак, гэтыя адхіленьні, пры вялікай колькасьці анкет, ня могуць зрабіць уплыў на выяўленьне вывучаемай законамернасьці. Апошняя можа быць выкрыта і праз анкеты, калі ўлічваць пры апрацоўцы матар'ялаў пэўны процант скажэньняў.

Анкета Мэтодкому за 1929 год дала наступныя рэзультаты: 94% вучняў нявераць у бога і 90% ня ходзяць у царкву. Цікава тое, што некаторая частка няверуючых вучняў (прыблізна 4%) ходзяць у царкву па тых або іншых мотывах. 7% вучняў ходзяць у царкву пад прымусам і 3% па жаданьню. Адсюль ня цяжка зрабіць вывад, што сям'я, якая прымушае сваіх дзяцей хадзіць у царкву, праяўляе значную актыўнасьць у галіне рэлігійнага выхаваньня, процістаўляючы сабе школу, якая вядзе антырэлігійную работу. Калі браць групы па нацыянальнасьці, дык вышэйшы процант хаджэньня ў царкву ці ў малельны дом прыпадае на палякаў, якія даюць паказальнік 18%, а потым на беларусаў, якія даюць 13%. Яўрэі і іншыя ня маюць аніводнага проценту наведваньня ўстаноў рэлігійнага культу. Што-ж датычыцца хаджэньня ў царкву пад прымусам, дык у гэтых адносінах больш процант належыць беларусам—10%. Палякі маюць толькі 4%, тады як хаджэньне па жаданьню складае ў апошніх 14%, а ў беларусаў 2%. Значыць найбольшы прымус у дачыненьні наведваньня царквы назіраецца ў беларускіх сем'ях. Але-ж ці азначае гэта тое, што польскія сем'і не праяўляюць дастатковай рэлігійнай актыўнасьці

ў паразўнаньні з беларускімі? Зразумела, гэта не азначае. Наадварот, адсюль можна дайсьці да вываду, *што рэлігійнае выхаваньне ў польскіх сем'ях пастаўлена лепш, чым у беларускіх, паколькі польскія дзеці даюць большы процант хаджэньня ў царкву (касьцёл) бяз прымусу, тады як беларускія дзеці, відавочна, хістаюцца і наведваюць царкву ў большасьці выпадкаў пад прымусам, а не самаахвотна.*

Дзеці рабочых ня ходзяць у царкву ў колькасьці 94%, дзеці служачых таксама даюць 94%, серадлякі і іншыя—па 90%, а беднякі—86%. Такім чынам, сяляне і інш. даюць большы паказальнік наведваньня царквы, чым рабочыя і служачыя, прычым беднякі атрымалі самы высокі коэфіцыэнт па хаджэньню ў царкву, а менавіта—14%, якія адначасова паказваюць хаджэньне ў царкву пад прымусам. У адносінах прымусу другое месца займаюць серадлякі—9%. Бядняцкая і серадняцкая моладзь значна хістаецца ў адносінах царквы і прымушана выконваць рэлігійныя абрады пад націскам сваіх бацькоў. Гэта паказвае, якое выключнае значэньне мае правільна пастаўленая антырэлігійная прапаганда сярод працоўнага сялянства. Хлопчыкі паддаюцца ўплыву бацькоў у меншай ступені, чымся дзяўчынкі. Тады як першыя ходзяць у царкву пад прымусам толькі ў колькасьці 5%, а па жаданьню ў колькасьці 2%, дзяўчынкі наведваюць царкву пад прымусам у колькасьці 9%, а па жаданьню ў колькасьці 4%. Дзяўчынкі тут даюць большы процант, чым хлопчыкі. Асабліва знаходзяцца пад уплывам бацькоў малодшыя дзеці. Ня ходзяць у царкву дзеці III групы ў колькасьці 52%, дзеці IV групы ў колькасьці 91% і VII групы ў колькасьці 97,5%. Па часьці наведваньня царквы пад прымусам дзеці III групы даюць 45%, дзеці IV групы 6% і VII групы—0,5%. Асабліва маленькія дзеці зьяўляюцца ахвярай рэлігійных забабонаў сваіх бацькоў, тады як старэйшыя дзеці паступова аслабаняюцца ад гэтага ўплыву па тых ці іншых прычынах.

На пытаньне, ці верыш у бога, адказвалі, што веруюць толькі 6%. Магчыма, гэты процант паказвае менш веруючых, чым іх сапраўды ёсьць. Аднак, калі параўнаць даны паказальнік з процантам хаджэньня ў царкву, дык убачым, што лічбы асабліва не разыходзяцца. Тут мы маем 6%, а там было 10%, сярод якіх 7% наведвалі царкву пад прымусам. Найбольшы процант веруючых даюць палякі—16%, потым ідуць іншыя нацыянальнасьці—7%, затым беларусы—6%. Сярод яўрэяў зусім не сустракаецца веруючых. Хлопчыкі маюць 5% веруючых, а дзяўчынкі 8%. Дзеці III групы даюць 16% веруючых, IV групы—7% і VII групы—3%. Да паступленьня ў школу 59% дзяцей верылі ў бога, тады як зараз рэлігійныя складаюць 6%. Гэта сьведчыць аб тым, што вучні за час навучаньня ў школе паступова аслабаняюцца ад рэлігійных забабонаў. Што тут робіць уплыў: ці школы, ці якія-небудзь процэсы ў соцыяльным асяродзьдзі, цяжка сказаць на падставе толькі анкетнага матар'ялу. Напэўна, і тое і другое садзейнічае выхаваньню матар'ялістычнага сьветапогляду ў вучняў. Трэба адзначыць, што процант рэлігійнасьці вучняў да паступленьня ў школу значна паменшаны з прычыны розных акалічнасьцяй.

14% вучняў адзначаюць, што ў сям'і не гаварылі аб існаваньні бога, а 38% наадварот паказваюць, што даведаліся пра бога ад сваіх бацькоў. Гэтыя паказальнікі таксама яскрава сьведчаць аб рэлігійнай актыўнасьці сям'і, якая імкнецца выхоўваць сваіх дзяцей ў рэлігійным напрамку. Па гэтай актыўнасьці на першым месцы стаяць польскія сем'і (47%), а потым ідуць беларускія (42%), далей яўрэйскія (27%). У такой-жа пропорцыі прыблізна знаходзіцца і рэлігійнасьць саміх бацькоў. Сярод беларусаў моляцца богу бацькі ў колькасьці 76%, сярод палякаў—64%, сярод яўрэяў—54%, іншыя нацыянальнасьці даюць таксама 54%.

Якія можна зрабіць вывады з аналізу матар'ялаў па анкетах Мэтодкому?

1. Сярод беларускіх школьнікаў пераважную колькасьць складаюць нерэлігійныя дзеці.

2. За час навучаньня ў школе дзеці паступова аслабаняюцца ад рэлігійных забабонаў, што зьяўляецца рэзультатам

уплыву школы і ўсяго соцыяльнага асяродзьдзя (клясавай барацьбы пролетарыяту).

3. Сям'я часта выступае, як актыўная сіла па распаўсюджваньню рэлігійных забабонаў сярод дзяцей, што асабліваназіраецца сярод сялянства ці, калі браць нацыянальныя групы,—сярод палякаў.

4. Уплыву сям'і паддаюцца асабліва дзеці малодшага ўзросту і дзяўчынкі.

У лютым месяцы 1930 году было паўторана анкетнае абсьледваньне школ па лініі антырэлігійнага выхаваньня, прычым для гэтай мэты былі ўзяты школы Менскай акругі. Апошняя ў шмат якіх адносінах зьяўляецца характэрнай: 1) паказаная акруга знаходзіцца ў заходняй частцы Савецкай Беларусі, у сфэры мяжы; 2) зьяўляецца цэнтральнай, бо ў сваіх межах мае г. Менск; 3) тут даволі моцна разгортвалася клясавая барацьба на вёсцы. Інстытут Пэдагогіі і Пэдалёгіі для абсьледваньня запазычаў анкету, якая была складзена навукова-дасьледчай пэдагогічнай станцыяй гор. Саратава. Гэта анкета мела наступныя пытаньні: 1) школа, 2) група, 3) род, 4) узрост, 5) соцыяльнае становішча, 6) комсамолец, піонэр ці не, 7) ці верыш у бога, 8) ці ходзіш у царкву ці малельны дом, 9) па свайму жаданьню ходзіць ці пад прымусам, 10) ці веруе ў бога бацька, 11) ці веруе ў бога маці. Да гэтай анкеты мы дадалі яшчэ адно пытаньне: ці баішся ты чарцей і нябожчыкаў. Гэткае пытаньне дазваляе высьветліць рэшткі атавістычнай псыхолёгіі ў дзяцей. Анкетай было ахоплена, як паказана вышэй, 18 раённых і 13 менскіх школ, з колькасьцю вучняў: у першых—3503, у другіх—3238. Гэтая колькасьць абсьледваных вучняў зусім дастаткова для таго, каб зрабіць неабходныя вывады аб рэлігійных ці антырэлігійных настроях нашага школьніка. Анкетаваньне праводзілася ў групах III—VII.

Анкета паказала, што сярод вучняў ёсьць толькі 1% веруючых у бога і 6%, якія сумняваюцца, пры чым раённыя школы ў параўнаньні з менскімі даюць павялічэньне веруючых і тых, што сумняваюцца, на 1%. Такім чынам, рэлігійных дзяцей у рознай ступені налічваецца 7%. Калі прыняць пад увагу, што па анкеце Мэтодкому за 1929 г. мы мелі рэлігійных 6%, дык убачым, што процант рэлігійных вучняў застаецца на працягу апошніх двух год больш-менш сталым. Па тэй-жа анкеце ў г. Саратаве за 1928 год аказалася рэлігійных вучняў 44,3%. Адсюль выходзіць, што беларускі школьнік зьяўляецца менш рэлігійным, чым саратаўскі. Праўда, для саратаўскага школьніка трэба зрабіць пэўную накідку ў процантах на нерэлігійных на сёньняшні дзень, бо анкета, аб якой мы гаворым, пускалася у Саратаве ў 1928 г. Аднак, нават і пры гэтай надбаўцы ўсё-ж такі проценты па Беларусі і Саратаву настолькі разыходзяцца, што застаецца для нас нясумненным пераважная большасьць рэлігійнасьці сярод саратаўскіх вучняў.

Рэлігійных дзяцей ў нас сярод беларусаў 8,5%, сярод палякаў—16%, сярод расійцаў—8%, сярод яўрэяў—3%. Тут назіраецца тая-ж самая законамернасьць, якая выявілася і па анкетах Мэтодкому ў мінулым годзе. Па рэлігійнасьці на першым месцы стаяць польскія дзеці, на апошнім—яўрэйскія. Калі ўзяць падзел дзяцей на веруючых і тых што сумняваюцца, дык мы атрымаем наступнае: веруючых сярод палякаў—6%, сярод расійцаў—2%, сярод беларусаў—1,5% і сярод яўрэяў—0,5%, а тых, што сумняваюцца, сярод палякаў—10%, сярод беларусаў—7%, сярод расійцаў—6% і сярод яўрэяў—2,5%. У межах рэлігійных дзяцей большы процант тых, што сумняваюцца, ёсьць сярод беларусаў і яўрэяў. Цьвёрдыя рэлігійныя настроі сустракаюцца сярод палякаў і расійцаў. Гэта яскрава можна бачыць, калі ўзяць суадносіны паміж веруючымі і тымі, што сумняваюцца, па кожнай нацыянальнай групе. У групе палякаў веруючыя ў адносінах да рэлігійных наогул (з сумняваючыміся) складаюць 37,5%, у групе расійцаў 25%, у групе яўрэяў—20%, у групе беларусаў—17,6%.

Рэлігійныя дзеці займаюць сярод рабочых 8,5%, у сераднякоў, беднякоў і батракоў па 8% у кожнай нацыянальнай групе, сярод нэпманаў—7%, сярод служачых—5%, у рамесьнікаў і саматужнікаў па 4%. Трэба зьвярнуць увагу на тое, што рэлігійныя вучні даюць высокі пака-

зальнік па групе рабочых і працоўнага сялянства. Аб гэтым гавораць матар'ялы абсьледваньня як за мінулы год, так і за 1930 г. У мінулым годзе мы мелі рэлігійных дзяцей сярод рабочых 12%, сярод іншых соцыяльных груп—7%, у групе серадлякоў—4%, у групе служачых—3%, сярод беднаты—2%.

Ня гледзячы на тое, што рабочыя маюць усе неабходныя прадпасылкі для зьнішчэньня рэлігійнасьці ў сваім асяродзьдзі, мы маем усё-ж такі значную колькасьць рэлігійных вучняў якраз у гэтай соцыяльнай групе. Чым гэта тлумачыцца? Недастатковай антырэлігійнай работаю сярод тых бацькоў, дзеці якіх зьяўляюцца рэлігійнымі.

Цікава тое, што па новай анкеце адсутнічае вялікая розьніца паміж хлопчыкамі і дзяўчынкамі ў адносінах рэлігійнасьці. Першыя даюць 5,5%, другія—7%. Процант дзяўчынак некалькі перавышае процант хлопчыкаў.

У Саратаве рэлігійнасьць вучняў зьмяншаецца ад малодшых груп да старэйшых. Нашы анкеты мінулага году гэта быццам пацьвярджаюць. Але анкеты 1930 г. кажуць зусім аб іншым. Вось табліца (у % %):

| Групы | Менскія школы | | Раённыя школы | | Па ўсіх разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Веруюць | Сумняваюцца | Веруюць | Сумняваюцца | Веруюць | Сумняваюцца |
| 3-я . . . | 1,5 | 2 | 5 | 8 | 3 | 5 |
| 4-я . . . | 1 | 5 | 3 | 8 | 2 | 6 |
| 5-я . . . | 1 | 6 | 0,3 | 8 | 1 | 7 |
| 6-я . . . | 1 | 7,5 | 0,5 | 5,5 | 0,75 | 6,25 |
| 7-я . . . | 0,25 | 5,75 | 0,5 | 2 | 0,5 | 3,5 |

Па ўсіх школах процант веруючых паступова зьмяншаецца па меры пераходу ад малодшых груп да старэйшых; процант жа тых, што сумняваюцца, наадварот, расьце да 5 групы, у 6 групе ён некалькі памяншаецца і рэзка падае ў 7 групе. Калі аб'яднаць веруючых і тых, што сумняваюцца, у адну групу, мы атрымаем гэткія пераходы: 8, 8, 8, 7, 4. У першых 3 групах (3-я, 4-я, 5-я) процант рэлігійных дзяцей застаецца нязьменным пры росьце тых, што сумняваюцца. У 6 групе ўжо назіраецца зьніжэньне рэлігійных на 1%, і ў апошняй групе колькасьць рэлігійных памяншаецца яшчэ на 3%. Перад намі зусім выразны процэс паступовага аслабаненьня вучняў ад рэлігійных забабонаў на працягу іхнага навучаньня ў школе. Гэты процэс характэрны для раённых школ. Але-ж зусім другое трэба сказаць адносна менскіх школ. Тут мы сустракаем нечаканае зьявішча: процант рэлігійных дзяцей тут не памяншаецца ад групы да групы, а, наадварот, павялічваецца ў такой ступені: 3,5%, 6%, 7%, 8,5%, 7%. Толькі апошняя група дае невялічкае зьніжэньне, якое даходзіць да ўзроўню проценту 5 групы. Такое зьявішча можна растлумачыць толькі тым, што па менскіх школах антырэлігійная работа не вядзецца ці вядзецца надта дрэнна, у той час як уплыў буржуазных і дробна-буржуазных пластоў гарадзкога насельніцтва на дзяцей тут даволі моцны, асабліва па ўскрайных школах (Камароўка, Старажоўка ды інш.).

Ня гледзячы на тое, што рэлігійных вучняў ёсьць 7%, у царкву альбо малельны дом ходзіць толькі 1,5%. Па анкетах 1930 г. у царкву ходзіць меншы процант, чым ёсьць веруючых, тады як па анкетах 1929 г. веруючых было менш, чым хадзіла ў царкву (веруючых 6%, а хадзіла ў царкву 10%). 1930 г. зьяўляецца годам пералому ў перабудове сельскай гаспадаркі ў соцыялістычным напрамку. Шпаркі тэмп індустрыялізацыі нашай краіны і колектывізацыі сельскай гаспадаркі садзейнічаў пасьлабленьню рэлігійных настрояў сярод працоўных мас. Гэта, паміж іншым, адбілася і на адносінах вучняў да царквы. Хоць у некаторых вучняў рэлігійныя настроі яшчэ і ня былі выжыты канчаткова, усё-ж такі зьявілася ў дзяцей пэўнае ахаладжэньне да ўстаноў рэлігійнага культу. Поп, ксёндз, рабін ужо дастаткова скомпромэтаваны ў вачох працоўных, але хлусьня духоўніцтва пра бога яшчэ недастаткова выкрыта перад масамі.

Пад прымусам ходзяць у царкву 0,5%, па жаданьню 1%. Больш за ўсё прымусовае наведваньне царквы назіраецца сярод палякаў—1%, затым ідуць беларусы—0,7%, яўрэі—0,5%, расійцы—0,3%. Тут палякі стаяць на першым месцы. Калі ўзяць пад увагу соцыяльныя групы, дык мы ўбачым, што па частцы прымусу

праяўляюць актыўнасьць батрацкія сем'і, на долю якіх падае 1,3%, а потым саматужнікі—1%. Астатнія групы даюць ніжэй нуля. Дзяўчынкі і тут наведваюць царкву пад прымусам у большай ступені, чым хлопчыкі. Тое-ж трэба сказаць і адносна малодшых груп, у якіх прымусовае наведваньне царквы займае большы процант, чым у старэйшых групах. Такім чынам, рэзультаты анкетаваньня за 1929 г. пацьвярджаюцца на 1930 г.

8% вучняў адзначалі, што ім падабаецца тое або іншае рэлігійнае сьвята, пры чым асаблівай популярнасьцю карыстаецца вялікдзень і каляды. Гэтыя сьвяты маюць прыхільнікаў больш за ўсё сярод палякаў і часткова беларусаў. Некаторыя дзеці падкрэсьлівалі, што яны ня вердуюць у бога, але прыхільны да рэлігійных сьвят таму, што апошнія маюць шмат прыгожага і радаснага.

На пытаньне, ці баішся чарцей і нябожчыкаў, давалі дадатны адказ нават і такія дзеці, якія адзначылі сваю безрэлігійнасьць. Гэта паказвае, што часамі дзеці ня веруюць у бога, але прызнаюць існаваньне звышнатуральных сіл і тым самым яшчэ ня вызваліліся ад розных забабонаў і рэлігійнасьці. 8,5% дзяцей прызналіся ў тым, што баяцца чарцей і нябожчыкаў. На долю беларусаў прыпадае 11%, на долю палякаў—10%, тады як расійцы даюць 5%, яўрэі—4%. Гэта боязьнь распаўсюджана сярод сялян і нават рабочых. Асабліва яскрава праяўляюць атавістычную псыхолёгію дзяўчынкі, якія даюць 11%, у той час як хлопчыкі маюць толькі 3%. Калі мы возьмем падзел вучняў па школьных групах у дачыненьні да боязьні чарцей і нябожчыкаў, дык атрымаем наступную табліцу:

| Групы | Менскія школы | Раённыя школы | Усе школы разам |
|---|---|---|---|
| | Баяцца чарцей і нябожчыкаў | Баяцца чарцей і нябожчыкаў | Баяцца чарцей і нябожчыкаў |
| | у процантах | | |
| 3-я . . . . | 8 | 19 | 13 |
| 4-я . . . . | 8 | 9,5 | 9 |
| 5-я . . . . | 7 | 9,5 | 8 |
| 6-я . . . . | 7 | 10 | 9 |
| 7-я . . . . | 3,5 | 5 | 2 |
| Усяго . . | 6,7 | 10,5 | 8,2 |

Сярэдні процант па менскіх школах (6,7%) менш, чым сярэдні процант па школах раённых (10,6%). Гэта значыць, што вучні раённых школ больш заражаны атавістычнай псыхолёгіяй, чым гарадзкія школьнікі. Па менскіх школах процант вучняў з атавістычнай псыхолёгіяй паступова зьніжаецца ад малодшых груп да старэйшых, тады як па раённых школах процант гэтых вучняў падае толькі пры пераходзе ад 3-й групы да 4-й і ад 4-й групы да 7-й. А ў іншых групах ён застаецца амаль што на адным і тым жа ўзроўні. Соцыяльныя карэньні атавізму ва ўмовах раённых школ яшчэ зьяўляюцца даволі моцнымі.

Ці ёсьць якая-небудзь сувязь паміж атавістычным сьветапоглядам вучняў і іх рэлігійнасьцю? На гэтае пытаньне дае адказ наступная табліца.

*Чарцей і нябожчыкаў баяцца:*

| | Па менскіх школам | Па раённых школах | У сярэднім па ўсіх школах |
|---|---|---|---|
| | у процантах | | |
| З групы веруючых вучняў . . . . | 25 | 46 | 39 |
| З гр., што сумняваюцца . . . . | 25 | 41 | 34 |
| З гр., што ня веруюць . . . . . | 6 | 7 | 6,5 |

Мы бачым, што колькасьць вучняў, якія баяцца чарцей і нябожчыкаў, разьмяркоўваецца амаль роўналежна па групах веруючых і тых, што сумняваюцца. Сярэдні процант па гэтых групах 34—39, тады як сярэдні паказальнік па групе вучняў, якія ня веруюць, складае 6,5%. Зусім ясна, што ёсьць сувязь паміж рэлігійнасьцю вучняў і іх атавістычнымі ўяўленьнямі. Для таго, каб правільна весьці антырэлігійную работу ў школе, трэба змагацца ня толькі з рэлігійнымі настроямі, але і з рознымі забабонамі ў шырокім сэнсе гэтага слова. Атавізм— гэта ёсьць падглеба рэлігійнасьці. Каб разбурыць рэлігійную ідэолёгію, трэба зьнішчыць атавістычную псыхолёгію людзей.

Рэлігійныя настроі вучняў знаходзяцца ў сьціслай корэляцыі з такімі-ж настроямі бацькоў. Адхіленьні тут нязначныя:

| У веруючых вучняў | Бацькі веруюць | Адзін з бацькоў верує | Бацькі ня веруюць | Няма адказаў |
|---|---|---|---|---|
| | у процантах | | | |
| Па Менскіх школ. | 57 | 25 | 9 | 9 |
| Па раённых школ. | 75 | 21 | 4 | — |

У тых сем'ях, дзе бацькі веруюць, ёсьць і большая колькасьць рэлігійных дзяцей (па г. Менску—57%, па раёну—75%). Там, дзе верує толькі адзін з бацькоў, зьніжаецца і колькасьць рэлігійных вучняў. Урэшце мы маем выпадкі, калі бацькі ня веруюць, а дзеці аказваюцца рэлігійнымі (па г. Менску—9%, па раёну—4%). Відавочна, у гэтых выпадках дзеці аказваюцца рэлігійнымі дзякуючы ўплыву не бацькоў, а іншых членаў сям'і ці зусім чужых для данай сям'і фактараў соцыяльнага асяродзьдзя—папоў, сэктантаў і г. д.

Якую ролю адыгрываюць у сям'і партыйныя бацькі ў напрамку антырэлігійнага выхаваньня сваіх дзяцей? Аб гэтым дае адпаведнае ўяўленьне наступная табліца:

| | | Дзеці веруюць у бога | Сумняваюцца | Ня веруюць | Дзеці баяцца чарцей | Не баяцца |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | у процантах | | | | |
| Менскія школы | Бацькі партыйныя | — | 2 | 98 | 8 | 92 |
| | „ беспарт. | 1 | 5,5 | 93,5 | 6,5 | 93,5 |
| Раённыя школы | Бацькі партыйныя | 0.5 | 3.5 | 96 | 9 | 91 |
| | „ беспарт. | 2 | 6 | 92 | 10 | 90 |
| Па ўсіх школах Менскай акругі | Бацькі партыйныя | 0,25 | 2.75 | 97 | 8.5 | 91,5 |
| | беспарт. | 1,5 | 6 | 92,5 | 8,5 | 91,5 |

З табліцы відаць, што ў сем'ях, дзе бацькі партыйныя, сустракаецца менш рэлігійных дзяцей, чым там, дзе бацькі беспартыйныя. Тады як у першым выпадку мы маем 3% рэлігійных вучняў, у другім выпадку (у сем'ях беспартыйных) іх налічваецца 7,5%. Але што кідаецца ў вочы, дык гэта тое, што мы маем аднолькавы процант дзяцей з атавістычнай псыхолёгіяй (якія баяцца чарцей) па партыйных і беспартыйных сем'ях (па 8,5%). Гэта сьведчыць аб тым, што бацькі-комуністыя не зварочваюць належнай увагі на барацьбу з рознымі забабонамі сярод сваіх дзяцей. Асабліва няўважліва адносяцца да антырэлігійнага выхаваньня сваіх дзяцей некаторыя комуністыя, якія жывуць у раёне.

Бываюць выпадкі, калі пападаюцца рэлігійныя вучні сярод піонэраў і комсамольцаў. Па школах Менскай акругі сярод піонэраў мы маем 0,3% веруючых у бога, 2,5%, якія сумняваюцца і 6% дзяцей, якія баяцца чарцей і нябожчыкаў. Сярод комсамольцаў мы маем адпаведныя лічбы: 0,25%, 1,25% і 4%. Адсюль відаць, што антырэлігійнае выхаваньне мае вялікае значэньне нават і для такіх груп, як піонэры і комсамольцы.

Аналіз анкет дазваляе зрабіць наступныя пэдагогічныя вывады:

1. Антырэлігійная работа ў школе павінна быць злучана з антырэлігійнай работаю сярод насельніцтва і ў першую чаргу сярод бацькоў.

2. Увага школы павінна быць зьвернута асабліва на тыя сем'і, якія зьяўляюцца расаднікамі рэлігійных настрояў сярод дзяцей.

3. Трэба ўзмацніць антырэлігійнае выхаваньне сярод дзяцей *польскага* і беларускага насельніцтва.

4. Трэба наладзіць сыстэматычную клюбную работу ў школах, каб можна было трымаць дзяцей пад уплывам школы і ў той час, калі вучні не займаюцца вучобаю.

5. Трэба разбурыць ілюзіі дзяцей наконт прыгожасьці і радаснасьці рэлігійных сьвят—вялікадня, каляд ды інш.

6. Зьвярнуць увагу на становішча апошніх школьных груп, якія ва ўмовах

Менску амаль што *не даюць зьніжэньня рэлігійных настрояў*.

7. Актыўнасьць вучняў павінна быць організавана, паміж іншым, і па лініі антырэлігійнай работы, для чаго трэба разгарнуць гурткі юных бязбожнікаў у большай ступені, чым гэта мы маем зараз.

8. Антырэлігійнае выхаваньне павінна ісьці ня толькі па лініі барацьбы з духоўніцтвам, але-ж і па лініі зьнішчэньня ўяўленьняў пра бога, а таксама і ў напрамку разбурэньня атавістычнай псыхолёгіі сярод дзяцей.

9. Трэба організаваць бацькоў-комуністых, асабліва ў раённых школах, у тым напрамку, каб праз іх наладзіць адпаведны ўплыў на дзяцей, якія баяцца чарцей, нябожчыкаў і г. д. і наогул нахільны да рэлігійных настрояў.

10. Трэба ўзмацніць антырэлігійнае выхаваньне сярод піонэраў і комсамольцаў, асабліва ў тых організацыях, у якіх ёсьць рэлігійныя праявы.

**
*

У мэтах высьвятленьня рэлігійных і антырэлігійных настрояў школьнікаў Інстытут Пэдагогії і Пэдалёгії скарыстоўваў, апрача анкетнага мэтоду, яшчэ мэтод паўторных тэстаў. Сутнасьць мэтоду паўторных тэстаў месьціцца ў наступным. Улічваючы тое, што эмоцыянальны раздражальнік выклікае моцныя і выразныя рэакцыі ў чалавека, мы бралі ў якасьці такога раздражальніка мастацкія творы з антырэлігійным зьместам. Пакуль што мы скарысталі апавяданьне Бядулі «У глушы» і апавяданьне Зарэцкага «У вялікодную ноч». Апавяданьне Бядулі зьмешчана ў хрэстоматыі Самковіча і Пратасэвіча «Родныя Шляхі» і, значыцца, сыстэматычна прапрацоўваецца ў школах на занятках па літаратуры. «У глушы» апавядаецца аб тым, як комсамольцы папалі на начлег у поле. Адзін з комсамольцаў Грышка пачаў гутарку з селянінам, які быў надта рэлігійным і верыў у розныя забабоны. Гэты селянін быў упэўнены, што існуюць ваўкалакі і дамавікі, што маці боска Марыя ходзіць па зямлі, што можна вылечыць усялякую хваробу сьвятою вадою і што наогул ёсьць сьвятыя цуды. У той-жа час, калі селянін расказваў Грышку аб розных сьвятых цудах у сваёй вёсцы, раптовна здалёк зьявіўся нейкая белая здань. Селянін упаў на калені з енкам, што гэта зьявілася матка боска. Грышка хутка накіраваўся ў напрамку да здані, схапіў яе за руку. Выявілася, што гэта была вяскова́я баба Аўгіньня, якая па загаду папа апраналася ў белую вопратку, хадзіла начамі вакол вёскі і выдавала сябе за маці боску, каб падтрымліваць у сялян забабоны наконт сьвятых цудаў і выкачваць ад людзей грошы і розныя падарункі для папа. Поп і Аўгіньня былі арыштаваны; мана папоўшчыны была выкрыта. Гэтае апавяданьне зьяўляецца падыходзячым для экспэрымэнту, таму што яно выразна распадаецца на дзьве часткі. У першай частцы селянін выказвае свае думкі аб сьвятых цудах, у другой частцы раскрываецца мана і штукі папа і Аўгіньні. Дзеці, якія настроены рэлігійна і нахільны верыць забабонам, пры чытаньні першае часткі апавяданьня, ня ведаючы зьместу апошняй часткі, адразу выражаюць сваю згоду з думкамі селяніна. Пры чытаньні другой часткі некаторыя з гэтых дзяцей пачынаюць хістацца і адмаўляюцца ад солідарнасьці з селянінам.

У апавяданьні Зарэцкага «У вялікодную ноч» малюецца настрой папа, які ў вялікодную ноч чакаў прыходу ў царкву веруючых, але так і не дачакаўся гэтага. Народ пайшоў не ў царкву, а ў комсамольскі клюб. Замест таго, каб служыць абедню, поп заснуў у сваім пакоі і бачыў сон, быццам пры пераможным звоне народ паваліў у царкву, а сам ён пачаў абедню. Але-ж у гэты час прышлі комсамольцы ў царкву і сталі забіраць яе пад клюб.

Апавяданьне Зарэцкага ня мае тых колізій, якія ёсьць у апавяданьні Бядулі. дзякуючы чаму яно ня выклікае глыбокіх эмоцыянальных перажываньняў. Але гэтае апавяданьне нясумненна разьлічана на антырэлігійную пропаганду.

Якім шляхам праводзіліся нашы досьледы? У сувязі з зьместам апавяданьня мы складалі маленькую анкету з 5-6 пытаньняў, адказы на якія былі стандартызаваны і выражаліся ў падкрэсліваньні слоў «да», «не», у залежнасьці ад таго,

ці быў вучань згодны з пытаньнем, ці быў нязгодны. Гэтая анкета давалася вучням для запаўненьня перад чытаньнем, потым чыталася апавяданьне, затым зноў пускалася тая самая анкета, далей вялася гутарка па зьместу прачытанага, і давалася вучням правільная ўстаноўка, і ў канцы гутаркі зноў запаўнялася анкета. Дзякуючы таму, што адна і тая-ж анкета паўтаралася некалькі разоў, можна было ўстанавіць, як зьмяняюцца думкі вучняў па тых або іншых пытаньнях анкеты *пад уплывам чытаньня і гутаркі*. Анкета па апавяданьню «У глушы» мела наступныя пытаньні:

1) Ці ёсьць на сьвеце ваўкалакі: да, не (падкрэс.)

2) Ці ёсьць на сьвеце дамавікі: да, не (падкрэсьліць).

3) Ці можна верыць сьвятым цудам: да, не.

4) Ці была на сьвеце калі-небудзь сьвятая Марыя: да, не.

5) Ці можна вылечыць якую-небудзь хваробу сьвятою вадою: да, не.

6) Ці правільна робяць веруючыя, калі яны прыносяць папу і ксяндзу за царкоўную службу розныя падарункі—грошы, палатно, сала: правільна, няправільна.

7) Хто правільна трымаў сябе ў расказе: а) ці селянін, б) ці Грышка (падкрэсьліць).

Анкета па зьместу апавяданьня «У вялікодную ноч» была наступная:

1) Ці падабаецца табе вялікдзень: да, не.

2) Ці правільна робяць тыя, хто ў вялікодную ноч ходзіць не ў царкву, а ў клюб: да, не.

3) Ці трэба зачыняць цэрквы і аддаваць іх пад клюб, калі таго жадае большасьць насельніцтва: да, не.

4) Ці шкода табе бацюшку, які ў вялікодную ноч апынуўся без народу ў царкве: да, не.

5) Ці правільна зрабілі-б комсамольцы, калі-б пачалі ламаць абразы, разбураць царкву і біць бацюшку пры тых умовах, якія паказаны ў апавяданьні: да, не.

Па зьместу гэтых анкет можна бачыць, што мы высьвятлялі тут самыя розныя бакі рэлігійных настрояў — рэлігійныя ўяўленьні, эмоцыі і тактыку ў дачыненьні да царквы, пры чым некаторыя пытаньні былі накіраваны на выяўленьне атавістычнай псыхолёгіі ў дзяцей.

На жаль, мы здолелі ахапіць гэтымі досьледамі на сёньняшні дзень яшчэ ня шмат вучняў. Па першай анкеце мы вывучылі дзяцей па 4 групе розных школ у колькасьці 207 чал. Па другой анкеце мы ахапілі толькі тры школьных групы (вучні 5 групы) ў колькасьці 90 чал. Вось чаму нашы вынікі пакуль што ня могуць мець канчатковы характар.

Анкета ў сувязі з апавяданьнем Бядулі «У глушы» дала наступныя рэзультаты:

| Нумары пытаньняў па парадку, як гэта паказана ў анкеце | 1 раз анкетаваньня перад чытаньнем апавяданьня | | 2 раз анкетаваньня пасьля чытаньня 1-й часткі апавяданьня | | 3 раз анкетаваньня пасьля чытаньня ўсяго апавяданьня | | 4 раз анкетаваньня пасьля гутаркі | | Агулам | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да | Не | Да | Не | Да | Не | Да | Не | Да | Не | |
| 1 | 2 | 185 | 4 | 181 | 3 | 182 | 2 | 183 | 11 | 174 | Пад рубрыкай „да“, „не“ паказваецца колькасьць адказаў, якія даваліся вучнямі па кожнаму пытаньню паасобна. |
| 2 | 15 | 170 | 9 | 176 | 7 | 178 | 2 | 183 | 33 | 152 | |
| 3 | 7 | 178 | 7 | 178 | 4 | 181 | 4 | 181 | 22 | 163 | |
| 4 | 13 | 172 | 11 | 174 | 6 | 179 | 4 | 181 | 34 | 151 | |
| 5 | 11 | 174 | 8 | 177 | 7 | 178 | 2 | 183 | 28 | 157 | |
| 6 | 3 | 182 | 2 | 183 | 1 | 184 | 1 | 184 | 7 | 178 | |
| Агулам . . | 51 | 1059 | 44 | 1066 | 28 | 1082 | 17 | 1093 | 135 | 975 | |

Колькасьць няправільных адказаў, якія сьведчаць аб рэлігійнасьці і атавізьме, складае 135, што выражаецца ў 12,1%, ад агульнага ліку адказаў у 1110. Гэтыя 12,1%, зразумела, зьяўляюцца невялічкім процантам. Колькасьць няправільных адказаў зьніжаецца пры кожным новым акце анкетаваньня ў такой паступовасьці:

51, 44, 28, 17. Калі браць не адказы, а колькасьць вучняў, якія давалі няправільныя адказы, дык мы атрымаем наступныя пераходы: 34, 25, 20, 10. Такім чынам мы маем, што і па колькасьці адказаў і па колькасьці вучняў коэфіцыэнты паступова зьніжаюцца з кожным разам анкетаваньня. Гэта сьведчыць аб тым, што мастацкі твор, які чытаецца, і гутарка, якая вядзецца па зьместу мастацкага твору, робяць пэўны ўплыў на дзяцей у напрамку набыцьця правільнай ўстаноўкі па пытаньнях анкеты. На падставе паданых паказальнікаў, мы нават можам вылічыць, якая частка работы робіць большы пэдагогічны ўплыў. Тэмп уплыву можна адзначыць шляхам устанаўленьня рознасьці паміж суседнімі паказальнікамі. Тады мы атрымаем наступнае:

| Тэмп зьніжэньня паказальнікаў | Пасьля чытаньня 1-ай часткі апавяданьня | Пасьля чытаньня ўсяго апавяданьня | Пасьля гутаркі |
|---|---|---|---|
| 1. Па колькасьці няправільных адказаў . . . | 7 | 16 | 11 |
| 2. Па колькасьці вучняў . . . . | 9 | 5 | 10 |

Адсюль мы бачым, што па колькасьці зьніжэньня паказальніку няправільных адказаў большыя рэзультаты атрымоўваюцца пасьля чытаньня апавяданьня цалком і пасьля гутаркі, а па колькасьці вучняў, якія даюць няправільныя адказы, большае зьніжэньне коэфіцыэнту мы маем пасьля чытаньня першай часткі апавяданьня і зноў пасьля гутаркі. Наогул гутарка зьяўляецца найлепшым сродкам уплыву ў даным выпадку. Што-ж датычыцца паказальнікаў няправільных адказаў па асобных пытаньнях, дык больш за ўсё няправільныя адказы сустракаюцца па пытаньнях: 2) ці ёсьць на сьвеце дамавікі (33), 4) ці была на сьвеце калі-небудзь сьвятая Марыя (34), і 5) ці можна вылечыць якую-небудзь хваробу сьвятой вадой (28). Даволі значны коэфіцыэнт атрымаўся і па пытаньню: 3) ці можна верыць сьвятым цудам. Гэта зноў пацьвярджае тое, што атавізм мае глыбокія корані сярод дзяцей.

Па другой анкеце ў сувязі з апавяданьнем Зарэцкага «У вялікодную ноч» атрымаліся такія вынікі:

| №№ пытаньняў анкеты | Колькасьць няправільных адказаў: 1 раз пасьля анкетаваньня | 2 раз пасьля чытаньня апавяданьня | 3 раз пасьля гутаркі | Усяго няправільных адказаў |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 9 | 9 | 4 | 22 |
| 2 | 2 | 3 | 1 | 6 |
| 3 | 2 | 6 | 5 | 13 |
| 4 | 4 | 4 | 1 | 9 |
| 5 | 5 | 4 | 5 | 14 |
| 6 | 36 | 35 | 7 | 78 |
| Агулам | 58 | 61 | 23 | 142 |

Такім чынам па колькасьці няправільных адказаў мы маем у паказчыках такую паступовасьць %: 58, 61, 23. Па колькасьці вучняў паказальнікі зьніжаюцца так: 48, 48, 16. Адсюль мы бачым, што пасьля чытаньня апавяданьня паказальнікі ня толькі ня зьніжаюцца, а нават у некаторых выпадках (па колькасьці няправільных адказаў) павялічваюцца. Мастацкі твор Зарэцкага разьлічаны на антырэлігійную пропаганду, а сапраўды ён выклікае ў дзяцей адмоўныя рэакцыі, якія сьведчаць аб рэлігійнасьці. Калі паглядзець, на якім пытаньні паказальнікі растуць, дык заўважым, што яны растуць больш за ўсё па пытаньнях: 2) Ці правільна робяць тыя, хто ў вялікодную ноч ходзіць не ў царкву, а ў клюб; 3) Ці трэба зачыняць цэрквы і аддаваць іх пад клюб, калі таго жадае большасьць насельніцтва. Па гэтых пытаньнях дзеці яўна хістаюцца. Калі ўзяць агульнае падсумаваньне, дык мы ўбачым, што больш за ўсё няправільных адказаў дано вучнямі па пытаньню аб тым, ці можна ламаць абразы, разбураць царкву і біць бацюшку, а таксама па пытаньню: «Ці падабаецца табе вялікдзень». Гутарка, у процэсе якой вучням даецца правільная ўстаноўка, робіць вялікі ўплыў на дзяцей і значна зьніжае паказальнік няправільных адказаў. Такім чынам мы прыходзім да вываду, што чытаньне мастацкіх твораў, хоць-бы з антырэлігійным напрамкам, само па сабе яшчэ не дае нам гарантыі ў посьпехах антырэлігійнага выха-

ваньня. Тут патрэбны належныя комэнтары, марксыцкае тлумачэньне. А гэтага можна дасягнуць толькі пры гутарцы, у часе якой і павінна давацца марксыцкая ўстаноўка на вывучаемы прадмет.

Для лепшага вывучэньня настрояў дзяцей мэтазгодна весьці ў часе гутаркі протоколы, у якія трэба запісаць усе характэрныя выказваньні і запытаньні.

* * *

Як пастаўлена антырэлігійнае выхаваньне ў школах Менскай акругі? Па гэтаму пытаньню мы маем матар'ялы 21 школы, у ліку якіх ёсьць 10 менскіх школ і 11 раённых. Паказаныя матар'ялы ахопліваюць пэрыод ад пачатку навучальнага году да канца сакавіка 1930 г.

Антырэлігійнае выхаваньне ў школах разгортваецца ў трох напрамках: 1) па лініі выкладаньня; 2) у напрамку організацыі «Бязбожнік» і антырэлігійных гурткоў сярод вучняў і 3) у сувязі з грамадзкаю работаю школы сярод бацькоў і насельніцтва.

Антырэлгійнае выхаваньне ў большасьці школ вядзецца бяз пляну, выпадкова, набываючы больш-менш сыстэматычны характар толькі ў сувязі з набліжэньнем тых або іншых рэлігійных сьвят. Асобны плян антырэлігійнай работы складзены толькі ў 7 школах: у 2 менскіх і 5 раённых. Астатнія школы ўвязваюць гэту работу з програмамі НКА. Некаторыя школы маюць пляны гурткоў і ячэйкі «Бязбожніка». Для прыкладу падамо вынятку з вытворчага пляну Шацкай сямігодкі на 1929-30 навучальны год.

«У выніку антырэлігійнага выхаваньня вучні павінны ўявіць контр-рэволюцыйную сутнасьць рэлігіі і неабходнасьць рашучага змаганьня з ёю, вучні павінны аўладаць матэрыялістычным сьветапоглядам. З пачатку навучальнага году ў школе організаваць антырэлігійны гурток, члены якога павінны зьбірацца два разы ў месяц на агульныя сходы. Школа павінна выпісваць для вучняў часопісь «Антирелигиозник», адзін экзэмпляр газэты «Безбожник». Трэба ўцягнуць у работу антырэлігійнага гуртка настаўнікаў; гуртку мець сувязь з ячэйкай «Бязбожнік» пры сельсавеце; на працягу навучальнага году наладзіць ня менш, як 4 антырэлігійныя вечары. На кожнае рэлігійнае сьвята гурток павінен рэагаваць узмоцненай антырэлігійнай працай; гуртку «Бязбожнік» трэба распаўсюджваць сярод насельніцтва газэту «Безбожник»; членам гуртка «Бязбожнік» у чырвоных кутках сельсавету кожны тыдзень у суботы весьці з сялянамі чытку антырэлігійных газэт; пры чытцы газэты зьвяртаць увагу на неабходнасьць організацыі колектыўных гаспадарак і выкананьня пяцігодкі. Працай гуртка кіруюць школьны савет і вучком. Прыняць захады да таго, каб у рэлігійныя сьвяты было поўнае наведваньне вучнямі школы і каб вучні не наведвалі царквы і ня выконвалі рэлігійных забабонаў. З гэтаю мэтаю ўвесь школьны колектыў перад рэлігійнымі сьвятамі павінен правесьці па клясах растлумачальную работу».

Гэты плян зьяўляецца тыповым для большасьці школ. Побач з некаторымі конкрэтнымі прапановамі тут ёсьць і агульныя месцы, якія па сутнасьці ніякага значэньня ня маюць для плянаваньня работы.

Патрабаваньне, каб кожны гурток рэагаваў узмоцненай антырэлігійнай работай ў часе рэлігійных сьвят, ня можа быць ажыцьцёўлена належным чынам, паколькі конкрэтна не паказана, як менавіта трэба «рэагаваць». Пункт аб поўным наведваньні школы вучнямі ў сьвяты цяжка правесьці ў жыцьцё, паколькі дэталёва не распрацаваны практычныя мерапрыемствы па ажыцьцяўленьню гэтага пункту. Нашы школы, на жаль, яшчэ не навучыліся, як сьлед, плянаваць сваю работу. Але вышэйпаданы плян Шацкай сямігодкі зьяўляецца некаторым дасягненьнем у параўнаньні з тымі школамі, якія зусім не плянуюць свае работы. У гэтым пляне мы знаходзім такія важныя пункты, як організацыя антырэлігійнага гуртка, выпісваньне антырэлігійнай літаратуры і газэт, наладжваньне вечароў, уцягненьне ў гуртковую работу настаўнікаў, чытаньне антырэлігійных газэт сярод сялянства і г. д.

Антырэлігійнае выхаваньне ў сувязі з выкладаньнем лепш пастаўлена ў 1 концэнтры, чым у другім концэнтры школ. У першым концэнтры антырэлігійныя моманты ўключаюцца амаль што ў кожны комплекс. Апрача таго, гэтыя моманты падкрэсьліваюцца і распрацоўваюцца ў часе антысьвяточных кампаній і рэволюцыйных сьвят. У другім концэнтры найбольш антырэлігійных момантаў назіраецца пры выкладаньні прыродазнаўства і грамадазнаўства. Па прыродазнаўству антырэлігійнае выхаваньне ўвязваецца з прапрацоўкай гэтых тэм, як палявая гаспадарка, работа і будова чалавечага цела, асновы эволюцыйнага вучэньня і г. д. Антырэлігійныя моманты па грамадазнаўству ўключаюцца ў тэмы: «Француская Рэволюцыя», «Парыская Комуна», «Імпэрыялістычная вайна 1914 г.», «1905 год», «Кастрычнікавая Рэволюцыя», і г. д. Наогул, школы працуюць па дэталізаваных програмах НКА, і таму антырэлігійнае выхаваньне ў сувязі з выкладаньнем набывае ў гэтых школах у некаторай ступені шаблённы характар. Уласная ініцыятыва, скарыстаньне мясцовай практыкі, прыстасаваньне програм да своеасаблівых умоў кожнай школы—гэта на мясцох яшчэ не адчуваецца. У якасьці прыкладу ўвязкі програмнага матар'ялу з антырэлігійнай работаю мы падамо плян школы пры Менскім пэдтэхнікуме:

**I. Кляса.**

*Моманты антырэлігійнага выхаваньня*

Плян антырэлігійнай работы для 1-й клясы прадбачаны дэталізаванай програмай для першага концэнтру і цалкам зьвязаны з комплексным матар'ялам так:

I. «Першыя крокі ў школе».

1-я тэма: «Жыцьцё дзяцей улетку».

Расказы дзяцей аб розных выпадках улетку: пажар, навальніца, сухмень, дажджы (тут-жа адзначаюцца недарэчнасьці рэлігійных звычаяў, зьвязаных з громам і маланкай).

2-я тэма: «Школа і яе парадкі».

Тут, пры параўнаньні абсталяваньня клясы з абсталяваньнем у хаце, зварочваецца ўвага на адсутнасьць у школе абразоў і іншых рэлігійных рэчаў і таксама тлумачыцца, чаму. Высьвятляецца важнасьць акуратнага наведваньня школы (зварочваецца ўвага на пропускі заняткаў у рэлігійныя дні. Школа ў бога ня верыць).

II. «Асеньняя праца».

1-я тэма: «Дзіцячыя хваробы ўвосень».

Пры пытаньні, што трэба зрабіць хвораму, высьвятляецца, што трэба зварочвацца да доктара, а не да бабак, шаптуноў, знахароў, папоў. Толькі навука, а ня вера ў нейкага бога, доктар, а ня знахар, дапаможа хвораму.

2-я тэма: «Асеньняя праца сям'і і школы і ўдзел у ёй дзяцей».

Тут высоўваецца пытаньне: які сёлета ўраджай; што патрэбна, каб быў добры ўраджай, і тут-жа насьпявае адказ.— Толькі навука, а не малебны палепшаць ураджай. Аграном, а ня поп.

«Кастрычнікавая Рэволюцыя».

У гутарцы таксама высьвятляецца, хто не сьвяткуе Кастрычнікавай Рэволюцыі (царква, касьцёл, сінагога, кулак, нэпман, сэктант). Чаму не сьвяткуе поп, рабін, ксёндз, нэпман, кулак: яны ворагі працоўных.

Далей, портрэты рэволюцыйных дзеячоў (Леніна і інш.) патрэбны, як успамін аб людзях, якія шмат зрабілі для працоўных. Непатрэбнасьць абразоў, крыжыкаў.

III. «Падрыхтоўка да зімы і праца ўзімку».

1-я тэма: «Падрыхтоўка да зімы сям'і і школы і ўдзел дзяцей».

а) Прыметы набліжэньня зімы. Тут у сувязі з экскурсіяй ў прыроду робіцца вывад з назіраньняў: прырода ў залежнасьці ад зьмены надвор'я (халады) спыніла сваю дзейнасьць, а ня воля нейкага бога.

2-я тэма: «Зімовая праца і заняткі». У гутарцы аб працы бацькі і маці ўзімку ўзьнікае пытаньне, як праводзяць дарослыя дні адпачынку (трэба супроцьставіць п'янкам, наведваньню царквы, касьцёлаў

клюбы, тэатры і і ншыя культурныя ўстановы).

Антыкалядная кампанія, якая якраз укліньваецца ў час прапрацоўкі гэтага комплексу, дае цэлы шэраг момантаў антырэлігійнага зьместу.

IV. «Падрыхтоўка да вясны і веснавая праца».

На гэты комплекс вялікая і цікавая антырэлігійная работа прыпадае ў часе антывялікоднай кампаніі.

**II. Кляса.**

1) Гутарка ў сувязі з летнімі забавамі і працай аб вымыслах наконт русалак, вадзяных, кветак папараці. Навуковае тлумачэньне гэтых зьявішчаў. Растлумачыць, аднаго бываюць сухмень, дажджы, грымоты. Скарыстаньне чалавекам сіл прыроды (электрычнасьць, радыё, грамаадводы). Даць навукова-прыродазнаўчае тлумачэньне. Вымыслы пра Ільлюпрарока.

2) Нагляданьне за надвор'ем і прыродаю. Зьмена надвор'я і уплыў на прыроду. Залежнасьць пор году ад руху навокал сонца, а не ад бога. Збор ураджаю. Сьвята ўраджаю. Залежнасьць ураджаю ад спосабаў апрацоўкі зямлі, ад угнаеньня і ад якасьці насеньня. Сьвята ўраджаю проціпаставіць рэлігійнаму сьвяту —Пакровы.

3) Адзначыць ворагаў Кастрычнікавай рэволюцыі. Царква абараняе інтарэсы буржуазіі. Голад 1920 г. Працоўныя паляпшаюць свой стан сваімі ўласнымі сіламі. Моц у колектыве. Разбор гімну працоўных—«Інтэрнацыянал». Тлумачэньне сказу: «Ніхто ня дасьць самохаць волі— ні бог, ні цар, ні багатыр».

4) Сродкі збаўленьня ад хвароб. Знахар і доктар. Малітвы богу і доктар. Ці зварочваюцца да бога, калі папсуецца машына. Перадача хвароб пры прычасьці, цалаваньні рук, абразоў, праз яўрэйскія кушчы, тору ды інш. Як пасты адбіваюцца на дзіцячым організьме.

5) Дыялектыка прыроды. Прычыны зімы. Зьмена дню і ночы. Здабываньне агню першабытным чалавекам. Акрапленьне новага жыльля ад дамавіка. Страх першабытнага чалавека перад зьявамі прыроды. Прыручэньне жывёл. Дагляд за жывёламі. Акрапленьне жывёлы. Дасягненьні вэтэрынарыі. Замест малебну— вэтэрынар.

Каляды—паходжаньне каляд (сувязь з паваротам сонца).

6) Веснавое роўнадзеньне. Абуджэньне прыроды. Уплыў сонца на абуджэньне. Пакланеньне сонцу першабытнымі людзьмі. Вялікдзень і яго паходжаньне. Веснавая праца: пачынаць працу не з малітваю, а з ведамі і дапамогаю агронома. Пачынаць араць і сеяць ня ў дзень якоганебудзь сьвета, а згодна мэтэоролёгічных даных.

Апрацоўку глебы, угнаеньне, ачыстку насеньня, сартыроўку зьвязаць з навукай, а ня з вераю ў бога. Дзень лесу. Сьвята сёмухі. Апошняму проціставіць дрэванасаджэньне.

7) Першае мая—сьвята солідарнасьці. братэрства і барацьба рабочых і ўсіх наогул працоўных з уціскм буржуазіі.

**III. Кляса.**

У якія тэмы па 3-й групе ўвязваецца антырэлігійны матар'ял.

Комплекс: «Наш горад».

Падтэмы: 1) «Характар мясцовасьці, што занята нашым горадам».

2) «Назіраньне за надвор'ем».

Тэмы: 1) «Прамысловасьць нашага гораду».

2)«Праца і здароўе».

3) «Насельніцтва нашага гораду».

4) Адміністрацыйныя і культурныя ўстановы нашага гораду».

5) «Добрабыт нашага гораду».

Комплекс: «Горад і вёска».

Тэмы: 1) «Вёска ў сучасным і мінулым»

2) «Багацьці БССР».

3) «Социялістычнае будаўніцтва ў БССР».

**IV. Кляса.**

Антырэлігійныя элементы маюць месца ў наступных тэмах комплексу «СССР»:

1) Мерапрыемствы савецкай улады і комуністычнай партыі ў галіне сельскай

гаспадаркі. Барацьба з рэлігіяй, якая зьяўляецца тормозам для сельскай гаспадаркі.

2) Нацыянальны і соцыяльны склад насельніцтва СССР. «Папы, рабіны, ксяндзы ды інш.—чужаеды грамадзтва».

3) Элемэнты новага быту. «Прадстаўнікі рэлігіі супроць савецкай школы, клюбу, хаты-чытальні ды інш. культасьветных установ». Рэлігійныя сьвяты і абрады. Шкоднасьць тых і другіх. «Клясавае расшластаваньне ў горадзе і вёсцы. Поп, ксёндз і рабін у союзе з нэпманам і кулаком». «Рэволюцыйныя і грамадзкія сьвяты. Падрыў імі рэлігіі».

4) Жыцьцё сялян за прыгонам. «Сельскі і дваровы поп і ксёндз на службе ў пана».

5) Жыцьцё рабочых пад уладаю капіталу. «Рэлігія на службе ў капіталіста».

6) Змаганьне паноў, капіталістых і кулакоў супроць савецкай ўлады. «Папоўства ўсіх рэлігій супроць Кастрычніка».

7) Рэлігія на службе сусьветных капіталаў. «Царкоўнікі ўсіх рэлігій на службе ў капіталістых. Праца місіянэраў на карысьць капіталістых у калёніях».

У комплексе «Сусьвет і зямля».

1) Зацямненьне сонца і месяца. «Царква супроць навукі аб сьветабудове і супроць вучоных». «Як царква тлумачыць зацямненьне сонца і месяца».

2) Паходжаньне рэлігіі.

Наогул увесь комплекс дае падставу для разбурэньня біблейскіх баек.

**Увязка антырэлігійных момантаў з програмным матар'ялам па прыродазнаўству.**

**V кляса**

| Тэма | Што ўвязаць з тэмай |
|---|---|
| Пасеўны матар'ял | Усходжасьць насеньня залежыць не „ад бога", а ад якасьці насеньня і адпаведных умоў (цяплыні, вады, паветра). |
| Глеба | Рэльеф зямлі ўвесь час зьмяняецца, што супярэчыць рэлігійнаму погляду. Сувязь ураджаю з апрацоўкай глебы, а ня „з богам". Змаганьне з рэлігійным „вымольваньнем у бога" дажджу. |
| Прычыны абясплоджваньня глебы і спосабы ўгнаеньня | Сувязь ураджайнасьці з угнаеньнем, а ня „з богам". Трэба гной вывозіць, зьвязваючы час вывазу з агрономічнымі правіламі, а не з „маладзіком". |

Наогул можна сказаць, што кожнае заданьне яскрава гаворыць, што ўраджай залежыць цалкам ад добрай апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, ад ужываньня добрага насеньня, машын і г. д., і што выдуманы бог тут ня пры чым.

**VI кляса**

| | |
|---|---|
| Шкоднікі і прыяцелі гароду | Разьвіцьцё і зьнішчэньне шкоднікаў гароду зьвязана не „з жаданьнем бога", а з чыннасьцю чалавека. |
| Шкоднікі і прыяцелі лесу | Гутарка праводзіцца падобна (па сэнсу) да гутаркі, якая мела месца пры першай тэме. Антырэлігійная гутарка пра лесавіка. |
| Свойскія ссуны | Сапраўдныя прычыны зьмяншэньня ўдою кароў і беспадстаўнасьць зьвязаных з гэтай зьявай забабонаў. |
| | Падобнасьць у будове цела розных жывёл, што гаворыць аб іх блізкім сваяцтве. |

Падобная ўвязка антырэлігійных момантаў з праграмным матар'ялам мае месца і пры праходжаньні іншых тэм прыродазнаўства.

## VII кляса

| Тэм | Што ўвязаць з тэмай |
|---|---|
| Работа і будова чалавечага цела | Падабенства паміж будоваю цела чалавека і іншых жывёл у процілеглась вучэньню рэлігіі, па якому чалавек створаны „па ўзору і падабенству божаму". Сапраўднае паходжаньне чалавека. |
| Асновы эволюцыйнага вучэньня | Стварэньне сусьвету паводле біблії і навукі. Паходжаньне жыцьця на зямлі і эволюцыйнае вучэньне аб паходжаньні організмаў, якое разбурае рэлігійнае вучэньне аб стварэньні жывёл і расьлін. |

## Моманты антырэлігійнага выхаваньня ў выкладаньні беларускай літаратуры ў II концэнтры.

## V кляса

| Тэм | Мастацкія творы | Элемэнты антырэлігійнага выхаваньня |
|---|---|---|
| Вёска: а) Новая | З. Бядуля.—„У глушы". Крапіва.—„Ціт заводзіць новы быт". Купала.—„Арлятам". „Народныя песьні". | Чаму верылі ў забабоны. Вызваленьне ад іх пасьля Кастрычніка. Узьнікненьне абрадаў. Шкоднасьць рэлігійных абрадаў. Чаму верылі ў розныя прыметы? |
| б) У мінулым: Пры паншчыне. | Т. Гушча.—„Малады дубок". Казка—„Іваначак-прастачок". | |
| Горад. | Александровіч.—„Песьня вёскі і фабрычных станкоў". Лібкнэхт.—„Павукі і мухі". | Праца і навука замест рэлігійных забабонаў. Духоўніцтва—інтэрнацыянальныя шкоднікі і ворагі працоўных. |
| Сувязь паміж гарадамі вёскай. | Раіч.—„Успаміны аб 1905 г.". Т. Гушча—„Соцкі падвёў". „О край родны, край прыгожы". „Бунт". | Шкодная роля царквы і змаганьне працоўных за сваё вызваленьне. |

## VI кляса

| Тэм | Мастацкія творы | Элемэнты антырэлігійнага выхаваньня |
|---|---|---|
| Паднявольнае жыцьцё працоўных у капіталістычных умовах. | Караленка.—„Лес шуміць". З. Бядуля.—„Дванаццацігоднікі".. | Вера ў лясуноў, дамавікоў, русалак ды інш. |
| | Сянкевіч.—„Вандраваньне Васіля". | Шкодны ўплыў рэлігіі на жыцьцё сялян і іх змаганьне. Клясавая шкоднасьць царквы ў змаганьні працоўных за сваё вызваленьне. |
| | Дудар.—„Шанхайскі шоўк". | Шкоднасьць місіонэрскай дзейнасьці духоўніцтва. |
| Кастрычнік і яго ўплыў на жыцьцё. | Т. Гушча.—„На прасторах жыцьця". Чарот.—„Босыя на вогнішчы". Янка Купала.—„Безназоўнае". Нёманскі.—„Тодар Базылёнак". | Духоўніцтва—клясавы вораг. Мэтоды змаганьня моладзі з рэлігіяй і рэлігійнымі забабонамі. Дзяды і іх паходжаньне. Радаўніца і яе паходжаньне. |

## VII кляса

| Тэм | Мастацкія творы | Элемэнты антырэлігійнага выхаваньня |
|---|---|---|
| Твор Багушэвіча | „Хрэсьбіны Мацюка". | Змаганьне рымскай царквы з праваслаўнай і вынікі барацьбы. |
| Твор Я. Купала. | „Раскіданае гняздо". | Уплыў рэлігіі на героя драмы. |
| Твор Я. Коласа. | „Новая зямля". | 1) Уплыў рэлігіі на псыхолёгію і быт сялян. 2) Паходжаньне хрысьціянскіх сьвятаў. |
| Поэмы З. Бядулі. | „Беларусь". | Роля рэлігіі ў жыцьці беларускага народу да Кастрычніка. |
| | „Зачарованы край". | Рэлігія і Кастрычнік. Крыніцы рэлігіі. |
| Творы Крапівы. | Антырэлігійныя сатыры. | Рэлігія і быт пасьля Кастрычніка. |

**Элемэнты антырэлігійнага выхаваньня ў выкладаньні расійскай літаратуры ў II концэнтры.**

**V кляса**

| Тэма | Мастацкія творы | Элемэнты антырэлігійнага выхаваньня |
|---|---|---|
| Новая вёска. | Дорохов.—„Новая жизнь". Яковлев.—„Конец старой сказки". | Роля рэлігіі і царквы ў прыгнечаньні жанчыны. Паны—эксплёататары на забабонах цёмных мас. |
| Старая вёска. | Тургенев.—„Бежин луг". Гончаров.—„Сон Обломовъ". Некрасов.—„Мороз красный нос". | Соцыяльна-эконмічныя карэньні рэлігійных настрояў. Шкоднасьць забабонаў. |
| Горад сучасны. Горад у мінулым. | Колосов.—„Тринадцать". Чехов.—„Ванька". | Машына—сродак антырэлігійн. выхаваньня Рэлігія—сродак эксплёатацыі працоўных. |

**VI кляса**

| Тэма | Мастацкія творы | Элемэнты антырэлігійнага выхаваньня |
|---|---|---|
| Гаспадарка СССР і БССР. | Ляшко.—„Рассказ о карандашах". „9-е января". Яковлев.—„Жгевь". Сейфуллина.—„Старуха". | Рэлігія ва ўмовах капіталізму. Духоўніцтва—служкі царскай улады. Контр-рэволюцыйная роля духоўніцтва. Тып сучаснага антырэлігійніка на вёсцы. |

**VII кляса**

| Тэма | Мастацкія творы | Элемэнты антырэлігійнага выхаваньня |
|---|---|---|
| Сусьветная гаспадарка. | Чехов.—„Мужики". Неверов.—„Андрон Непутевый". Либединский.—„Неделя". | Соцыяльна-эконамічныя карэньні рэлігійнасьці і шкоднасьці бытавых рэлігійных традыцый. Тып сучаснага змагара з рэлігіяй на вёсцы. Шкоднасьць рэлігіі ў клясавай барацьбе за вызваленьне працоўных. |

Шэраг іншых артыкулаў у хрэстоматыях можна скарыстаць для тлумачэньня антырэлігійных пытаньняў.

***

Гэтыя пляны антырэлігійнага выхаваньня зьяўляюцца звычайнымі для нашых школ.

Антырэлігійнае выхаваньне ня вычэрпваецца выкладаньнем тэй ці іншай дысцыпліны ў матэрыялістычным напрамку. Тут патрэбна яшчэ тое, каб дзеці навучыліся ўжываць набытыя веды ў практычнай рабоце і ў клясавай барацьбе. Можна добра ведаць аб тым, як узьнікла рэлігія і якія яе соцыяльныя карэньні. Але-ж гэта яшчэ не зьяўляецца паказчыкам матэрыялістычнага сьветапогляду чалавека. Толькі тады, калі чалавек сапраўды змагаецца з рэлігіяй, можна гаварыць аб наяўнасьці антырэлігійнай ідэолёгіі. Дзеці могуць зрабіцца сапраўднымі атэістымі толькі праз актыўную чыннасьць, праз удзел у клясавай барацьбе, шляхам змаганьня з рэлігіяй. Вось чаму нельга гаварыць аб правільнай арганізацыі антырэлігійнага выхаваньня ў тых школах, дзе гэта работа абмяжоўваецца выкладаньнем. Апрача антырэлігійнага выкладаньня патрэбен яшчэ і актыўны ўдзел вучняў у ячэйках «Бязбожніка».

Арганізацыя «Бязбожніка» існуе ў 8 менскіх і 10 раённых школах з ліку тых, якія нам даставілі матар'ял. Значыцца, тры школы зусім ня маюць паказанай арганізацыі. Мы маем матар'ял па наступных раённых школах: Бярэзінскай, Грозаўскай, Капыльскай яўрэйскай, Койданаўскай, Магільнянскай, Самахвалавіцкай, Сьмілавіцкай, Бягомльскай, Барысаўскай пры пэдтэхнікуме, Цімкавіцкай, Лагойскай, Пухавіцкай і Шацкай. На жаль, некаторыя школы даслалі няпоўны матар'ял ці матар'ял з няправільнымі лічбамі. Таму мы можам даць аналіз толькі па 7 першых паказаных школах. У школах Бягомльскай і Барысаўскай ячэйкі «Бязбожнік» былі арганізаваны зусім нядаўна і таму гэтыя ячэйкі яшчэ не пра-

явілі сябе ў рабоце. Адносна соцыяльнага, нацыянальнага і групавога складу мы маем у гэтых школах наступныя процантныя суадносіны:

| | Па соцыяльнаму складу | | | | | Па нацыянальнасьці | | | | | Па групах | | | | Усяго ў абсалютных лічбах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабочых | Служачых | Сялян | Саматужн. | Іншых | Беларусаў | Яўрэяў | Расійцаў | Палякаў | Іншых | I концэнтр | V група | VI група | VII група | |
| 1. Па школе . . . . . . . | 8 | 10 | 69 | 7 | 6 | 77 | 17 | 0,5 | 2,5 | 3 | 53 | 19 | 16 | 12 | 2875 ч. |
| 2. У ячэйцы „Бязбожнік" (за 100% узяты лік вучняў у „Бязбожніку") . . | 20 | 14 | 53 | 6 | 7 | 69 | 26 | 1 | 3,3 | 0,7 | 12 | 27 | 30 | 31 | 410 „ |
| 3. У ячэйцы „Бязбожнік" (за 100% узяты лік адпаведнай нацыянальнасьці групы па ўсёй школе) | 36 | 19 | 11 | 11,5 | 18 | 13 | 22 | 24 | 18 | 4 | 3,5 | 19,5 | 27 | 38 | 410 „ |

Тут жа прывядзем матар'ялы і па Менскіх школах для таго, каб можна было-б параўнаць лічбы.

| | Рабочых | Служачых | Сялян | Саматужн. | Іншых | Беларусаў | Яўрэяў | Расійцаў | Палякаў | Іншых | I концэнтр | V група | VI група | VII група | Усяго ў абсалютных лічбах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | разам з палякамі | | | | | | |
| 1. Па школе . . . . . . . | 36 | 32 | 11 | 7 | 14 | 51 | 26 | 18 | — | 5 | — | — | — | — | |
| 2. У ячэйцы „Бязбожнік" (за 100% узяты лік вучняў у ячэйцы) . . . . . | 41 | 32 | 18 | 5 | 4 | 51 | 28 | 16 | — | 5 | 30 | 27 | 21,5 | 21,5 | |
| 3. У ячэйцы „Бязбожнік" (за 100% узяты лік адпаведнай нацыянальнасьці групы па ўсёй школе) | 30,5 | 27 | 44 | 19 | 8 | 27 | 28,5 | 24 | — | 28 | — | — | — | — | |

Па 12 раённых школах процант членаў «Бязбожнік» у параўнаньні з агульным лікам вучняў гэтых школ складае 19%. Наогул, па ўсіх школах Менскай акругі паказаны процант хістаецца ад 10 да 50%. У розных школах ахоп вучняў організацыяй «Бязбожнік» неаднолькавы. У большасьці выпадкаў яшчэ значная колькасьць вучняў ня ўдзельнічае ў рабоце «Бязбожніка», што сьведчыць аб недастатковай ступені разьвіцьця антырэлігійнага выхаваньня. З табліцы відаць, што па раённых школах дзеці рабочых, складаючы толькі 8% агульнага ліку вучняў, маюць 20% ў «Бязбожніку» і 36% у тэй-жа організацыі ад ліку ўсіх дзяцей рабочых у школе. Значыць, гэта соцыяльная група праяўляе вялікую актыўнасьць у антырэлігійнай рабоце па раённых школах. Зусім другое мы назіраем па менскіх школах. Дзеці рабочых тут маюць наступныя паказальнікі: 36; 41; 30,5. Ня гледзячы на тое, што яны складаюць 36% агульнага ліку вучняў у школах і 41% ад гульнага ліку бязбожнікаў, на іх долю прыходзіцца па ячэйцы «Бязбожнік» толькі 30,5% ад агульнага ліку дзяцей рабочых у гэтай організацыі. Далёка ня ўся маса дзяцей рабочых уцягнута ў работу «Бязбожніка». Ці зьяўляецца гэта характэрным для ўсіх школ Менску, мы ня можам сказаць, але-ж гэта зьяўляецца нясумненным адносна тых школ, на матар'яле якіх мы будуем свае вывады. Возьмем другую вялікую соцыяльную групу—дзяцей сялян. Па раённых школах мы маем такія лічбы: 69, 53, 11, а па менскіх школах: 11, 18, 44. Тады як у першым выпадку мы назіраем паступовае зьніжэньне паказальнікаў, у другім выпадку паказальнікі, наадварот, паступова павялічваюцца. Ня гледзячы на тое, што дзеці сялян у раёнах складаюць выключную большасьць вучняў, у «Бязбожніку» яны займаюць невялічкі процант—11% свайго ўласнага складу. У Менску яны маюць невялічкі процант ад агульнага складу вучняў—11%, у «Бязбожніку» ім належыць ужо 44% іх уласнага складу. На антырэлігійным фронце ў раёнах больш актыўныя дзеці рабочых, чым дзеці сялян, ня гледзячы на тое, што

першыя складаюць меншасьць, а другія—большасьць, у г. Менску, наадварот, больш актыўны дзеці сялян, чым дзеці рабочых, ня гледзячы на тое, што тут большасьць застаецца за рабочымі. Да такога парадоксальнага выніку мы прыходзім на падставе аналізу об'ектыўнага матар'ялу. Зразумела, гэты вынік ня можа быць распаўсюджаны на ўсе школы, але-ж для нас досыць таго, што сапраўды ёсьць такія школы, у якіх знаходзіць сабе месца вышэйпаказаны факт. Якія прычыны гэтага факту, пакуль што мы ня можам сказаць. Мы можам толькі падкрэсьліць, што ў нашых школах яшчэ далёка недастаткова ахоплены «Бязбожнікам» асноўныя масы вучняў. У будучыне антырэлігійная работа павінна разгортвацца ў напрамку зьнішчэньня гэтага недахопу.

Па групе служачых мы маем лічбы ў раёнах—10, 14, 19, у г. Менску—32, 32, 27. Дзеці служачых удзельнічаюць у «Бязбожніку» больш актыўна на раёне, чым у горадзе. Саматужнікі праяўляюць амаль аднолькавую актыўнасьць ва ўсіх школах. Назіраецца некаторае павялічэньне паказальнікаў па «Бязбожніку» па групе «іншых» у раённых школах.

У дачыненьні да нацыянальнасьці можна зрабіць наступныя вывады. У раёне беларусы маюць лічбы—77, 69, 13, у гор. Менску—51, 51, 27. Процант складу беларусаў у «Бязбожніку» амаль адпавядае проценту іх складу па школах, як у раёне, гэтак і ў горадзе. Але процант іх па «Бязбожніку» значна зьніжаецца ў адносінах агульнае колькасьці вучняў гэтай-жа нацыянальнасьці. Мы маем у раёне—13, у горадзе—27. Гэта значыць, што ўцягнута ў організацыю «Бязбожнік» яшчэ нязначная колькасьць беларусаў. Вялікую актыўнасьць у антырэлігійнай рабоце праяўляюць яўрэі, а таксама расійцы, як па раёну, гэтак і па Менску. Напрыклад, па групе расійцаў мы маем паказальнікі ў раёнах—0,5; 1; 24; а ў Менску—18, 16, 24. Досыць актыўныя і палякі і «іншыя». Па групе палякаў мы маем у раёне 2, 5, 3, 3, 18; па групе «іншых» там-жа—3, 0, 7, 4. Па гораду палякі і «іншыя» разам даюць наступнае—5, 5, 28. Мы бачым, што паказальнікі па гэтых нацыянальных групах увесь час растуць. А гэта сьведчыць аб значнай актыўнасьці паказаных нацыянальных груп на антырэлігійным фронце.

Цікавыя лічбы атрыманы намі па школьных групах. У раёне па 1-му концэнтру ёсьць такія паказальнікі—53; 12; 3, 5. Ня гледзячы на тое, што вучні 1-га концэнтру складаюць 53% ад агульнай колькасьці вучняў па раённых школах, яны маюць у «Бязбожніку» толькі 12%. Пры гэтым па «Бязбожніку» яны складаюць толькі 3,5% ад агульнай колькасьці вучняў гэтага-ж 1-га концэнтру. Толькі 3,5% вучняў 1-га концэнтру ўцягнуты ў організацыю «Бязбожнік». Тут мы маем сур'ёзны недахоп па лініі антырэлігійнага выхаваньня. Яго трэба зьнішчыць, ня гледзячы на ўсю цяжкасьць работы з дзяцьмі 8-12 год. Вялікую актыўнасьць у «Бязбожніку» праяўляюць вучні 5-й, 6-й і асабліва 7-й групы. Вучні 7-й групы маюць гэткія коэфіцыэнты—12, 31, 38. Такім чынам старэйшыя групы нашых школ больш удзельнічаюць у антырэлігійнай рабоце, чым малодшыя групы. На іх плячох ляжыць увесь цяжар дзейнасьці «Бязбожніка».

На кіруючых пасадах «Бязбожніка» у розных школах мы маем розную колькасьць вучняў. Па Менскіх школах бывае па 15, па 20, нават і па 30 чал. Відаць, тут улічваюцца вучні, якія зьяўляюцца ня толькі членамі прэзыдыуму, але і розных камісій пры «Бязбожніку». Звычайна ў прэзыдыум выбіраецца 3-5 чал. Па 11 раённых школах налічваецца на кіруючых пасадах 47 вучняў. Што прадстаўляе сабою гэты актыў? Беларусаў тут мы маем 39 чал., яўрэяў—8; па соцыяльнаму становішчу: 35 сялян, 5 рабочых, 5 служачых, 2 саматужнікі. У групе сялян пераважваюць беднякі. Па ўзросту: 4 вучні з 5-й групы, 5 вучняў з 6-й групы і 21 вучань з 7-й групы. На кіруючых пасадах у «Бязбожніку» большасьць вучняў старэйшай групы, прычым 1-ы концэнтр школы тут зусім не прадстаўлены, што зьяўляецца ненормальным.

Настаўнікі ня ўсе прымаюць удзел у рабоце «Бязбожніка», а тыя, якія прымаюць удзел, працуюць не заўсёды сыстэматычна. У некаторых школах настаўнікі ўваходзяць у прэзыдыум. У першай

Менскай школе настаўнік нават зьяўляецца старшынёю «Бязбожніка». У большасьці выпадкаў настаўнікі кіруюць гурткамі, чытаюць даклады, організоўваюць вечары, выконваюць абавязкі сэкратароў і ўпаўнаважаных па «Бязбожніку». Удзел настаўнікаў у прэзыдыуме ні ў якім разе не павінен паралізаваць актыўнасьць і самадзейнасьць вучняў у галіне кіраўніцтва антырэлігійнаю работаю. Організацыя «Бязбожнік» павінна быць для вучняў сур'ёзнай школай комуністычнага выхаваньня. Але-ж адначасова трэба лічыць ненормальным зьявішчам тое, што настаўнікі часамі ня ўдзельнічаюць у «Бязбожніку», не дапамагаюць вучням організоўваць работу, а калі ўдзельнічаюць, дык нярэдка адносяцца да работы формальна.

Як разьвівалася работа «Бязбожніка» за апошнія часы, можна ўбачыць з наступнай табліцы:

| НАЗВА ШКОЛЫ | Процантныя адносіны колькасьці вучняў у «Бязбожніку» да агульнай колькасьці вучняў у данай школе | |
|---|---|---|
| | У пачатку навуч. году | Зараз—на 25 сакавіка 1930 г. |
| **Менскія школы** | | |
| 22-я | 20 | 36 |
| 31-я | — | 10 |
| 32-я | — | 39,5 |
| Цэнтр. дасьледчая школа | 14 | 14 |
| 1-я | — | 54 |
| **Раённыя школы** | | |
| Барысаўская пры пэдтэхн. | 29 | 28 |
| Магільнянская | 36 | 37 |
| Койданаўская | 10 | 10 |
| Цімкавіцкая | 49 | 30 |
| Бярэзінская | — | 33 |
| Капыльская яўр. | 11 | 14 |
| Барысаўская чыгун. | — | 52 |
| Самахвалавіцкая | 13 | 18 |
| Сьмілавіцкая | 10 | 10 |
| Лагойская | 10 | 31 |
| Пухавіцкая | — | 30 |
| Грозаўская | 9 | 9 |
| Шацкая | 12 | 12 |

Такім чынам, 5 школ на працягу навучальнага году мелі павялічэньне колькасьці членаў «Бязбожніка»; 6 школ, якія раней зусім ня мелі організацыі «Бязбожнік», зараз ужо яе ўтварылі і дасягнулі вялікай колькасьці членаў—30—54% ад агульнага ліку вучняў у школе; 5 школ засталіся пры ранейшых паказальніках і, урэшце, 2 школы некалькі страцілі членаў «Бязбожніка». Ёсьць думка, што ня трэба дамагацца таго, каб большасьць вучняў уваходзіла ў гурток «Бязбожніка», каб гэта організацыя з кожным разам пашыралася. З гэтай думкай згадзіцца нельга. Калі пашырэньне «Бязбожніка» ідзе на добраахвотных пачатках за кошт ідэёва-настроеных, вытрыманых і соцыяльна-падыходзячых вучняў—гэта зьяўляецца станоўчым фактам. Пры гэткіх умовах «Бязбожнік» узмацніцца і здолее весьці актыўную антырэлігійную работу. Але-ж трэба лічыць немэтазгодным і нават шкодным пашырэньне «Бязбожніка» за кошт выпадковага, пасыўнага, соцыяльна-чужога элементу. Тады організацыя «Бязбожнік» можа аказацца бязьдзейнай, нявытрыманай, хісткай, няздольнай да рашучага змаганьня супроць рэлігіі.

Шмат якія школы маюць форпосты і комсамольскія організацыі. Але не заўсёды комсамольцы і піонэры актыўна ўдзельнічаюць у «Бязбожніку». Напрыклад, у Сьмілавіцкай сямігодцы ёсьць 27 комсамольцаў (6%) і 83 піонэры (18%), а ўдзел іх у антырэлігійнай рабоце досыць слабы.

Большасьць школ пачалі антырэлігійную работу толькі ў 1927 г. У пэрыод 1920-25 г.г. займаліся антырэлігійным выхаваньнем толькі тры школы.

Школьныя організацыі «Бязбожніка» не заўсёды маюць пляны сваё работы. А там, дзе пляны ёсьць, апошнія маюць часамі агульны неконкрэтны і нават нярэальны плян. Напрыклад, у аднэй школе беспадстаўна ставіцца задача ўцягнуць у «Бязбожнік» у бліжэйшы час 100% вучняў. Аднак ёсьць у некаторых школах і правільная ўстаноўка. У пляне «Бязбожніку» па 3-й Менскай школе мы знаходзім наступныя моманты: 1) правядзеньне антысьвяточнай кампаніі; 2) даклады; 3) работа з чырвонаармейцамі; 4) выезды на вёску; 5) організацыя кутка; 6) пашырэньне гурткоў; 7) распаўсюджваньне літаратуры.

«Бязбожнік» у школе організаваны больш за ўсё па групах. У кожнай гру-

ііе ёсьць упаўнаважаныя ці асобныя камісіі. У некаторых выпадках утвараюцца ўдарныя комісіі для правядзеньня кампаній: газэтная, па распаўсюджваньню літаратуры, па рабоце ў кутку. Пры «Бязбожніку» ёсьць гурткі, якія працуюць у некаторых выпадках сыстэматычна па пэўнай програме. Гурткамі кіруюць звычайна настаўнікі, а ў 19 школе г. Менску нават—піонэры. Колькасьць вучняў у гуртках менш, чым у ячэйцы «Бязбожнік». Толькі ў школе Белпэдтэхнікуму, у гуртку II концэнтру, 57% усіх вучняў гэтага концэнтру. У іншых школах ад 6 да 30%. Шмат якія школы маюць спэцыяльны куток «Бязбожніка», дзе концэнтруецца літаратура, газэты, плякаты, лёзунгі, малюнкі і г. д. Некаторыя школы (напр., 4-я Менская) выдаюць антырэлігійную насьценгазэту, альбо друкуюць асобныя антырэлігійныя артыкулы ў агульных школьных газэтах. Значная колькасьць школ удзельнічала ў дэмонстрацыях і кампаніях у часе зачыненьня цэркваў, зьняцьця званоў, протэсту супроць уступаньня рымскага папы і г. д. Для таго, каб паказаць, наколькі рэгулярна і інтэнсыўна працавала школьная організацыя «Бязбожнік», падамо лічбы аб колькасьці пасяджэньняў прэзыдыуму і пленуму гэтай організацыі з пачатку навучальнага году да 25 сакавіка 1930 г.

| НАЗВА ШКОЛЫ | Як часта зьбіраўся | |
|---|---|---|
| | Прэзыд. | Пленум |
| **Менскія школы** | | |
| 3-я | 5 | 3 |
| 4-я | 4 | 2 |
| 14-я | 3 | — |
| 19-я | 6 | 2 |
| 22-я | 2 | — |
| 31-я | 3 | 1 |
| 32-я | 3 | 2 |
| Цэнтр. дасьледч. | 2 | — |
| 1-я | 4 | — |
| **Раённыя школы** | | |
| Самахвалавіцкая | 6 | — |
| Сьмілавіцкая | 2 | — |
| Пухавіцкая | 2 | — |
| Грозаўская | 2 | — |
| Лагойская | 3 | — |
| Шацкая | 2 | 4 |
| Магільнянская | 4 | 5 |
| Барысаўская | 3 | — |
| Койданаўская | 2 | 2 |

Гэтыя лічбы заслугоўваюць таго, каб уважліва прыгледзецца да іх. Зразумела, нельга ацэньваць работу «Бязбожніка» толькі па колькасьці паседжаньняў. Але-ж і колькасьць паседжаньняў у пэўных выпадках можа быць грунтоўным паказальнікам якасьці работы. На працягу 6 мес. прэзыдыум «Бязбожніка» у шмат якіх школах зьбіраўся толькі 2-3 разы, г. зн. 1 раз у 2 ці 3 мес. Прэзыдыум ёсьць кіруючая ўстанова, якая працуе сыстэматычна, рэгулярна. Прэзыдыум можа вырашаць прынцыповыя пытаньні, тады калі ён акуратна і сваячасова зьбіраецца. Якая-ж можа быць работа, калі паседжаньні прэзыдыуму былі толькі 1 раз у 2-3 месяцы. Няўжо-ж за гэты працяг часу ня ўзьнікалі прынцыповыя пытаньні і задачы, якія трэба было вырашыць на працягу больш кароткага часу, чым гэта сапраўды назіралася ў практыцы нашых школ? Для нас ясна, што прэзыдыумы «Бязбожніка» не працавалі як сьлед. І тут вінаваты, зразумела, ня толькі дзеці, але-ж яшчэ ў большай ступені пэдагогі, якія не зварочвалі належнай увагі на дапамогу вучням наладзіць антырэлігійную работу ў школе. Калі дрэнна працавалі прэзыдыумы, дык яшчэ горш працавалі пленумы. Апошнія па некаторых школах нават і зусім ня зьбіраліся на працягу вышэйпаказанага адрэзку часу. Пры такіх умовах «Бязбожнік», зразумела, няздольны вырашаць асноўныя задачы антырэлігійнага выхаваньня Каб палепшыць работу «Бязбожніка», трэба ў будучыне наладзіць, паміж іншым, рэгулярныя сходы гэтай організацыі, на якіх вучні маглі-б выступаць, выказвацца, праяўляць сваю актыўнасьць, займацца самакрытыкай.

Як праводзілася антырэлігійная работа сярод бацькоў і насельніцтва? Яна праводзілася двума шляхамі: 1) шляхам распаўсюджваньня літаратуры і газэт сярод бацькоў і насельніцтва 2) праз антырэлігійныя вечары і бацькаўскія сходы. Распаўсюджваліся, галоўным чынам, часопісь «Бязбожнік» і антырэлігійныя брашуры з школьнай бібліотэкі. Менскімі школамі прароблена гэтая работа з пачатку навучальнага году да 25 сакавіка 1930 г. 3-я школа правяла 4 даклады на бацькаўскіх сходах; 4-я школа—антыка-

лядны вечар, гутаркі і даклады на антырэлігійныя тэмы; 12-я школа—4 антырэлігійныя вечары і 1 сход у часе сьвят; 14-я школа—2 вечары-сходы; 19-я школа—3 сходы з дакладамі; 22-я школа—5 сходаў з дакладамі; 31-я школа—3 сходы, вынесена пастанова аб зачыненьні царквы; 32-я школа—2 вечары з дакладамі. Па раённых школах: Лагойская—9 дакладаў і 1 антырэлігійны вечар; Цімкавіцкая—1 сход бацькоў і 1 вечар; Магільнянская—3 бацькаўскіх сходы; Пухавіцкая—1 сход па ўсёй школе і 4 сходы бацькоў па групах; Грозаўская—2 сходы бацькоў па ўсёй школе і 6 групавых сходаў; Барысаўская чыгун.—4 сходы, 6 лекцый і 6 дакладаў і г. д. Большасьць бацькаўскіх сходаў праводзілася ў сувязі з антыкаляднай кампаніяй. Па некаторых школах бацькі ахоплены антырэлігійнаю работаю на 50—80%. Аднак ёсьць і такія школы, якія яшчэ ня здолелі аўладаць масамі бацькоў. Трэба прызнаць, што нашы школы яшчэ не разгарнулі дастатковай антырэлігійнай работы сярод насельніцтва. У раёне некаторых школ адчуваецца актыўнасьць рэлігійных агітацый папоў, ксяндзоў і сэктантаў. Якраз у гэтых раёнах школа павінна наладзіць сыстэматычную работу з бацькамі і насельніцтвам.

Што трэба зрабіць у бліжэйшы час па наладжваньню антырэлігійнага выхаваньня ў нашых школах?

1. Неабходна ўцягнуць у актыўную работу організацыі юных «Бязбожнікаў», усю масу піонэраў і комсамольцаў кожнай школы.

2. Організаваць ячэйку «Бязбожнік» у тых школах, дзе яе яшчэ няма, пашыраючы гэтую організацыю за кошт соцыяльна-каштоўных элемэнтаў на падставе прынцыпу поўнай добраахвотнасьці.

3. Узмацніць работу антырэлігійных гурткоў, дамагаючыся, каб у гуртках удзельнічалі на 100% усе дзеці-бязбожнікі. Заняткі ў гуртках ні ў якім разе не павінны ператварацца ў форму клясных заняткаў, а павінны грунтавацца на зацікаўленасьці і самадзейнасьці вучняў.

4. Дамагацца, каб па мажлівасьці ўсе настаўнікі прымалі пасільны ўдзел у рабоце організацыі «Бязбожніка», не парушаючы прынцыпу самадзейнасьці вучняў.

5. Утварыць у бліжэйшы год пры школах добра абсталяваныя антырэлігійныя куткі.

6. Наладзіць рэгулярны выпуск антырэлігійнай насьценгазэты ў школах, а там, дзе гэта немажліва па тых або іншых прычынах, трэба зьмяшчаць сыстэматычна антырэлігійныя артыкулы ў агульных школьных газэтах.

7. Было-б карысна часамі організоўваць пры школах антырэлігійныя выстаўкі, якія павінны ў першую чаргу адлюстроўваць работу школ.

8. Побач з бацькаўскімі сходамі па ўсёй школе і па групах было-б мэтазгодна весьці спэцыяльную работу сярод тых бацькоў, якія зьяўляюцца асабліва рэлігійна настроенымі і якія разам з гэтым прадстаўляюць сабою соцыяльна-каштоўны элемэнт.

9. Трэба ўзмацніць распаўсюджваньне сярод насельніцтва популярнай антырэлігійнай літаратуры праз школы і праводзіць сіламі вучняў спэцыяльную чытанку яе сярод пэўных груп бацькоў.

10. Апорнымі пунктамі на вёсцы па антырэлігійнай пропагандзе (і ня толькі па антырэлігійнай пропагандзе) павінны быць саўгасы і колгасы, на аснове якіх школа павінна будаваць сваю работу па комуністычнаму выхаваньню.

Антырэлігійная работа школы мае вялікае палітычнае значэньне. Змагаючыся з рэлігіяй, мы адначасова рыхтуем новае пакаленьне людзей, якое загартоўваецца ў клясавай барацьбе, аслабаняецца ад стагодняга бруду, ад праклятай спадчыны старога грамадзтва—рэлігійнасьці і розных забабонаў і прасякаецца духам матэрыялістычнай дыялектыкі.

# ПЫТАНЬНІ ПЭДАГОГІКІ

**Зьм. Сьцяпура**

## Пэдагогічныя характарыстыкі тыпаў паводзін дзяцей

У кожнай асобы ёсьць адзнакі, у той ці іншай ступені ўласьцівыя і іншым людзям. Адзнакі гэтыя могуць быць прыроджанымі і набытымі, дзякуючы ўплыву асяродзьдзя. Большая ці меншая агульнасьць адзнак робіць розных людзей падобнымі адзін да другога, дае магчымасьць клясыфікаваць іх па тыпах. Клясыфікацыя гэта, аднак,—справа вельмі цяжкая з прычыны таго, што асоба чалавека ёсьць вельмі складаная зьява, з вельмі featured рознастайнымі адзнакамі, і здавальняючай клясыфікацыі асоб у сучасны момант у навуцы яшчэ няма. У адносінах да дзяцей такая клясыфікацыя яшчэ больш абцяжарваецца, бо набытыя рэакцыі асобы падрастаючага знаходзяцца яшчэ ў пэрыодзе найбольшага свайго фармаваньня, і толькі прыроджаныя рэакцыі яго да 11-13 год могуць лічыцца больш-менш выяўленымі.

Найбольшым недахопам у існуючых клясыфікацыях тыпаў паводзін людзей зьяўляецца адсутнасьць такой асновы для падзелу людзей, якая давала-б магчымасьць з пункту гледжаньня гэтай асновы ахапіць усе пасобныя індывідуальнасьці з іх рознастайнымі адзнакамі. На такі недахоп хварэе, напрыклад, тыпізацыя школьнікаў профэсара Лесгафта («Школьные типы), на такі недахоп хварэе і клясыфікацыя дзіцячых тыпаў профэсара Лазурскага («Школьные характеристики»).

Сучасная псыхолёгія (проф. Карнілаў) кладзе ў аснову падзелу людзей на тыпы дзьве асноўныя адзнакі—хуткасьць рэакцый і інтэнсыўнасьць рэакцый. Гэтыя адзнакі, зьяўляючыся прыроджанымі, найбольш выяўляюць фізыолёгічна-псыхічную структуру асобы, каля іх найлепш згрупоўваюцца ўсе іншыя асаблівасьці індывідуальнасьці. Па гэтых адзнаках проф. Карнілаў налічвае чатыры тыпы людзей: 1) моторна-пасыўны тып, які рэагуе хутка і слаба; 2) моторна-актыўны тып—рэагуе хутка і моцна; 3) сэнсорна-актыўны тып, які рэагуе павольна і моцна і, урэшце, 4) сэнсорна-пасыўны тып—рэагуе павольна і слаба.

Цікава, што гэты падзел амаль поўнасьцю супадае з старажытным (пачынаючы з Арыстотэля) падзелам людзей на тэмпэрамэнты: сангвінічны, холерычны, мэланхолічны і флегматычны. Падзел гэты становіць сабою, бязумоўна, продукт вельмі глыбокага нагляданьня, і з гэтай прычыны ён захаваўся ў навуцы і да сучаснага моманту (Карнілаў, Выгоцкі ды інш.). Вядомы псыхолёг Вундт кладзе ў аснову падзелу тэмпэрамэнтаў розную ступень успрыймальнасьці і актыўнасьці чалавека, г. зн., розную ступень узбуджальнасьці організму ад знадворных і ўнутраных стымулаў і моцнасьці рэакцыі на ўзбуджэньне. Сангвінічны тэмпэрамэнт характарызуецца хуткай успрыймальнасьцю і слабой актыўнасьцю; холерычны—хуткай успрыймальнасьцю і моцнай актыўнасьцю, мэлянхолічны—павольнай успрыймальнасьцю і моцнай актыўнасьцю, флегматычны—павольнай успрыймальнасьцю і слабой актыўнасьцю.

Вельмі блізка падыходзіць да гэтага падзелу, на нашу думку, і клясыфікацыя тыпаў дзяцей сучаснай рэфлексолёгіі. Проф. Сарахцін, на падставе значнага ліку навукова-абстаўленых экспэрымэнтаў, падзяляе дзяцей школьнага ўзросту на такія тыпы: 1) узбуджлівы, які характарызуецца нізкім парогам раздражненьня,—слабыя раздражальнікі лёгка даюць адказны рэфлекс; 2) пля-

стычны тып, які хутка ўтварае злучальны рэфлекс, хутка ўтварае дыфэрэнцыроўку; 3) тормозны тып, які не ўтварае злучальнага рэфлексу ці ўтварае яго пасьля вельмі значнай колькасьці злучэньняў, і 4) торпідны тып, які характарызуецца вялым станам нэрвовай сыстэмы, агульнай слабасьцю ўзбуджэньня і торможэньня. Па сутнасьці і гэты падзел кладзе ў аснову хуткасьць і моцнасьць рэакцый. Узбуджлівы тып, напрыклад, зусім адпавядае тыпу моторна-пасыўнаму, тып торпідны—сэнсорна-пасыўнаму і г. д.

Хуткасьць і моцнасьць рэакцый, будучы прыроджанымі псыхофізыолёгічнымі адзнакамі, выяўляюцца ўжо ў вельмі раньнім узросьце. Пры наведваньні вялікіх дзіцячых дамоў, кажа проф. Лесгафт, лёгка прыкмеціць, што нованароджаныя дзеці розьняцца паміж сабою ня столькі рысамі твару, колькі моцнасьцю і хуткасьцю сваіх жыцьцёвых праяў: адзін больш рухавы, голас яго больш моцны, на кожнае раздражненьне ён адказвае мацней, сваё нездавальненьне выяўляе досыць рэзкімі рухамі; другі, наадварот, вялы, павольна рухаецца, голас слабы, павольна і слаба адказвае на раздражненьні.

Вядомы нагляданьні псыхолёга Пэрэ над трыма 8-9-месячнымі дзяцьмі. Ён пасадзіў іх сярод пакою і паставіў у некаторай адлегласьці ад іх цацку—коніка. Першае дзіця адразу выявіла захапленьне, замахала рукамі, кінулася ўперад, стала падаць, плакаць, але ўсё-ж такі ня спыняла рухацца да цацкі; другое спачатку раскрыла рот і ўставілася на цацку вачыма; яно доўга глядзела на яе, затым стала таксама махаць рукамі і знакамі прасіць наглядальніка даць яму цацку; трэцяе глядзела на цацку спакойна і больш цікавілася рухамі першых двох дзяцей. Першае дзіця, на думку Пэрэ,—будучы сангвінік ці холерык, другое—мэлянхолік, трэцяе—флегматык.

У школьным узросьце паказаныя адзнакі выяўляюцца ўжо досыць яскрава, і кожны ўважлівы выхавальнік можа шляхам больш ці менш працяглага нагляданьня, вывучаць сваіх выхаванцаў з гэтага боку. Вядома, што хуткасьць і моцнасьць рэакцый—гэта толькі асноўныя тыповыя рысы паводзін людзей; кали гэтых рысаў, на грунце іх, групуюцца цэлыя комплексы іншых прыроджаных і набытых рэакцый, якія і складаюць індывідуальнасьць чалавека. На падставе шматлікіх пэдагогічных нагляданьняў розных псыхолёгаў і пэдагогаў, [1]) мы пастараемся даць пэдагогічныя малюнкі паводзін дзяцей школьнікаў, карыстаючыся паказанай клясыфікацыяй.

*Моторна-пасыўны тып* адзначаецца хуткай успрыймальнасьцю, жывой уражлівасьцю і ўзбуджлівасьцю. Ён вельмі цікавы да ведаў, але няўсідлівы ў занятках; з хуткасьцю і прагавітасьцю засвойвае веды, але лёгка і хутка іх забывае; ён хоча ўсяму вучыцца, у чым няма пакуль-што патрэбы і адварочваецца ад таго, што трэба вучыць зараз; заданьне ён вывучвае хутка і запэўнівае, што ведае, на самай справе ведаючы яго дрэнна. У гутарцы ён хутка пераходзіць ад аднаго прадмету да другога. Выабражэньне яго жывое, але няўстойлівае; памяць хуткая, але ня трывалая, увага больш пасыўная, раскіданая; сур'ёзная разумовая работа яму не пад сілу, з гэтай прычыны матэматыка, напрыклад, даецца яму цяжка. Ён вельмі павярхоўны ў сваіх суджэньнях і пачуцьцях; ён з ахвотай коўзаецца па ўсім, і ўсё коўзаецца па ім» (Фулье); усе захапленьні яго нятрывалыя і няглыбокія. Гэты тып можа быць вынаходлівым і дамысьлівым, але пачатае ён не даводзіць да канца; ён заўсёды заняты, але заняткі яго—ня праца, а забава; любіць будаваць розныя проекты, але хутка іх кідае. Жыве гэты тып, галоўным чынам, сучасным, мінулае ў яго хутка забываецца, а разважаць пра будучае яму ня цікава. Ён вялікі весялун, гаварлівы, таварыскі, прыветны, бязрупатны, настрой яго у большасьці оптымістычны. Мяккі, добрадушны, ён зьяўляецца чулым таварышом, лёгка спачувае людзям, але сымпатыі яго не працяглыя і нятрывалыя;

[1]) **Кант, Вундт, Гельвіг, Фулье, Рыбо, Ушынскі, Лесгафт, Лазурскі, Сакалоў, Карнілаў ды інш.**

добрыя намеры пераважаюць над добрымі ўчынкамі. Слова ў яго часта разыходзіцца са справай; ён лёгка дае абяцаньні, але іх ня выконвае; мае нахіл да маны, ліслівасьці, інтрыг, гонарлівасьці. Мітусьлівы, лёгкамысны, часта парушае школьную дысцыпліну; аднак, за ўступчывасьць, паслушэнства, шчырасьць, лагоднасьць і вясёласьць ён, у большасьці, карыстаецца прыхільнасьцю з боку выхавальнікаў.

У адносінах да моторна-пасыўнага тыпу (сангвініка) выхаваўчы ўплыў павінен быць накіраваны, галоўным чынам, на разьвіцьцё і ўзмацненьне яго актыўнасьці. Неабходна прымушаць яго даводзіць пачатую работу да канца, цікавіцца самым процэсам работы, тэй напружанасьцю, якая ў яе ўкладаецца, а ня толькі вынікамі работы; трэба стрымліваць яго рухавасьць, мітусьлівасьць і дурэньне, прывучаць да наглядальнасьці, уважлівасьці і ўдумлівасьці, да выкананьня сваіх абяцаньняў і добрых намераў.

*Моторна-актыўны тып* так сама, як і папярэдні, успрыймальны і ўражлівы, але ўладае моцнай актыўнасьцю. У інтэлектуальных адносінах ён таксама характарызуецца цікавасьцю да ведаў, але засвойвае іх не павярхова, а імкнецца ўнікнуць у іх сутнасьць; яму падабаецца самы процэс разумовай працы, напрыклад, разьвязваньне задач, і ён імкнецца, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, давесьці працу да канца. Выабражэньне яго больш слабое, чым у моторна-пасыўнага тыпу, інтарэсы ня так разнастайныя, але яны больш сталыя і ўстойлівыя. Жыцьцё гэтага тыпу праходзіць, галоўным чынам, у знадворнай дзейнасьці: ён разважае мала, але дзейнічае хутка; «ён заўсёды ідзе ўперад і адчувае цану жыцьця» (Фулье). Жывы, рухавы, прадпрыемны, ён, разам з гэтым, энэргічны, настойлівы і рашучы. Перашкоды толькі павялічваюць яго энэргію, пярэчаньні яго раздражняюць, уціск свабоды выклікае з яго боку протэст і ўпартасьць, супраціўленьне яго імкненьням выклікае гарачнасьць. Жаданьні гэтага тыпу ясныя, сур'ёзныя і трывалыя; сымпатыя і таварыскасьць моцныя, але выяўляць ласкавасьць ён ня ўмее. Яму ўласьцівы такія рысы, як: шчырасьць, велікадушнасьць, адважнасьць, але ён прыхільны і да гонорлівасьці ўладалюбства, запальчывасьці, гняўлівасьці, імсьлівасьці; ён з цяжкасьцю прызнаецца ў сваіх памылак, нярэдка бывае рэзкім і грубым; любіць панаваць, слухаць пахвалы і быць першым у грамадзкасьці; ён адчувае сябе няшчасным, калі яму прыпадае падпарадкавацца, і шчасьлівым, калі іншыя падпарадкуюцца яму.

У школе гэта, у большасьці, лепшыя вучні па посьпехах, але горшыя па паводзінах; яны з вялікай цяжкасьцю падпарадкуюцца патрабаваньням школьнай дысцыпліны, наравістыя, упартыя; у адносінах да таварышоў яны даюць адчуваць сваю перавагу, у гульнях яны камандуюць, у агульных справах зьяўляюцца правадырамі. Гэта цяжкі, але і каштоўны для выхаваньня тып; патрабаваньні, пагрозы і кары ў адносінах да такога тыпу не зьяўляюцца карыснымі захадамі: ён адкідвае ад сябе ўсё, што яму прымусова навязваюць. Выхавальніку трэба заслужыць павагу і любоў такога вучня, і тады мець уплыў на яго будзе лёгка, а праз яго часта і на ўсю клясу. Трэба даваць такому вучню заўсёды новую і сур'ёзную работу дзеля таго, каб яго энэргія знаходзіла для сябе належнае прыстасаваньне; у такіх вучняў, звычайна, рана выяўляюцца нахілы да спэцыяльных заняткаў, якія (нахілы) і трэба разьвіваць. Трэба выпрацоўваць у такіх падросткаў самаўладаньне, прабуджаць пачуцьцё праўдзівасьці, даваць ідэёвы напрамак іх актыўнасьці. Выхавальніку трэба быць вельмі выбачным да рэзкіх учынкаў моторна-актыўнага тыпу (холерыка), яго ўпартасьці і непаслушэнства, памятаючы, што, калі пашэнціць накіраваць яго энэргію на належны шлях, ён можа стаць вельмі каштоўным членам грамадзтва.

*Сэнсорна-актыўны тып* характарызуецца слабой знадворнай ўспрыймальнасьцю, але моцнай актыўнасьцю. Ён ня хутка рэагуе на знадворныя ўражаньні, не раскідваецца ў сваіх занятках, пачуцьці і імкненьні яго ўзбуджаюцца паволька. Ён мала рухавы, мала цікавіцца знадворным, больш жыве ўласнымі ўнутранымі перажываньнямі. Здароўе гэта-

га тыпу часта слабое, што і прымушае яго думкі сконцэнтроўваць на самым сабе, у той час, як добрае здароўе больш накіроўвае нашу ўвагу на знадворныя прадметы. Жыве сэнсорна-актыўны тып (мэлянхолічны), галоўным чынам, пачуцьцём; з гэтай прычыны і інтэлектуальнай сфэры яго пераважае выбражэньне, але і спакойная і сконцэнтраваная работа мысьлі таксама дае яму задавальненьне. Ён сур'ёзна глядзіць на рэчы, да ўсяго адносіцца ўдумліва, асьцярожна, крытычна. У ім няма рэзкіх праяў, ён сталы ў дзеяньнях, добрасумленны ў выкананьні сваіх заняткаў. Калі да гэтага далучаюцца добрыя разумовыя здольнасьці, гэты тып зьяўляецца вельмі каштоўным у інтэлектуальных адносінах. Пачуцьці яго таксама інтэнсыўныя і трывалыя. Дзякуючы сконцэнтраванасьці ўвагі на сваіх унутраных перажываньнях, такому падростку ўласьцівы падазронасьць, боязнасьць, дзіклівасьць, скрытнасьць; ён шукае адзіноцтва, марыць, нярэдка робіцца нялюдзімым, недаверлівым, абразьлівым, самалюбным. Агульны тон яго жыцьця смутны: «больш пакутуе ад маленькага няшчасьця, чым радуецца вялікаму шчасьцю» (Рыбо). Яму ўласьцівы нярэдка зайздрасьць, нязычлівасьць і выбухі гневу. Перашкоды яго засмучаюць, часам прыводзяць у роспач і адымаюць энэргію. Няўдзячлівасьць таварышоў яго глыбока засмучае, сам жа ён бывае шчыра ўдзячлівы нават за нязначныя паслугі. Ён мяккі і жаласьлівы ў адносінах да таварышоў, гатовы заўсёды на ўступкі; павольна знаходзіць для сябе прыяцеляў, але потым глыбока і моцна прывязваецца.

У школьным узросьце гэты тып выяўляецца ня так рэльефна, але ў кожнай школе магчыма ўсё-ж лёгка знайсьці дзяцей з паказанымі прыроджанымі задаткамі; школьнікі гэтага тыпу скромныя, трымаюцца асобна, ня прымаюць удзелу ў гульнях, больш сядзяць за кнігамі. З такімі дзяцьмі абыходзіцца трэба асабліва асьцярожна, яны патрабуюць сардэчнасьці і ласкі: кожная несправядлівасьць, а тым больш насьмешка іх глыбока абражаюць і прымушаюць моцна пакутаваць. Трэба даваць ім пабольш знадворных уражаньняў, прыцягваць да агульнай працы, выпрацоўваць сьмеласьць у дзеяньнях.

*Сэнсорна-пасыўны тып* характарызуецца і слабой успрыймальнасьцю і слабой актыўнасьцю. Ён вельмі павольна рэагуе на знадворныя ўражаньні, інэртны ў пачуцьцях, асабліва павольны ў дзеяньнях. Кожная напружанасьць, асабліва фізычная праца, для яго спачатку зьяўляецца вельмі цяжкой; яму больш падабаецца спакой; зьмена ў жыцьці, новае ў працы яго ня цікавіць; ён аддае перавагу аднастайнасьці, больш ахвотна займаецца аднэй звычнай справай. Ад гэтага тыпу нельга чакаць хуткай цямлівасьці, жывасьці думкі і фантазыі, але ён нярэдка ўладае добрай памяцьцю, здаровым разважаньнем, цярпеньнем і настойлівасьцю ў рабоце. Сэнсорна-пасыўны тып (флегматык) не раскідваецца ў рабоце, дзейнасьць яго выяўляецца павольна, але спакойная, рэгулярная і працяглая работа яго можа здавальняць. Пачуцьці яго таксама разьвіваюцца павольна і слаба, але павольна і зьнікаюць і таму адзначаюцца трываласьцю ці, больш правільна, цягучасьцю (Лесгафт). Ён, у большасьці, спакойны і халодны, з цяжкасьцю раздражняецца, рэдка скардзіцца, пераносіць няпрыемнасьці цярпліва і не хвалюецца няшчасьцем іншых; ён не ўладалюбівы, лёгка ўжываецца з іншымі, прыяцеляў знаходзіць ня хутка, але знайшоўшы, доўга іх ня кідае. Падростак такога тыпу ня любіць умешвацца ў чужыя справы, у сваіх дзеяньнях заўсёды ведае іх мэту; ён можа ставіць для сябе далёкія мэты і мэтодычна дасягаць іх. Яго спакойнасьць, павольнасьць і халоднасьць могуць пераходзіць у гультайства, апатыю, бясклопатнасьць і нуду, але гэта ўжо хваравітыя зьявы (Ушынскі). З другога боку, з гэтага тыпу можа выпрацавацца карысны працаўнік, які працуе павольна, але грунтоўна, і асабліва каштоўны ў працы мэханічнай, аднастайнай, якая патрабуе цярпеньня. Для таго, каб прывучыць такі тып да больш энэргічнай дзейнасьці, выхавальніку бывае патрэбна ўжываць суровасьці і прымус, але магчыма і ў такім тыпе ўзбудзіць інтарэс і ахвоту да работы.

Прыведзеныя пэдагогічныя малюнкі розных тыпаў зьяўляюцца тыповымі малюнкамі; у кожнай асобе ёсьць рысы розных тыпаў і аднесьці тую ці іншую асобу да таго ці іншага тыпу магчыма толькі па перавазе ў ёй тых ці іншых рысаў. Прыроджаныя рысы паводзін не застаюцца нязьменнымі на ўсё жыцьцё: яны зьмяняюцца з узростам: дзіцячаму ўзросту больш уласьцівы рысы моторнапасыўнага тыпу, старасьці—рысы сэнсорна-пасыўнага тыпу; зьмены прыроджаных уласьцівасьцяй адбываюцца ў залежнасьці ад стану здароўя, ад характару сталых заняткаў чалавека і, галоўным чынам, ад уплыву акаляючага соцыяльнага асяродзьдзя, але ўсе-ж такі прыроджаныя ўласьцівасьці застаюцца ў той ці іншай ступені на ўсё жыцьцё, то зьмяншаючыся, то ўзмацняючыся ў сваіх праявах.

У школьным узросьце прыроджаныя асаблівасьці паводзін параўнальна лягчэй могуць быць вызначаны, бо, з аднаго боку, да гэтага часу яны ўжо дастаткова выяўлены ў асобе, з другога—набытыя асаблівасьці не пасьпелі яшчэ разьвінуцца. Ведаць прыроджаныя якасьці сваіх выхаванцаў для пэдагога вельмі важна. Нельга патрабаваць ад прыроджанага флегматыка хуткай цямлівасьці і рухавасьці, ад сангвініка—усідлівасьці і ўдумлівасьці, ад мэлянхоліка—жвавасьці і ўспрыймальнасьці, ад холерыка—мяккасьці і вытрыманасьці. Нельга да ўсіх ужываць і аднолькавыя сродкі выхаваньня: на аднаго дзейнічае строгасьць, на другога— прыхільнасьць настаўніка; адзін патрабуе прымусовага ўплыву, другі—пераважна ўважлівага і ласкавага абыходжаньня.

З тэй характарыстыкі школьных тыпаў, якую мы вышэй далі, можна бачыць, што ў кожным тыпе ёсьць і добрыя і дрэнныя рысы, і кожны тып можа стаць вельмі каштоўным для жыцьця, калі выхаваньне здолее выгебляваць апошнія. У гэтых адносінах на дапамогу выхавацелям прыходзіць і сумеснае жыцьцё падрастаючых у сям'і і школе; тут сангвінік сваёй вясёласьцю і рухавасьцю робіць уплыў на флегматыка і мэлянхоліка, флегматык стрымлівае запал холерыка і мітусьлівасьць сангвініка, холерык уплывае на іншых сваёй рашучасьцю і цьвёрдасьцю, мэлянхолік—сваім спакоем і ўдумлівасьцю. У гэтых мэтах выхавацель можа і сьвядома ўтвараць падыходзячыя ўмовы для разьвіцьця сваіх выхаванцаў, шляхам адпаведнага выбару таварышоў у гульнях і занятках, пры разьмяшчэньні ў клясе па лаўках і г. д.

# ПЯЦІГОДКА І КАДРЫ

Сілін

## Пра дакваліфікацыю настаўнікаў профтэхнічных устаноў

*(У парадку абгаварэньня прапаноў т. Аронава).*

Зьмяшчаючы ў папярэднім нумары артыкул т. Аронава, рэдакцыя адзначыла каштоўнасьць думкі аўтара, пакінуўшы спрэчнымі асобныя палажэньні, якія ён высоўвае.

У гэтым артыкуле я маю намер разабраць гэтыя спрэчныя месцы і інфармаваць шырокія колы настаўніцтва пра становішча гэтай справы; прывесьці для яснасьці і ўяўленьня яе вялізарнасьці некаторыя статыстычныя даныя і атрымаць на старонках нашай часопісі каштоўную для НКА думку і погляды на гэтую справу з боку таварышоў з настаўніцкага актыву. Толькі пасьля шырокага абгаварэньня пытаньне пра кваліфікацыю і дакваліфікацыю настаўнікаў для профтэхнічных устаноў можа быць правільна вырашана.

Перш за ўсё я стаўлю пытаньне значна шырэй, чымся дакваліфікацыя існуючых кадраў, як гэта ставіць т. Аронаў, і высоўваю яшчэ большую і важнейшую проблему—проблему забесьпячэньня індустрыяльных і наогул профтэхнічных навучальных устаноў і, нават, ствараемых політэхнічных школ новымі пэдагогічнымі сіламі ў патрэбнай колькасьці і адпаведнай якасьці.

Вядома, што ня кожны настаўнік, нават і з высокай пэдагогічнай кваліфікацыяй, падыходзіць для работы ў індустрыяльных профтэхнічных навучальных установах.

Вядома з практыкі, што скончыўшыя фізмат пэдфаку БДУ ня ўсе бяруцца выкладаць так званыя агульна-тэхнічныя прадметы ў індустрыяльных тэхнікумах і профтэхшколах. Шмат хто з іх, азнаёміўшыся з праграмамі па матэматыцы, фізыцы, хэміі, машыназнаўству, электратэхніцы, мэханіцы, прызнаюць сваю непадрыхтаванасьць да прапрацоўкі з вучнямі, будучымі тэхнікамі, гэтых дысцыплін, насычаных тэхнічным вытворчым зьместам.

Больш сьмелыя з іх, якія бяруцца за гэту работу, не адразу ўваходзяць у курс справы. Першыя гады яны далёкі ад тэхнічнага ўхілу і выкладаюць свой прадмет бязымянна; яны ня могуць падабраць прыкладаў і заданьняў з галіны вытворчасьці і нярэдка трапляюць у нялоўкае становішча перад вучнямі. Гэта хворае месца ў індустрыяльных установах. Акруговая інспэктура ведае, як цяжка ўкомплектоўваць такія школы адпавядаючым настаўніцкім складам. У папярэднія гады і цяпер адчуваецца вялікі недахоп такіх належна падрыхтаваных выкладчыкаў па агульна-тэхнічных прадметах з вытворчым ухілам і ня меншы дэфіцыт выкладчыкаў спэцыяльных дысцыплін.

Вядомы выпадкі, калі з-за адсутнасьці адпаведнага выкладчыка тэхнічныя і спэцыяльныя дысцыпліны не праходзіліся на працягу цэлага году, і профшкола траціла твар спэцыяльнай установы.

Патрэба ў такога роду пэдагогах-спэцыялістых вялізарная; становішча з задавальненьнем гэтай патрэбы пагражаючае.

Вось даведка аб сетцы індустрыяльных тэхнікумаў і профтэхнічных школ

БССР у яе пэрспэктыўным разьвіцьці па пяцігадоваму пляну 1928-29—1932-33 г.г. Яна прадстаўляецца ў наступных орыентыровачных лічбах:

| Гады | Індустрыяльныя профтэхкурсы | | | | | | | Усяго разам па ўсіх пераліч. навуч. устан. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік устаноў | Лік адздзял. | Лік груп | Лік вучняў | Агульны лік настаўн. гадз. па навуч. пляну | Лік патр. настаўн. адз. | Дадатк. патр. настаўн. адз. | Патрэба ў абсолютн. лічбах | Дадатковая патрэба |
| 1928-29 | — | — | — | — | — | — | — | 212 | — |
| 1929-30 | 111 | — | — | 6155 | 21,8 | 33 | 33 | 419 | 207 |
| 1930 31 | 132 | — | — | 12945 | 28,5 | 44 | 11 | 1155 | 736 |
| 1931-32 | 132 | — | — | 12545 | 28,5 | 44 | — | 1736 | 581 |
| 1932-33 | 152 | — | — | 12545 | 28,5 | 44 | — | 2389 | 633 |
| **Разам** | — | — | — | — | — | — | **44** | — | **2157** |

Бяручы навучальныя пляны кожнага тыпу навучальных устаноў з вызначэньнем проц. суадносін паміж прадметамі, мы можам агульную лічбу патрэбнага ліку дадатковых настаўнікаў у 2157 асоб разьбіць па спэцыяльнасьцях, і тады атрымаем:

| Спэцыяльнасьці настаўнікаў | Лік настаўніцкіх гадзін: Індустр. тэхн. | | Інд. профтэхшкол | | Нав. вытвор. майст. | | Школа ФЗВ | | Профтэхкурсы | | Па ўсіх установах | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | % | Патр. лік наст. адз. | % | Патр. лік наст. адз. | % | Патр. лік наст. адз. | % | Патр. лік наст. адз. | % | Патр. лік наст. адз. | % | Патр. лік наст. адз. |
| Грамадазнаўцаў | 8,4 | 101 | 17 | 39 | 16 | 8 | 14 | 10 | 14 | 17 | 12,5 | 165 |
| Мовазнаўцаў | 9,6 | 115 | 11 | 25 | 17 | 8 | 10 | 6 | 10 | 5 | 11,5 | 159 |
| Прыродазнаўцаў | 12,0 | 144 | 20 | 45 | 21,2 | 10 | 18 | 12 | 18 | 8 | 14,2 | 219 |
| Матэматыкаў | 9,2 | 110 | 11 | 25 | — | — | 7 | 4 | 10 | 5 | 5,8 | 144 |
| Выклад. спэц. прадметаў: Машыназн. аг. і фіз. і мэх., Графікаў, Электратэхнікаў, Машыназн. спэц. і мэх., Тэхнолёгаў, Будаўнікоў, Гідратэхнікаў і мэліоратараў, Тарфянікаў, Экономістаў, Дарожнікаў, Хэмікаў-тэхнолёгаў, Радыё тэхнікаў, Геолёгаў, Керамікаў, Тэкстыльшчыкаў, С.-г. агнятр. будаўн. | 56 | 672 | 31,7 | 72 | 34 | 13 | 40,17 | 602 | 48 | 19 | 42 | 1378 |
| Швейнікаў | — | — | 4,7 | 11 | 11,8 | 6 | 4,6 | 3 | — | — | 4,2 | 20 |
| Фізкультурнікаў | 4,8 | 57 | 4,6 | 11 | — | — | 4,6 | 3 | — | — | 2,4 | 72 |
| Ваенізатараў | | | | | | | | | | | | |
| **Усяго** | — | **1200** | — | **228** | — | **45** | — | **640** | — | **44** | — | **2157** |

Вось гэтую невялічкую колькасьць у 2157 новых настаўніцкіх адзінак і трэба здабыць на працягу пяцігодкі, у дадатак да існуючых кадраў, для забесьпячэньня толькі адных індустрыяльных профтэхнічных навучальных устаноў, якія па плянавым меркаваньні да канца пяцігодкі павінны будуць падрыхтаваць вялі-

чэзную армію тэхнікаў і кваліфікаваных рабочых, патрэбных для ажыцьцяўленьня намечанага пляну соцыялістычнага будаўніцтва.

Паглядзім зараз, якія крыніцы мы маем і якія могуць даць патрэбны па колькасьці і па якасьці контынгент такіх настаўнікаў.

Перш за ўсё будзе магчыма і прыдзецца скарыстоўваць частку выпускнікоў комвузу і пэдфаку, а таксама скончыўшых гэтыя ўстановы раней. Такім чынам, цыкль грамадазнаўчы, мовазнаўчы і прыродазнаўчы можа быць забясьпечаны поўнасьцю.

Цяжэй справа з агульна-тэхнічным цыклем. Звычайна гэты цыкль абслугоўваўся настаўнікамі з вышэйшай пэдагогічнай асьветай (пераважна фізматаўцамі), якія за шэраг год работы ў профтэхнічных школах прыстасаваліся, але, як вядома, ім гэта далося нялёгка, бо ў звычайных пэдагогічных навучальных установах адсутнічаў тэхнічны ўхіл. Цяпер у РСФСР і УССР такія настаўнікі рыхтуюцца спэцыяльнымі індустрыяльна-пэдагогічнымі ўстановамі ці дадаткова вымі вышэйшымі тэхнічна-пэдагогічнымі курсамі.

Другою крыніцаю выкладчыкаў гэтай катэгорыі, а таксама і для выкладаньня спэцыяльных і вузка-спэцыяльных дысцыплін, як тэхнолёгія, спэцыяльнае машыназнаўства, тэхнічная мэханіка, цяплотэхніка, электратэхніка, будаўніцтва і г. д., а таксама графікі і проектаваньня, дзе побач з пэдагогічнай адукацыяй патрэбна і значная тэхнічная кваліфікацыя, можа быць спэцыяльны індустрыяльна-пэдагогічны інстытут з належна пастаўленым вытворчым і пэдагогічным практыкумам па розных спэцыяльнасьцях. Але такой ўстановы няма, і на працягу пяцігодкі калі і ўдасца стварыць яе, дык рэальных вынікаў яна даць яшчэ не пасьпее. Прыдзецца, як і да гэтага часу, запрашаць спэцыялістых з вытворчасьці, нагружаць іх па сумяшчэньню ці лавіць, хто з іх пападзецца выпадкова. Таму трэба сур'ёзна падумаць аб іншых крыніцах, аб экстраордынарных мерапрыемствах і на іх налегчы, каб не застацца без патрэбных кадраў.

Мы ведаем, што значыць прыцягненьне спэцыялістых з вытворчасьці, дзе ў іх таксама адчуваецца вялікі дэфіцыт, дзякуючы чаму яны зьяўляюцца вельмі перагружанымі. Зьнімаць жа іх для пэдагогічнай дзейнасьці—гэта значыць яшчэ больш абвастрыць крызіс тэхнічных сіл на вытворчасьці.

Хоць НКА і зроблены некаторыя захады да забесьпячэньня некаторай колькасьцю спэцыялістых-пэдагогаў, але ўсё гэта можа даць вынікі вельмі нязначныя па колькасьці. Можа, хіба з пераходам профтэхнічных навучальных установаў у распараджэньне гаспадарчых органаў, калі ВСНГ сапраўды прымушаны будзе цікавіцца справай профтэхасьветы, становішча з перакідкай спэцыялістых з вытворчасьці ў навучальныя ўстановы палегчыцца.

Такім чынам, усімі пералічанымі спосабамі, згодна распрацаванага ў НКА пляну, магчыма будзе забясьпечыць нашу сетку індустрыяльных профтэхнічных устаноў у адносінах агульнага цыклю цалкам, у адносінах агульна-тэхнічнага цыклю на 30-40% і ў адносінах спэцыяльнага цыклю да 40-50%. Пры гэтым нельга быць упэўненым у адпаведнасьці нават і гэтых 50% у сэнсе іх дастатковай якасьці. Праўда, у першыя гады, калі новыя ўстановы адчыняць толькі малодшыя курсы, запатрабаваньні да якасьці выкладчыкаў агульна-тэхнічных і спэцыяльных прадметаў можна трохі зьнізіць, пры гэтых умовах можа і ўдасца здабыць там-сям «заваляўшыхся» спэцыялістых, але-ж гэта ня выхад, і на далейшы пэрспэктыўны час справа становіцца горш і сур'ёзней, і трэба, не чакаючы, паклапаціцца аб нейкіх экстраордынарных мерапрыемствах.

Зараз мы гаварылі толькі пра індустрыяльныя ўстановы профтэхасьветы. Справа амаль такая-ж і ў адносінах сельска-гаспадарчых навучальных установаў. Ня трэба таксама забывацца і пра політэхнізацыю соцвыхаўскіх школ, дзе таксама патрабуецца нямалы кадр індустрыялізаваных (калі можна так казаць) настаўнікаў.

Далей трэба адзначыць, што ўжо цяпер жыцьцё вымагае ад пэдагога іншых

больш складаных запатрабаваньняў. Пэдагог цяпер ня можа заставацца толькі выкладчыкам свае дысцыпліны: ён павінен зьяўляцца і організатарам вучобы і вытворчасьці, быць у той-жа час настаўнікам-выхавацелем, мэтодыстым і грамадзкім дзеячом.

Нездарма сэсія ГУС (сакавік 1930 г.) устанавіла наступныя запатрабаваньні ад пэдагога індустрыяльных школ: ён павінен: а) умець ужываць марксыцкі мэтод да пэдагогічнай работы; б) умець організаваць як унутрышкольнае, так і пазашкольнае асяродзьдзе; в) умець прыстасаваць свае спэцыяльныя веды да рацыяналізацыі вытворчага процэсу, адпаведным чынам організуючы вытворчую дзейнасьць вучняў і рабочых; г) умець ужываць свае пэдагогічныя веды ў сваёй пэдагогічнай практыцы для правільнага і мэтазгоднага накіроўваньня вучняў па спэцыяльнасьцях адпаведна іх псыха-фізыолёгічным асаблівасьцям.

У вялікай проблеме падрыхтоўкі кадраў наогул, у прыватнасьці—тэхнічных кадраў, паўстае пытаньне папярэдняй падрыхтоўкі «кадраў для кадраў». У гэтых адносінах зроблены ўжо некаторыя захады (організацыя падрыхтоўчых курсаў для моладзі). Побач з гэтым паўстае пытаньне, хто-ж будзе рыхтаваць гэтыя кадры, так сказаць, кадры для падрыхтоўкі кадраў? З вышэйпададзенага мы бачылі, у якой ступені выраша на гэтая справа. Незабясьпечанасьць у гэтым напрамку можа пагражаць справе належнай падрыхтоўкі вытворча-тэхнічных і кваліфікавана-рабочых кадраў. Трэба зараз-жа, пакуль ня позна, ужыць рашучыя захады.

Да такіх захадаў, як і т. Аронаў у сваім артыкуле, адношу спэцыяльныя тэхніка-пэдагогічныя курсы. Але зрабіць гэтыя курсы выключна для настаўнікаў, якія ўжо працуюць у профтэхнічных установах, ды пры тым абмежаваць іх яшчэ абавязковым 5-гадовым стажам, не дапускаючы сьвежую моладзь, лічу немэтазгодным. Здымаць з работы і пасылаць на курсы значную колькасьць асоб таксама немагчыма і вельмі дорага. Улічваючы-ж абавязковую наяўнасьць у курсантаў дастатковых папярэдніх ведаў, у адных—пэдагогічных, у другіх—індустрыяльна-тэхнічных, трэба стварыць тым, хто жадае працаваць у профтэхнічных установах, магчымасьць напоўніць прабелы ў гэтых адносінах: першых—«атэхнічыць», а другіх—«апэдагогіць» і падрыхтаваць належных *пэдагогаў-тэхнікаў*.

Як больш мэтазгодная форма, якую можна ажыцьцёвіць пры сучасных умовах,—гэта завочна-вочныя курсы. Трэба спадзявацца, што адпаведны контынгент добраахвотнікаў для гэтага знойдзецца, абы толькі гэтая справа была організавана і як сьлед пастаўлена.

Трэба організаваць справу так, каб курсант мог знайсьці на гэтых завочных курсах менавіта тое, чаго яму нехапае; мог-бы набыць патрэбны матар'ял, літаратуру, мець консультацыю і ў сваю чаргу мог-бы праявіць на курсах тое, на што ён здольны, каб працаваць у профтэхнічнай галіне асьветы. Мне супярэчаць у тым, што ў большасьці асоб, якія звычайна запісваюцца на завочныя курсы, нехапае часу для самастойнае прапрацоўкі матар'ялу, і лічаць больш мэтазгоднымі вочныя курсы. Гэта, па меншай меры, ня сур'ёзнае супярэчаньне. У таго, хто сур'ёзна бярэцца за справу,—час знойдзецца. Іншая справа, калі ставіць пытаньне аб частковай службовай разгрузцы курсантаў і аслабленьні ад грамадзкай нагрузкі на час вучобы на курсах, а таксама аб павялічэньні тэрміну навучальных конфэрэнцый, прадугледжаных палажэньнем аб завочных курсах, проект палажэньня і навучальнага пляну якіх ужо складзены і перададзены ў М. Б. І. Т., ЦП саюзу працасьветы і ў колегію НКА для канчатковага вырашэньня.

Проект гэты заключаецца ў наступным:

### Асноўныя рысы алажэньня аб завочна-вочных аднагадовых тэхніка-пэдагогічных курсах.

1. *Мэта курсаў*—палепшаньне пэдагогічнага складу профтэхнічных, індустрыяльных і сельска-гаспадарчых навучальных устаноў (тэхнікумаў, профшкол, школ ФЗВ, навучальна-вытвор-

чых майстэрняў, профтэхкурсаў і г. д.) як у сэнсе падвышэньня вытворча-тэхнічных іх кваліфікацый, гэтак і марксыцка-пэдагогічнай падрыхтаванасьці, а таксама падрыхтаваць дадатковыя кадры такіх выкладчыкаў, з ліку наяўнага настаўніцкага пэрсоналу школ соцвыху, якія-б былі прыгодны для пашыраючайся сеткі новых профтэхнічных навучальных устаноў і 7-мі і 10-гадовых політэхнічных школ з профэсійнымі ўхіламі.

2. *Задача курсаў*—садзейнічаньне пэдагогічным працаўніком профтэхнічных навучальных устаноў, а таксама жадаючым працаваць у іх, у падвышэньні, пашырэньні і паглыбленьні ведаў як у галіне выкладаемых імі агульна-тэхнічных і спэцыяльных прадметаў, згодна найноўшых дасягненьняў навукі і тэхнікі, таксама і ў галіне марксыцкай пэдагогікі, мэтодыкі выкладаньня ў профтэхнічных навучальных установах.

3. *Шляхі ажыцьцяўленьня пастаўленых задач:* а) організацыя завочнага навучаньня і самаадукацыі курсантаў як адзіночным, так і гуртковым парадкам; б) распрацоўка навучальных плянаў, програм, заданьняў для самастойнай распрацоўкі тэхнічных і мэтодычных пытаньняў; в) праверка праробленых прапрацовак і дача па іх заключэньняў; г) консультацыя па асобных пытаньнях; д) рэкомэндацыя адпаведнай літаратуры; е) правядзеньне кароткатэрміновых курсаў-конфэрэнцый з цыклямі спэцыяльных лекцый для завочнікаў, перадачай гэтых лекцый па радыё, а таксама організацыя навучальных экскурсій па БССР і ў іншыя рэспублікі; ж) ажыцьцяўленьне праверкі пасьпяховасьці курсантаў і атэстацыі іх у падрыхтаванасьці на права выкладаньня тых ці іншых агульна-тэхнічных і спэцыяльных дысцыплін у профтэхнічных навучальных установах.

4. *Курсы маюць асобныя цыклі:*

а) *цыкль грамадзка-марксыцкага мінімуму*—для агульнай політычнай падрыхтоўкі выкладчыкаў і азнаямленьня іх з марксыцкім сьветапоглядам наогул і ў галіне пэдагогікі ў прыватнасьці;

б) *цыкль агульна-тэхнічны*—для паўтарэньня і паглыбленьня асноў фізыка-матэматычных навук у прыстасаваньні іх да пэўных галін тэхнікі, прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, а таксама з мэтодыкай іх выкладаньня;

в) *цыкль спэцыяльна-тэхнічны*—для выкладчыкаў спэцыяльных прадметаў, з мэтаю паглыбленьня і пашырэньня тэорытычных ведаў па спэцыяльнасьці ў сувязі з найноўшымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі, а разам з гэтым для азнаямленьня з мэтодыкай выкладаньня спэцыяльных прадметаў і практычным вытворчым навучаньнем.

5. Курсы пачынаюцца з кароткатэрміновай навучальнай конфэрэнцыі курсантаў, дзе ім прачытваецца кароткі цыкль уступных лекцый, і даецца зарадка і напрамак далейшай іх самастойнай работы, ужо завочным шляхам.

6. Курсанты падзяляюцца на некалькі груп як па ступені свае папярэдняй падрыхтаванасьці, таксама і па спэцыяльнасьцях. Гэтыя групы працуюць па асобнаму пляну, пад завочным кіраўніцтвам спэцыяліста з навучальнай часткі курсаў, выконваючы шэраг заданьняў. У працягу навучальнага года курсы організуюць шэраг навучальных экскурсій курсантаў-завочнікаў як у буйныя прамысловыя цэнтры, колгасы, так і ва ўзорныя профтэхнічныя навучальныя установы БССР, УССР і РСФСР.

7. Тэрмін навучаньня на завочных курсах—*адзін год,* на працягу якога праводзіцца абавязкова ня менш двух усебеларускіх навучальных конфэрэнцый, у сярэднім па 10 дзён кожная, і шэраг мясцовых, акруговых і гарадзкіх конфэрэнцый па меры патрэбы, тэхнічнай магчымасьці і ініцыятыве саміх курсантаў. Курсанты, не пасьпеўшыя ў працягу году выканаць усе заданьні, з дазволу курсаў залічваюцца курсантамі на наступны навучальны год.

8. На курсы залічваюцца асобы з ліку настаўнікаў, якія працуюць у профтэхнічных навучальных установах, індустрыяльных і сельска-гаспадарчых, маюць дастатковую агульна-адукацыйную падрыхтоўку (пераважна скончыўшыя пэдфак пэдтэхнікумы), а таксама хто мае вышэйшую або сярэднюю спэцыяльна-

тэхнічную адукацыю, дастатковы вытворчы стаж і зарэгістраваны пры вучоце спэцыялістых у органах НКПрацы ня ніжэй IX групы кваліфікацыі, на аснове пастановы ЦВК і СНК СССР ад 31/XI 1929 г.

Апрача тых, што працуюць у даны момант у профтэхнічных навучальных установах, на курсы могуць быць залічаны і настаўнікі школ соцвыху, а таксама спэцыялістыя з прадпрыемстваў, сельскай гаспадаркі і ўстаноў, якія адпавядаюць вышэйадзначаным запатрабаваньням і жадаюць працаваць стала ці па сумяшчэньню ў галіне профтэхасьветы.

9. Курсантам, якія праслухаюць поўны курс і пасьпяхова выканаюць ўсе заданьні курсаў, выдаецца аб тым пасьведчаньне, якое дае перавжнае права на выкладаньне адпаведных паказаных у пасьведчаньні агульна-тэхнічных і спэцыяльных дысцыплін у профтэхнічных навучальных установах.

## Проект навучальнага пляну

*завочна-вочных тэхнік-пэдагогічных курсаў для выкладчыкаў індустрыяльных і сельска-гаспадарчых профтэхнічных навучальных установаў*

### I. Цыкль грамадзка-марксыцкага мінімуму

1. Асновы дыялектычнага матэрыялізму (5 тэм).

2. Соцыялістычнае будаўніцтва і 5-гадовы плян:

а) разьвіцьцё прамысловасьці;

б) сельскай гаспадаркі (проблема колектывізацыі);

в) культурнага будаўніцтва (тут-жа пастановы партыйнай нарады аб сыстэме народнай асьветы);

г) рацыяналізацыя савецкага апарату.

3. Марксыцкая пэдагогіка і рэфлексолёгія.

4. Профрух (пастановы III пленуму ЦК працаўнікоў асьветы).

### II. Цыкль агульна-тэхнічны

5. Асновы мэтодолёгіі навук і тэхнікі.

6. Тэхнічная матэматыка (арытмэтыка, альгебра, геомэтрыя, трыгонамэтрыя, лёгарытмы, асновы дыфэрэнцыяльных і інтэгральных вылічэньняў, карысная геомэтрыя і інш. элемэнты вышэйшай матэматыкі за курс сярэдняй школы і індустрыяльных тэхнікумаў з тэхнічным зьместам і ў прыстасаваньні да запатрабаваньняў вытворчасьці і сельскай гаспадаркі), а таксама мэтодыка выкладаньня тэхнічнай матэматыкі.

7. Тэхнічная фізыка з электратэхнікай і агульным курсам машыназнаўства (ад асноўных законаў да конкрэтных прыкладаў іх скарыстаньня ў тэхніцы, вытворчасьці і сельскай гаспадарцы). Мэтодыка выкладаньня тэхнічнай фізыкі.

8. Тэхнічная хэмія (ад элемэнтарных хэмічных законаў да складаных хэміка-тэхнолёгічных процэсаў розных галін вытворчасьці і сельскай гаспадаркі, уключаючы тэхніку хэмічнай абароны). Мэтодыка выкладаньня тэхнічнай хэміі.

9. Тэхнічная мэханіка (ад самых простых законаў мэханікі да складаных форм мэханізацыі вытворчасьці, сельскай гаспадаркі, транспарту, будаўніцтва і гэтак далей). Мэтодыка выкладаньня тэхнічнай мэханікі.

10. Графіка. Мэтоды графічных адлюстраваньняў. Номографія. Тэхнічнае маляваньне, скіцырваньне і красьленьне. Ізомэтрыя і ортогональная пэрспэктыва. Проекцыя. Мэтодыка навучаньня графіцы.

### III. Цыкль спэцыяльны

11. Рэконструкцыя прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Тэхніка-экономічная організацыя прадпрыемстваў, рацыяналізацыя работ і тэхніка бясьпечнасьці.

12. Найноўшыя дасягненьні навукі і тэхнікі па асобных галінах будаўніцтва і прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, практычнае скарыстаньне іх у тэхнолёгіі данай вытворчасьці.

13. Мэтодыка выкладаньня спэцыяльных прадметаў у цеснай сувязі з навучаньнем, вытворчым процэсам і вытворчай практыкай.

14. Віды вытворчай практыкі: пэрыодычная, сэзонная, бесьперапынная. Самыя карысныя формы сувязі і чаргаваньня вытворчай практыкі з тэорытычнымі заняткамі.

15. Організацыя профтэхнічных навучальных установ, іх навучальнае абсталяваньне, мэтодолёгія складаньня навучальных і вытворчых плянаў, програм, лябораторных заданьняў ды інш.

Ал. Аніхоўскі

# Аб падрыхтоўцы пэдкадраў з вышэйшай адукацыяй

Рэконструкцыя ўсяе народнай гаспадаркі на соцыялістычных асновах, індустрыялізацыя краіны і шпаркі тэмп колектывізацыі сельскай гаспадаркі, новыя запатрабаваньні ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве на кваліфікаваную рабочую сілу выклікалі да жыцьця цэлы шэраг новых тыпаў школ, якіх ня было ў папярэдняй сыстэме.

Узьнікненьне новых тыпаў школ (ФЗВ, ФЗС, школ колгаснай моладзі і г. д.) патрабавала грунтоўнага перагляду сыстэмы пэдагогічнае адукацыі, якая зусім не адпавядала падрыхтоўцы пэдагогаў для школ новага тыпу.

Згодна запатрабаваньням соцыялістычнага будаўніцтва і дырэктыў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб падрыхтоўцы кадраў, рэорганізаваная сыстэма пэдадукацыі павінна разьвязаць такія асноўныя задачы:

а) увязаць сыстэму пэдагогічнае адукацыі з мэтавымі ўстаноўкамі новых тыпаў школ, для якіх патрэбна рыхтаваць пэдагогічныя кадры;

б) паскорыць тэмпы падрыхтоўкі;

в) вырашыць проблему паляпшэньня якасьці падрыхтоўкі;

г) вырашыць пытаньне аб колькасьці пэдкадраў.

У разьвязаньні гэтых чатырох асноўных задач па пэдкадрах Народным комісарыятам асьветы праведзена ўжо досыць значная работа з організацыйнага боку.

Мы ўжо пісалі аб прынцыпах рэорганізацыі існуючых пэдустаноў, якія рыхтуюць пэдкадры з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй [1]). Рэорганізаваная сыстэма існуючых пэдагогічных навучальных установ і адчыненьне пэдінстытутаў даюць магчымасьць рыхтаваць пэдкадры з больш прыстасаванай мэтавай установкай да запатрабаваньняў новых тыпаў нашых школ (II концэнтр, ФЗС, ШКМ, і г. д.). Пэдфак БДзУ павінен цалкам задаволіць патрэбу ў настаўніках III концэнтру для кожнага тыпу існуючых школ і тых, якія будуць організоўвацца, шляхам організацыі адпаведных аддзяленьняў і ўхілаў, пачынаючы з адпаведных курсаў. У папярэднім артыкуле мы далі адказ на два асноўных пытаньні: 1) рэорганізацыя пэдустаноў і прыстасаваньне іх да мэтавых установак асобных тыпаў навучальных установ III концэнтру (профшколы, рабфакі, тэхнікумы і г. д.) і 2) аб паскарэньні тэмпу падрыхтоўкі пэдкадраў. У ім высьветлены тыя мерапрыемствы, якія ўжыты з боку НКА для ажыцьцяўленьня гэтых задач.

Чарговая проблема, якая падлягае вырашэньню і часткова вырашаецца,— гэта паляпшэньне якасьці падрыхтоўкі, г. зн., паляпшэньне продукцыі пэдкадраў, але гэта проблема патрабуе досыць значнага часу да яе поўнага вырашэньня.

Аднак, у гэтым напрамку праароблена ўжо і праводзіцца вялікая работа па лі-

[1]) Глядзі „Комуністычнае Выхаваньне“, № 2, за 1930 г. „Аб падрыхтоўцы пэдкадраў“.

ніі: а) грунтоўнае рэорганізацыі навучальных плянаў, прыстасаваньня да скарочаных тэрмінаў навучаньня адпаведна мэтавым устаноўкам кожнага тыпу навучальных устаноў, для якіх рыхтуюцца кадры, і б) перагляду праграм і мэтодаў выкладаньня.

Навучальныя пляны пэдустаноў строга індывідуалізуюцца ў суадпаведнасьці з тыпам тых школ, для якіх рыхтуюцца пэдагогічныя кадры. Перабудова навучальных плянаў і праграм праводзіцца ў напрамках выразнае спэцыялізацыі курсу пэдустановы—паглыбленьня і пашырэньня асноў марксызму і ленінізму, павялічэньня мэтодычна-пэдагогічных, індустрыяльна-тэхнічных і сельска-гаспадарчых дысцыплін за лік агульна адукацыйных дысцыплін, скарачаючы і падпарадкуючы апошнія інтэрэсам дысцыплін спэцыяльных і спэцыяльна-мэтавай устаноўцы пэдагогічнай вышэйшай навучальнай установы. У новых навучальных плянах кладзецца ў аснову максымальная політэхнізацыя курсаў пэдагогічных навучальных устаноў, пашырэньне і паглыбленьне вытворчых тэхнічных дысцыплін і бесьперапыннай вытворчай практыкі (як пэдагогічнай, так і непасрэдна політэхнічнай), як асновы падрыхтоўкі студэнцтва на вытворчай базе. Проблема політэхнізму ёсьць перш за ўсё і больш за ўсё проблема выхаваўчая, якая зусім адсутнічала ў навучальных плянах пэдагогічных навучальных устаноў; цяпер гэты прабел папаўняецца праз увядзеньне адпаведных элемэнтаў (вывучэньне індустрыі і сельскае гаспадаркі, праца на прадпрыемствах і ў майстэрнях); у навучальныя пляны ўводзяцца элемэнты політэхнізму з тым, каб падрыхтоўка новага пэдагога адпавядала асноўнай задачы—падрыхтаваць пэдагога-марксыста, грамадзкага працаўніка і памочніка компартыі і савецкай уладзе ў справе ажыцьцяўленьня задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Навучальныя пляны разгружаюцца ад шматпрадметнасьці шляхам скарачэньня другарадных прадметаў і большай дыфэрэнцыяцыі спэцыяльных вучэбных дысцыплін па цыклях і сэкцыях адпаведна спэцыялізацыі розных груп пэдагогаў, а таксама скарачэньня гэтых дысцыплін за лік гісторычных і апавядальных момантаў.

Бесьперапынная вытворчая праца ўводзіцца ў навучальны плян, як аснова вытворчага навучаньня студэнтаў, якая замацоўвае тэорытычныя веды і падрыхтоўвае студэнта да яго спэцыяльнасьці ва ўмовах вытворчасьці ў рэальных рабочых абставінах. Час паміж тэорытычнымі і практычнымі заняткамі і вытворчай практыкай строга разьмежаваны. Да тэорытычных заняткаў адносяцца лекцыі, групавыя распрацоўкі, сэмінарумы па тэорытычных дысцыплінах, а таксама ўсе практычныя заняткі ў сьценах навучальнай установы, у лябораторыях, майстэрнях і г. д., а да вытворчае практыкі—бесьперапынная вытворчая практыка на вытворчай базе адпаведна спэцыяльнасьці пэдагога (у школах, прадпрыемствах, колгасах, саўгасах і г. д.).

Навучальныя пляны і праграмы цесна ўвязваюцца з агульным соцыялістычным будаўніцтвам краіны, маючы два ўхілы (індустрыяльны і сельска-гаспадарчы) адпаведна мэтавай устаноўцы кожнага аддзяленьня ПэдВНУ.

Такім чынам, перагляд і складаньне новых вучэбных праграм адпаведна новым навучальным плянам праводзіцца па лініі:

а) зьнішчэньня роўналежнасьці ў матар'ялах, якія сустракаюцца ў другіх сумежных дысцыплінах;

б) перадаваньня студэнтам сумы тых ведаў, якія патрэбны для падрыхтоўкі спэцыяліста адпаведнай мэтавай устаноўкі;

в) скарачэньня гісторычных і апавядальных момантаў у праграмных матар'ялах, якія часта перагружаюць курс;

г) выкладаньня асноўных законаў адпаведнай навукі, згодна апошніх дасягненьняў данае дысцыпліны;

д) ужываньне марксыцкае мэтодолёгіі ў выкладаньні ўсіх дысцыплін і асабліва у галіне грамадзнаўства і прыродазнаўства;

е) перадаваньня студэнтам ня толькі навуковых ісьцін і фактаў, але і навучэньня студэнтаў мэтодыцы вывучэньня

любой дысцыпліны для атрыманьня ведаў па-за сьценамі ВНУ у яго далейшай рабоце;

ж) адлюстраваньня ў праграмах задачы клясавае барацьбы, соцыялістычнага будаўніцтва і апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі.

Гэта работа надзвычайна цяжкая і складаная і патрабуе шмат часу для яе поўнага выкананьня, але над гэтым працаўнікі пэдфаку ўжо працуюць, і шмат чаго ўжо зроблена.

Зусім інакш абстаіць справа з другім тыпам вышэйшае пэдагогічнае навучальнае ўстановы — пэдагогічнымі інстытутамі, якія павінны адчыніцца толькі ў пачатку 1930/31 навучальнага году.

Пэдагогічныя інстытуты павінны будуць рыхтаваць настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй для школ II концэнтру па адпаведных спэцыяльнасьцях.

Мэтавая ўстаноўка і задачы, якія пастаўлены партыяй і вымагаюцца сучасным этапам соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне падрыхтоўкі пэдкадраў, якія пастаўлены перад пэдфакам, застаюцца тыя-ж самыя, як і для пэдінстытутаў.

Ні навучальных плянаў, ні програм для пэд'інстытутаў яшчэ няма, а жнівень, ды і кастрычнік месяц ужо не за гарамі.

Навукова-мэтодычнаму комітэту трэба ва ўдарным парадку ўзяцца за складаньне навучальных плянаў і програм, каб спаткаць новы навучальны год падрыхтаванымі па ўсіх галінах.

Рэальныя вынікі ад разьвязаньня проблемы якасьці падрыхтоўкі пэдкадраў на сёньняшні дзень яшчэ мала адчуваюцца на практыцы.

**Колькі-ж патрэбна падрыхтаваць пэдагогаў з вышэйшай адукацыяй на бліжэйшыя гады?**

У папярэднім артыкуле ўжо зазначалася, што пэдагогі з вышэйшай адукацыяй павінны абслугоўваць усе навучальныя ўстановы, пачынаючы з II концэнтру сямігадовае школы (5—7 групы) і канчаючы вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Разгортваньне сеткі навучальных устаноў найцесным чынам зьвязана з наяўнасьцю пэдкадраў.

Шпаркі тэмп гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, які мы маем у сучасны момант, вымагае значнага пашырэньня сеткі навучальных устаноў.

Разгортваньне сеткі школ II концэнтру (5—7 гр.) у наступныя 3 гады пяцігодкі запроектавана такім чынам, каб ахапіць 2-ім концэнтрам 100% дзяцей рабочых і членаў профсаюзаў у гарадох і 25% усіх дзяцей, ва ўзросьце 12-15 гадоў, у вёсцы.

Для выкананьня гэтае мэты ў тры наступныя гады трэба адчыніць 1500 новых груп II концэнтру ці павялічыць існуючы лік груп (1572) амаль на 100%; лік вучняў павялічыцца на 58.760 чал., ці на 91%. Калі II конэнтрам дзяцей 12-14 год па ўсёй БССР ахоплена ў гэтым годзе толькі 16%, дык к канцу пяцігодкі гэты процант узьнімаецца да 40.

Плянам разгортваньня сеткі 2-га концэнтру мяркуецца абхапіць ў гарадох 79%, а ў вёсцы з 3,5% ўзьняць да 25%. Адчыненьне новых комплектаў на працягу бліжэйшых 3 гадоў ідзе, галоўным чанам, на вёску (60%).

Ужо з наступнага году вызначана ўвядзеньне абавязковага навучаньня для ўсіх дзяцей рабочых і членаў профсаюзаў за 5-ю групу 7-годкі, якія ў гэтым 1929-30 годзе вучацца ў 4-й групе.

Мэта—ўвесьці абавязковае навучаньне ўсіх дзяцей ва ўзросьце 12-14 гадоў, на базе сямігодкі да канца другое пяцігодкі—павінна быць і будзе выканана.

Які-ж лік комплектаў трэба адчыняць штогодна, каб увесьці ўсеагульнае навучаньне на базе 7-годкі ў 1937-38 годзе?

Выходзячы з пэўных статыстычных даных і ўлічваючы штогодны прырост насельніцтва ў БССР, усяго дзяцей ва ўзросьце 12-14 год у 1937-38 годзе будзе 406.296.

Для дзяцей гэтага ўзросту патрэбна будзе адчыніць 10.157 груп II концэнтру (5-7 гр.), лічачы 40 чал. на 1 групу.

У бягучым годзе мы маем ужо 1.572 групы, а на працягу бліжэйшых 3 гадоў будзе адчынена 1.500 груп, г. зн. у 1932-33 г. будзе 3.072 групы і на наступную пяцігодку застаецца адчыніць яшчэ 7.085 груп.

Разгортваньне сеткі школ патрабуе заўчаснае падрыхтоўкі настаўнікаў адпаведнай кваліфікацыі і спэцыяльнасьці.

Біручы ўстаноўку на ўвядзеньне ўсеагульнага навучаньня на базе II концэнтру 7-годкі ў 1937-38 г., патрэбу ў настаўніках для школ II концэнтру можна характарызаваць наступнай табліцай:

| Гады | Усяго 5—7 гр. з пачатку году | Патрэб. адчын. новых груп. | Будзе груп | Існуючы лік настаўнікаў | Патрэбна на пап. март. 4 проц. | Патрэбна настаўнікаў для нов груп | Уся о патрэбна настаўнікаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929 30 . . . . . . . . . | 1450 | 112 | 1572 | 2096 | 78 | 150 | 228 |
| 1930 31 . . . . . . . . . | 1572 | 288 | 1860 | 2480 | 80 | 382 | 4ʼ2 |
| 1931-32 . . . . . . . . . | 18 0 | 518 | 2378 | 3172 | 99 | 690 | 789 |
| 1932-33 . . . . . . . . . | 2378 | 694 | 3072 | 4096 | 127 | 925 | 1052 |
| **За 3 гады . . . .** | — | **1500** | — | — | **306** | **1997** | **2303** |
| 1933-34 . . . . . . . . . | 3072 | 780 | 3852 | 5136 | 164 | 1040 | 1204 |
| 1934-35 . . . . . . . . . | 3852 | 1330 | 5182 | 6909 | 205 | 1773 | 1978 |
| 1935-36 . . . . . . . . . | 5182 | 1650 | 6332 | 9109 | 276 | 2200 | 2476 |
| 1936-37 . . . . . . . . . | 6832 | 16ʼ0 | 8482 | 11309 | 364 | 2200 | 2564 |
| 1937-38 . . . . . . . . . | 8482 | 1675 | 10157 | 13543 | 452 | 2233 | 2685 |
| **Разам за 5 год 2-е пяцігодкі . . .** | — | **7085** | — | — | **1461** | **9446** | 10907 |
| Патрэбна настаўнікаў для 3 гадоў першае 5-годкі і на другую 5-годку . . . . . . . | | | | | | | 13210 |

Прыведзеная табліца характарызуе разьвіцьцё сеткі і патрэбу ў настаўніках па гадох для ажыцьцяўленьня пляну ўсеагульнага навучаньня на базе 7-годкі ў 1937-38 годзе.

Настаўнікі з вышэйшай адукацыяй па агульна-адукацыйных прадметах патрэбны ня толькі для II концэнтру, але і для навучальных устаноў III концэнтру (профшкол, рабфакаў, індустрыяльных, сельска-гаспадарчых, пэдагогічных і іншых тэхнікумаў).

*Які-ж лік настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй патрэбен для гэтага тыпу навучальных устаноў па агульна-адукацыйных прадметах?*

Гэта можна бачыць з табліцы, якая складзена на падставе пляну разгортваньня гэтых тыпаў навучальных устаноў да канца бягучае пяцігодкі і на 3 гады наступнае пяцігодкі (разам для II і III концэнтру):

| Гады | Літаратараў | Грамадазнаўцаў | Фізікаў і матэматыкаў | Прыродазнаўцаў | Пэдалёгаў | Усяго патрэбна настаўнікаў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1930-31 . . . . . . . . . . . | 201 | 246 | 217 | 201 | 65 | 930 |
| 1931-32 . . . . . . . . . . . | 251 | 309 | 268 | 253 | 62 | 1143 |
| 1932-33 . . . . . . . . . . . | 310 | 324 | 323 | 310 | 56 | 1323 |
| **На 3 гады бягучай 5-годкі** | **762** | **879** | **808** | **764** | **183** | **3396** |
| | | | 348 | | | |
| 1933-34 . . . . . . . . . . . | 325 | 354 | 512 | 334 | 59 | 1420 |
| 1934-35 . . . . . . . . . . . | 488 | 518 | 618 | 498 | 59 | 2075 |
| 1935-36 . . . . . . . . . . . | 593 | 627 | | 604 | 61 | 2503 |
| **Разам на 3 г. 2-е 5-годкі** | **1406** | **1499** | **1478** | **1436** | **179** | **5998** |
| **Разам на 6 г. . . . . . . .** | **2168** | **2378** | **2386** | **2200** | **362** | **7817** |

Як відаць з табліцы, на 3 гады першае пяцігодкі патрэбна настаўнікаў 3.396, а на 6 гадоў—7.817 асоб.

*Як-жа стаіць справа з падрыхтоўкай пэдагогаў з вышэйшай адукацыяй для задавальненьня патрэбы II і III концэнтру?*

Мы ўжо гаварылі, што падрыхтоўка пэдагогаў з вышэйшай кваліфікацыяй разьмежавана. Пэдагогаў для II концэнтру павінны рыхтаваць пэд'інстытуты, а для III концэнтру (тэхнікумаў, рабфакаў, профшкол і г. д.) павінен рыхтаваць пэдфак.

| Гады | Патрэбна настаўнікаў для II і III конц. | Пэдфак | | | | | | Пэд'інстытуты | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Літаратараў | Грамадазнаўцаў | Фізматэматыкаў | Прыродазнаўцаў | Пэдалёг. | Разам пэдфак. | Літаратараў | Грамадазнаўцаў | Фізматэматыкаў | Прыродазнаўцаў | Разам з пэд'інстытутаў |
| 30-31 | 930 | 136 | 82 | 151 | 175 | — | 544 | — | — | — | — | — |
| 31-32 | 1143 | 45 | 27 | 37 | 50 | — | 159 | — | — | — | — | — |
| 32-33 | 1323 | 58 | 36 | 62 | 50 | 30 | 236 | 220 | 220 | 220 | 220 | 880 |
| **Разам** | **3396** | **239** | **145** | **250** | **275** | **30** | **939** | **220** | **220** | **220** | **220** | **880** |
| 33-34 | 1420 | 74 | 103 | 97 | 83 | 59 | 416 | 252 | 252 | 252 | 252 | 1008 |
| 34-35 | 2075 | 76 | 106 | 100 | 86 | 59 | 427 | 412 | 412 | 412 | 412 | 1648 |
| 35-36 | 2503 | 77 | 111 | 102 | 88 | 61 | 439 | 515 | 515 | 515 | 515 | 2060 |
| **Разам** | **5.98** | **227** | **320** | **299** | **257** | **179** | **1282** | **1179** | **1179** | **1179** | **1179** | **4716** |
| **Усяго за 6 год.** | **9427** | **466** | **465** | **549** | **532** | **209** | **2221** | **1399** | **1399** | **1399** | **1399** | **5516** |

Рэарганізаваны пэдфак і нанова адчыняемыя ў б. г. пэд'інстытуты змогуць даць сваю продукцыю (па апошніх плянавых меркаваньнях разгортваньня сеткі і патрэбы ў настаўніках) толькі для 1932-33 году—апошні год бягучае пяцігодкі; прыёмы папярэдніх гадоў на пэдфак значна меншыя, чым патрэбна было-б падрыхтаваць пэдагогаў праз пэдфак для II і III концэнтраў, а таму ў бліжэйшыя 2 гады адчуецца недахоп.

Гэты недахоп мяркуецца папоўніць шляхам вылучэньня лепшых настаўнікаў-практыкаў з I концэнтру, якія скончылі пэдтэхнікумы і праявілі сябе на пэдагогічнай і грамадзкай рабоце, і накіраваць іх на працу ў II концэнтр.

Штогоднае задавальненьне настаўнікамі школ II, III конц. і тэхнікумаў і падрыхтоўка па гадох характарызуецца наступнай табліцай:

| Вылуч. настаўнікаў | Усяго будзе падрыхтавана | + / — |
|---|---|---|
| 400 | 944 | +14 |
| 1000 | 1159 | +16 |
| 210 | 1323 | + 3 |
| **1610** | **3396** | **+33** |
| — | 1424 | +4 |
| — | 2075 | — |
| — | 2499 | —4 |
| **1610** | **5998** | **—** |
| **1610** | **9394** | **+33** |

Табліца падрыхтоўкі пэдкадраў з вышэйшай адукацыяй паказвае напружанае становішча плянаў падрыхтоўкі на бліжэйшыя тры гады бягучае пяцігодкі.

Вылучэньне лепшых настаўнікаў на працу ў II концэнтр сямігодкі, якія скончылі пэдтэхнікумы і праявілі сябе на пэдагогічнай і грамадзкай рабоце, ставіць ва ўсю шырыню пытаньне перад ўсёй савецкай грамадзкасьцю, і ў першую чаргу перад профсаюзнымі арганізацыямі працаўнікоў асьветы і мясцовымі кіраўнікамі нарасьветы, аб сваячасовым абгаварэньні і высоўваньні гэтых кандыдатур.

Замена вылучэнцаў,—а іх у гэтым годзе мяркуецца вылучыць каля 400 асоб,—рашуча высоўвае пытаньне перад НКА і мясцовымі кіраўнікамі нарасьветы аб сваячасовай падрыхтоўцы настаўнікаў для I концэнтру шляхам арганізацыі гэтых падрыхтоўчых курсаў і лепшае пастаноўкі ўсяе вучэбна-выхаваўчае работы на гэтых пэдкурсах.

Усе мерапрыемствы НКА і плянавыя меркаваньні аб падрыхтоўцы пэдкадраў з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй ухвалены як прэзыдыумам, так і пленумам ЦП Саюзу Белпрацасьветы.

# НА ФРОНЦЕ КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

Т.—іч

## Чаму бязьдзейнічаюць політасьветныя ўстановы

*(На шырокае абгаварэньне політасьвет-работнікаў і політасьветнага актыву).*

Шпаркія тэмпы рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, нябывалы да гэтага часу ўздым актыўнасьці працоўных мас вёскі і рост культурных запатрабаваньняў іх,—усё гэта ўскладае на політасьветныя ўстановы вялізарныя задачы. На вялікі жаль, яшчэ да гэтага часу культмасавая работа політасьветных устаноў значна адстае ад бурных тэмпаў і задач социялістычнага будаўніцтва і ад росту культурных запатрабаваньняў працоўных мас вёскі. Аб гэтым сьведчаць тыя допісы, якія зьмяшчаюцца на старонках нашага друку. Яны сыгналізуюць аб поўным заняпадзе работы політасьветных устаноў.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што з боку савецкіх, коопэрацыйных і іншых устаноў і організацый мы маем рэакцыйную недаацэнку работы політасьветных устаноў. Шэраг хат-чытален, нардамоў, чырвоных куткоў знаходзіцца бяз сталага памяшканьня, матар'яльна не забясьпечаны. Замест таго, каб сетку політасьветных устаноў пашырыць, мы маем выпадкі, калі ўжо існуючыя ўстановы зачыняюцца, і, наогул кажучы, політасьветныя ўстановы на сёньняшні дзень ня маюць ўмоў для работы. Такое становішча работы патрабуе ад працоўнай грамадзкасьці зьвярнуць больш увагі на політасьветную работу, адзін з адказьнейшых франтоў социялістычнага будаўніцтва. Прычынамі такога становішча трэба лічыць тое, што да політасьветработы ня прыцягнута шырокая грамадзкасьць, культурныя сілы вёскі: настаўніцтва, мэдыцынскі і агрономічны пэрсонал; што яны ня маюць саветаў, якія павінны быць грамадзка-кіруючым органам масавай работы і організатарам актыву для работы; што політасьветныя працаўнікі ня робяць справаздач аб сваёй рабоце перад шырокімі коламі грамадзкасьці і наогул няма грамадзкага контролю над культурна-масавай работай.

Для таго, каб зрабіць сёньняшнія політасьветныя ўстановы вёскі сапраўды «організуючым цэнтрам культурнай і політычнай актыўнасьці бядняцкіх і серадняцкіх мас, (у тым ліку і мас сялянак)» (з пастановы ЦК УсеКП(б), трэба ў самы кароткі тэрмін карэнным чынам перабудаваць ўсю сыстэму політасьветных устаноў і прыстасаваць яе да социялістычнага будаўніцтва і ўзросшых культурных запатрабаваньняў шырокіх працоўных мас.

Сучасныя райполітасьветкомы ня могуць быць кіраўнікамі і організатарамі актыўнасьці і самадзейнасьці працоўных мас. Ня чым іншым, як толькі вузка ведамсьцьвенным органам зьяўляюцца сёньняшнія райполітасьветкомы. Гэтыя ўстановы не організоўваюць вакол сябе актыву для работы, не даюць ніякай мэтодычна-організацыйнай дапамогі нізавым установам і організацыям, бо ў іх фактычна працуюць толькі па аднаму інспэктару. Таму, замест гэтай «кіруючай» установы, павінен быць створаны ў раёне організацыйна-мэтодычны савет, які, акрамя тых функцый, якія выконвае райполітасьветком, яшчэ організоўваў бы мэтодычна-організацыйную работу ў раёне і кіраваў як ёю, так і ўсёй сеткай політасьветы. Гэты савет павінен згрупаваць вакол сябе розныя ініцыятыўныя групы для работы. У мэтодычна-органі-

зацыйны савет трэба, каб ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх грамадзкіх організацый, якія вядуць культурна-масавую работу ў раёне, прыкладна: інспэктар нарасьветы і політасьветы, ад прэзыдыуму РВК, райколгассаюзу, ад раймэтодбюро, політасьветнікі, ад партыйных і комсамольскіх організацый, ад профсаюзаў, коопэрацыі і г. д. Прыблізна ў склад савету ўвойдзе чал. 15, а для штодзённай кіруючай работы трэба вылучыць прэзыдыум у складзе 3-5 чал.

На мясцох—у нардамох, хатах-чытальнях, колгасных клюбах і чырвоных кутках трэба ўтварыць саветы гэтых устаноў. У некаторых мясцох такія саветы мы маем, але яны складаюцца з прадстаўнікоў, якія не вядуць ніякай работы. Праўда, ёсьць і такія месцы, дзе ёсьць у савеце выбраныя на агульных сходах колгасьнікі і сяляне, але дзякуючы таму, што ў савеце політасьветнай установы пераважную частку займаюць прадстаўнікі, якія ня могуць аддаць належнай увагі і часу для гэтай работы, яна зрываецца.

Для таго, каб наладзіць работу політасьветных устаноў трэба зьмяніць, галоўным чынам, структуру саветаў. Саветы політасьветных устаноў трэба выбіраць на агульных сходах грамадзян і гэтыя саветы павінны адказваць перад выбаршчыкамі за ўсю політасьветную работу тае ўстановы, членам у якую яны уваходзяць.

Савет політасьветнай установы павінен зацьвярджацца сельсаветам, які, акрамя гэтага, пэрыодычна заслухоўвае справаздачу савету аб яго рабоце. Для правядзеньня штодзённай бягучай работы савет політасьветнай установы вылучае з свайго складу тройку і старшыню савету. У склад савету трэба выбіраць актыўных рабочых саўгасаў, колгасьнікаў, батракоў, беднякоў, серадняков і вясковую інтэлігенцыю. Таксама трэба ўвесьці ў склад савету політасьветных устаноў і прадстаўнікоў ад розных організацый, якія вядуць культурна-масавую работу ў раёне дзейнасьці політасьветнай установы.

Вялікім недахопам зьяўляецца і тое, што мы да гэтага часу ня маем на вёсцы такіх людзей, якія-б вялі культурна-масавую работу ў кожным насельным пункце і адказвалі-б за яе. Усебеларуская партнарада па нарасьвеце падкрэсьліла, што «у мэтах карэннай перабудовы нашай работы трэба стварыць шырокую сетку выбарчых культупаўнаважаных на прадпрыемствах, у вёсках, колгасах і саўгасах...». Такія ўпаўнаважаныя значна дапамагаюць ажыўленьню культмасавай работы на вёсцы. У гэтай галіне нам трэба скарыстаць практыку РСФСР. Там выбіраюцца ў кожным насельным пункце культупаўнаважаныя, якія вядуць ў сваім пункце культурна-масавую работу і адказваюць за яе. Гэтыя ўпаўнаважаныя ўваходзяць членамі ў склад савету політасьветнай ўстановы.

У мэтах зацікаўленьня культупаўнаважанага яго работаю політасьветныя ўстановы і сельсаветы павінны практыкаваць розныя віды прэм'яваньня гэтых упаўнаважаных за лепшую работу.

Перабудова сыстэмы політасьветных устаноў патрабуе вялікай ўвагі з боку працоўных і асабліва савецкіх і партыйна-комсамольскіх організацый.

Для таго, каб да гэтай перабудовы прыцягнуць шырокую працоўную грамадзкасьць, неабходна па ўсёй Беларусі правесьці вялікую політычную кампанію, у часе якой ускрыць усе хібы нашае работы, выявіць перашкоды ў рабоце, скласьці працаздольныя саветы політасьветных устаноў, стварыць вялікую армію культупаўнаважаных, мобілізаваць ўвагу самых гушчаў працоўных вёскі да работы політасьветных устаноў. Такая кампанія праводзілася ў РСФСР і мае шмат станоўчых вынікаў.

Справаздачна-выбарчая кампанія (нардамоў, колгасных клюбаў, хат-чытален, чырвоных куткоў), выбары саветаў і культупаўнаважаных павінны праходзіць па лініі:

а) асьвятленьня перад шырокімі масамі працоўных сучасных задач політасьветнай работы на вёсцы;

б) ускрыцьця ўсіх хібаў політасьветнай работы, пашырэньня вопыту політасьветных устаноў, якія перабудавалі пановаму сваю работу;

в) узмацненьня актыўнасьці і самадзейнасьці працоўных мас у справе пашырэньня і ўмацаваньня сеткі нардамоў,

хат-чытален, колгасных клюбаў, чырвоных куткоў, бібліотэк, установу па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, узмацненьня матар'яльнай базы і стварэньня ўмоў для работы політасьветных установў, шляхам абагульваньня ўсіх сіл і сродкаў організацый, якія вядуць політасьветную работу, і сродкаў самога насельніцтва;

г) стварэньня працаздольных саветаў політасьветных установў, рашуча выкідваючы са складу іх пралезшых варожых элемэнтаў, і павялічэньня ў іх складзе проценту колгасьнікаў, батракоў, беднякоў, актыўных серадняков і жанчын пры адначасовым узмацненьні партыйна-комсамольскага ядра;

д) стварэньня адзінага фронту політасьветнай работы на вёсцы, аб'яднаўшы ўсе сілы і сродкі організацый (коопэрацыі, профсоюзаў ды інш.), якія вядуць політасьветную работу на вёсцы, праз саветы політасьветных установў, на падставе выпрацоўкі адзінага пляну работы (опэрацыйна-фінансавага) у даным раёне, вёсцы, выкананьне якога павінна быць абавязковым для ўсіх грамадзкіх организацый ў іх рабоце;

е) даць наказ саветам політасьветных установў і культупаўнаважаным для іх штодзённай работы.

Правядзеньне гэтай політычнай кампаніі павінны на сябе ўзяць савецкія органы, прыцягнуўшы для гэтай работы шырокія масы працоўнага насельніцтва.

Толькі правёўшы гэтую шырокую справаздачна-выбарчую кампанію, політасьветныя ўстановы вёскі змогуць пайсьці ў ногу з тэмпамі соцыялістычнага будаўніцтва.

---

А. В. Савельлеў

# Культурнасьць сучаснай вёскі [1])

У жыцьці сялянскага двара газэта зьяўляецца, з аднаго боку, дапамагаючым спосабам замацаваньня пісьменнасьці і, з другога, магутным рухавіком у перабудове быту, прыёму вядзеньня гаспадаркі і ўсяго сьветапогляду чытача-селяніна. З прычыны гэтага ў абсьледваньні Віцебшчыны ў 1929 годзе пытаньню наведваньня сялянствам хат-чытален для чытаньня газэт і непасрэднай выпіскі газэт сялянскімі сем'ямі была аддана асаблівая ўвага.

Матар'ялы абсьледваньня па пытаньню наведваньня хат-чытален для чытаньня газэт гавораць пра наступнае:

Амаль што ў трэцяй часткі абсьледаваных гаспадарк (у 30,3%) мы знаходзім паасобных членаў сям'і, якія трымаюць сувязь з хатай-чытальняй, скарыстоўваюць яе для чытаньня газэт, але-ж толькі 18,7% пісьменных гэтых сямей чытаюць газэты ў хаце-чытальні.

Па паасобных групах гаспадарак мы маем хістаньні гэтых паказальнікаў. Так, у гаспадарках групы «Б», якія маюць у сваім складзе членаў партыі ці комсамолу, амаль што ¾ маюць членаў двара, якія чытаюць газэты ў хаце-чытальні. На гэтую-ж групу выпадае і найбольшы % пісьменных, якія чытаюць газэты—39% (мужчын—45,5%, жанчын—28,6%).

У параўнаньні з мужчынамі жанчыны значна менш наведваюць хату-чытальню для чытаньня газэт (23% пісьменных мужчын і 12,3% пісьменных жанчын).

Наведваньне хаты-чытальні членамі двара дробна-капіталістычнай групы значна ніжэй (19,7% пісьменных мужчын і 8,6% пісьменных жанчын).

Заслугоўвае ўвагі група «А» (гаспадаркі, якія ня маюць у сваім складзе ніводнага пісьменнага): вельмі характэрным зьяўляецца той факт, што нават выбарчае абсьледваньне, якое ахапіла толькі 1,83% гаспадарак акругі, зафіксавала тры выпадкі, калі няпісьменныя члены гаспадаркі гэтай групы наведваюць хату-чытальню для таго, каб азнаёміцца («паслухаўшы газэту») з тым, што робіцца на сьвеце, аб чым пішуць у газэтах. Гэтыя факты зьяўляюцца паказальнікамі тае вялікае цікавасьці, якую праяўляе сялян-

[1]) Гл. артыкул „Культурнасьць сучаснай вёскі“ у № 4 „Ком. Вых.“.

ства да пытаньняў грамадзкага, палітычнага і гаспадарчага жыцьця краіны.

Процант удзелу пісьменных розных узросных груп у наведваньні хаты-чытальні для чытаньня газэт прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| Узросныя групы | Проц. пісьменных, якія наведваюць хату чытальню для чытаньня газэт | | |
|---|---|---|---|
| | Мужч. | Жанч. | Абодвага роду |
| Да 17 год . . . . . . . | 19,6 | 12,1 | 16,1 |
| ад 18 да 22 год . . . . | 33,7 | 18,4 | 26.5 |
| „ 23 „ 29 „ . . . . . | 29,6 | 9,6 | 21.1 |
| „ 30 „ 39 „ . . . . | 26,2 | 9,1 | 20,4 |
| „ 40 год і старэй . | 14,3 | 7,1 | 12,7 |
| **Усіх узростаў . . .** | **23,0** | **12,3** | **18,7** |

Найбольш актыўнай у справе чытаньня газэт па хатах-чытальнях зьяўляецца моладзь ва ўзросьце ад 18 да 22 год. Гэтая ўзросная група зьяўляецца галоўнай масай, якая скарыстоўвае хату-чытальню для чытаньня газэт, і складае больш чым ¼ частку ўсіх наведвальнікаў хаты-чытальні (26,5%), пры чым жанчыны гэтае групы складаюць 32,4% усіх жанчын-наведвацельніц хаты-чытальні.

Моцны ўздым зацікаўленасьці сялянства ў пэрыёдычным друку ў параўнаньні з старымі гадамі пацьвярджаецца ня толькі паданымі вышэй лічбамі, але, і ў яшчэ большай ступені, атрыманымі ў выніку абсьледваньня 1929 г. данымі аб выпісцы газэт паасобнымі сялянскімі гаспадаркамі. З усіх абсьледаваных 1627 сялянскіх гаспадарак—679, ці 41,7%, выпісваюць газэты. Гэты процант па гаспадарках групы «Б» узрастае да 78,6%. Па паасобных соцыяльных групах гэты процант узрастае ў залежнасьці ад эканамічнай моцнасьці групы:

пролетарыят—11,0%
паўпролетарыят—25,7%
прост. таварыств.—44,9%
дробн. капіт. гасп.—61,5%

Газэты, што выпісваюцца гаспадаркамі групы «Б», складаюць 24,1% усяе колькасьці выпісваемых сялянствам абсьледаваных двароў газэт і часопісяй.

У сярэднім па ўсіх абсьледаваных гаспадарках 10 экз. пэрыёдычнага друку прыпадае на 14 гаспадарак. Найлепшае становішча наглядаецца па гаспадарках групы «Б», дзе ў сярэднім 10 газэт і часопісяй выпісваецца на 6 гаспадарак гэтай групы. Найменш забясьпечанымі газэтамі і часопісямі індывідуальнай выпіскі трэба лічыць гаспадаркі групы пролетарыяту, у якіх адна газэта выпісваецца ў сярэднім на 8 гаспадарак гэтай групы.

Сярэднія велічыні колькасьці выпісваемых выданьняў у гаспадарках, якія выпісваюць газэты і часопісі, кажуць, што на кожную такую гаспадарку прыпадае больш аднаго экзэмпляру (1,7), пры гэтым па групе простых таваравытворцаў (групе колькасна найбольшай) у сярэднім на кожную гаспадарку, якая выпісвае пэрыёдычны друк, прыпадае каля 2 экзэмпляраў (1,8), а па гаспадарках групы «Б» больш двух (2,2).

Пераходзячы да пытаньня аб тым, якія менавіта газэты і часопісі выпісваюцца сялянствам абсьледаваных гаспадарак, трэба сказаць, што найбольш распаўсюджанай газэтай сярод сялянства Віцебшчыны зьяўляецца «Крестьянская газета» (маскоўская), на другім месцы стаіць «Беларуская Вёска», на трэцім—мясцовая газэта «Заря Запада» і на 4-ым—«Беднота».

Першыя дзьве газэты займаюць свае першыя месцы па ўсіх паасобных групах. Па групе «Б» колькасьць выпісваемых экзэмпляраў «Бедноты», а таксама і комсомольскіх газэт («Комсомольская Правда» і «Чырвоная Зьмена») перавышае мясцовую газэту.

Зусім нездавальняючай зьяўляецца ступень распаўсюджанасьці беларускага друку. У масе сялянства, якое складаецца на 89,8% з беларусаў, пэрыёдычны друк на беларускай мове займае толькі 23,1% усіх выпісваемых выданьняў, пры чым большы % удзелу беларускага друку ў выпісваемых выданьнях мы наглядаем толькі па бядняцкай групе (44,4%) і па групе «Б» (27,4%).

Органы друку партыйных організацый (*«Правда», «Зьвязда» і «Заря Запада»*) выпісваліся ў абсьледваных гаспадарках толькі 77 сем'ямі і складаюць да ўсіх выпісваемых выданьняў 6,6%; з гэтых газэт 75,3% выдаюцца на белмове і зьяўляюцца органамі беларускіх парторганізацый.

Органы цэнтральных выканаўчых комітэтаў маюць малое распаўсюджаньне сярод сялянства: яны выпісваюцца толькі 8 гаспадаркамі з ахопленых абсьледаваньнем і складаюць 0,7% да ўсіх выпісваемых сялянствам газэт (палова з іх— на бел мове).

Комсамольскія газэты складаюць 4,1% усіх выпісваемых выданьняў (48 экз., з якіх 54,2% беларускіх). Піонэрскія газэты (29 экз.) займаюць 2,5% і на беларускай мове («Піонэр Беларусі») іх адтрымлівалі ў абсьледваных гаспадарках 41,4%.

Больш паловы ўсіх выпісваемых газэт (55%) разьлічаны пераважна на вясковага чытача-селяніна («Беларуская Вёска», «Крестьянская Газета», «Беднота», «Батрак»). З 642 экзэмпляраў гэтых газэт, якія выпісваліся ахопленымі абсьледваньнем гаспадаркамі 25,7% зьяўляліся газэтамі беларускіх выданьняў.

Усе вышэйпаказаныя лічбы распаўсюджанасьці пэрыодычнага друку, што выпісваецца сялянствам у індывідуальным парадку, непараўнальна вышэй таго, што мела наша вёска ў старыя гады. Самы той факт, што 41,7% сялянскіх гаспадарак лічаць патрэбным рабіць некаторы выдатак з свайго невялічкага бюджэту на выпіску газэт, гаворыць аб значным узросьце сьвядомасьці сялянскай масы.

Аднак трэба прызнаць яшчэ вельмі недастатковай колькасьць выпісваемых вёскай газэт наогул, а беларускіх выданьняў—у прыватнасьці. Нельга лічыць здавальняючай забясьпечанасьць вясковай моладзі комсамольскім друкам, калі па абсьледаваных гаспадарках 1 комсамольская газэта прыпадае на 32 чалавекі насельніцтва ва ўзросьце ад 16 да 22 год, з ў гэтым узросьце—найбольшы лік чытачоў. Здавальненьне дзяцей школьнага ўзросту піонэрскім друкам яшчэ горшае: адна выпісваемая піонэрская газэта прыпадае на 58 дзяцей школьнага ўзросту.

Усімі абсьледванымі гаспадаркамі ў працягу 1928-29 г. было выдаткавана на куплю кніг і выпіску газэт 4.775 рублёў, што складае ў сярэднім на 1 гаспадарку, ахопленую абсьледаваньнем 2 р. 93 к. ці 7 руб. 3 кап. на гаспадарку, якая зрабіла гэты выдатак.

Сярэдні выдатак на гэты прадмет на 1 гаспадарку групы «Б» значна перавышае паказаныя велічыні і складае 8 руб. 68 кап. на адну гаспадрку гэтай групы і 11 руб. 04 к. на гаспадарку, якая купляе кнігі ці выпісвае газэты.

Па паасобных социяльна-эканомічных групах выдаткі на кнігі і газэты на 1 гаспадарку прыпадаюць у наступных размерах:

| Групы гаспадарак | На адну гасп. ахопленую абсьледв ньнем | Н адну гасп, якая зрабіла вы атак на кнігі і газэты |
|---|---|---|
| Пролетарыят . . . . . | 0 р 33 к. | 3 р. 01 к. |
| Паўпролетарыят . . . | 1 „ 48 „ | 5 „ 75 „ |
| Простыя таваравытвы . | 3 „ 20 „ | 7 „ 13 „ |
| Дробн. капіт. гас. . . . | 4 „ 90 „ | 8 „ 67 „ |

Пры параўнаньні з сумамі, якія выдаткуюцца сем'ямі на выпіску газэт і часопісяй паданыя вышэй весткі адносна выдаткаў на газэты і кнігі сялянскімі гаспадаркамі зусім ня значны. Па грубых папярэдніх падліках запісаў рабочых бюджэтаў, гадавыя выдаткі рабочай сям'і на гэты прадмет складаюць 12—15 рублёў, гэта значыць, амаль што ў 2 разы больш выдаткаў сялянскай гаспадаркі.

II

Побач з няпісьменнасьцю моцным дапаможнікам варожых элемэнтаў вёскі зьяўляецца алькоголізм. Ён быў у свой час адным з магутных камянёў фундаманту старога рэжыму, і пабудова новай вёскі выклікае патрэбу ў тым, каб вырваць з карэньнем гэтае вялічэзнае зло. І зараз яшчэ мы маем выпадкі, калі кулацтва пускае ў ход гэты стары выпрабаваны спосаб перацягваньня на свой бок слабой часткі сялянства.

Разам з гэтым у новых умовах жыцьця нам патрэбны фізычна моцныя работнікі, здаровыя людзі, якія збудуюць новую гаспадарку, новы быт і алькоголізм, які руйнуе здароўе дарослых і губіць маладое пакаленьне, зьяўляецца вялікай перашкодай у нашай будоўлі.

Ня гледзячы на тое, што ў працягу ўсіх пасьлякастрычнікавых гадоў партыя, улада і грамадзкасьць вядуць барацьбу з алькоголізмам, і зараз яшчэ на гэтым

фронце ня ўсё добра. Культурна-бытавое абсьледваньне вёскі Віцебшчыны паказала, што з абсьледаваных 1627 гаспадарак 1332 (ці 81,9%) маюць у сваім складзе членаў сям'і, якія спажываюць алькоголь.

Тутака трэба агаварыцца, што да спажыўцоў алькоголю пры абсьледваньні адносіліся ня толькі п'яніцы, супраўдныя алькоголікі, якія п'юць кожны дзень (гэтакіх было знойдзена усяго 3-4 чалавекі), але і тыя, якія спажывалі алькоголь у працягу 1928/29 году выпадкова—у сьвята, на вясельлях, на хрэсьбінах і г. д.

Паказаны вышэй % гаспадарак з членамі двара, якія п'юць, не зьяўляецца сталым для паасобных груп сялянства; так, па групах: пролетарыяту—гэты процант складае ледзь 68,5%, паўпролетарыят—74,7 %, простыя таваравытворцы—83,4% і дробныя капіталістычныя гаспадаркі—88,5%. У больш экономічна моцных групах % гаспадарак, дзе спажываюць алькоголь перавышае адносную колькасьць іх у слабейшых групах. Паданыя вышэй лічбы кажуць пра тое, якая хлусьня заключаецца ў крыках кулацтва і падкулачнікаў аб тым, што бядняк—гэта п'яніца, бедняку нельга дапамагаць, таму што ён усёроўна прап'е, у той час, калі на кожную сотню бядняцкіх гаспадарак мы маем 32 двары, дзе ніводзін з членаў сям'і не спажывае алькоголю, а на 100 заможных гаспадарак такіх знаходзіцца толькі 12.

Разглядаючы колькасьць насельніцтва, якое спажывае алькоголь у абсьледаваных гаспадарках, мы знаходзім наступнае:

| Групы гаспадарак | Проц. насельніцтва, якое спажывае алькаголь | | |
|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Абодвага роду |
| **Усе гаспадаркі** . . | **48,3** | **37,5** | **42,8** |
| Пролетарыят . . . . . | 37,1 | 29,4 | 32,8 |
| Паўпролетарыят . . . . | 43,2 | 32,1 | 37,4 |
| Прост. таваравытвор . | 48,9 | 38,0 | 43,5 |
| Дробн. капіт. гаспад. . | 58,0 | 49,5 | 53,8 |
| а) ня маюць пісьмен. . | 43,5 | 35,5 | 39,3 |
| б) з чл. КПБ і КСМ . | 37,5 | 30,4 | 34,1 |

І па колькасьці насельніцтва, якое спажывае алькоголь, групы больш заможныя даюць большы %, пры гэтым зьвяртае на сябе ўвагу вялікая колькасьць жанчын, якія спажываюць алькоголь у групе дробна-капіталістычных гаспадарак.

З вышэйпаданай табліцы мы бачым паступовы ўзрост проценту мужчын, якія спажываюць алькоголь у першых трох социяльна-экономічных груп (6,1 і 5,7) ад групы да групы, але-ж апошняя група—заможнае сялянства—разам дае рэзкі уздым % спажываючых алькоголь (на 9,1%). Яшчэ больш рэзкі скачок дае процант жанчын заможнай групы, якія спажываюць алькоголь (на 11,5). Па колькасьці спажываючых алькоголь дробна-капіталістычная група займае першае месца.

Таксама заслугоўвае ўвагі і % спажываючых алькоголь у гаспадарках групы «А» (у складзе сям'і няма ніводнага пісьменнага), які дае значнае адхіленьне ад сярэдніх % насельніцтва, што спажывае алькоголь, у бок зьніжэньня, пры чым процант мужчын, якія спажываюць алькоголь больш адхіліўся ад сярэдняга па ўсіх групах (4,8) чым % спажываючых алькоголь жанчын (2,0).

Асаблівай увагі заслугоўваюць ўзросныя групы спажыўцоў алькоголю, склад якіх прадстаўляецца па даных абсьледваньня ў наступным выглядзе:

**(у проц. да насельніцтва узроснай групы)**

| Узросныя групы | Усе гаспадаркі | | | Па соц.-экон. групах | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Абодвага роду | Пролетарыят | Паўпролетарыят | Прост. тавараувыт. | Дробн. капітал. гасп. | «Б» | «А» |
| Да 8 год . | 6,0 | 5,4 | 5,7 | 3,6 | 3,0 | 5,4 | 13,8 | 4,7 | 1,9 |
| Ад 8 да 15 г. | 17,3 | 16,4 | 16,9 | 16,3 | 12,8 | 16,8 | 15.4 | 13,6 | 9,4 |
| „ 16 „ 17 „ | 48,4 | 29,7 | 38,5 | 30,8 | 36,4 | 39,2 | 36,4 | 36,4 | 13,3 |
| „ 18 „ 22 „ | 60,9 | 45,4 | 53,0 | 46,2 | 52,6 | 52,7 | 63,3 | 41,0 | 35,0 |
| „ 23 „ 29 „ | 74,1 | 57,4 | 65,6 | 12,9 | 64,6 | 64,6 | 80,0 | 50,0 | 42,9 |
| „ 30 „ 39 „ | 80,2 | 63,0 | 71,3 | 21,0 | 66,7 | 72,2 | 75,0 | 60,3 | 60,0 |
| „ 40 і стар. | 75,8 | 56,3 | 66,0 | 30,6 | 56,9 | 67,2 | 72,0 | 62,3 | 62,8 |

Тутака трэба застанавіцца на першых дзьвюх групах: дашкольнага і школьнага ўзросту. Зразумела, што ў даным выпадку ня можа быць і гутаркі аб тым

каб разглядаць спажыўцоў алькоголю з гэтых груп, як дзяцей, якія рэгулярна п'юць. Тутака мы маем пацьверджаньне вядомых фактаў, калі на вясельлі або ў сьвята (у большасьці «под пьяную руку») бацькі ці сваякі даюць дзіцяці «паўчарачкі». Гэтая рэштка старога дзікага быту, калі з малых гадоў заносіцца атрута ў дзіцячы організм, і выяўлена данымі ў табліцах лічбамі.

Па ўсіх абсьледаваных гаспадарках мы маем 5,7% дзяцей да 8 год, якія спажываюць алькоголь. Тутака характэрна тое, што па бядняцкіх гаспадарках колькасьць гэтых дзяцей складае 3 і 3,6%, а ў групе дробна-капіталістычных гаспадарак дасягае 13,8%. Апошняе паказвае, наколькі больш моцна затрымліваюцца навыкі старога быту ў групах заможных сялян. Адваротнае зьявішча мы маем па гаспадарках групы «Б»: тутака процант дзяцей, да 8 год, што спажываюць алькоголь складае 1,9%.

Па ўсіх астатніх узросных групах пролетарскія гаспадаркі даюць больш нізкі процант спажыўцоў алькоголю. Пачынаючы з узросту ад 18 гадоў заможныя гаспадаркі перавышаюць кожную з астатніх груп па % спажыўцоў алькоголю.

Падвышэньне % спажыўцоў алькоголю к больш старым узросным групам мы наглядаем як сярод мужчын, так і сярод жанчын; яно ідзе роўнамерна, пры чым толькі ва ўзросьце ад 18 да 22 год процант жанчын, якія спажываюць алькоголь, у параўнаньні з 16 і 17-гадовымі дае перавышэньне на 15,7% у той час, як у гэтым выпадку па мужчынах мы маем павялічэньне толькі на 12,5%.

Калі мы разьбіваем усю масу спажыўцоў алькоголю па ўзросных групах, дык знаходзім наступнае:

| Групы па ўзросту | Усе гаспадаркі | | | Па социяльн. эконом. групах | | | | «А» | «Б» |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Абодвага роду | Пролетарыят | Паўпролетарыят | Прост. таваравыт. | Дробн. капітал. гасп. | | |
| Да 8 год | 2,3 | 2,7 | 2,4 | 2,4 | 3,0 | 2,2 | 4,7 | 3,1 | 0,6 |
| ад 8 да 15 год | 7,2 | 7,9 | 7,5 | 12,1 | 6,6 | 7,3 | 8,5 | 3,7 | 5,2 |
| „ 16 „ 17 „ | 5,7 | 5,0 | 5,4 | 6,5 | 4,4 | 5,6 | 3,4 | 2,5 | 3,0 |
| „ 18 „ 22 „ | 14,3 | 14,2 | 14,3 | 14;5 | 13,8 | 14,4 | 13,2 | 5,6 | 21,0 |
| „ 23 „ 29 „ | 13,9 | 14,1 | 14,0 | 12,9 | 17,0 | 13,5 | 15,4 | 8,1 | 11,9 |
| „ 30 „ 39 „ | 17,9 | 19,1 | 18,4 | 21,0 | 23,4 | 18,1 | 14,1 | 23,6 | 10,0 |
| „ 40 „ і старэй | 38,7 | 37,0 | 38,0 | 30,6 | 31,8 | 38,9 | 40,7 | 53,4 | 43,3 |
| **Усіх узростаў** | **100,0** | **100,0** | **100,0** | **100,0** | **100,0** | **100,0** | **100,0** | **100,0** | **100,0** |

Такім чынам, галоўную масу спажываючых алькоголь складаюць старыя,— во узросьце 40 год і старэй, пры гэтым у групе «Б» яны складаюць каля паловы, сям'і пісьменных, нават больш паловы сярод спажыўцоў алькоголю дзяцей ва ўсіх спажыўцоў алькоголю ў гэтай групе.

Да ўзросных груп больш маладых ідзе паступовае памяншэньне. Па паасобных социяльна-экономічных групах і тутака трэба сказаць аб вялікай удзельнай вазе сярод спажыўцоў алькоголю дзяцей ва ўзросьце да 8 год і вялікім процанце іх у школьнай групе.

Памянёны вышэй роўнамерны ўздым процанту спажыўцоў алькоголю ад маладых узростаў да больш старых парушаецца ў групе 16 і 17-гадовых. Гэта парушэньне правільнасьці шэрагу зьяўляецца вынікам адносна малога колькаснага памеру гэтай групы (толькі два гады) у параўнаньні з сьмежнымі ўзроснымі групамі.

Найбольш цяжка паддаецца выяўленьне колькасьць спажываемага сялянскімі сем'ямі алькоголю. Гандлюючыя гарэлкай організацыі ня маюць вучоту іх кліентуры, разьмер продажу з па-загарадзкіх крам не зьяўляецца пэўным паказальнікам, бо кліэнтура і там вельмі рознастайная (жыхары мястэчак, служачыя, саматужнікі і г. д.). З другога боку, бюджэтныя запісы, якія ахопліваюць надзвычайна нязначную колькасьць паасобных

сялянскіх гаспадарак, прымушаюць выключна асьцярожна падыходзіць да вывадаў па гэтым пытаньні нават у маштабе рэспублікі, а ў акруговым разрэзе і наогул ня могуць быць пакладзены ў падставу абы якіх вывадаў.

Апрача гэтага і наогул запытаньне аб колькасьці выпітых за год літраў алькогольных напіткаў зьяўляецца пытаньнем, адказ на якое не заўсёды апытваемы зможа даць дакладна, а ў іншых выпадках і наогул не захоча.

Пры апытаньні ў 1929 г. мы сустрэліся як раз з гэткімі зьявішчам: з 1332 гаспадароў, якія паказалі колькасьць і ўзрост членаў іх сем'яў, што спажываюць алькоголь, толькі 1092 гаспадары (82%) адказалі на запытаньне аб разьмеры спажытага ў сям'і алькоголю; астатнія ўхіліліся ад адказаў, кажучы, што «пілі ў гасьцёх», «пілі на вясельлі», ці наогул «запамятавалі» і «ня помню, ня лічыў...».

Такім чынам аб разьмерах спажываньня алькоголю мы маем даныя толькі па 1098 гаспадарках з насельніцтвам у 6069 чалавек, якімі ў працягу мінулага году спажыта было 6150 літраў гарэлкі і 819 літраў самагонкі.

Нягледзячы на шэраг рашучых мэрапрыемстваў, што прадпрыняты з боку ўлады і грамадзкасьці, ня гледзячы на тое, што 1928/29 год у сувязі з недародам быў годам напружанага становішча з хлебам, самагон яшчэ займае свае месца ў вёсцы. Даныя абсьледваньня кажуць, што ў агульнай колькасьці спажытага алькоголю самагон займае каля 12%, а па паасобных групах гаспадарак і значна перавышае гэты %:

пролетарыят—28,2%
паўпролетарыят—13,2 %
простыя таваравытвор.—10,4%
дробныя капіт. гасп.—17,4%

Найбольшы процант самагону ў агульнай колькасьці спажытага алькоголю дае група пролетарскіх гаспадарак. Прычыну гэтага трэба шукаць у больш таннай продажнай цане самагонкі параўнаўча з гарэлкай. Наступнае месца займаюць дробна-капіталістычныя гаспадаркі, у якіх самагонка складае 17,4% спажытага алькоголю. Тутака, трэба лічыць, што прычына ўжо не ў таннасьці самагонкі, а ў тым, што ў большасьці, гэтая група зьяўляецца і вытворцам гэтага віду алькоголю.

Заслугоўвае ўвагі і той факт, што нават і гаспадаркі групы «Б»—спажываюць самагонку (6,9% да ўсяе колькасьці спажытага алькоголю).

Паводле вышэйпаданых вестак аб колькасьці выпітага алькоголю (гарэлкі і самагону), разьмеры спажываньня на адну гаспадарку і на аднаго члена сям'і, якія далі весткі, прадстаўляюцца ў наступным выглядзе:

| Група гаспадарак | У сярэднім спажыта алькоголю | |
|---|---|---|
| | На адну гаспадарку | На аднаго члена сям'і |
| Пролетарыят . . . . . | 4,3 | 0,8 |
| Паўпролетарыят . . . . | 4,4 | 0,9 |
| Простыя таваравытв. . | 6,3 | 1,1 |
| Дробн. капітал. гасп. . | 12,3 | 2,2 |
| „А" . . . . . . . . | 5,8 | 1,3 |
| „Б" . . . . . . . . | 6,3 | 1,0 |

У сярэднім па ўсіх групах гаспадарак аднэй сям'ёй выпіваецца ў год 6,3 літра алькоголю, а на 1 чал. насельніцтва гэтых сем'яў прыпадае 1,1 літра. Спажываньне алькоголю ў меншым разьмеры мы наглядаем толькі па бядняцкіх гаспадарках і па гаспадарках групы «А» («няпісьменных»). Па дробных капіталістычных гаспадарках разьмер спажытага алькоголю даходзіць да 12,3 літра (амаль што ў 2 разы больш сярэдняга) .

Разьмеры спажытага алькоголю адным членам сям'і, які спажывае алькоголь даюць некалькі іншыя суадносіны па розных групах. І тутака мы знаходзім зноў пацьверджаньне раней зробленай заўвагі наконт славутага «п'янства сярод беднякоў»: нават і адным спажыўцом алькоголю бядняцкай, пролетарскай групы ў год выпіта ў тры разы менш, чым членамі заможных сем'яў, якія спажываюць алькоголь. Гаспадаркі групы «А» («няпісьменныя») даюць павялічэньне спажытага на 1 чалавека алькоголю супроць спажыўцоў з «пісьменных» гаспадарак.

Матар'ялы абсьледваньня культурна-бытавога становішча вёскі Віцебшчыны ў частцы спажываньня алькоголю дае

пацьверджаньне наяўнасьці ў нашай вёсцы шматлікіх звычаяў, якія кажуць аб значнай адсталасьці паасобных сялянскіх груп. Сьвяткаваньне розных сьвяточных дзён з абавязковым спажываньнем алькоголю, гэтая рэштка старога быту, яшчэ моцна прымаецца ў сялянстве. Моцны яшчэ і старыя звычаі саправаджаць выконваньне розных рэлігійных абрадаў спажываньнем алькоголю. Напрыклад, больш паловы (69%) хрэсьбін дзяцей у царкве канчаецца выпіўкай; каля паловы пахаваньняў (45,3%) мелі «памінкі» з гарэлкай і самагонам, шлюбы ў царкве ў 87 выпадках з 100—саправаджаліся сьвяткаваньнем з спажываньнем алькоголю. Гэтыя старыя звычаі яшчэ займаюць не малое месца ў сялянскай масе.

Сярэдні разьмер спажываньня алькоголю ў памянутых вышэй выпадках саправаджэньня рэлігійных цэрэмоній сьвяткаваньнем ці пачастункам з выпіўкай прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| Групы гаспадарак | На хрэсьбінах | На пахаваньняў | На вясельлі |
|---|---|---|---|
| Пролетарыят | 4,5 | 2,0 | — |
| Паўпролетарыят | 2,2 | 0,6 | 13,5 |
| Прост. таваравыт | 3,3 | 4,1 | 17,4 |
| Дроб. кап. гасп. | 5,9 | 6,1 | 35,0 |
| „А*) („няпісьмен.„) | 3,8 | 7,0 | — |
| „Б“ | 3,5 | 4,2 | — |
| **Усе групы** | **3,3** | 4,2 | **18.5** |

Найбольшы процант выпадкаў хрэсьбін, царкоўных пахаваньняў і шлюбаў у царкве дае група дробных капіталістычных гаспадарак, а таксама і па разьмерах спажытага ў гэтых выпадках алькоголю, гэтая група гаспадарак дае найбольшыя паказальнікі. Параўнаўча меншы процант дае група «Б» і па колькасьці выпадкаў спажываньня алькоголю, як працягу выконваньня адпаведных рэлігійных абрадаў, і па разьмерах спажываньня.

У заключэньне трэба сказаць, што алькоголь, спажыты на хрэсьбінах, пахаваньнях і вясельлях, складае амаль што 1/5 частку (18,2%) усяго спажываемага сялянствам алькоголю.

Апрача зруйнаваньня здароўя насельніцтва алькоголь хваравіта адбіваецца і на бюджэце сялянскай гаспадаркі.

Па даных штомесячных грашовых прыбытка-выдатковых запісаў па 47 гаспадарках у 1928/29 г. выдаткі на алькоголь складалі ў сярэднім 2,57% усяе выдатковае часткі грашовага бюджэту гаспадаркі. Па тых жа даных, у сярэднім на адну гаспадарку было выдаткавана на алькоголь 10 р. 32 кап.

Абсьледваньне 1929 году ня ставіла пытаньня аб разьмерах грашовых выдаткаў гаспадаркі на алькоголь, бо аднаўленьне ў памяці сум выдаткаў і цяжка для апытваемага і пагражае сьвядомым зьніжэньнем разьмераў выдаткаў. Вылічэньне апошніх было зроблена шляхам пераводу спажытага алькоголю на сярэдні прадажны кошт 1 літра гарэлкі (па даным Цэнтрасьпірту) і 1 літра самагонкі (па апыту яго кошту на месцах).

У выніку мы маем наступныя паказальнікі сярэдніх выдаткаў гаспадарак паасобных груп на алькоголь:

| Групы гаспадарак | На 1 гасп. (у рубл.) | На 1 члена сям'і, якіп'е (у рубл.) |
|---|---|---|
| Пролетарыят | 8,19 | 1,56 |
| Паўпролетарыят | 8,85 | 1.87 |
| Простыя таваравытворцы | 12,75 | 2,27 |
| Дробн. капітал. гасп. | 24,41 | 4,23 |
| „А“ (якія ня маюць пісьмен.) | 11,78 | 2,63 |
| „Б“ (з чл. партыі і КСМ) | 12,93 | 2,10 |
| **Па ўсіх групах** | **12,82** | **2,32** |

Такім чынам мы атрымліваем сярэдні разьмер выдаткаў на 1 гаспадарку на алькоголь за год у 12 р. 82 кап., суму некалькі большую, чым знаходзім у запісках грашовага прыбытку і выдатку па 47 гаспадарках. Значная колькасьць паказаньняў па гэтаму запытаньню, якія атрыманы пры культурна-бытавым абсьледваньні ў 1929 г. (1098 гаспадарак) і правільнасьць атрыманых радоў кажуць пра тое, што адтрыманыя велічыні

адпавядаюць сапраўднасьці. Гэтая сума ў адносінах да агульнага разьмеру грашовых выдаткаў гаспадаркі, якая вылічана па даных грашовых запісаў сялянскіх гаспадарак (400,9 руб.) складае 3,19%.

Сярэдні выдатак на адну гаспадарку па паасобных групах дае досыць правільны рад паказальнікаў, але-ж разьмер выдаткаў на 1 члена сям'і, ў якой спажывается алькоголь, захоўвае гэту правільнасьць толькі па соцыяльна-экономічных групах гаспадарак; па групе «А» («няпісьменных») мы знаходзім, што выдаткі на гаспадарку менш сумы выдатку гаспадарак, якія маюць пісьменных членаў сям'і, але-ж на 1 чал., які выпівае з групы «А» вытадак на алькоголь большы, чым па групах «пісьменных» гаспадарак. Апошняе зьявішча тлумачыцца меншай колькасьцю членаў сям'і ў групе «А», якія спажываюць алькоголь супроць груп гаспадарак, што маюць у сваім складзе пісьменных.

Заслугоўвае ўвагі пытаньне аб кошце алькоголю, які спажываецца ў сувязі з вытварэньнем розных рэлігійных абраднасьцяй, як: хрэсьбіны, пахаваньні і вясельлі. У старыя часы ўсе памянёныя цэрэмоніі мелі сваёй заключнай часткай пачастунак гасьцей ці наведвальнікаў з абавязковай выпіўкай. Гэты перажытак старадаўніх часоў жыве і зараз яшчэ кладзецца цяжкай абузай на сялянскі бюджэт.

У сярэднім на адных хрэсьбінах на алькоголь трацiцца 6 руб. 40 к., на памінках гэты выдатак складае 8 руб. 15 кап., а на вясельлі на гарэлку і самагон у сярэднім трацілі 37 руб. 50 кап. Па дробна-капіталістычных гаспадарках гэтыя страты былі куды вышэй: на хрэсьбінах—11 руб. 31 кап., на памінках—21 р. 88 к. і на вясельлях 68 руб.

Апрача страты грашовай, якая выклікаецца спажываньнем алькоголю трэба заўважыць і значную колькасьць хлеба, якая губіцца на выганку самагону. Досыць сказаць, што толькі па нязначнай, параўнаўча, частцы сялянства, якое ахоплена абсьледваньнем і дало весткі аб спажываньні алькоголю, мы маем паказальнікі спажываньня самагонкі на выганку якой было страчана 114 пудоў хлеба. Нават прыблізныя падлікі колькасьці страчанага ў мінулую зіму на самагонку толькі сялянамі збожжа гавораць больш чым аб 10.000 пудоў яго. І гэта ў год цяжкі, у год недароду, калі кожны пуд жыта быў у селяніна на вучоце.

III.

Рэлігійныя вераваньні служаць найбольш моцным сродкам захоўваньня старых звычак жыцьця. Прыгнятаючы волю чалавека, рэлігія заўсёды служыла і служыць ворагам усяго новага, усяго здаровага, што спрыяе перабудове жыцьця на новы, лепшы лад. Шмат старых, найбольш дзікіх, звычаяў у быту селяніна былі зьвязаны з рэлігійнымі вераваньнямі, а ў паасобных выпадках нават асьвяцаліся царквой.

З другога боку, рэлігія, зьяўляючыся зброяй капіталістычных элемэнтаў вёскі, праз кулацкіх наймітаў—папоў, ксяндзоў, рабінаў,—дае моцную падставу для работы варожых нам элемэнтаў, якія разлагаюць сялянскую масу пакрысе, знутры, прыкрываючыся служэньнем богу.

Моцная барацьба, якая вядзецца арганізацыямі таварыства бязбожнікаў, яшчэ ня мае значных вынікаў. Як паказваюць ніжэйпрыведзеныя даныя абсьледваньня 1929 г. гэты вучастак фронту нашай барацьбы за культуру ў вёсцы павінен быць у полі нашага асаблівага нагляданьня.

Пэўна тое, што мы мелі ў старыя гады і нават у нядаўні час, значна адрозьніваецца ад таго, што мы маем у 1928-29 годзе. Пэўна, што мы маем посьпехі ў сваёй антырэлігійнай рабоце, аднак паказаныя вышэй даныя аб колькасьці кніг рэлігійнага зьместу, якія знаходзяцца ў сялянскіх хатах, кажуць, што гэты папяровы хлам нібы каму патрэбен яшчэ, і, што кніжка антырэлігійнага зьместу ні па колькасьці, ні па шырыце ахопу сялянскіх гаспадарак ня мае яшчэ належнага распаўсюджаньня. І калі няма чаго казаць аб гэтым па групах заможных гаспадарак—пэўных захоўвацеляў старажытнасьці ў быту, дык нельга не заўважыць, што антырэлігійная кніга і ў найбольш перадавых сялянскіх гаспадарках (група «Б» у нашай групоўцы) ёсьць менш, чым у 60% гаспадарак, а наогул

удзельная вага яе ва усёй масе друкаваных выданьняў, што знаходзяцца ў сялянскіх хатах, па абсьледаваных гаспадарках, займае менш 6%.

Варожыя нам элемэнты вёскі шырока скарыстоўваюць малельныя дамы і паслугачоў рэлігійнага культу, як рупар свае ідэолёгіі, як арэну свае масавай агітработы. Вынікам гэтага зьяўляецца цікавы склад гэтай папоўскай аўдыторыі.

Адначасова гэтыя паказальнікі складу наведвальнікаў малельняў даюць магчымасьць вызначыць, наколькі глыбока сядзяць у розных колах насельніцтва старыя забабоны і навыкі, якія так старанна штогодзьдзямі прышчэпліваліся працоўным масам вёскі.

Пераходзячы да лічбаў, што атрыманы намі ў выніку падлікаў абсьледваньня культурна-бытавога становішча вёскі Віцебшчыны, трэба сказаць, што замест амаль што стопроцантнага наведваньня царквы ды інш. малельных дамоў, якое ў старыя часы ў сялянскай масе зьяўлялася звычайным зьявішчам, абавязкам пасьвячоным вякамі, сярод абсьледваных гаспадарак мы знаходзім 63,7%, з якіх адзін ці некалькі членаў двара (і ні ў водным выпадку—усе члены сям'і) наведваюць царкву або інш. малельныя дамы.

Гэты процант гаспадарак па паасобных групах хістаецца наступным чынам: пролетарыят—58,9%, паўпралетарыят—51,9%, простыя таваравытворцы—65,4% і дробна-капіталістычныя гаспадаркі—73,1%. На высокім процанце пролетарскай групы адбіваецца наяўнасьць у ёй гаспадарак, якія ня маюць у сваім складзе ніводнага пісьменнага члена сям'і, бо сярод гэтых «няпісьменных» гаспадарак процант двароў з членамі сям'і, якія наведваюць царкву і малельні, складае 70,9%. Таксама і па групе «Б» мы знаходзім 50,9% такіх гаспадарак.

Але-ж пры разглядзе складу наведвальнікаў царквы і інш. малельных дамоў мы ўбачым іншыя суадносіны.

Па-першае, у адносінах да ўсяго насельніцтва абсьледаваных гаспадарак наведвальнікі царквы і інш. малельных дамоў складаюць ледзь 28,5%, а мужчыны дык і наогул толькі 20,7% мужчынскага складу гэтых гаспадарак; па-другое, з усяе масы наведвальнікаў царквы і інш. малельных дамоў 48% складаюць людзі ва ўзросьце 40 год і старэй, а сярод мужчын нават гэтыя старыя складаюць 55,7%. Па групе «Б» гэтыя старыя складаюць каля ¾ усіх наведвальнікаў царквы з гэтай групы гаспадарак (74%).

Найбольшы процант наведвальнікаў царквы дае група гаспадарак, што ня мае ў сваім складзе пісьменных членаў сям'і (група «А»), і дробна-капіталістычныя гаспадаркі: у першай з памянёных груп наведваюць царкву ці іншыя малельныя дамы 38,8% насельніцтва гэтай групы, у другой—35,2%.

Як было адзначана вышэй, нават у гаспадарках, якія трымаюць сувязь з царквою або іншымі малельнымі дамамі, наведвальнікамі іх зьяўляюцца ня ўсе члены гэтых гаспадарак, і маса наведвальнікаў царквы складае ледзь 45,2% насельніцтва абодвага роду гэтых гаспадарак (мужчыны, якія наведваюць царкву складаюць 31,5% мужчынскага складу гэтых гаспадарак і жанчыны—55,4%)

Паступовае расьсейваньне рэлігійнага дурману мы маем і ў адмове шырокіх мас сялянства ад такога моцнага ў мінулыя часы звычаю, які прышчэплены царквою, як пост. Розныя «піліпаўкі», «вялікія пасты», «пятроўкі» ды інш. усё менш і менш знаходзяць прыхільнікаў у сялянскай масе.

Зараз, па даных абсьледваньня ў 1929 г., мы маем, што менш чым у ⅓ часткі сялянскіх гаспадарак ёсьць члены сям'і, якія постуюць. Трэба сказаць, што і ў гэтых 503 гаспадарках, якія налічваюць у сваім складзе 1824 чал. насельніцтва постуюць каля 84% (1531 чал.) і з іх ⅔ складаюць старыя і дзеці з падросткамі.

Да агульнай колькасьці ахопленага абсьледваньнем насельніцтва тыя, што постуюць, складаюць толькі 17,3%, пры чым жанчын, якія постуюць,—каля 20% усяго жаночага складу насельніцтва абсьледваных гаспадарак.

Пры досыць значна паслабеўшых сувязях з царквой, у параўнаньні з мінулымі часамі, аб чым можна судзіць па вышэйпаданых лічбах, чыста надворныя адзнакі прыналежнасьці да рэлігійнага культу яшчэ існуюць у вялікай большасьці гаспадарак. Так, калі мы паглядзім, колькі

сялянскіх хат маюць на сьценах абразы, дык бачым, што з ахопленых абсьледваньнем 1619 хат у 1426 (ці 88,1%) ёсьць абразы, пры чым гэты % хістаецца ад 64,8% (гаспадаркі групы «Б») да 94,5% (гаспадаркі групы «А»). З 193 гаспадарак, якія ня маюць на сьценах абразоў—68,4% (132 гасп.)—няверуючыя, 8 гаспадароў—сэктанты і 53 прыналежаць да рэлігійных культаў, якія не прызнаюць пачытаньня абразоў.

Другой адзнакай зьвязанасьці з рэлігіяй і яе служакамі зьяўляецца наведваньне апошнімі сялянскай хаты з малебнамі ў дні вялікіх рэлігійных сьвят. У Віцебскай акрузе гэты звычай, які меў вельмі шырокія памеры ў цэнтральнай частцы СССР, наогул мае невялікае распаўсюджваньне, аднака, абсьледваньнем зафіксаваны 192 гаспадаркі (11,9% усяе абсьледванай колькасьці гаспадароў), якія прымаюць паслугакоў культаў-пры абыходзе імі паселішчаў з малебнамі. Процант такіх гаспадарак хістаецца па паасобных групах абсьледваных сялянскіх двароў з 5,5% у гаспадарках бядняцкіх да 23,1% у заможных—дробна-капіталістычных гаспадарках.

Не прайшлі бяз сьледу аджытыя 13 год для надлому старога быту на вёсцы. Мы ня маем яшчэ цалкам перабудаванага быту, але-ж нават у выкананьні шэрагу абрадаў, якія ў быту амаль што страцілі даўно свой рэлігійны характар і застаюцца як абавязак дыктуемы «добрымі нравамі», абрадаў, як хрэсьбіны, царкоўныя пахаваньні і шлюбы, мы бачым проблескі новага быту.

Яшчэ ў нядаўнія часы вясковая грамадзкасьць накладала цяжкую пляму недаверлівасьці, гарэзьлівасьці і моцна ганьбавала сялян, якія ня хрысьцілі нованароджаных. І гэтыя выпадкі былі адзінкавымі ў сельскіх мясцовасьцях. Уздым культурнасьці вёскі і работа ячэек бязбожнікаў ужо зрабілі тое, што мы маем зараз больш чым ¼ нованароджаных дзяцей няхрышчонымі (25,1%). Зразумела, што гэта нельга прызнаць яшчэ вялікім дасягненьнем. Сіла старога ўкладу жыцьця вёскі настолькі яшчэ моцная, што, напрыклад, з 226 гаспадароў, што ахрысьцілі сваіх нованароджаных дзяцей, два лічаць сябе няверуючымі, і нават ня трымаюць у хаце абразоў, а 45 гаспадароў не наведваюць ніколі царквы (ні самі, ні абы хто з членаў сям'і) і ўсё-ж такі дзяцей хрысьцілі. Трэба сказаць, што ў найбольш культурнай частцы сялянства (у групе Б) мы маем 50% хрэсьбін нарадзіўшыхся ў працягу 1928-29 году дзяцей.

Пахаваньне нябожчыкаў па рэлігійнаму абраду дае яшчэ большы процант ад усяе колькасьці пахаваньняў, якія былі ў працягу году ў абсьледаваных гаспадарках, чым хрэсьбіны да нарадзіўшыхся. У сярэднім 83,1% усіх нябожчыкаў былі пахаваны ў прысутнасьці папа, па рэлігійнаму абраду. Гэты процант хістаецца па паасобных групах абсьледаваных гаспадарак наступным чынам: па групе «А» («няпісьменныя» гаспадаркі )ён складае 100% па групе «Б»—62,5%, па пролетарскіх гаспадарках толькі 50%, па дробнакапіталістычных гаспадарках дасягае 90%.

Тутака трэба адзначыць, што адносная велічыня прыведзеных процантаў царкоўных пахаваньняў у большасьці выпадкаў тлумачыцца ня столькі моцнасьцю рэлігійных вераваньняў, колькі жаданьнем «уважыць старых» нябожчыкаў, якія хадзілі ў царкву, верылі ў бога і гэтак далей, бо з ліку гаспадароў, якія пахавалі сваіх нябожчыкаў «па царкоўнаму» мы знаходзім 3,5% няверуючых і 21% гаспадароў, з якіх ніхто з членаў двара ніколі зараз не наведвае царкву ці іншых малельных дамоў.

Ня гледзячы на тое, што грамадзянскі шлюб доўгі час і з вялікімі цяжкасьцямі заваёўваў права на сваё існаваньне ў сялянскай масе, ня гледзячы на моцнае супраціўленьне, якое яму аказвалі і найбольш несьвядомая частка сялянства, і папы з царкоўнымі падпяваламі, зараз мы маем, па матар'ялах абсьледаваных гаспадарак, значныя дасягненьні. З 124 выпадкаў шлюбу, якія былі ў працягу 1928-29 году ў абсьледаваных гаспадарках, толькі ¼ была пасьля запісу ў ЗАГС'е «замацавана» рэлігійнай цэрэмоніяй. Пры гэтым цікава адзначыць, што «царкоўных» шлюбаў ня было ні ў «няпісьменных» гаспадарках, ні ў гаспадарках групы «Б», ні у пролетарскай групе,

але за тое палова ўсіх шлюбаў у дробна-капіталістычных гаспадарках была яшчэ ў царкве.

Усё гэта паказвае, што адпаведны зрух ужо ёсьць, што некаторыя ўстоі старога быту, здавалася непарушныя, парушаны.

Становішча, якое мы зараз маем у частцы захаваньня значнай колькасьцю сялянства шэрагу рэлігійных абрадаў, апрача разлагаючага ўплыву на сялянскую масу, якое зьвязана з гэтым рэлігійным дурманам, выклікае і значныя матар'яльныя страты.

У першую чаргу гаспадарка нясе выдаткі па аплаце паслугачоў культу за выкананьне рэлігійных абрадаў. Па паказаньнях абсьледаваных гаспадарак, за хрэсьбіны дзіцяці ў сярэднім плацілі 90 кап. (з хістаньнямі ад 50 кап. да 1 руб. 50 кап.), за пахаваньне плацілі ў сярэднім па 3 руб. (ад 1 руб. 50 кап. да 5 руб.) і за шлюб ад 5 да 10 руб. (у сярэднім па ўсіх групах—5 руб. 30 к.). Усяго абсьледаванымі гаспадаркамі было страчана толькі на аплату паслугачоў рэлігійных культаў за 1928-29 год 795 руб.

Хрэсьбіны, царкоўныя пахаваньні і шлюбы выклікаюць страты гаспадаркі ня толькі на аплату паслугачоў культу. Як непасрэдны вынік выкананьня гэтых абрадаў мы маем па старых звычаях абавязак пачастунку гасьцей ці наведвальнікаў. І вось гэты «пачастунак» значна ацяжарвае бюджэт селяніна. Вышэй мы ўжо адзначылі, як адбіваецца на разьмерах спажываемага алькаголю сьвяткаваньне, зьвязанае з выконваньнем памянёных рэлігійных абрадаў. Па матар'ялах абсьледваньня, выдаткі сялянскіх гаспадарак на пачастунак у пералічаных вышэй выпадках складаюць 6559 рублёў, а разам з сумай, якая выдаткоўвецца на служакоў рэлігійнага культу, што суправодзяць гэты абрад, больш чым у 1½ разы перавышае суму, якая траціцца ўсімі абсьледванымі гаспадаркамі на здабыцьцё кніг і выпіску газэт.

# У ДАПАМОГУ ДЗІЦЯЧАЙ ПЛЯЦОЎЦЫ

Крупецкая і Рудакоўская

## Зьмест пэдагогічнай работы на летняй дзіцячай пляцоўцы

### Агульныя палажэньні

1. Асноўнай задачай пры організацыі дзіцячай пляцоўкі ўлетку 1930 г. зьяўляецца паглыбленьне пэдагогічнай работы.

2. Пэдагогічная работа абумоўліваецца агульнымі задачамі савецкага дашкольнага выхаваньня і асаблівасьцямі асяродзьдзя (вясковыя, гарадзкія).

3. На пляцоўцы павінна быць утворана асяродзьдзе пэўнай клясавай накіраванасьці, здольнае даць дзецям колектывістычныя і організацыйныя звычкі, стымуляваць іх творчую актыўнасьць, падвесьці іх да матэрыялістычнага сьветаразуменьня.

4. Асноўным шляхам для ажыцьцяўленьня гэтых задач зьяўляецца ўцягненьне дзяцей ў будаўніцтва ўсяго жыцьця пляцоўкі і ўстанаўленьне моцнай сувязі паміж гэтым жыцьцём і сучаснасьцю.

5. У сувязі з абвостранай клясавай барацьбой унутры нашай краіны, у якой нашымі клясавымі ворагамі скарыстоўваюцца моманты нацыянальнай варожасьці, трэба асабліва зьвярнуць увагу на організацыю грамадзка-політычнага выхаваньня, якое павінна быць інтэрнацыянальным і антырэлігійным.

6. Улічваючы летнія ўмовы, трэба значнае месца ў рабоце адвесьці пытаньню фізычнага аздараўленьня дзяцей.

### Грамадзка-політычнае выхаваньне і організацыя дашкольнага колектыву на дзіцячай пляцоўцы ў вёсцы

Наша выхаваньне—ёсьць выхаваньне клясавае, і пролетарская дзяржава ставіць перад намі пэўную мэту—выхаваць такіх людзей, якія маглі-б працягваць пачатую справу па соцыялістычнаму будаўніцтву. Грамадзка-політычнае выхаваньне праводзіцца праз колектыў і зьмест яго бярэцца з вакольнага сучаснага політычнага жыцьця. Клясавае выхаваньне павінна быць інтэрнацыянальным.

Ва ўмовах БССР пытаньне інтэрнацыянальнага выхаваньня зьяўляецца асабліва важным пытаньнем і яго трэба праводзіць ня ў сувязі з рознымі кампаніямі, павінна быць сталая сыстэматычная работа, якая праводзіцца па адзінаму пляну, г. зн. элемэнты інтэрнацыянальнага выхаваньня павінны пранізваць усю работу дзіцячых пляцовак. Трэба выкарыстаць бліжэйшую наўкольнасьць і паставіць інтэрнацыянальную работу на жывых прыкладах, тым больш, што кожны куток нашага жыцьця прадстаўляе багатую комбінацыю розных нацыянальнасьцяй, што зварочвацца за прыкладамі далёка ня трэба.

Клясавае выхаваньне павінна быць антырэлігійным, таксама як і інтэрнацыянальнае. У пэрыод абвостранай клясавай барацьбы аб бязрэлігійным выхаваньні ня можа быць і рэчы.

У сем'ях колгасьнікаў яшчэ таксама шмат хто верыць у розныя рэлігійныя забабоны, таму ва ўмовах работы ў колгасах мы таксама ня можам пакінуць бяз увагі пытаньне антырэлігійнага выхаваньня.

Пэдагог зьяўляецца організатарам пэдагогічнага процэсу. Пры выбары матар'ялу з наўкольнага грамадзка-полі-

тычнага жыцьця пэдагог павінен кіравацца наступным:

1) ці адпавядае выбраны матар'ял па зьместу мэтам савецкай пэдагогікі;

2) ці даступны ён па форме і па зьместу дзецям;

3) ці можна ўцягнуць дзяцей у актыўную чыннасьць у сувязі з выбранымі матар'яламі.

Зьмест работы дзіцячых пляцовак ва ўмовах колгасу павінен уключыць ў сябе шэраг жыцьцёвых пытаньняў, якія лёгка можна ўвязаць з работаю па надняцьцю сельскай гаспадаркі, напрыклад: догляд за гародам, ягаднікам, куравадзтва і г. д. Аднэй з форм сувязі з сучаснасьцю зьяўляецца сувязь пляцоўкі з піонэрорганізацыяй, як найбольш блізкай дзецям дашкольнікам па сваіх задачах і па організацыі.

Піонэры прыходзяць на пляцоўку, як старэйшыя таварышы, і дзеці дашкольнікі знаёмяцца з імі, як са зьменаю камсамольцаў і памочнікамі комуністых. Да пляцоўкі трэба прымацаваць піонэрскае зьвяно, асоб у 10, з разьмеркаваньнем работы ўнутры яго.

Для штодзённай работы на пляцоўку прымацоўваюцца 2-3 піонэры, астатнія піонэры з прымацаванага зьвяна пэрыодычна наведваюць дзіцячую пляцоўку (піонэры заняты на рабоце і ня могуць заўжды быць на пляцоўцы). З дашкольнікамі могуць працаваць піонэры старэйшага ўзросту і ў крайнім выпадку сярэдняга, не маладзей 12-14 год.

Прымацаванае да дзіцячай пляцоўкі зьвяно піонэраў павінна атрымоўваць з боку кіраўніка дзіцячай пляцоўкі конкрэтную работу. Піонэры могуць удзельнічаць у розных відах работ на пляцоўцы, напр.: чытаньне, расказваньне, сталярныя работы і г. д.

Піонэры прымаюць удзел ва ўсіх сьвятах і кампаніях, якія праводзіць дзіцячая пляцоўка. Работа піонэраў павінна ўключацца ў штодзённы плян работы пляцоўкі, і піонэр павінен зьяўляцца для дашкольніка ня госьцем, а таварышом па рабоце. Вельмі важна, каб піонэр зьяўляўся для дзяцей пляцоўкі прыкладам па чыстаце і організаваннасьці (піонэр прыклад для ўсіх дзяцей).

Кіраўнік павінен сачыць за тым, каб атрымоўваемыя заданьні піонэры прапрацоўвалі ў сябе ў зьвяне і заняткі з дашкольнікамі праводзілі організавана.

Цяпер пяройдзем да грамадзка-політычнага выхаваньня.

Бягучае грамадзка-політычнае жыцьцё ў выглядзе розных падзей, кампаній чула ўспрымаецца дзяцьмі. Гэтыя кампаніі наступныя: кампанія хлебазагатовак, гадавіна колгасу, прыбыцьцё машын з гораду і г. д. Кожная з гэтых кампаній, якая зьвязана з соцыялістычным будаўніцтвам, у выніку прапрацоўкі з дзяцьмі дае грамадзка-політычную накіраванасьць дзіцячаму колектыву. Прапрацоўка такіх кампаній складаецца з 3 частак: 1) падрыхтоўка 2) правядзеньне саміх кампаній, 3) падагульненьне праведзенай кампаніі. Напрыклад: гадавіна колгасу—падрыхтоўка можа выявіцца ў правядзеньні гутарак на тэмы: 1) значэньне колгасу, 2) жыцьцё колгасу за год. Могуць быць праведзены экскурсіі па пытаньнях колектыўнай працы, культработы і г. д.

Дзеці рыхтуюць плякаты, упрыгожаньні для колгасу (кожны па сваіх сілах). Таксама можна падрыхтаваць старэйшых дзяцей да выступленьня на сьвяткаваньні дарослых.

Пасьля праведзенага дзяцьмі сьвята, дзеці на працягу некалькіх дзён дзеляцца ўражаньнямі ад праведзенай кампаніі, адлюстроўваючы гэта ў сваіх гутарках, гульнях, у маляваньні і г. д.

На сьвяткаваньні, якое наладжваюць дзеці ў сябе на пляцоўцы пажадана прысутнасьць працаўнікоў грамадзкіх організацый. Апошнія могуць расказаць дзецям некалькі яскравых момантаў з жыцьця колгасу, ці партыйных і комсамольскіх організацый. Аналёгічна гэтым могуць быць праведзены і астатнія кампаніі. Але сувязь з колгасам не павінна абмяжоўвацца толькі кампаніямі, гэта сувязь павінна быць штодзённай.

Сувязь з саветам колгасу ўстанаўляецца праз прадстаўніка ў савеце пляцоўкі. Ён зьяўляецца памочнікам кіраўніку ў яго рабоце.

З дзецьмі можна правесьці экскурсію ў савет колгасу, прасачыць за яго рабо-

таю і азнаёміцца з яго організацыямі і з тым, хто там працуе. Прапрацоўваючы гэты матар'ял, можна будзе падыйсьці далей да таго, хто кіруе ўсёй нашай краінай, ці так было да рэволюцыі. З копэрацыяй дзеці знаёмяцца ў сувязі з організуемым момантам—«Дзень Копэрацыі».

Ва ўмовах колгасу трэба азнаёміць дзяцей з перавагай працы ў колгасе над працаю ў індывідуальнай гаспадарцы. Гэта праводзіцца шляхам экскурсій на месца працы колгасу і паасобных сялянскіх гаспадарак.

Таксама трэба пазнаёміць дзяцей з дзеячамі рабочае клясы. Напрыклад: з асобаю Леніна можна дзяцей пазнаёміць у сувязі з прапрацоўкай «Дзень копэрацыі». Тут высьвятляецца роля Леніна, як дзеяча рабочае клясы ў барацьбе з буржуазіяй (праз экскурсіі, гутаркі, чытаньне, вывучэньне вершаў і г. д.). У даступнай форме дзеці падводзяцца да разуменьня заветаў Леніна (змагацца з буржуазіяй, дапамагаць у гэтым змаганьні рабочым іншых краін, будаваць заводы, колгасы, копэрацыю, дзіцячыя сады і г. д.). Экскурсіі праводзяцца ў тыя ўстановы і організацыі, якія ўтвораны рабочымі, калі стала ўлада саветаў (у копэратыў, сельсавет, хату-чытальню і г .д.). У сувязі з гэтым можна зрабіць куток Леніна на пляцоўцы.

Цяпер пяройдзем да пытаньня, што-ж мы разумеем пад дзіцячым колектывам і як яго організаваць.

*Колектыў*—такая сумеснадзейная група асоб, якая аб'яднана агульнай мэтай, і дзейнасьць кожнага члена ўзгоднена накіравана да дасягненьня гэтай мэты. Адсюль колектывізм ёсьць такая асаблівасьць чалавека, якая выяўляецца ва ўменьні і жаданьні падпарадкаваць свае інтарэсы інтарэсам колектыву, выпрацаваць правілы сумеснай работы і выконваць тэтыя правілы.

Усялякая дзейнасьць дзяцей цягне за сабою тэй ці іншы від організацыі. Дзеці могуць організоўвацца наўкол працоўнай і гульнявой дзейнасьці. Асноўным відам дзіцячай дзейнасьці савецкая пэдагогіка лічыць працоўную дзейнасьць. На аснове гэтай дзейнасьці павінна організоўвацца дзіцячы колектыў. Працоўны процэс заўсёды конкрэтны і мэтанакіраваны. Ён ставіць дзяцей у такія ўмовы, што яны павінны міма волі ўзгадняць свае дзеяньні паміж сабою, прыстасоўваючы падзел працы.

Гульнявая дзейнасьць таксама можа організаваць дзяцей; яна ўзбагачае і пашырае практыку дзіцяці. У гульні дзіця аднаўляе зьявішчы і процэсы наўкольнага жыцьця.

Ва ўмовах работы ў колгасе, дзе адзін пэдагог вядзе работу з дзецьмі ўсіх узростаў, організаваць колектыў у 30-40 чалавек яму аднаму вельмі цяжка, бо інтарэсы і запатрабаваньні дзяцей розныя, у залежнасьці ад узросту.

На дапамогу сабе пэдагог павінен прыцягнуць піонэраў, комсамольцаў, устанавіць дзяжурствы матак і падзяліць дзяцей на групы. Трэба яшчэ адзначыць, што пры падзеле дзяцей на групы ня трэба строга прытрымлівацца ўзростнага прынцыпу. Тут павінны ўлічвацца таксама і індывідуальныя асаблівасьці кожнага дзіцяці.

**Віды працы, якія організуюць дзяцей на пляцоўцы:**

1) Самаабслугоўваньне (у вузкім сэнсе слова); 2) грамадзка-неабходная праца; 3) дзяжурствы; 4) камісіі; 5) ручная праца.

Разьмеркаваньне дзяцей ў рабоце павінна быць не мэханічным. Трэба самім дзецям даць магчымасьць знаходзіць шляхі да выкананьня узятага на сябе заданьня. Выходзячы з практыкі, можна сказаць, што пляцоўка яшчэ ня зусім з'організавана, калі прыходзіцца прымаць дзяцей. Гэты момант трэба скарыстаць для організацыі дзяцей на пляцоўцы. Дзеці адразу-ж змогуць прыняць актыўны ўдзел у прыстасаваньні свайго жыцьця на пляцоўцы (прыбіць вешалку, разьвесіць што-небудзь і г. д). Для гэтай работы спачатку трэба прыцягваць найбольш актыўных дзяцей, якія выказваюць жаданьне дапамагаць кіраўніцы, а праз дзень ці два, можна будзе прыцягваць і іншых дзяцей старэйшага ўзросту. Такім чынам праз некалькі дзён частка дзяцей будзе ўжо знаёма з рэжымам дню на пляцоўцы і з некаторымі правіламі ўнутранага распарадку. Гэта

ўжо зьяўляецца першым этапам у арганізацыі дзяцей для нясеньня сыстэматычных дзяжурстваў на пляцоўцы. У далейшым дзяжурствы павінны мяняцца кожны дзень, разьмеркаваць іх трэба такім парадкам, каб за выкананьнем дзяжурстваў сачылі старэйшыя дзеці, а ў дапамогу ім прыцягваліся малышы. Дзяжурствы могуць назначацца па сталоўцы, па прыбіраньню памяшканьня, па гароду і г. д.

Калі дзеці добра ўсьвядомяць правілы дзяжурства, можна будзе прыступіць да арганізацыі самых простых камісій. Такія камісіі выбіраюцца на агульным сходзе. Працяг работы дзяцей у гэтых камісіях ня больш 7-8 дзён; колькасьць дзяцей—3 чалавекі. Такімі камісіямі могуць быць на пляцоўцы наступныя: 1) санітарная, 2) гаспадарчая (па сталоўцы), 3) па прыбіраньню матар'ялаў, 4) па гароду і г. д.

Работа ў гэтых камісіях толькі тады будзе цікавая для дзяцей, калі арганізацыя тэй ці іншай камісіі выклікана жыцьцёвай патрэбай.

У пачатку камісіі арганізуюцца толькі самыя патрэбныя, а затым лік іх павялічваецца. Каб выклікаць зацікаўленасьць дзяцей да работы, трэба пасьля сканчэньня тэрміну тэй ці іншай камісіі зрабіць разам з дзецьмі ацэнку работы камісіі. Калі работа праводзілася дрэнна, дык устанавіць, чаму; як трэба было працаваць, каб работа была добра пастаўлена. Пасьля такой ацэнкі дзеці выбіраюць новых асоб у склад камісіі. Выбары камісіі і ацэнка работы, ёсьць пачатак дзіцячых сходаў. Паступова зьмест гэтых сходаў робіцца больш складаным. На іх абгаварваюцца і вырашаюцца ўсе пытаньні, якія выплываюць з жыцьця дзіцячай пляцоўкі. Сходы не павінны зацягвацца (ня больш 20 хвілін). Аднаго, двух пытаньняў зусім досыць для аднаго сходу. У канцы сходу трэба, каб кіраўнік сходу выразна паўтарыў рашэньне сходу і ў далейшым назіраў бы за яго выкананьнем.

Пратакол сходу павінен весьці пэдагог. У пратаколе павінны быць адзначаны ўсе выступленьні дзяцей. Вельмі важна, каб вёўся ўлік самаарганізацыі дзяцей з першага дню прабываньня іх на пляцоўцы. Гэта дае магчымасьць улічыць к канцу работы ці прышчапіліся дзецям колектывістычныя звычкі, а ў працэсе работы можна ўлічыць, якіх дзяцей і на якую работу можна накіраваць. Калі на пляцоўцы знойдуцца пісьменныя дзеці, дык з імі можна будзе арганізаваць падагульненьне работы камісій у дзёньніках.

### Фізычнае выхаваньне

Значная частка пэдагогічнай работы на пляцоўках прыпадае на долю фізычнага выхаваньня дзяцей.

Уся пэдагогічная работа на пляцоўцы знаходзіцца ў цеснай сувязі з аховай здароўя дашкольніка.

Уся наша пэдагогічная работа, асабліва работа па разьвіцьцю звычак, павінна адпавядаць задачам фізычнай культуры дзяцей і ўлічваць біолёгічныя асаблівасьці і гігіенічныя патрэбы адпаведнага дашкольнага ўзросту.

Антысанітарныя ўмовы, у якіх знаходзяцца дзеці вёскі, высоўваюць перад пэдагогамі шэраг задач:

1) Дзіця павінна атрымоўваць звычкі ня толькі па асабістай гігіене, але і па грамадзкай гігіене.

2) Пэдагог павінен сачыць ня толькі за выкананьнем дзяцьмі правіл гігіены на пляцоўцы, але клапаціцца аб ужываньні гэтых звычак і дома.

3) У дзіцяці павінен быць заложаны навык патрэбы мець і дома чыстую вопратку, асобную лыжку, кубак, міску, ручнік, пасьцель і чыстае памяшканьне. Пэдагог разам з дзяцьмі павінен быць праваднікам гігіены ў шырокія масы насельніцтва.

Асноўныя моманты фізычнага выхаваньня наступныя:

а) Фізычны догляд за дзіцём.

б) Культура яго скуры.

в) Харчаваньне.

г) Правільны дзённы рэжым.

д) Культура руху.

Пад фізычным доглядам дзіцяці трэба разумець:

1) Мыцьцё ў лазьні кожны тыдзень гарачаю вадою з мылам.

2) Штодзённае мыцьцё з мылам твару, рук, вушэй, ног і тулава і чыстка зубоў.

3) Мыцьцё рук перад ядою, пасьля работы, пасьля ўборнай і паласканьне роту пасьля яды.

4) Сыстэматычная стрыжка галавы і пазногцяў.

Пад культурай скуры трэба разумець: чыстату бялізны і вопраткі і рацыянальны іх пакрой, таму што на вёсцы часта вопратка дзяцей не адпавядае іх узросту і пэрыоду, што таксама часта зьяўляецца прычынаю скураных хвароб.

Асабліва вялікае значэньне маюць у культуры скуры прыродныя фактары: паветра, сьвятло, сонца і вада.

У цёплы дзень дзецям вельмі карысна прымаць паветраныя ванны. Працяжнасьць гэтых ваннаў залежыць ад стану надвор'я і здароўя дзяцей.

Паветраную ванну дзеці прымаюць бяз вопраткі, месца павінна быць сухое і закрыта ад сонца і ветру.

Сонечныя ванны дапамагаюць фармаваньню касьцяка, дапамагаюць абмену матэрыі і зьяўляецца асноўнай умовай здаровага росту дзіцяці.

Пры арганізацыі сонечных ваннаў трэба выбіраць адкрытае сухое месца. Прымаць ванны добра на пяску, а калі няма яго, дык добра падсьцілаць пад дзіця палатняную посьцілку, на галаву класьці павязку, можна лісткі лапуху. Дзеці лажацца адно каля аднаго на адлегласьці раскінутых рук. Працяжнасьць першых ван 5-10 хвілін, паступова вану можна давесьці да 45 хвілін.

Голыя дзеці ў паземным палажэньні грэюць чатыры стораны свайго цела: сьпіну, грудзі, левы і правы бакі. Калі наглядаецца зачырваненьне скуры, неспакойнасьць дзіцяці, трэба спыніць вану і зачырванелае месца памазаць вазэлінам.

Пасьля сонечнай ванны робяць абліваньне вадою, нагрэтаю на сонцы да 18-20 градусаў.

Прымаюць сонечныя ванны ад 11 да12 ці ад 12 да 1 гадз. дню (гледзячы па кліматычных умовах).

Ня ўсе дзеці могуць прымаць сонечныя ваны, тут патрэбна дапамога ўрача, які павінен агледзіць дзяцей і даць раду аб кожным дзіцяці, ці можна таму ці іншаму дзіцяці прымаць іх.

Купаньне можна арганізаваць у рэчцы ці возеры. Праводзіцца купаньне адзін раз у дзень, працяжнасьцю ня больш як 5 хвілін. Месца трэба выбіраць няглыбокае, з роўным, цьвёрдым дном. Там дзе купаньне наладзіць нельга, можна яго замяніць абліваньнем.

Перад абліваньнем дзеці 2 хвіліны павінны пабегаць голымі, пасьля абліваньня трэба цела абцерці ручніком насуха.

Для абліваньня ваду трэба загадзя наліць у бочкі, або цэбрыкі, каб яна магла нагрэцца на сонцы.

Гэтай вадою дзеці могуць палівацъ пляцоўку, гарод і кветкі.

Рацыянальныя гульні і праца на пляцоўцы таксама зьяўляюцца фактарамі фізычнага выхаваньня дзяцей. Пры правядзеньні іх трэба асаблівую ўвагу зварочваць на падбор гульні ці працы па ўзросту і сачыць за дазіроўкай.

Гульні і працы на сонцы не праводзяцца; увесь матар'ял для гульні трымаецца ў чыстаце.

Вялікае значэньне ў аздараўленьні дзіцяці мае правільная арганізацыя дзіцячага жыцьця на пляцоўцы.

Рэжым дню павінен зьмяшчаць у сабе правільнае чаргаваньне працы і адпачынку; узгадняцца з кліматычнымі ўмовамі, прыроднымі і соцыяльна-бытавымі асаблівасьцямі мясцовасьці (колгас, вёска).

Парадак дню (прыкладны):

7 гадз. раніцою—прыход дзяцей.

7-8 гадз. раніцою—мыцьцё і падрыхтоўка да сьняданьня.

9 гадз. раніцою—сьняданьне.

9-11 гадз. раніцою—заняткі на гародзе і на пляцоўцы: гутаркі, пагулянкі з працоўнымі заданьнямі, гульні-заняткі па грамаце і лічэньню.

11-12—сонечныя ваны, купаньне ў рэчцы, ці абліваньне.

12-1—абед.

1-3—сон-адпачынак.

3-4—вольныя гульні, чытаньне ці расказваньне і нядоўгія пагулянкі.

4-5—вольныя заняткі на пляцоўцы.

5-6—умываньне і адход дзяцей да хаты.

На працягу ўсяго дню, такім чынам, строга захоўваецца правільнае чаргаваньне працы і адпачынку, напр.: пасьля працы—вольныя гульні, пасьля організаваных гульняў—спакойная праца; у часе пагулянак працяжнасьць хадзьбы для малодшых дзяцей—15-20 хвілін, для старэйшых—20-30 хвілін, адпачынак для ўсіх дзяцей 10-15 хвілін пасьля пагулянкі.

Пасьля абеду з 1 да 3 гадз. абавязкова каб быў адпачынак для ўсіх дзяцей, па магчымасьці трэба старацца праводзіць яго на сьвежым паветры. Дзеці павінны лягчы на пасьцілку на сьпіну, выцянуць рукі і закрыць вочы.

Харчаваньне дзяцей на пляцоўцы займае вялікае месца ў аздараўленьні дзіцяці, але трэба гэтае пытаньне старанна абмысьліць у адносінах як якасных, так і колькасных і ўзгадніць яго з урачом.

### Прырода на летніх пляцоўках

Побач з другімі відамі работы на пляцоўках у колгасах і на вёсцы, пытаньню аб прыродзе таксама трэба аддаць асаблівую ўвагу.

Задача выхаваньня члена будучага комуністычнага грамадзтва кажа аб тым, што мы павінны з самых малых год выхоўваць дзяцей ў матэрыялістычным напрамку, гэта значыць, мы павінны залажыць у дзіцяці правільныя рэальныя адносіны да законаў жыцьця і зьяваў прыроды.

Вось чаму зараз галоўнае месца ва ўсёй рабоце па прыродазнаўству займае пытаньне аб антырэлігійным выхаваньні.

На вёсцы пэдагогу прыдзецца сустрэцца з тым, што большая частка вясковага насельніцтва рэлігійная, адсюль просты вывад: дзеці, якія паступілі на пляцоўку, таксама рэлігійны. Апрача рэлігійнасьці, на вёсцы існуюць розныя забабоны. Зразумела, што дзеці таксама падлягаюць гэтым забабонам.

Ва ўмовах колгасу, дзеці менш падлягаюць гэтым рэлігійным забабонам, чым вясковыя дзеці, але ўсё-ж такі і там трэба весьці антырэлігійнае выхаваньне.

І вось, на кіраўніцу кладзецца абавязак—весьці змаганьне з рэлігійнасьцю і забабонамі. Змагацца з праявамі забабонаў, з вераю ў цудоўныя сілы, трэба перш-наперш шляхам ясных і цьвёрдых адказаў на тыя пытаньні, якія зьвязаны з зьявамі прыроды.

Пэдагогу трэба ўважліва вывучаць дзіцячы колектыў, прыслухоўвацца да таго, як дзеці тлумачаць дождж, гром, бліскавіцу, добры і дрэнны ўраджай, і па магчымасьці ў найбольш яснай і зразумелай форме даць дзіцяці правільнае рэалістычнае тлумачэньне зьяў прыроды .Але бывае цяжка растлумачыць дзіцяці, якое ня бачыла электрычнасьці, чаму бывае гром, дождж, бліскавіца, але магчыма, што ў некаторых колгасах ўжо ёсьць электрычнасьць і тады пэдагог тлумачыць так: у хмарах ёсьць шмат электрычнасьці, калі ўздымаецца вецер, хмары рухаюцца і пры сутычцы іх, бывае моцны выбух—гэта гром. Ад выбуху атрымліваецца іскра, падобная да агню, гэта ёсьць бліскавіца, якую дзеці таксама няправільна тлумачаць. Растлумачыць дзіцяці паходжаньне дажджу можна на зразумелым яму досьледзе, напр.: пры гатаваньні вады ідзе пара, над параю трымаюць халодную талерку, і дзіця бачыць, як пара ахалоджваецца і робяцца кропкі, якія падаюць уніз. І вось пэдагог кажа, што тое самае адбываецца і ў прыродзе: сонца награвае зямлю, ваду ў рэках, вазёрах, яна выпараецца, пара ідзе ўверх, вецер прыносіць яе ў найбольш халодныя месцы, пара захалоджваецца і тады ідзе дождж і г. д.

Можна таксама паказаць старэйшым дашкольнікам, як людзі прымушаюць служыць на сябе натуральныя сілы прыроды: вецер, ваду (ветраныя і вадзяныя млыны). Гэтым можна навочна паказаць дзецям, як чалавек, ужываючы новыя заваёвы тэхнікі, паступова, крок за крокам, падпарадкуе сабе прыроду і вызваляецца ад розных забабонаў. Прыкладаў гэтага вельмі шмат. Раней несьвядомыя, цёмныя людзі, у часе пажараў, сухменю і наваднeньня, не абараняліся, а спадзяваліся толькі на бога і маліліся яму. Між тым, вучоныя людзі прыдумалі розныя прылады і такім чынам пазбавілі людзей ад шмат якіх няшчасьцяў. Пэдагогу трэба там, дзе ёсьць магчымасьць, заўсёды паказаць, што веды, колектыўная і мэ-

ханізаваная праца дапамагае людзям паляпшаць сваё жыцьцё; там, дзе магчыма, разам з дзяцьмі праводзіць досьледы, напр.: вырасьціць расьліны ў розных умовах, і дзеці на практыцы пераконваюцца, што расьліны прападаюць ад дрэннага догляду, неадпаведных умоў жыцьця, а зусім не ад таго, што тыя людзі, якія ня посьцяць, ня моляцца, і не ад «дрэннага вока». Можна таксама зьвярнуць увагу старэйшых дашкольнікаў на тое, што людзі і жывёліны прападаюць ад дрэнных умоў жыцьця, ад бруду, ад заражэньня, а зусім не ад боскага гневу і не ад пакараньня за грахі, як гэта тлумачыць рэлігія. І тады яны могуць прыйсьці да вываду, што няма бога, чарцей, анёлаў, якія дапамагаюць ці шкодзяць чалавеку, а што людзі, чым больш будуць вучыцца і ведаць, тым больш будуць вынаходзіць новых машын і з дапамогаю іх будуць паляпшаць сваё жыцьцё.

Якім жа мэтодам лепш за ўсё павесьці пэдагогічнае выхаваньне, каб стварыць у дзіцяці матэрыялістычны і дыялектычны падыход да прыроды. Такім мэтодам будзе дасьледчы мэтад. У рабоце з дзяцьмі дашкольнага ўзросту дасьледчы мэтад мы падзяляем на 3 стадыі.

1-я стадыя—калі дзіця толькі наглядае, калі яно ня ўмее яшчэ экспэрымэнтаваць, калі яно яшчэ ня можа ўстанавіць сувязі паміж зьявамі, напр.: бярэ што-небудзь у рот і кажа: «горка», глядзіць паверхню ліста і кажа: «гладка» і г. д.

Гэта стадыя 3-4 гадоў.

2-я стадыя: у гэтую стадыю дзіця ўжо ня толькі наглядае, але і робіць дапушчэньні, экспэрымэнтуе, устанаўляе сувязь паміж зьявамі і ўстанаўляе законамернасьць разьвіцьця зьяў прыроды, напрыклад, прайшоў дождж, гуляць нельга, лужы, гразка; наглядаючы за гарохам, кажа: «калі садзілі—нічога ня было, а цяпер лісточкі».

Гэта стадыя для дзяцей 5-6 год.

*3-я стадыя:* дзіця наглядае, абагульняе, апрача гэтага, у гэтай стадыі дзіця ўстанаўляе больш глыбокія сувязі паміж зьявамі, г. зн. у гэтай стадыі дзіця кажа: аб уплыве чалавека на прыроду, напр.: вырасьціць расьліны ў розных умовах: адны паліваць, другія—не, і дзіця кажа: «расьліна пявяла, таму што не палівалі», ці наадварот: «гарох на гэтай градцы добры, таму што палажылі гной» і г. д.

Гэтая стадыя для 7-8 гадоў.

Ведаючы цяпер, што такое дасьледчы мэтод і вывучаючы прыроду дасьледчым мэтадам, мы маем поўную магчымасьць падвесьці дзяцей да элемэнтарнага разуменьня сувязі і залежнасьці аднэй зьявы прыроды ад другой, да разуменьня залежнасьці прыроды ад працы чалавека, да разуменьня таго, што рэчы і зьявы існуюць сапраўды па-за намі і падпарадкаваны законам.

Гэта разуменьне і ёсьць тая аснова, якой у будучым павінен вырасьці матэрыялістычны-дыялектычны падыход да прыроды. У рабоце з дзяцьмі, апрача асноўнага дасьледчага мэтоду, ужываюцца і іншыя мэтоды, ці асобныя прыёмы, напр.: пры дапамозе слова мы робім вывады ў канцы работы, ці карыстаемся словамі пры тлумачэньні, расказваньні чаго-небудзь, гэта ёсьць слоўны мэтод. Паказваньне табліц, карцін служыць у нас для замацаваньня доследу ці праведзенай работы.

## Формы працы

Вялікае месца ва ўмовах летняй пляцоўкі ў калгасе і на вёсцы займае праца на гародзе, птушкаводзтва, экскурсіі і «куток жывой прыроды».

Перад нашай краінай у сучасны момант стаіць вялікая задача—колектывізаваць сельскую гаспадарку і ўзьняць яе ўраджайнасьць, уцягнуць у ажыцьцяўленьне гэтай задачы ўсё працоўнае насельніцтва, ня толькі дарослае, але і дзяцей. Удзел дзяцей пляцоўкі ва ўмовах калгасу і вёскі можа выразіцца ў працы на гародзе.

Перш-на-перш, для гароду трэба знайсьці месца, падыходзячае ў адносінах глебы (глеба рыхлая з дастатковай колькасьцю перагною, месца для гароду павінна быць сонечнае і недалёка ад вады, калодзежу, ракі, сажалкі). Калі месца выбрана, трэба адмерыць пэўную дзялянку. Дзялянка павінна вымярацца, вы-

ходзячы з таго, колькі дзіця 4-5-6-7-8 гадоў зможа апрацаваць. Каб ня было перагрузкі, у сярэднім дзіцяці 4-5 год даецца апрацаваць 1 кв. мэтр, 5-6 год—1¼ кв. м., 7-8 год—1⅓ кв. мэтраў. Пасьля гэтага можна пачынаць рабіць грады. Наступная праца на гародзе—гэта падрыхтаваньне град да сяўбы і сяўба. Трэба трымаць сувязь з культурна-бытавой камісіяй колгасу, ці аграпунктам на вёсцы, якія могуць дапамагчы ў гэтай рабоце. Ва ўмовах летняй пляцоўкі большай часткай сеецца насеньне, якое хутчэй дасьпявае, каб дзеці маглі атрымаць вынікі сваеі работы. Да такога насеньня адносіцца гарох, рэпа, морква, цыбуля укроп, бручка, рэдзька ды інш. Трымаючы сувязь з адпаведнымі арганізацыямі, можа і ўдасца атрымаць што-небудзь і з расады.

Пасьля таго, як грады засеяны, трэба зразумела і даглядаць за імі. Догляд выяўляецца ў паліўцы, поліве, змаганьні са шкоднікамі і нагляданьні за пасеяным.

Шкоднікі гароду, якія могуць спаткацца,—гэта капусьціна, тля, земляная блыха ды інш. Меры барацьбы з імі розныя, напр.: з тлёю і земляною блыхою—абліваньне, абкурваньне. Для дзяцей дашкольнага ўзросту яны не даступны, але калі такія шкоднікі зьявіліся, дык трэба зьвярнуцца ў аграпункт да інструктара па барацьбе са шкоднікамі. Але затое даступна барацьба з такімі шкоднікамі, як вусень-капусьніца, падобная да землянога чарвяка (зьядае лісты капусты, бручкі, рэпы і г. д.), і яечкамі вусеню, яскрава аранжавага колеру, на ніжнім баку лісту. Меры барацьбы даступны да дашкольнага ўзросту: вусеньkапусьніцу проста зьнімаюць і кладуць у гаршочак з вадою, яечкі вусеню душаць пальцамі.

### Нагляданьні за гарохам

Нагляданьні дзяцей за гарохам можна правесьці такім чынам: дзеці падзяляюцца на невялічкія групы па 5-6 чал., кожная такая група бярэ сабе для нагляданьня градку, на якой пасеяна якаянебудзь расьліна, напр., гарох, і праводзіць нагляданьне з самага пачатку пасадкі. Для нагляданьня можна зрабіць дзёньнікі нагляданьняў (навочная падмога), дзе дзеці запісваюць, калі ўмеюць пісаць, замалёўваюць расьліну, або засушваць яе. Для засушваньня патрэбны ціскач, які можна зрабіць самому. Для гэтага бяруцца дзьве фанэрныя дошкі, на кожны бок дошкі кладзецца ліст газэтнае паперы, а між імі кладзецца засушваемая расьліна. Потым перавязаць вяроўкаю і класьці на сонцы.

Цяпер пра кветкі.

Калі ёсьць гарод, дык для кветак трэба вылучыць некалькі градак, у залежнасьці ад велічыні гароду. Градкі для кветак трэба рабіць на добрай зямлі, абклаўшы іх дзёрнам або каменьнем. Кветкі для пасадкі ва ўмовах летняй пляцоўкі могуць быць наступныя: нагодкі, настурцыя, ляўкой ды інш. Дагляд і нагляданьне за імі тыя самыя, што і за іншай гароднінай.

### Птушкаводзтва

Пэдагог, якому прыдзецца працаваць у калгасе ці на вёсцы, павінен пытаньне ў гэтых адносінах ставіць так: у сувязі з ростам сельскай гаспадаркі, зараз ставіцца пытаньне аб тым, як падняць на адпаведную вышыню птушкаводзтва, у прыватнасьці гадоўлю курэй. У індывідуальнай сельскай гаспадарцы мы ведаем, што кураводзтва займае апошняе месца. Сяляне не зварочвалі дастатковай увагі на гадоўлю курэй, ня ведалі, як даглядаць за імі.

Вось чаму зараз усе грамадзкія арганізацыі, ня толькі колгасу, але і вёскі, павінны каля гэтага пытаньня стварыць грамадзкую думку. Дзіцячая пляцоўка ў колгасе і на вёсцы можа ўзяць на сябе прапаганду правільнай гадоўлі курэй, арганізаваць у сябе на пляцоўцы невялікі куратнік. Утрыманьне і дагляд за курамі вельмі простыя і даступны для дашкольнікаў.

Перш-на-перш куратнік павінен быць сьветлым і чыстым. Праца дзяцей будзе выяўляцца ў штодзённым прыбіраньні куратніку, ачышчэньні яго, пасыпаньні куратніку сьвежым пяском, мыцьці курынай пасуды, кармленьне курэй у вызначаныя гадзіны 3 разы ў дзень markup рознымі кармамі.

Гадуючы курэй, дзіця знаёміцца з птушкаю, будзе ведаць розьніцу паміж пеўнем і курыцаю ў афарбаваньні, велічыні і г. д., знаёміца з яечкамі: велічынёю, колерам, формаю, пабудоваю—жаўток і бялок з шкарлупою. Гэта работа дае магчымасьць падвесьці дзяцей да матэрыялістычнага сьветапогляду (яечка, магчымасьць нагляданьня за разьвіцьцём куранят). На агульных бацькоўскіх сходах трэба знаёміць бацькоў з тымі прыёмамі, якімі карысталіся на пляцоўцы ў даглядзе птушак, з мэтамі растлумачэньня, што пры добрым і правільным даглядзе куры нясуць больш яец.

### Экскурсіі

Перад тым, як пайсьці на экскурсію, пэдагог павінен паставіць перад дзяцьмі мэту экскурсіі. Першая экскурсія, якую трэба правесьці—орыентовачная, калі дзіця атрымлівае агульныя прадстаўленьні аб месцы экскурсіі. Такіх экскурсій ў адно месца правесьці адну. Потым ідуць экскурсіі па асобных пытаньнях, якія ўвайшлі ў агульную экскурсію. Увага дзіцяці на адным пытаньні затрымліваецца ня больш 15 хвілін, а працяг усяе экскурсіі—ня болей 1 гадзіны. Адлеглясьць не павінна перавышаць $\frac{1}{2}$ кілёмэтру. Усе экскурсіі выцякаюць з пастаноўкі работы, а таксама і мясцовасьці. Калі ёсьць гарод, экскурсіі ў сувязі з гародам могуць быць наступныя:

1-я экскурсія—на пункт, дзе можна атрымаць расаду (пітомнік, колгас, саўгас).

2-я экскурсія (у часе працы на гэтым пункце)—для атрыманьня ведаў, якія потым выкарыстоўваюцца ў рабоце на гародзе дзіцячай пляцоўкі.

3-я экскурсія—для параўнаньня свайго гароду з гародам колгасу, саўгасу, сялянскага.

Калі блізка ёсьць лес—экскурсія ў лес. Спачатку агульная, дзе дзіця знаёміцца з лесам у цэлым (птушкі, дрэвы, кветкі, праца чалавека). Далейшыя экскурсіі ў лес фіксуюць увагу дзіцяці на адным моманце, напр., праца чалавека. Дзеці ўбачылі зрубленыя пні: «хто гэта зрубіў, для чаго», убачылі папіленыя дрэвы,—падвесьці да разуменьня, што хаты робяць з гэтых-жа дрэваў.

Такім чынам можна правесьці экскурсіі на сенажаць.

1-я экскурсія—агульнае знаёмства з сенажацьцю ў цэлым; наступная экскурсія—з мэтаю завастрыць увагу на асобным пытаньні, напр.: «сенажаць у часе касьбы».

Такім чынам праводзяцца экскурсіі на вадазборы.

Калі край багаты ў прыродных адносінах, трэба выбраць самыя лепшыя месцы, як сажалка, лес, поле, куды, апрача агульных экскурсій, правесьці і па асобных пытаньнях. Калі край бедны, дык усё-ж трэба знайсьці месца для экскурсіі. Такім месцам можа быць і сялянскі двор, дзе дзеці знаёмяцца з свойскімі жывёламі, чым іх кормяць, які наогул за імі догляд і якая карысьць ад жывёлы.

Працягам працы на гародзе і ў часе экскурсій зьяўляецца «куток жывой прыроды», дзе дзеці маюць магчымасьць бліжэй падыйсьці да тых об'ектаў, якія іх цікавяць. Об'екты, якія дзеці прыносяць з розных экскурсій, зьмяшчаюцца ў «кутку жывой прыроды», і дзеці наглядаюць за імі і знаёмяцца з жыцьцём данага об'екту. З экскурсіі па гароду можна прынесьці ў куток вусеня, матыля. З экскурсіі ў лес—вожыка, яшчурку. З экскурсіі на вадазборы—рыбу, жука-плавунца, жабу.

У «кутку жывой прыроды» могуць быць і свойскія жывёліны, як сабака. Нагляданьні за жыцьцём об'ектаў, што зьмешчаны ў «кутку жывой прыроды», вядуць да зьнішчэньня ў дзяцей забабонаў (жабу ўзяць—бародаўкі будуць і г. д.).

Трэба фіксаваць усе нагляданьні і досьледы дзяцей у календары прыроды і календары надвор'я.

Календары прыроды і надвор'я прывучаюць дзяцей да сыстэматычнай і пляномернай працы, тут жа дзіця прывучаецца бачыць законамернасьць у прыродзе, сувязь аднэй зьявы з другою, тутжа яно зможа ўявіць сабе сувязь і залежнасьць зьяў ад працы чалавека.

## Скарыстаньне матар'ялаў няжывой прыроды

Матар'ял няжывой прыроды можа быць скарыстаны з мэтаю знаёмства дзяцей з рознымі разуменьнямі, напр.: пры падборы лісьцяў можна даць дзіцяці разуменьне «вялікі», «малы»; разуменьне «больш», «менш», раскладваючы лісты, пачынаючы з большага і канчаючы самым малым.

Можна даць разуменьне «цяжкі» і «лёгкі» на каменьнях. Гэты-ж матар'ял можа даць паняцьце дзіцяці аб форме і велічыні.

Знаёмства з колерамі, падбіраючы кветкі і кладучы іх у паступовасьці. На матар'ялах, узятых з наўкольнай прыроды, можна даваць дзецям навыкі і ў лічэньні.

*Апошняе пытаньне гэта ўдзел дашкольнікаў у грамадзка-карысных кампаніях.*

Практыка работы цэлага шэрагу навучальных устаноў паказала, што некаторыя віды грамадзка-карыснай работы даступны, зразумелы і цікавы дашкольнікам і маюць вялікае выхаваўчае значэньне.

Дашкольнік можа ўдзельнічаць у кампаніях: «Ахова птушак», «Дзень лесу. Паперш ае, гэта ўводзіць дзяцей ў сапраўдную сувязь з наўкольным грамадзкім жыцьцём, падругое—выпрацоўвае навык калектыўнай працы, а таксама навык ашчадных адносін да прыроды.

Гэтыя кампаніі галоўным чынам праводзяцца ў вясновы пэрыод.

Цікавасьць у дзіцяці да прыроды вялікая, але дасьледчая дзейнасьць дзяцей, якая выцякае з іх цікавасьці, часта прыводзіць да адмоўных вынікаў (да разбурваньня, зьнішчэньня аб'ектаў прыроды), напрыклад, пры знаёмстве з наўкольным асяродзьдзем кіраўніца заўважвае, што дзеці часта разбураюць птушыныя гнёзды, зьнішчаюць яйкі птушак, птушанят, забіваюць з рагатак птушак. Кіраўніца павінна зьвярнуць увагу дзяцей на тое, якую карысьць прыносяць птушкі (напрыклад, зьнішчэньне птушкамі вусеню, матылёў і г. д.); што птушак шкодна біць, што іх трэба прываблiваць. Кіраўніца павінна навесьці дзяцей на думку прасачыць самім за жыцьцём птушак. Ва ўмовах летняй пляцоўкі нагляданьні за птушкамі вядуцца ў часе экскурсій на гародзе, у лесе, полі і г. д. Разам з дзяцьмі можна зрабіць кармушкі для птушак, шпакоўніцу. Трэба памятаць, што дашкольная ўстанова ў правядзеньні кампаніі «Ахова птушак» удзельнічае не ізолявана, а разам з іншымі грамадзкімі арганізацыямі (школа 1-й ступені, піонэратрад ды інш.).

Другая кампанія—«Дзень лесу».

Разам з іншымі ўдзельнікамі гэтай кампаніі намячаецца плян насаджваньня дрэваў, прыклад: пастанавілі засадзіць дрэвамі пляц каля клюбу. Дарослыя робяць ямы для дрэваў і кустоў, праца дзяцей будзе заключацца ў наступным:

1) разношваньне у выкапаныя ямкі кустоў і дрэваў,
2) падтрымліваньне дрэваў і кустоў пры пасадцы,
3) дапамога пры падвязваньні іх,
4) засыпка ям лапатамі,
5) паліўка,
6) удзел дзяцей у агульным сьвяце.

Удзел у правядзеньні гэтай кампаніі прыводзіць да таго, што дашкольнікі ашчадна адносяцца да пасаджаных дрэваў, перасьцярагаючы і другіх ад псаваньня іх.

У заключэньне можна сказаць, што прырода ва ўмовах летняй пляцоўкі дае вялікі матар'ял для работы з дзяцьмі:

1) яна дае магчымасьць выхоўваць у дзяцей матэрыялістычны, дыялектычны падыход да прыроды,
2) дае магчымасьць праводзіць антырэлігійнае выхаваньне,
3) дае вялікі матар'ял для ўжываньня дзіцячай працы і выпрацоўкі ў дзяцей працоўных, колектыўных ды іншых звычак,
4) прывучае дзяцей наглядаць і рабіць досьледы.

## Праца і гульні на пляцоўцы

Праца і гульня зьяўляецца аснаўнымі процэсамі дзейнасьці дзіцяці—дашкольніка. Працоўная і гульнявая дзейнасьць маюць вялікую выхаваўчую каштоўнасьць. Абодва гэтыя процэсы даюць дзецям магчымасьць актыўна прыстасоў-

вацца да асяродзьдзя, яны ўцягваюць у работу ўвесь дзіцячы організм і дапамагаюць яго росту і разьвіцьцю. Цяпер трэба застанавіцца на пытаньні *працоўнага выхаваньня дзіцяці-дашкольніка на летняй пляцоўцы.*

Працоўная дзейнасьць дзіцяці мае ў сабе адзнакі працы дарослага чалавека.

*У чым-жа заключаецца сутнасьць працы*

Сутнасьць працы заключаецца ў тым, што рабочая дзейнасьць накіроўваецца на атрыманьне пэўнага выніку, яна заключаецца ў пераапрацоўцы матар'ялу і стварэньне новых прадметаў шляхам дапасаваньня прылад працы. Напрыклад: мы даем дзіцяці розныя дошчачкі, цьвікі, малаткі, і яно дае нам новы прадмет—палічкі, скрынкі і г. д. Тое самае мы маем у рабоце на гародзе. Дзеці засяваюць градкі і шляхам ужываньня прылад працы атрымліваюць вынікі яе ў выглядзе гатовай гародніны і расьлін.

Працоўны процэс дапамагае выпрацоўцы ў дзіцяці цьвёрдасьці ў дасягненьні пэўнай мэты і ўстойлівасьці дзіцячага організму ў адносінах розных супраціўленьняў.

Рух і выказы дзіцяці робяцца больш дакладнымі і адпявядаюць ўласьцівасьці тых прадметаў, з якімі прыходзіцца дзіцяці сустракацца ў працы. Напрыклад, упачатку дзіця зьмешвае матар'ялы і інструманты па іх прызначэньню і назьве. Потым яно адзначае, для чаго лапатка, якую яно рабіла, і ведае, што патрэбна, каб яе зрабіць і г. д. Дзіця навучаецца правільна называць прылады працы і матар'ялы (малаток, нажніцы, пілка, папера, вяроўка і г. д.) Праца дапамагае разьвіцьцю разумнай дзейнасьці дзіцяці.

У процэсе работы дзіцяці прыходзіцца складаць розны матар'ял, каб атрымаць які-небудзь прадмет. У старэйшай групе досыць даць дзецям нескладанае заданьне, не сказаўшы пра яго сутнасьць, як дзеці самі выконваюць гэта заданьне, правільна скарыстоўваючы матар'ялы і інструманты.

Працоўны процэс дае больш магчымасьці ў выпрацоўцы організацыйных, колектыўных і працоўных звычак.

Дзіця працуе ўвесь час у колектыве, зьвязвае разам з ім сваю дзейнасьць, ставіць разам з ім адну мэту, у якой пазнае, што толькі колектывам можна дасягнуць яе, напрыклад, прыбраць, пакой, сад, двор, памыць пасуду, зрабіць градкі, кветнікі, зрабіць скрынку для захаваньня цацак, падрыхтаваць плакат для сьвята і г. д. А самастойная праца, якую мы даручаем дзецям, выпрацоўвае ў іх організацыйныя звычкі.

У процэсе работы дзіця набывае пачатковыя працоўныя звычкі—умець надзець і распрануць вопратку, карыстацца нажніцамі, нажом, малатком, цьвікамі, пілкаю, абцугамі, лапатаю, граблямі, лейкаю і г. д. Дзіця павінна мець звычкі па працы з матар'яламі: паперай, клеем, фарбай і алоўкамі і г. д., мець гаспадарчыя звычкі:

1) раздаваць і прыбіраць матар'ялы, прылады, інструманты і мэблю;

2) накрыць і прыбраць са стала;

3) памыць посуд, выцерці яго і паставіць у шафу;

4) выцерці стол;

5) прымаць удзел у куплі продуктаў і дапаможнага матар'ялу і дапамагаць выдаваць продукты на кухню (старэйшыя дзеці больш арганізаваны);

6) праца старэйшых дзяцей на гародзе і кветніку з дапамогаю пэдагога: пасадка расьлін, паліва, паліўка градак і кветнікаў, уборка двара ад смецьця, ачыстка пляцоўкі і г. д.

З усяго гэтага можна зрабіць вывад, што праца ў дашкольным узросьце падрыхтоўвае дзіця да будучай працоўнай дзейнасьці, якая зьяўляецца асновай комуністычнага выхаваньня.

Цяпер спынімся на рознай дзіцячай працы, якая мая месца на пляцоўцы:

*1. Праца па абслугоўваньню.*

*2. Праца вытворчая. Сюды адносіцца і праца ў прыродзе.*

Праца па абслугоўваньню зьвязана з усім жыцьцём дзяцей на пляцоўцы. Гэта праца першай дае дзіцяці працоўны напрамак.

У працы па абслугоўваньню дзеці не ствараюць новых прадметаў, яна не патрабуе складаных прылад працы і матар'ялаў .

Мэта працы па абслугоўваньню—выпрацаваць у дзіцяці навыкі чыста і ахайна прыбіраць пакой, накрыць на стол да сьнеданьня і абеду, трымаць у парадку матар'ялы, цацкі, вопратку, пасьцель ды інш.

Гэтая праца зьяўляецца першай працай, у якой могуць прымаць удзел дзеці 3 год,—яны дапамагаюць старэйшым накрыць на стол (раскладваюць лыжкі, хлеб), прыбіраць цацкі, матар'ялы. На пляцоўцы старэйшыя дзеці могуць прымаць удзел у прыбіраньні пляцоўкі і памяшканьня, упарадкаваньні цацак, матар'ялаў і кніг і падрыхтоўцы да сьнеданьня і абеду, па дагляду за жывёлай і расьлінамі і пры добрых умовах дапамагаюць у працы на кухні (мець патрэбны да ўзросту посуд, мэблю і прасторную, сьветлую кухню).

Вытворчая праца мае намэце атрымаць пэўны жыцьцёвы вынік у выглядзе якога-небудзь новага прадмету, на ім жа дзіця ўжывае прылады працы.

З відаў вытворчай працы, якія маюць месца на летняй пляцоўцы, трэба адзначыць наступныя: упарадкаваць вешалкі для ручнікоў, палічкі для зубного парашку і мыла, скрынкі для хаваньня матар'ялаў і цацак, насілкі і г. д.

Дзеці прымаюць удзел ва ўпарадкаваньні папак для хаваньня сваіх малюнкаў, альбомаў; у вырэзваньні сьцяжкоў для маршыроўкі; ва ўпарадкаваньні матар'ялаў для сьвята (пашыўка шапак, вырэзваньне сярпоў і молатаў і розныя работы па аплікацыі, работы па дрэву, картону, пляценьне). Да вытворчай працы маюць адносіны пашыўка сумачак для насавых хустачак, таксама дзеці могуць падрубіць сабе хустку. Дзецям, якія ня ўмеюць шыць, на першы раз лепш даць пашыўку хоць-бы на газэтнай паперы. Уся гэтая праца дае магчымасьць дзецям умець уладаць нажніцамі, голкаю, пілкаю, малатком і іншымі інструмантамі. Як ужо зазначалася вышэй, праца ў прыродзе зьяўляецца адным з відаў вытворчай працы. Пад працаю ў прыродзе мы разумеем працу на гародзе, кветніку, ягадніку, працу па гадоўлі жывёл і птушак. Да працы на летняй пляцоўцы трэба аднесьці і працу па маляваньню і лепцы.

З гэтым матар'ялам могуць праводзіцца як вольныя заняткі, так і заняткі па заданьню. Гліна—прыродны матар'ял, які летам лёгка дастаць, ён каштоўны для разьвіцьця дзіцячай творчасьці, для разьвіцьця дзіцячай рукі.

Маляваньне дапамагае разьвіцьцю дзіцячай творчасьці і зьяўляецца падрыхтоўкай дзіцячай рукі да пісьма.

Абодва гэтыя віды дзейнасьці дапамагаюць замацаваньню прапрацаванага з дзяцьмі матар'ялу (экскурсіі на вытворчасьць, у поле, гарод, прапрацоўка сьвята, нагляданьне за расьлінамі). Дашкольнікі могуць працаваць ня толькі для сябе, для сваёй установы, але і для наўкольнага насельніцтва. Яны выконваюць грамадзка-карысную работу, напрыклад: магчымы ўдзел у працы дарослых па ўборцы гародніны, удзел дзяцей ў арганізацыі кутку дашкольніка ў хаце-чытальні, падрыхтоўка цацак для дзяцей ясьляў.

У працоўнае выхаваньне дашкольнікаў уваходзіць ня толькі праца дзіцяці па дапамозе дарослым, а і знаёмства дзяцей з арганізаванай працай дарослых у полі, на гародзе, на цагляным заводзе, машына-трактарнай станцыі, у млыне.

У прымітыўнай вытворчасьці дзеці могуць прасачыць пачатак і канец працоўнага процэсу.

Такія назіраньні даюць матар'ял для гутарак аб працы дарослых, аб калектыўнай працы і яе перавазе над індывідуальнай, параўнаньне працы рабочых і колгасьнікаў раней і цяпер.

Потым гэтыя ўражаньні замацоўваюцца ў малюнках, лепцы і гульнях дзяцей.

Цяпер застановімся на пытаньнях аб арганізацыі дзяцячай працы на пляцоўцы. Трэба арганізаваць дзіцячую працу так, каб самі дзеці ставілі сабе задачы. Дзеці павінны працаваць не па ўказцы дарослых, а іх праца павінна выцякаць з патрэб колектыву. Пры арганізацыі працы на пляцоўцы кіраўніца павінна рабіць так, каб уся работа, у якой прымаюць удзел дзеці, праводзілася арганізавана. Кожнае дзіця павінна ведаць, што яно зьяўляецца адказным за сваю працу, і што пачатую работу трэба давесьці да

канца. Дзеля гэтага кіраўніца павінна сачыць за тым, каб пры разьмеркаваньні працы ўлічвалася сіла і зацікаўленасьць дзіцяці. Выконваючы з дзяцьмі працоўныя процэсы, трэба ўлічваць анатома-фізыолёгічныя асаблівасьці дашкольніка, бо ў яго некоордынаваны рух, слабыя мускулы, слабы шкілет і надта лёгка паддаецца скрыўленьню хрыбетнік. Трэба памятаць, што дзіцячы організм хутка зморваецца. Усё гэта прымушае пэдагога асабліва ўважліва падыходзіць да дозіраваньня працоўных процэсаў (правільнае чаргаваньне працы і адпачынкаў).

Пасьля працоўнага процэсу трэба даваць спакойную гульню ці спакойны занятак. Гэтыя асаблівасьці трэба ўлічваць пры організацыі асяродзьдзя і пры падборы матар'ялаў і прылад для працы, якія павінны адпавядаць сілам, узросту і інтарэсам дзіцяці.

Для таго, каб выпрацаваць у дашкольніка працоўную ўстаноўку, трэба належным парадкам організаваць асяродзьдзе і абставіць яго такімі матар'яламі і прыладамі, каб у дзяцей зьявілася жаданьне працаваць. Калі асяродзьдзе, матар'ялы і прылады будуць не па сіле і ўзросту дзіцяці, тады процэс працы прынясе не карысьць, а шкоднасьць, дзеці ня будуць любіць працу і будуць адхіляцца ад яе.

Да працы дзяцей трэба падвесьці паступова, у залежнасьці ад іх узросту. Дзеці 3-4 год толькі дапамагаюць старэйшым дзецям. Дзеці 6-7 год самастойна працуюць па самаабслугоўваньню і прымаюць актыўны ўдзел у вытворчай працы, ставяць перад сабою пэўную мэту і выкарыстоўваюць вынікі сваёй працы.

Формамі організацыі дзяцей для правядзеньня працоўных процэсаў зьяўляюцца дзяжурствы і комісіі.

*Дзяжурствы:* дзеці па чарзе выконваюць некалькі дзён якую-небудзь працу, напр.: дзяжурствы па сталоўцы, па паліўцы расьлін і г. д. Дзяжурствы могуць быць групавыя і індывідуальныя.

*Групавыя дзяжурствы:* 23 чал. бяруцца за выкананьне больш складанай работы, напр., дзяжурствы па сталоўцы.

*Індывідуальныя дзяжурствы*—даручаецца аднаму чалавеку раздаць, напрыклад, алоўкі ў часе маляваньня.

Комісіі складаюцца з некалькіх чалавек. Тут дзеці выконваюць даручанае ім заданьне 2-3 тыдні (напр.: санітарная комісія, прыродазнаўчая комісія).

Вялікае значэньне мае ўдзел піонэраў у працы дашкольніка.

Піонэр зьяўляецца прыкладам для дашкольніка. Ён сваёй работай і выкананьнем заданьняў выклікае ў дашкольніка жаданьне працаваць, як піонэр.

### Лепка і маляваньне

Трэба застанавіцца на матар'ялах і мэтодыцы правядзеньня маляваньня і лепкі. Дзіцяці патрэбны матар'ялы для творчых праяўленьняў.

*Папера.* Няма патрэбы мець толькі белую паперу,—маляваць можна і трэба на паперы рознага колеру, можна браць танную абёртачную паперу. Перад маляваньнем трэба парэзаць паперу памерам ¼ аркушу пішчай паперы і завастрыць алоўкі, толькі ня надта востра. На першы час для простага чырчэньня на паперы можна даць дзецям толькі простыя алоўкі, а потым ужо даюцца каляровыя алоўкі і фарбы. Маленькім дзецям трэба даць усяго некалькі каляровых алоўкаў: чырвоны, жоўты, сіні, зялёны.

*Для лепкі* лепшым матар'ялам зьяўляецца простая гліна, усёроўна якога колеру яна будзе, абы толькі была клейкаю. Перад тым, як ляпіць, трэба падрыхтаваць гліну: узяць сухую гліну, палажыць у вядро і наліць вадою. Калі гліна размокне, ваду зьліць і добра рукамі яе мясіць да таго часу, покуль яна ня будзе добра прыліпаць да рук, пасьля чаго гліна гатова для лепкі. Падрыхтаваную гліну трэба хаваць у халодным месцы і накрываць мокрай анучкай. Калі дзецям даецца першы раз новы матар'ял, дык трэба паказаць, як карыстацца ім, у дзіцячых работах папраўляць ніякіх рабіць ня трэба.

У вольных работах зусім ня трэба перашкаджаць дзіцяці, толькі старэйшым дзецям можна зьвярнуць увагу на іх грубыя памылкі жывымі прыкладамі.

Тэхнічныя прыёмы маляваньня кіраўнічка павінна паказаць дзецям (узяць аловак і намаляваць).

Ляпіць з гліны дзеці павінны кончыкамі пальцаў: не карыстацца мэханічным скручваньнем гліны паміж далонямі рук і адбіваць гліну аб стол ці прыклейваць адну да аднэй паасобныя часткі, а рабіць, па магчымасьці, з цэлага кавалку.

На прапрацаваныя тэмы трэба даваць старэйшым дзецям заданьні і сачыць за іх правільным выкананьнем.

**Гульнявая дзейнасьць дзяцей**

Цяпер пераходзім да другой часткі матар'ялу—*гульнявой дзейнасьці дзіцяці-дашкольніка.*

На летняй пляцоўцы гульня з аднаго боку, павінна служыць аздараўляючым мэтодам, а з другога боку—даваць магчымасьць праяўляцца дзіцячай творчасьці і служыць мэтодам разьвіцьця ў дзяцей соцыяльных звычак.

**Гульні могуць быць—вольныя і організаваныя**

*Вольная гульня*—гэта гульня бяз пэўных правіл і бывае па ініцыятыве саміх дзяцей, у ёй дзеці адлюстроўваюць наўкольнае жыцьцё. У іх могуць быць як адмоўныя, так і станоўчыя бакі. Адмоўныя моманты ў гульнях (бойкі, сварка, п'янства, грубасьць, забабоны і г. д.) неабходна адхіляць. Тыя гульні, якія маюць дадатныя моманты з наўкольнага жыцьця (праца дарослых, за якой яны наглядалі ў полі ці на вытворчасьці, дэмонстрацыі, сходы, новы быт, нашы новыя вытворчыя імкненьні, інтарэсы і дасягненьні), пэдагог дае магчымасьць дзецям далей разьвіваць сваю творчую актыўнасьць, дае поўную волю і падбірае матар'ял, які спрыяе ажыўленьню гульні, напрыклад: сьцяжкі, барабан, сьцяг і г. д.

Вялікае месца ў вольных гульнях павінна мець гульня з пяском.

Пясочная скрыня павінна быць у цёмным месцы, пясок павінен быць адсырэлым і пераменьваць яго трэба праз кожныя 3 тыдні.

Для гульняў з пяском трэба мець пясочніцы, саўкі, фанэрныя цацкі і прыродны бросавы матар'ял (каменчыкі, палкі, дошкі, галінкі, шышкі і г. д.) Пажадана мець будаўнічы матар'ял, дзеля чаго можна скарыстаць брускі, кубікі, клёпкі ды інш.

*Організаваныя гульні:*—гэта гульні з цьвёрда вызначанымі правіламі, якія павінны выконвацца ў гульні. Організаваныя гульні павінны давацца галоўным чынам старэйшым дашкольнікам, бо толькі гэты ўзрост можа задаволіцца тымі запатрабаваньнямі, якія высоўваюцца організаванай гульнёю да яе ўдзельнікаў

Пэдагог павінен сам добра ведаць організаваную гульню раней, чым даваць дзецям, умець растлумачыць дзецям сутнасьць яе, умець адпаведным чынам разьмеркаваць пляцоўку, разьмеркаваць ролі паміж дзяцьмі і строга сачыць за выкананьнем правіл у гульні, бо яна будзе губляць сэнс організаванай гульні. Трэба ведаць, што організм дзіцяці лёгка зморваецца, трэба сачыць за працяжнасьцю гульні. Перад тым, як пачынаць гульню, трэба пасадзіць дзяцей паўкругам і растлумачыць ім гульню. Увесь матар'ял для гульні павінен быць загадзя падрыхтаваны, каб адразу пасьля растлумачэньня пачаць гульню. Перарыў дэзорганізуе дзяцей. Гульні павінны мець просты зьмест, зразумелы дашкольнікам. Колькасьць гуляючых не павінна быць больш 20-25 чал. Большасьць дзяцей павінны мець актыўныя ролі. Неабходна сачыць за паступовым пераходам ад лёгкага да цяжкага.

Не даваць шмат гульняў, каб дзеці мелі магчымасьць вывучыць адну гульню. Досыць важна вызначыць час для правядзеньня гульняў. Ня можна гульню даваць пасьля яды, пасьля працяжнай прагулкі ці працы. якія аднялі ў дзяцей шмат энэргіі. Важна чаргаваць гульні—пасьля рухавай гульні даваць спакойную і наадварот.

Пры выкананьні ўсіх правіл можна выканаць тыя мэты, якія стаяць перад гульнёю—гэта разьвіцьцё і змацаваньне організму дзіцяці, разьвіцьцё соцыяльных звычак, вытрыманая дысцыпліна, уменьне падпарадкаваць сваё я агульным інтарэсам.

*(Працяг у наступным нумары).*

# ЧЫСТКА АПАРАТУ НАРКОМАСЬВЕТЫ

А. А. Нікалаеў

## Да праверкі баяздольнасьці штабу культурнае рэволюцыі

Даны этап социялістычнага будаўніцтва рашуча ставіць перад кожнай савецкай установай і перад кожным яе працаўніком пытаньне выкананьня дырэктыў партыі і ўраду ў сэнсе пасьпяховага ажыцьцяўленьня 5-гадовага пляну гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Заданьні, што пастаўлены партыяй у галіне культурнае рэволюцыі, вымагаюць поўнай перабудовы мэтодаў і форм работы ў галіне народнае асьветы, карэннай рэорганізацыі апарату НКА з тым, каб ператварыць яго ў сапраўдны штаб культурнае рэволюцыі, і каб кожны вучастак культурнага фронту быў забясьпечан адпаведным камандваньнем.

У момант абвостранае клясавае барацьбы ў краіне, калі робіцца рашучы наступ на капіталістычныя элементы, і кулацтва ліквідуецца, як кляса,—гэта тым больш вымагае ад камандзіраў і радавых байцоў штабу культурнае рэволюцыі ідэолёгічнае вытрыманасьці, каб выразна праводзіць цьвёрдую клясавую лінію ў культурным буданіцтве.

«У аснову пляну культурнага будаўніцтва павінны быць пакладзены тыя задачы народнае асьветы, якія забясьпечваюць культурны рост шырокіх мас працоўных (усеагульнае навучаньне, зьліквідаваньне няпісьменнасьці, масавая профтэхнічная асьвета і г .д.), задачы падрыхтоўкі кваліфікаваных спэцыялістых і навуковых працаўнікоў» (з 5-кі). А забесьпячэньне належных тэмпаў, адпаведных рэконструкцыйнаму пэрыоду, зьліквідаваньне размычкі паміж гаспадарчым і культурным разьвіцьцём нашае краіны патрабуе паскарэньня тэмпаў падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў, забесьпячэньня ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі ў галіне перабудовы школ і пераатварэньня іх у сапраўдныя політэхнічныя школы. Гэта асноўная задача, якая стаіць перад органамі НКАсьветы. Н. К. Крупская так кажа ў адным з сваіх артыкулаў «О подготовке рабочей силы»: «Але ні на хвіліну не забываць аб гым, што будаўніцтва ў нас павінна ісьці па социялістычнаму шляху, а яно ня можа ісьці па яму без рабочага з шырокай агульна-адукацыйнай, політычнай і політэхнічнай падрыхтоўкай».

На нарадзе пэдагогаў-марксыстых Н. К. Крупская кажа аб тым, «каб школа ператварылася ў адзіную социялістычную, у політэхнічную школу». Абсьледваньне школ паказала, што яны далёка не адыгрываюць тэй ролі, якую яны павінны адыгрываць у паскарэньні падрыхтоўкі адпаведных кадраў і ў паскарэньні тэмпаў социялістычнага будаўніцтва.

Органы Наркомасьветы павінны быць рухомымі ў сэнсе своечасовага, усебакова прадуманага плянаваньня работы асьветных установаў; умець на хаду выправіць свае памылкі, рэорганізаваць работу і прыстасавацца да сучасных запатрабаваньняў. Гэта можа быць дасягнута ў бязьлітаснай барацьбе з адхіленьнямі ад лініі партыі, у першую чаргу ў барацьбе з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, а таксама і з «левымі» загібамі, якія мы маем у культурным будаўніцтве. Гэта барацьба павінна адбывацца побач з барцьбой супроць праяў беларускага нацыянал-дэмократызму, нацыяналізму

розных колераў (яўрэйскага, польскага ды інш.), як з праявамі контррэвалюцыйнай ідэолёгіі.

Па сёньняшні дзень яшчэ мы ня маем карэннай перабудовы форм і мэтодаў Наркомасьветаўскай работы. Уся работа Наркомасьветы адстае ад агульных тэмпаў рэконструкцыйнага пэрыоду. Такому становішчу ў значнай меры спрыяла былое кіраўніцтва Наркомасьветы.

У сучасны момант апарат НКА аднаўлены на 90%; ёсьць павялічэньне рабочага ядра. Апарат Наркомасьветы паступова выроўніваецца, але нічога ён не пасьпее зрабіць, калі будзе працаваць адзін, бяз мас, калі яму не дапаможа грамадзкасьць, актыў настаўніцтва, пролетарская моладзь, а галоўнае, калі ўся работа Наркомасьветы і яго ўсіх зьвеньняў ня будзе ўзята пад шырокі контроль рабочых мас.

У сучасны момант праходзіць чыстка Наркомасьветы. Перад гэтым ЦКК-РСІ правяла абсьледваньне работы ў масавых школах, а таксама абсьледвана значная частка раённага і акруговага апарату Наркомасьветы. Матар'ялы абсьледваньня гавораць за вялікія дасягненьні ў галіне культурнага будаўніцтва і адначасова сыгналізуюць аб прарывах, якія маюць месца на фронце культурнае рэволюцыі. Усе матар'ялы па паасобных абсьледваемых зьвеньнях органаў нарасьветы будуць асьветлены на старонках друку. Зараз трэба адзначыць наступнае: ва ўмовах абвостранае клясавае барацьбы пэўная частка інтэлігенцыі ў сілу політычнае дыфэрэнцыяцыі зьяўляецца рупарам клясавага ворага (групы настаўнікаў). Між тым Наркомасьветы і яго органы не заўсёды праяўляюць належную дбайнасьць і баяздольнасьць у сваячасовай барацьбе з гэтымі скрыўленьнямі. Гэта гаворыць аб засьмечанасьці паасобных зьвеньняў апарату нарасьветы.

Чыстка апарату Наркомасьветы, якая зараз праводзіцца, павінна раз і назаўсёды аслабаніць яго ад бюрократычных элемэнтаў, якія затрымоўваюць разгортваньне культурнае рэволюцыі, і паскорыць уцягненьне ў апарат новых пролетарскіх кадраў.

Чыстка павінна дапамагчы ўзмацненьню баяздольнасьці апарату супроць кулацка-буржуазнай ідэолёгіі, рацыяналізаваць работу апарату і перабудаваць формы і мэтоды яго работы.

У зьвязку з гэтым апарат Наркомасьветы ў сучасны момант дэталёва абсьледваецца брыгадай рабочых, комсамольцаў, асьветнікаў. Але гэтага мала. Трэба, каб у гэтым прынялі ўдзел работнікі культустаноў і прысылалі свой матар'ял аб прарывах на фронце культурнае рэволюцыі ў адрас часопісі. Патрэбны прапановы нізавых работнікаў, якія зьяўляюцца непасрэднымі будаўнікамі новага жыцьця. Як ніколі, у сучасны момант стаіць задача навучыцца жыць па-новаму і працаваць па-новаму.

Аб політычнай лініі Наркомасьветы ў мінулым гутарыць ня прыходзіцца, бо аб гэтым зусім добра вядома. Сучасны апарат мае правільны напрамак у рабоце, але нельга сказаць нічога станоўчага аб яго рэволюцыйным тэмпэрамэнце.

Функцыянальная сыстэма спросьціла работу, узмацнілася пачуцьцё адказнасьці паасобных працаўнікоў-функцыянэраў, але і да гэтага часу не зьліквідавана імкненьне заручыцца подпісам «вышэйшага». У рабоце асобных функцыянэраў увязкі ня было. Апарат Наркомасьветы ня толькі па колькасьці, але больш па якасьці, не спраўляецца з сваімі задачамі.

Для аздараўленьня работы патрэбна карэнная рэорганізацыя апарату. Яна намечана партнарадай і патрабуе хутчэйшага ажыцьцяўленьня. Трэба спадзявацца, што работнікі месц прымуць актыўны ўдзел у чыстцы апарату Наркомасьветы, а таксама ў рацыяналізацыі яго работы, і ў выпраўленьні памылак, зьнішчэньні недахопаў, якія перашкаджаюць пасьпяховаму культурнаму будаўніцтву разам з гаспадарчым разьвіцьцём краіны.

У зьвязку з чысткай Наркомасьветы праведзена абсьледваньне часопісі «Комуністычнае Выхаваньне»—органу, які па сутнасьці свае справы павінен адлюстроўваць жыцьцё і работу штаба культурнае рэволюцыі і яго командзіраў на мясцох, а таксама адлюстроўваць жыцьцё і работу нашае школы і зьяўляцца

жывым дапаможнікам у штодзённай рабоце кожнага асьветніка і культурнага працаўніка. Калі прагледзець выданьні гэтага году з першага нумару, дык у першых 2 нумарох, акрамя агульных артыкулаў і агульных разважаньняў, нічога конкрэтнага і каштоўнага для правядзеньня ў жыцьцё задач, пастаўленых перад Наркомасьветы партыяй і ўрадам, няма. Гэтыя артыкулы больш падыходзяць да навуковых часопісяй, чым да навукова-практычна-дапаможных.

Чым часопісь павінна дапамагчы настаўніку, асабліва вясковаму? Разабрацца ў сучасным політычным жыцьці нашае краіны і ў тым, як плянава ў сваю штодзённую работу ўносіць усе моманты вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, як прымаць у ім непасрэдны ўдзел самому і ўсёй школе. Пяцігадовы плян, інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне, антырэлігійнае, як праводзіць работу, каб школа стала жывым асяродкам, вакол якога гуртуецца пролетарская моладзь і працоўнае насельніцтва. Акрамя таго, часопісь павінна быць люстрай, дзе паказваецца работа нашае школы, каб кожны настаўнік на добрых прыкладах работы іншых школ змог выпраўляць сваю работу і на недахопах іншых школ выпраўляць свае недахопы.

Пытаньне мэтодыкі работы ў школе ў часопісі павінна займаць пачэснае месца. Між тым, часопісь не адлюстроўвае работы цэнтральнага мэтодкому, акруговых і нізавых мэтодычных аб'яднаньняў, у той час, як апошнія маюць за сабою вялікую практыку. Асьвятленьне іх работы ня толькі дало-б магчымасьць судзіць аб тым, што робіцца, але і дало-б магчымасьць падагульваць накопленый вопыт для далейшага накіраваньня мэтодычнае работы. Часопісь наогул не зьяўляецца організатарам настаўніцкіх мас і працуе без грамадзкасьці. Надта патрэбнымі ў сучасны момант зьяўляюцца пытаньні політэхнізму школы. У гэтым напрамку пачатак зроблены, але сама маса пакуль што ўдзелу ня прымае. Слабае месца часопісі тое, што яна не дае прыкладных раскладаў школьнае і пазашкольнае работы. Мала часопісь кажа аб мэтодах, формах і не дае конкрэтных паказаньняў амаль па ўсіх галінах культасьветнае работы. Мала даецца матар'ялаў для масавай вясковай 2-комплектовай і аднокомплектовай школы, дзе работа праходзіць у вельмі складаных умовах.

Часопісь ня мае належнае сувязі з чытачамі. Не організаваны аддзел пытаньняў і адказаў. Часопісь не зьяўляецца консультантам па ўсіх пытаньнях культасьветнае работы.

У далейшым трэба, каб:

1. Наркомасьветы організаваў сапраўдную і сталую рэдколегію, якой прыняць шэраг захадаў у сэнсе прыцягненьня асьветніцкай грамадзкасьці да ўдзелу ў рабоце часопісі.

2. Мець організацыйны і вытворчы плян.

3. Устанавіць сувязь з чытачамі і стаць консультантам па культасьветных пытаньнях.

4. Зьвярнуць увагу на зьмест друкуемых матар'ялаў у напрамку іх канкрэтнасьці, сваячасовасьці і адпаведнасьці запатрабаваньням сёньняшняга дню.

5. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на дапамогу вясковай школе.

6. Паставіць работу часопісі ў напрамку асьвятленьня ўсяе мэтодычнае работы, каб асьветнік змог чэрпаць матар'ял патрэбны яму на сёньняшні дзень.

7. Больш аддаць увагі формам і мэтадам работы ўсіх нізавых культасьветных установ і выкладаньня ў школах.

8. Больш зьвярнуць увагі на прыцягненьне да работы ў часопісі дашкольных работнікаў.

---

**Ад рэдакцыі.**

1. Зьмяшчаючы артыкул тав. А. А. Нікалаева, рэдакцыя зьвяртаецца з просьбай да ўсіх чытачоў дасылаць матар'ялы і прапановы адносна работы Наркомасьветы і яго органаў, а таксама свае думкі адносна часопісі «Комуністычнае Выхаваньне».

2. Аўтар гэтага артыкулу тав. А. А. Нікалаеў няверна ставіць пытаньне аб тым, што часопісь «Ком. Вых.» не павінна зьмяшчаць агульныя ўстановачныя артыкулы. Гэтым самым аўтар хоча паставіць часопісь на рэйкі грубага эмпірызму.

Л. Салаўёў

# Чыгуначныя школы Гомельскага вузла напярэдадні аб'яднаньня з гарадзкімі

З новага навучальнага году, з 15/VIII, чыгуначныя школы будуць падпарадкаваны ў організацыйных адносінах гарадзкому інспэктарыяту асьветы, а з 1/X і гаспадарчае забесьпячэньне іх будзе перадана Комісарыяту асьветы БССР.

У сувязі з гэтым цікава ведаць, у якім становішчы знаходзяцца чыгуначныя школы і чым яны канчаюць навучальны год і што яны могуць атрымаць з пераходам да інспэктарыяту асьветы.

Чыгуначныя школы вузла за гэты год перажылі шмат буйных момантаў: у сувязі з пераездам праўленьня чыгункі ў другі горад, пераехаў туды аддзел асьветы і дарожны камітэт саюзу; а таксама перад пачаткам году і на працягу яго, з ліку 18 асоб адміністрацыі дзевяці соцвыхаўскіх школ, што існуюць у вузле, было прызначана новых дзесяць асоб.

Пры агульным аглядзе работы школ трэба адзначыць, што гэты год прайшоў пры павялічэньні нагружанасьці ў рабоце наогул, пры ўзмацненьні грамадзка-політычнага выхаваньня, асабліва антырэлігійнага, пры павялічэньні грамадзкай работы і ў прыватнасьці работы на вёсцы. Сярод настаўніцтва паменшыўся «актыў рвачоў», якія на школу глядзелі, як на ўласную гаспадарку «тутэйшых фэўдалаў ад пэдагогікі», якія ня трымалі сувязі ні з вучнёўскай, ні з настаўніцкай масай.

Але-ж трэба сказаць, што ўсе гэтыя зрухі далёка недастатковы, а ў некаторых галінах мы пайшлі назад.

Недастаткова разгорнута ў нас соцыялістычнае спаборніцтва, а таксама ўдарніцтва як сярод настаўнікаў, так і сярод вучняў, а калі дзе яны і праводзяцца ў дастатковай ступені, дык гэта невядома, і гэта школа ня служыць прыкладам для астатніх. У некаторых гарадзкіх школах, у школе імя М. Горкага, соцыялістычным спаборніцтвам ахоплены ўсе вучні, у нас жа гэтага няма.

Недастаткова таксама разгорнута самакрытыка, а ў некаторых школах пасьля вучнёўскай самакрытыкі, ня зусім усебаковай, настаўнікі захаваліся ў сваю «скарлупу».

Няма значнага зруху і ў беларусізацыі. Ні вучні, ні настаўнікі ў часе перапынкаў і асабліва па-за школай мала карыстаюцца беларускай мовай.

Дрэнна абстаіць справа і з работаю сярод бацькоў. На бацькоўскія сходы зьяўляюцца 10-20 бацькоў, і гэта зусім зразумела, бо сыстэматычнай работы сярод іх ня было.

З гутарак з настаўнікамі відаць, што працоўная дысцыпліна пагоршылася. Гэта выяўляецца ў дрэнным наведваньні заняткаў, шматлікіх спазьненьнях і самавольных уходах з лекцый, у ненаведваньні гурткоў, сходаў таварыстваў, у непаслухмянстве, а то і проста ў грубых адносінах да настаўнікаў. І на гэтыя зьявішчы значная частка настаўнікаў рэагуе зьніжэньнем выхаваўчай работы, прымірэнцтвам, пасыўнасьцю, якія прыводзяць да фармальных адносін да работы.

У выніку гэтага зьніжэньня працоўнай дысцыпліны, трэба чакаць, што другагодніцтва ў гэтым годзе не паменшыцца, а ёсьць небясьпека, што тут будзе зроблена штучнае падвышэньне процанту пасьпяваючых за кошт якасьці ведаў.

Усё гэта нямала залежыць ад таго, што вучнёўскае самакіраваньне, а таксама і піонэр-організацыі ў гэтым годзе меней адчуваюцца ў школах. Няма яшчэ ў дастатковай ступені сьвядомага таварыскага асяродзьдзя.

Трэба прыцягнуць да ўсіх гэтых зьявішчаў грамадзкую ўвагу, а таксама ўвагу інспэктарыяту асьветы. А між тым у Гомелі інспэктарыят яшчэ і не паказваўся на агульных сходах асьветнікаў вузла.

Трэба было-б зрабіць да канца году сходы асьветнікаў і вучнёўскія конфэрэнцыі. Трэба інспэктарыяту падумаць над пытаньнем укомплектаваньня настаўнікаў, зрабіўшы такім чынам, каб жадаючых настаўнікаў з чыгуначных школ перавесьці ў горад і гэтым у некаторай ступені зьнішчыць аўтаномнасьць, а таксама зрабіць і перакідку вучняў для аздараўленьня школ і больш шчыльнай сувязі паміж імі.

Трэба чакаць, што злучэньне школ узмацніць пэдагогічную думку, узмацніць організацыйна чыгуначныя школы, а таксама падвысіць гаспадарчы бок і дасьць магчымасьць пашырыць агульныя ўстановы, як дапаможныя школы, пэдмузэй, бібліотэку ды інш.

Трэба чакаць, што аб'яднаньне школ, побач з рэорганізацыяй сямігодак у фабрычна-заводзкія сямігодкі, будзе магутным сродкам для палепшаньня ўсяе работы школ вузла.

## Аб перадачы ўстаноў соцвыху і політасьветы транспорту пад загад НКА

**(З пастановы колегіі НКА)**

*1. Улічваючы лінейную сыстэму і спэцыфічнасьць транспарту:*

*а) непасрэднае кіраўніцтва перадаваемымі ўстановамі замацаваць за акруговымі інспэкторыятамі ў межах акругі і гарадзкімі інспэктарамі народнае асьветы ў акруговых цэнтрах, заставіўшы ў раёнах, па лініі чыгунак і воднага транспарту, контроль за раённымі інспэктарамі;*

*б) для агульнага кіраўніцтва перадаваемымі ўстановамі і належнай ўвязкі з органамі транспарту лічыць патрэбным устанавіць у апараце НКА на тэрмін на 1 году спэцыяльную пасаду інспэктара;*

*в) утрыманьне перадаваемых устаноў транспарту і пашырэньне іх сеткі на 1930/31 г. ускласьці на акруговыя бюджэты за кошт цэлевых збораў дотацыі НКФ СССР з захаваньнем самастойнасьці распараджэньня крэдытамі за кожнай установай.*

*2. Даць паказаньні акруговым і гарадзкім інспэктаром народнае асьветы па складаньню каштарысу на ўтрыманьне перадаваемых устаноў і пашырэньне іх сеткі на 1930/31 год, узгадніўшы гэтае пытаньне з НКФ БССР, не дапускаючы зьніжэньня заработку працаўнікоў і матар'яльнага забесьпячэньня гэтых устаноў.*

*3. Маючы на ўвазе імкненьне ў некаторых мясцох да перакідкі часткі абсталяваньня перадаваемых устаноў у другія ўстановы, прапанаваць акруговым інспэкторыятам і гарадзкім інспэктаром народнае асьветы ні ў якім разе не дапушчаць такіх выпадкаў.*

*4. Прызнаць т. Жыгмунта інспэктарам чыгуначных школ з часовым выкананьнем абавязкаў інспэктара 7-гадовых школ НКА.*

*5. Даручыць інспэктару чыгуначных школ т. Жыгмунту выпрацаваць меркаваньні па ўзмацненьні пэд. пэрсаналам школ і політасьветных устаноў транспарту.*

# ХРОНІКА

## Пастанова Колегіі НКА БССР аб перабудове школ сялянскай моладзі ў зьвязку з сучаснымі задачамі ў вёсцы

I.

1. Шпаркі тэмп рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, на новых социялістычных пачатках, патрабуе перабудовы ШСМ і ўсяе масавай асьветы ў вёсцы ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

2. Сучасны рост сеткі ШСМ і яе мэтавая ўстаноўка не адказваюць задачам політэхнічнага выхаваньня дзяцей і тэмпу колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

3. ШСМ на бліжэйшы пэрыод павінна будавацца над I концэнтрам сямігодкі і зьяўляцца адзіным тыпам II концэнтру сямігадовае політэхнічнае школы ў вёсцы.

4. Выходзячы з агульнай устаноўкі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і II Усесаюзнай Партыйнай Нарады, работа ШСМ павінна вымярацца ступеньню выкананьня задач: політэхнічнага выхаваньня дзяцей, падрыхтоўкі організатараў і працаўнікоў коелктыўных форм гаспадаркі, абслугоўваньня вытворчых і культурна-бытавых патрэб колгасу, дапамогі далейшаму росту колгасаў у раёне і ахопу дзяцей батракоў і бедняты (у першую чаргу дзяцей колгасьнікаў).

5. У адпаведнасьці з новымі задачамі ШСМ, колегія народнага комісарыята асьветы **пастанаўляе:**

1) усім існуючым школам сялянскае моладзі надаць назву «Школ колгаснай моладзі»;

2) у 1930-31 годзе ўсе II концэнтры сямігадовае і дзевяцігадовае школы ў вёсцы рэорганізаваць па зьместу работы ў школы колгаснай моладзі, надаўшы гэтым школам назву «ШКМ»;

3) забясьпечваючы полатэхнічнае выхаваньне дзяцей, ШКМ павінна даваць такі аб'ем ведаў, каб быць крыніцай папаўненьня тэхнікумаў і вышэйшых навучальных устаноў, а таксама і падрыхтоўваць кадры масавай кваліфікацыі для аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі, скарыстоўваючы іх з цягам часу ў якасьці брыгадзіраў паляводзтва, брыгадзіраў колектыўных скотных двароў, трактарыстых, кантроль-асыстэнтаў і г. д. для чаго кожная ШКМ павінна трымаць, на шырокай аснове політэхнізацыі, спэцыяльны напрамак (паляводча-трактарны, жывёлагодулі, льнаводчы і г. г.), пры чым аднакомплектовыя школы прымаюць спэцыяльны напрамак у адпаведнасьці з асноўным характарам гаспадаркі ў раёне, а ў шматкомплектавых школах роўналеглыя групы прымаюць розны напрамак;

4) неабходна рэзка павялічыць у програмах ШКМ вывучэньне сельска-гаспадарчых машын і тым самым наблізіць ШКМ да тыпу агро-індустрыяльнай школы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на скарыстаньне, праз організацыю вытворчага навучаньня, агро-комбінатаў і падсобных прадпрыемстваў колгасаў для атрыманьня ўсіх вытворчых звычак, зьвязаных з процэсамі, як здабычы сельска-гаспадарчых продуктаў, так і іх апрацоўкі;

5) ШКМ хуткай і рашучай, сапраўды рэволюцыйнай перабудовай навучальнай вытворчай і грамадзка-карыснай работы, павінны заваяваць сваё права н новую назву і перайсьці на больш высокія (і колькасна і якасна) паказальнікі сваёй работы і стаць значным фактарам соцыялістычна йперабудовы вёскі;

6) у далейшым узяць напрамак разгортваньня сеткі ШКМ такім тэмпам, каб к канцу пяцігодкі забясьпечыць ёю 25 проц. дзяцей працоўнага сялянства (у першую чаргу дзяцей батракоў і бедняты) ад 12 да 15 год.

II.

1) Выкарыстоўваньне працы падлеткаў і моладзі ў колгасах павінна быць падпарадкавана задачам вытворчага навучаньня;

2) вытворчае навучаньне і практыка вучняў аднача́сова зьяўляюцца формай скарыстаньня іх працы ў колгасе; праходжаньне програмы вытворчага навучаньня і практыкі павінна насіць характар выкананьня вытворчых заданьняў колгасу і мець гаспадарчую каштоўнасьць для яго;

3) у залежнасьці ад гэтага матар'яльнае забесьпячэньне вучняў носіць форму альбо заробку (для падлеткаў ад 14 год і старэй), альбо раскладаньня ў колгасах асобнага абагуленага фонду вучобы для падлеткаў да 14 год;

4) школа аб'яднае сваю вучэбную гаспадарку і сродкі вытворчасьці з колгасамі, дзе мэханізацыя ахапіла ўжо асноўныя процэсы; у гэтых колгасах школа ўносіць сродкі вытворчасьці ў недзялімы капітал колгасу; з свайго боку колгас вабясьпечвае школу для навучальнай мэты спэцыяльным комплектам сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, спэцыяльнымі групамі жывёлы на колектыўных двара́х, спэцыяльнымі дзялянкамі ў экономіях для апрацоўкі іх вучнёўскімі брыгадамі і г. д.;

5) узаемныя абавязкі школы і колгасаў афармляюцца асобнымі дагаворамі;

6) у раёнах, якія не зьяўляюцца раёнамі суцэльнае колектывізацыі, кожная школа павінна быць прымацавана да вядомых колгасаў саўгасаў, якія і павінны зьявіцца асноўнай базай вытворчага навучаньня і практыкі вучняў ШКМ.

III.

Прымаючы пад увагу пераход ШКМ на ўдарнае палажэньне, Колегія НКА лічыць патрэбным:

1) з 1930-31 навучальнага году перавесьці ўсе ШКМ на бесьперапынны вучэбна-вытворчы год, устанавіўшы 256 рабочых дзён (пры пяцідзённым тыдні), павялічыць лік гадзін на вытворчае навучаньне, падаўшы яму бесьперапынны характар і ўвесьці практыку ў колгасах на ўсіх трох гадох навучаньня;

2) з 1930 г. праводзіць комплектаваньне ШКМ шляхам вылучэньня кандыдатаў у школы саветамі, колгасамі і грамадзкімі організацыямі; кожная організацыя, якая пасылае ў школу кандыдатаў, павінна ўзяць на сябе абавязкі матар'яльнай дапамогі камандыруемым;

3) абавязаць райінспэктароў народнае асьветы і ШКМ у раёнах суцэльнай колектывізацыі падрыхтаваць у спэцыяльных гуртках і групах і прыняць у ШКМ усю батрацкую моладзь раёну, а ў астатніх раёнах давесьці процант прыёму батракоў ня менш, чым да 30 проц., дзяўчаты ў прыёме бягучага году павінны складаць ня менш 45 проц.;

4) не пазьней 1930-31 вуч. году цалкам ліквідаваць адсеў з ШКМ дас канчэньня школы і другагодніцтва, забясьпечыўшы іх адпаведнымі стіпэндыяльнымі фондамі;

5) устанавіць колькасьць вучняў у групе ў 40 асоб.

IV.

Маючы на ўвазе наяўнасьць у колгасах значнай колькасьці падросткаў і моладзі з рознай падрыхтоўкай, колегія знаходзіць патрэбным пабудаваць усю сыстэму падвышанай асьветы на вёсцы такім чынам, каб рознымі тыпамі школ забясьпечыць ахоп усіх падросткаў і моладзі аграмадджанага сэктару сельскай гаспадаркі.

З гэтай прычыны колегія НКА прапануе, разам з існуючымі зараз дзённымі і вячэрнімі ШКМ, разгарнуць новы тып паскоранай дзённай ШКМ і зацьверджае наступныя асноўныя палажэньні яе організацыі:

1) увесь пэрыод навучаньня—450 рабочых дзён з падзелам яго на тры часткі, па 140 рабочых дзён у кожнай;

2) прыём і выпуск рабіць два разы ў год—1 сакавіка і 15 верасьня;

3) бесьперапынны вучэбна-вытворчы год;

4) організуюцца выключна пры колгасах;

5) прыймовы ўзрост ад 16 а 19 год з папярэдняй падрыхтоўкай у межах 4-годкі;

6) устанаўліваецца 8-гадзінны рабочы дзень з падзелам яго на 4 гадзіны працы ў колгасе па сыстэматычнай програме вытворчага навучаньня і 4 гадзіны тэорытычнага навучаньня;

7) работа вучняў у колгасе аплачваецца на аднолькавых падставах з усімі колгасамі;

8) колегія НКА лічыць патрэбным організаваць у 1930-31 г. па аднадзённай скарочанай школе колгаснай моладзі на кожны раён па 40 асоб у групе;

9) рост сеткі вячэрніх ШКМ павінен адказваць тэмпу разьвіцьця сеткі звычайных ШКМ, паставіўшы ў абавязак, каб пры кожнай звычайнай ШКМ існавала вячэрняя ШКМ;

10) прапанаваць навукова-мэтодолёгічнаму комітэту да 1 жніўня распрацаваць і выдаць програмы для скарочанай дзённай і вячэрняй ШКМ, а таксама і палажэньне аб організацыі вытворчага навучаньня вучняў гэтых школ.

V.

Для ажыцьцяўленьня вызначанай програмы будаўніцтва ШКМ, колегія НКА лічыць неабходным:

1) утрыманьне ШКМ павінна праводзіцца па мясцоваму бюджэту; для палепшаньня матар'яльнага становішча гэтых школ прыцягваюцца сродку колгасаў і кооперацыйных організацый, якія вызначаюцца па кожнай школе дагаворамі райвыканкомаў з кооперацыйнымі організацыямі;

2) прасіць СНК БССР спэцыяльнай пастановай абавязаць Наркамфін, акр і райвыканкомы прадугледзець каштарыснымі меркаваньнямі патрэбны мінімум сродкаў на адчыненьне вячэрніх і дзённых ШКМ;

3) паставіць перад усёй колгаснай сыстэмай пытаньне аб прыцягненьні спэцыялістых колгасаў да работы ў ШКМ.

VI.

1) як існуючай сеткай ШКМ, так і нанова адчыняемай у першую чаргу павінны быць забясьпечаны школай дзеці рабочых саўгасаў;

2) прапанаваць акр. АНА палепшыць склад настаўнікаў і аграномаў, шляхам укомплектаваньня іх за кошт лепшай часткі канчаючых у бягучым годзе БДУ і Сельска-гаспадарчую акадэмію;

3) прапанаваць Навукова-мэтодолёгічнаму комітэту ў месячны тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па падвышэньню кваліфікацыі існуючых пэдагогічных кадраў ШКМ;

4) колегія НКА адзначае слабае кіраўніцтва ШКМ, як з боку НКА, так і акруговых інспэктарыятаў народнае асьветы, з якой прычыны лічыць патрэбным: а) устанавіць у апараце НКА пасаду спэцыяльнага інспэктара для кіраўніцтва ШКМ, б) узмацніць кіраўніцтва школамі колгаснай моладзі з боку інспэктароў сацвыху Акр. ІНА, для чаго правесьці вылучэньне на інспэктарскую работу ў Акр. ІНА лепшых працаўнікоў ШКМ.

## Пастанова Колегіі НКА аб выніках нарады акруговых інспэктароў па ўсеагульнаму навучаньню

1. Зацьвердзіць у асноўным пратакол Усебеларускай нарады па ўсеагульнаму навучаньню, якая адбылася 4-6 мая 1930 г., у адносінах вызначаных нарадаю вынікаў работы за бягучы год і мерапрыемстваў на наступны год.

2. Лічыць, што ўвядзеньне абавязковасьці навучаньня для дзяцей 8-гадовага ўзросту ў бягучым годзе праведзена здавальняюча, за выключэньнем Полацкай акругі.

3. Лічыць, што найбольш істотнымі недахопамі ў справе ўсеагульнага навучаньня зьяўляюцца наступныя: а) недастатковы ўдзел грамадзкасьці; б) недастатковае кіраўніцтва з боку большасьці акруговай і раённай інспэктуры, што часткова тлумачыцца адцягненьнем інспэктуры ў працягу году на іншую работу; в) дрэнны тэхнічны нагляд за пабудовай школьных будынкаў.

4. У мэтах забесьпячэньня ўсеагульным навучаньнем дзяцей нацменшасьцяй, дзе яны жывуць раскідана, даць паказаньні акругам аб магчымасьці адчыненьня школьных нацыянальных комплектаў пры наяўнасьці 12-15 дзяцей нацменшасьцяй.

5. Зьвярнуць увагу Магілеўскага акруговага выканаўчага комітэту на тое, што ў працягу навучальнага году зьмяніліся ў Магілеўскай акрузе чатыры акруговых інспэктары школ соцвыху, з прычыны чаго справе ўсеагульнага абавязковага навучаньня не было аддана належнай увагі, і пастанова аб увядзеньні абавязковасьці навучаньня была выдана ўжо пасьля пачатку заняткаў.

6. Увайсьці ў Савет народных камісараў і Прэзыдыум ВК БССР з проектам пастановы пра мерапрыемствы па ўвядзеньню абавязковасьці навучаньня ў наступным навучальным годзе.

7. Зьвярнуцца з просьбай да АВК, каб інспэктароў нарасьветы не адрывалі ад іх непасрэднай работы, што не дае магчымасьці паставіць на належную вышыню справу ўсеагульнага навучаньня.

## Плян пераводу вучэбна-практыкавальных майстарняў у профтэхшколы паніжанага тыпу

1. Колегія НКА згадзілася на пераход у гэтым 1930/31 навуч. годзе наступных 14 майстэрань у профтэхшколы паніжанага тыпу на базе 4-годкі:

1. Быхаўская навуч. практык. майстэрня з аддз. сьлясарным і сталярным.
2. Грэбнеўская навуч. практык. майстэрня з аддз. сьлясарным і сталярным.
3. Рагачэўская навуч. практык. майстэрня з аддз. сьлясарным і сталярным.
4. Таўпечыцкая навуч. практык. майстэрня з аддз. сьлясарным і сталярным.
5. Кохановская навуч. практык. майстэрня з аддз. сьлясарным і сталярным.
6. Пяцерынская навуч. практык. майстэрня з аддз. сьлясарным і сталярным.
7. Маркавіцкая навуч. практык. майстэрня з аддз. сьлясарным і сталярным.
8. Барысаўская керамічная майстэрня.
9. Прапойская керамічная майстэрня.
10. Слуцкая керамічная майстэрня.
11. Магілеўская ткацка-саматужн. майстэр.
12. Дрысенская ткацка-саматужн. майстэр.
13. Магілёўская водаправодная майстэрн.
14. Сенінская бляхарная майстэрня.

2. Астатнія майстэрні па дасьледваньні і ўзгадненьні з акруговымі інспэктарамі нарасьветы перавесьці ў профтэхшколы паніжанага тыпу з будучага навучальнага году.

3. Уноў адчыняемыя майстэрні, адчыняць як профтэхшколы паніжанага тыпу, на базе 4-х годкі.



*Рэдактар*—Рэдколегія *Адказны рэдактар*—Л. Бэндэ